# Маладосць

1

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(674) СТУДЗЕНЬ, 2010**

**Выдаецца з 1953 года**



**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва», г. Мінск**

## У НУМАРЫ:





Тэхнічнае рэдагаванне і камп’ютэрная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Яна ЯВІЧ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры перадруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 13.01.2010. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 14,18. Тыраж 2751 экз. Заказ 125.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**

# ШТО НАДЫШОЎШЫ ГОД РЫХТУЕ?



*Напэўна, шмат хто ў першыя навагоднія дні задаецца такім пытаннем, ды каб жа нешта ведаць наперад! Усё як у той прымаўцы: калі б знаў, дзе ўпадзеш, саломку падаслаў бы! Вось і звяртаюцца — адны да астролагаў і розных гараскопаў, іншыя хоць у нечым імкнуцца зарыентавацца па народных прыкметах, другія разлічваюць толькі на сябе: на інтуіцыю, на свой жыццёвы вопыт, на свае ўласныя жыццёвыя назіранні, з чаго ўжо і робяцца такія-сякія прагнозы-прыкідкі…*

*Прызнацца, асабіста я найбольш давяраю тым самым назіранням, ад іх і адштурхоўваюся, каб зрабіць пэўныя высновы.*

*Ці не Фрыдрых Шылер радкі сваіх вершаў, якія пісаліся ў хвіліны натхнення ў рамантычнай плыні, назваў «нечаканасцямі душы»? У радках віравалі самыя розныя пачуцці, якія кранаді, перадаваліся чытачам, уражвалі глыбокія чалавечыя натуры. Эпоха рамантызму засталася далёка ў мінулым, хаця яе водгулле працягвала і працягвала ўплываць на ўражлівыя душы. Я сама з гэтай літаратурнай школы, іншымі словамі, за ўзоры для сябе трымала класіку. Але, як вядома, эпохі мяняюцца. Мяркую, што і тэрмін «нечаканасці душы» змяніўся на іншы. Для мяне сённяшнім часам ён можа гучаць як «нечаканасці інфармацыі», да якіх мы ўсе павернуты. З інфармацыі мы даведваемся і пра неверагодныя навуковыя адкрыцці на мяжы фантастыкі, і пра прыродныя катаклізмы, і пра космас, і пра зямныя глыбіні, і пра надзвычай хуткаплынныя штодзённыя навіны паўсядзённасці. Усё гэта абвальваецца на нас — з экранаў тэлевізараў, з радыё, з Інтэрнета… Апошнім найбольш карыстаецца моладзь. Новае маладое пакаленне вырасла на магутнай інфармацыйнай плыні. У каго найбольш інфармацыі — той валодае светам… На гэтым і выхоўваецца сучасная моладзь, на ўсім тым, з чаго можна пачарпнуць як мага больш інфармацыі. Пры апытаннях аддаюць перавагу энцыклапедыям, даведнікам самага рознага напрамку. А як жа мастацкая літаратура? Чытач абмінае тоўстыя раманы, перагортвае старонкі з апісаннем прыроды, ён шукае інфармацыю пра жыццё герояў…*

*Напрыканцы мінулага года запрасілі мяне на сустрэчу з пяцікласнікамі ў дзесятую мінскую гімназію. Вучні не супраць былі набыць мае кніжкі для дзяцей — тыя, якіх ужо няма ў продажы. Але тут жа ў іх была магчымасць купіць іншыя. На гэтай цудоўнай сустрэчы мяне ўразіла тое, што дзве дзяўчынкі набылі навуковую кніжачку пра «трэцяе вока», пра што яны ўжо дзесьці чыталі, а цяпер могуць прачытаць больш поўную інфармацыю. І гэта ў пятым класе! У нас падрастае пакаленне вельмі разумных дзяцей, шырока-інфармаваных у самых розных сферах. Мне падумалася, што менавіта адсюль і цікавасць падлеткаў, ды і моладзі ўвогуле, да фэнтэзі, да фантастычна-прыгодніцкай літаратуры. Калісьці творы Жуля Верна былі суцэльнай фантастыкай, а ўжо цяпер навука сцвярджае, што многае з гэтай жульвернаўскай фантастыкі стала рэальнасцю. Любы фантастычны твор, хай самы-самы фантазійны, нясе ў сабе паток хай і неверагоднай, але інфармацыі пра нешта новае і нязвыклае. І хто ведае, магчыма, гэтае «нязвыклае» з цягам часу стане самай будзённай рэальнасцю, як той жа самы мабільны тэлефон.*

*А ўсё гэта да чаго? На старонках «Маладосці» ў 2010 годзе можна будзе знайсці самыя розныя творы. Гэта і так званая традыцыйная проза на самыя розныя тэмы. Але шмат будзе і фантастычна-прыгодніцкіх твораў, а сярод публіцыстычных матэрыялаў з'явяцца артыкулы пра нашу навуковую моладзь, пра дасягненні і адкрыцці маладых навукоўцаў.*

*І яшчэ пра адно. У адказах на анкету «Маладосці» нашы маладыя чытачы выказвалі пажаданне, каб на старонках выдання з'явіліся мовазнаўчыя артыкулы. Таму ўжо ў бліжэйшых нумарах у часопісе з'явіцца новая рубрыка «Займальнае мовазнаўства».*

***З самымі сардэчнымі пажаданнямі—***





*Арцём Кавалеўскі нарадзіўся ў 1979 годзе ў Мінску. Скончыў факультэт журналістыкі і аспірантуру Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, вучыўся на факультэце паланістыкі Ягелонскага ўніверсітэта (Кракаў). Працуе выкладчыкам на кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі БДУ і рэдактарам аддзела мастацкай літаратуры ў часопісе «Бярозка». Аўтар вершаў да зборніка літаратурна-мастацкіх паштовак «Горад. Шпацыр. Словы», кніг «АдмыСЛОВЫя гульні» і «Аддаленасць і Адданасць» (паэзія і лірычная проза).*

Арцём КАВАЛЕЎСКІ

# МЫ — РАПТАМ

* * *

Мы сустрэліся раптам
Пасля Калядаў
Каля твайго дома.
Твае вусны пахлі каляндрай,
Рукі — календулай,
Вочы — ахвочасцю,
Я — прадапошнім сумненнем.

Падаў снег.
І нам не ставала святла (а мо свята?)...

Цэлы свет запавольваў хаду,
Калі мы, растапіўшы маўклівасць
Зусім непатрэбнымі жэстамі,
Ра-
зы-
шлі-
ся.

**ВЕЧАР**

Немагчыма расшыфраваць гэты вечар:
Сеціва коўзкіх намёкаў, вязьмо дастасоўных рухаў
І нашай навукі скутыя рукі...
Гэты вечар — толькі інструкцыя латвых уцёкаў
Для пачаткоўцаў,
Якую чытаць, разумець і запомніць
Так цяжка (амаль немагчыма),
Але
Трэба.

Мы ажываем толькі тады,
Калі нас пакідаюць любімыя рэчы
І дом падаецца
Пустой ненаселенай выспай.
Калі дом падаецца пустой
ненаселенай выспай,
Мы пашыраем прастору
Распластанымі на падлозе
Целамі.

Нашы сябры даўно ўжо
Не памятаюць,
Колькі глыткоў несвабоды
Нам трэба,
Каб ізноў апынуцца ў шчаслівых
абдымках
Веры-надзеі-любові-надзеі-
любові-любові...

Гэты вечар —
Толькі закладнік скупых заўчарашніх
спадзеваў,
Якія не маюць нічога супольнага
З дотыкам шчодрай далоні.

Гэты вечар
Нас так нахабна адфарматуе
І прапануе замест багатай вячэры
CTRL-ALT-DELETE.

* * *

Каб зразумець арфаграфію маіх
павяртанняў,
Ненадзейных расплывістых клятваў,
Працятых смугою сумневаў,
Ты мусіш забыцца на ўласную
Ўшчэнт заблытаную
Пунктуацыю
Свайго сэрца
І дробных прыглушаных
Крокаў,
Што калісь пакідалі
На сэрцы маім
Невыносныя меціны шчасця.
Потым сляды гэтыя
Ў горле маім прараслі
Амаль пасталелым
Сталёвым крыкам
І нецвярозым папрокам
Чарговага апраўдання.
Мы так доўга
І так настойліва
Бралі ў двукоссе
Прыгожыя абяцанні
І спробы адолець маўчанне,
Што апынуліся самі
Па-за дужкамі
Роўнасці,
Уяўнай свабоды,
Братэрства.
І... жабрацтва адно
Паміж намі цяпер.
І...
Скупое вар’яцтва.

**СОН**

Мне снілася сёння,
Як памірае маленькі, шэры й вытанчаны
Алень,
А на ягоных рагах
Песню спяваў
Салавейка...
На вейках аленя
Шчэ трымцела жыццё,
І толькі белыя матылькі,
Што кружлялі наўкола,
Ведалі:
Гэта канец...

Калі ты абудзіла мяне
Аксамітам прахалоднага дотыку,
Аленя ўжо не было,
Салавейка ўжо не спяваў
На ягоных рагах
І не кружлялі наўкола
Белыя крыльцы-пялёсткі
Лёгкіх, як пух, матылькоў...

Я ляжаў нерухома
І ўсміхаўся
Усмешцы тваёй.
Ты глядзела ў мае
Вадзяністыя вочы
І прапаноўвала шклянку
Халоднага малака.

Я, як заўсёды,
Адмовіўся...

Ты, як заўсёды,
Здзівілася.

Мы, як заўсёды,
Не вымавілі ані слова...

Так менавіта складаліся вершы
Нашых бляклых, як паркаль,
Гісторый,

У якіх пачаткам
Быў мой сон,
А фіналам —
Тваё бяссонне...

* * *

Не,
Гэта не птушыны карнавал
Сёння а шостай мяне абудзіў
І прымусіў застацца сам-насам
З тваім фотаздымкам дзіцячым.

О, не! Гэта не карнавал.

Не,
Гэты мой танец ля прываконня
На травеньскім скразняку —
Не рэпетыцыя нашай сустрэчы
Падчас грання дзяржаўнага гімна
Апоўначы.

О, не! Гэта не рэпетыцыя.

Не,
Гэтыя сцены-сяброўкі
Мне ніколі не здраджвалі,
Калі я — ачмурэлы ад уласных
рэфрэнаў —
Спрабаваў біцца аб іх галавою
І ўрэшце намацваў ісціну.

О, не! Гэтыя сцены ніколі
не здраджвалі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У гэтым вялікім халодным доме
Мяне будзе мала заўсёды,
Бо ў ім фальш прысутнасці ўшчэнт
Разбіваецца аб шкляную цвярозасць
Тваіх добразычлівых сыходаў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

О, не! Не падманвай сябе:
Я не прачнуўся...

* * *

Калі я
Да канца дапішу гэты верш,
Кволае сонца запунсавее над небакраем
І пяшчотна кране яго мужныя плечы,
Што ніколі не здолеюць здрыгануцца
Нават ад самых магутных грымотаў.

Калі я
Пастаўлю ў гэтым вершы
Перадапошнюю коску,
Чалавек, што хаваецца пад парасонам
Ці то ад дажджу, ці то ад уласных
сумневаў,
Нарэшце наважыцца вымавіць
запаветныя словы.
Ён складзе парасон, азірнецца і зойдзе
ў пад’езд,
Які шчэ хвіліну таму падаваўся чужым,
Далёкім такім, непатрэбным.
Чалавек будзе вагацца
Не больш за секунду і —
Націсне гузік званка.
Дзверы адчыняцца, і —
Ён назаўсёды патоне ў віры прабачэння.
Так, ён патоне,
Але стане шчаслівым тапельцам.

Калі я
Скончу гэты верш
І пастаўлю ўпэўнена кропку,
Светлафор аднастайна, нервова
Замігціць жоўтым вокам,
Імкнучыся пераканаць мяне ў тым,
Што ўсё пачынаецца
І заканчваецца
Шматкроп’ямі.

* * *

Маўчы!
Не кажы ані слова,
Бо я буду прачытваць цябе
Па міліметры,
Па кожнай зморшчынцы нервовага твару,
Па невыносных выгінах антычнае шыі,
Па ўзгорках назаўжды здзіўленых броваў
І бясконцым сеціве капілярных ліній...
Мне чытво гэтае даспадобы —
Толькі маўчы,
Я агучу ўсё сам,
Я цябе да канца дачытаю
І стану тваім пастскрыптумам.

Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ



# ЯК ШПАЛЕРЫ

***Апавяданне***

**1**

*Я зразумеў у дваццатую вясну:* усё ў маім жыцці канчаецца тым, што становіцца непатрэбным. Альбо цесным. Альбо проста так… знікае, сыходзіць… Дзесяткі пуцявін-дарог, а такой, каб вывучаная, каб уласнымі чаравікамі годна пратаптаная, такой пуцявінкі-дарогі — нямашака.

Раптоўна стала «непатрэбна» ў музычнай школцы — і я кінуў яе. Потым былі мальберты ды школка мастацкая. Рукі, запэцканыя фарбамі, вясёлыя пазногці, пад якімі — каляровы бруд мастака. Але і тут раптам падкаціла невыноснае «непатрэбна» — я зноў сышоў назаўсёды. «Непатрэбным» стаў рок-гурт, і залатыя рыбкі ў акварыуме, і яшчэ адзін рок-гурт. Знік, сышоў сам па сабе самвыдатаўскі часопіс «Жалезны грыбок» — з сябруком Жэнем мы нарабілі шэсць нумароў за шэсць месяцаў. Асвойванне тэхнікі хуткачытання, сістэма асобнага харчавання, заняткі ёгай, вегетарыянства, баскетбол, ранішнія прабежкі, англійская, французская і польская мовы, першы і апошні паход у горы, спартыўнае арыентаванне… Ведаеце, я хутка стамляюся, я магу прабегчы ўсяго адзін круг на стадыёне. Ад заняткаў фізікай мяне кідала ў геаграфію (і там, і там я капаў глыбока, грунтоўна — зрэшты, як і паўсюль), а паступіў усё ж на гістфак. Палкае, гарачае натхненне ап’яняе, а потым па-здрадніцку знікне, згарыць дарэшты, да халодных нікчэмных вугалёў. Я зачыню дзверы. І больш не вярнуся сюды. Ніколі.

Калі я знаходжуся дома больш за тры гадзіны, становіцца цесна. Ну… Як жа гэта растлумачыць?.. Цесна — гэта калі я пачуваюся дзікім зверам у клетцы і неймаверна хочацца кудысь бегчы. Цесната распаўсюдзілася і на Гродна, мой горад. Цяпер жа я «студыюю» ў Мінску, на другім курсе гістфака. І ўсё часцей, усё часцей ва універы становіцца «непатрэбна».

У абыякавыя зімовыя дні, з бясколерным небам, пазбаўленым усялякіх пачуццяў і настрояў, з безнадзейна шэрым, брудным і састарэлым снегам я шыбаваў да аднагрупніцы Верачкі па томік Кундэры, альбо Кафкі, альбо Маркеса. Каб пазбавіцца ад «непатрэбна». А непатрэбнымі ў гэтую

*Кацярына Безмацерных нарадзілася ў 1987 годзе ў Мінску. Студэнтка Інстытута журналістыкі Белдзярж-універсітэта. Друкавалася ў часопісе «Маладосць».*

зімку сталіся не толькі універсітэцкія кніжкі, а і яшчэ шмат-шмат чаго. Напрыклад, апрыкралі тры пары ўлюбёных рознакаляровых хіпоўскіх пацерак, што бразгацелі на шыі. «Непатрэбна» стала піць моцную каву ўранку і слухаць Сашу Башлачова. Непатрэбна вяртацца ў пакой з прыцьмелымі савецкімі шпалерамі, пакой, што здымаў за 35 даляраў у бабулі Насты.

Бабуля Наста пакутавала на бяссонніцу. Начамі яна варочалася на старой канапе, і канапа рыпела — гук непазбежнай старасці ў невыносна ціхай цемры.

Але я не хачу гаварыць пра бабулю Насту, а хачу пра аднагрупніцу Верачку. Аднагрупніца Верачка насіла сукенкі такія, якія больш ніхто не насіў. «Незразумелыя сукенкі, абсалютна незразумелыя сукенкі. Загадкавыя. Шляхетныя нейкія», — так думаў я. Абавязкова доўгія, з карункамі, з клёшнымі спадніцамі. Сукенкі аблягалі танклявую талію і пругкія грудзі. Дзявочы стан Верачкі дасягнуў узросту красавіка, калі зелень радасная, наіўная і крохкая, якой больш не будзе ніколі. Не ўсе бутоны распусціліся, але тое, чаму наканавана квітнець, ужо набухлае і спелае. Хлопцам хацелася ну хаця б разок абхапіць Веру за талію. А калі па шчырасці, то зацягнуць у ложак.

Яна жыла ў старой мінскай кватэры з высокай столлю, у цьмяным пад’ездзе з драўлянымі прыступкамі. Прыступкі старога дома, страціўшы карычневую фарбу, сталіліся ад бясконцых абцасаў, прагнуліся й ледзь чутна парыпвалі. Я любіў гэты цьмяны пад’езд: за стомленыя прыступкі, за час, што ўпітаўся ў дрэва і ў бетон. А можа... А можа, папросту за Верачку.

У Верачкі была толькі бабуля, руская інтэлігентка з тых, пра якіх я хіба толькі ў кніжках Людмілы Уліцкай чытаў. Соф’я Пятроўна родам з Масквы і размаўляла зусім не так, як рускамоўныя мінчукі. Слова «тётушка» вымаўляла не па-беларуску: абсалютна па-руску, з мяккім гукам «т». Беларусы — я ведаў — замест мяккага «т» нязменна вымаўляюць мяккае «ц». А кожнае яе слова гучала выразна і адшліфавана. Соф’я Пятроўна прафесар, выкладала літаратуру і спецыялізавалася на мадэрністах.

У кватэры іхняй у тую шэрую зімку — халаднавата і ціха. Але нават цішыня тутэйшая, прахалода тутэйшая мне падавалася інтэлігенцкай. Асвятленне жоўтае і ў меру цьмянае, таксама інтэлігенцкае, адчуваў я. Усё ахайна, кожная рэч на сваім месцы, і есці печыва боязна, каб не насмеціць дробкамі. На кухні — жоўтае святло, жоўты настольнік, жоўтыя кветкі на зялёных кубках, жоўтыя збаны, а расліны ў тых збанах — зялёныя. І чайнік зялёны, і люстра зялёная, і шпалеры зялёныя. Колеры ў кватэры Соф’я Пятроўна падабрала з ашчаднасцю неверагоднай, з густам вытанчаным.

Пілі гарбату: кубкі нязменна са сподачкам, а лыжкі срэбныя, жаноцкай формы, какетлівыя, з мудрагелістымі ўзорамі. Гарбата — дзіўная, заўжды з травамі. Я зразумеў, што ў гэтай кватэры не бывае «цяп-ляп», усё прадумана, асэнсавана, прыгожа. І не ўбачыш тут падраных пантофляў ніколі, і ружовыя фіранкі не з’явяцца выпадкова, каб парушыць кухонны жоўта-зялёны саюз.

Гарбату пілі ўтраіх: Верачка, я і Соф’я Пятроўна.

— Максимилиан Волошин ходил по пескам Коктебеля в сандалиях на босу ногу и в длинной-длинной, как платье, просторной рубахе ниже колена, с палкой в руках. Волосы пышные, кудрявые, шнурком перетянутые… — выразныя, адшліфаваныя словы.

Ад яе я даведаўся, што літаратура для мадэрністаў была жыццём, а жыццё — літаратурай.

Мае «гарбаты» ў гэтай кватэры былі заўжды літаратурныя. Відаць, і Соф’я Пятроўна была цалкам «літаратурная», як мадэрністы. З галавой, шчыльна набітай Валошыным, Маякоўскім, Цвятаевай, Белым, Хлебнікавым, Бальмонтам, Салагубам, Гіпіус і г. д., і г. д., і г. д…

Верачка таксама была дзяўчынкай «літаратурнай». Не на сто адсоткаў, праўда. Ну, а на пяцьдзесят, а мо і шэсцьдзесят — дакладна. Калі заставаліся сам-насам, яна чытала вершы на памяць: рускую класіку ды тое-сёе з сучаснага беларускага.

— Вера, а ты сама пішаш?

— Крыху, Міця. Раней заносіла нешта ў часопісы. Але, разумееш, мне бабуля з чатырох гадоў Мандэльштама, Гумілёва, Ахматаву чытала. Я расла ў добрай паэзіі. Мае творы слабаватыя, адчуваю… Я разбіраюся ў літаратуры, і класікам мне не стаць, а па-іншаму я не магу.

«Так, — падумаў я, — у кватэры з неверагодна падабранымі колерамі, дзе ўсё асэнсавана, усё на сваім месцы, ці можна па-іншаму?»

Вучылася Верачка не як усе: круглай выдатніцай не была, бо ў агульнаадукацыйныя, «левыя» дысцыпліны нядужа паглыблялася (часу, кажа, нестае), затое на студэнцкіх канферэнцыях выступала і курсачы пісала грунтоўна, з натхненнем. А шпорамі дык нават на тых самых «левых» іспытах не карысталася.

Акром «гарбат» час мы бавілі гульнёй, што звалася «Інтэрв'ю». Я задаю пытанні Веры, якія заўгодна пытанні, а яна адказвае, ды шчыра, без хлусні. Занатоўваю ўсё ў пульхны сшытак, з датай — перачытваць праз гады, відаць, будзе займальна. Затым запытваць будзе Верачка, а я — адказваць.

Вера крочыць па пакоі, з няхітрай траекторыяй ад дзвярэй да акна, ад акна да дзвярэй, ад дзвярэй да акна… Вера часцяком вось гэтак крочыць па пакоі: калі чытае вершы, калі мы гутарым пра людзей альбо пра родны гістфак. А я сяджу на падлозе, у позе а-ля поза лотаса. Я люблю сядзець проста на падлозе альбо на асфальце.

— Міця! — яна зрабіла эфектную паўзу (мне падаецца, у Верачкі ёсць тэатральныя здольнасці; прынамсі, вершы чытае кранальна). — Ад чаго б ты найбольш хацеў пазбавіцца ў жыцці? Называй усё што заўгодна! Толькі — адно.

Я маўчаў. Можа, зрабіць так, каб можна было двойчы, тройчы ўвайсці ў адну і тую ж раку? Каб нешта добрае не сыходзіла назаўсёды, каб яго можна было паўтарыць. Але… Не! Балючая прыгажосць жыцця ў тым, што нічога не вернеш, нічога не перажывеш наноў. Ага! Я ўзгадаў, чаго жадаю.

— Апошнія гады на маю маці вось што напала: яна так палюбіла перастаўляць мэблю, рабіць рамонт і шпалеры пераклейвае ў тры разы часцей, чым раней. Дзіўная. Але аднойчы мяне проста перасмыкнула ад адкрыцця: у маім жа жыцці дакладна тое самае! То бок іншыя формы праяўлення, а сутнасць — тая ж. Старыя шпалеры аддзіраюцца дарэшты, забываюцца. Разумееш, у мяне было вельмі шмат захапленняў, і ўсе яны міналіся. Я сур'ёзна займаўся фізікай, потым геаграфіяй, а паступіў на гістфак, але і гістфак, адчуваю, надакучвае. І з людзьмі… Усе яны прыходзяць, а прыкладна праз год абавязкова сыдуць — і ніхто не застанецца, ніхто не пусціць карані.

Так, так, людзі вакол заўжды змяняліся. Яшчэ год назад, на першым курсе, я тусаваўся з дзяўчынкай Машай. Мяне цягнула да яе. Як да дзяўчыны? Не ведаю. Неяк я сказаў ёй у час звычайнай двухгадзіннай гутаркі па тэлефоне: «Маша, ты — мой найлепшы сябар. І, можа… Я не ўпэўнены, канечне… Але… Можа быць, я ў цябе закахаўся».

Улетку Маша з'ехала працаваць у Амерыку. Знаёмы нумар набіраць цягнула ўсяго першы тыдзень. А потым высветлілася, што і без яе жывецца не горш, чым з ёй. Увосень яна вярнулася. Але… стала непатрэбна. І, каб набраць увечары знаёмы нумар, варта было пераскокваць праз бар'ер ляноты. Да Машы, у Гродне, была Аленка, да Аленкі — Надзя, а да Надзі — Марына. З дзяўчынкамі мне было ўтульней, чымся з хлопцамі. І я не заўжды мог адчуць мяжу між сяброўствам і рэчамі амурнымі. Ды справа, зрэшты, не ў гэтым. А ў тым, што непатрэбна стала з сябру-

ком дзяцінства Жэнем, з Марынай, Надзяй, Аленай і Машай. Акром іх былі яшчэ Віця, Антось, Валя ды яшчэ некаторыя. Вузельчык на феньцы развязваўся сам па сабе, без болю і крыўдаў. А яшчэ я ведаю, што людзі-дэкарацыі могуць быць такімі, а могуць — іншымі. Калі б цяпер я не сябраваў з Верачкай, магчыма, я сябраваў бы з Воляй.

— Памятаю, год назад я дапамагаў маме са шпалерамі. На кухні старыя адклейваліся цяжкавата, але ўсё адно адклеіліся. У прыбіральні ж старыя ададраліся без праблем, амаль самі. Гэтак жа і людзі: некаторыя мо і з цяжкасцю, але ўсё адно сыдуць, забудуцца. Мне здавалася, што з новымі шпалерамі, новай мэбляй у маім пакоі распачнецца і новае жыццё. Але так было толькі спачатку. З новай абстаноўкай у маім пакоі стала не горш і не лепш, чым са старой. Мая мама таксама разумее, што з новым будзе не лепш і не горш, чым са старым, але ўсё адно… перараблівае і перараблівае… Хачу, каб хоць нейкія людзі і нейкія заняткі не сыходзілі, а пускалі карані!

Потым задаваў пытанні я.

— Вера, скажы, ты… закахалася ў мяне?

Навошта? Навошта запытаўся пра гэта? Дурное пытанне! Адназначна дурное!

Яна сумелася — на паўхвіліны.

— Раней я вагалася, не магла зразумець… А ўчора прачытала «Пакуты маладога Вертэра» Гётэ. Каханне — гэта магутная стыхія. Вертэр сох без яе, Вертэр скончыў жыццё самагубствам… Мне з табой добра, надзвычай добра, Міця. Але не, каханне — гэта іншае.

Я прамаўчаў. Я ведаў, што Верачка для мяне — як усе. Дэкарацыі, шпалеры. А шпалеры пераклейваюць рэгулярна…

* * *

У тыя шэрыя зімовыя дні я ўпершыню ў жыцці браўся за томікі паэзіі — торкала!.. Ды і шмат што ў тую зімку было ўпершыню: напрыклад, апатыя з вучобай такая, як гэты састарэлы, нячулы, цвёрды снег. Падручнікі не адгортваў, але зімовую сесію здаў (зрэшты, з некалькімі хвастамі). Я, як самы сапраўдны гуманітарый, умею смела балбатаць перад выкладчыкам. А памяць у мяне зусім не гразкая багна, у якую што ні трапіць — патоне. Памяць у мяне — хваткая, спрытная! Калі што заляціць у вуха на лекцыі, у галаве яшчэ надоўга застанецца.

Упершыню ў жыцці мне чыталі вершы — Верачка, голасам дзіцячым, звонкім і крохкім. І гэтая дзіўная кватэра з ашчадна падабранымі колерамі, і літаратурныя гарбаты з Соф’яй Пятроўнай — усё гэта было ўпершыню.

* * *

У суботу з бутэлькай чырвонага віна я шпацыраваў да Веры. Вера любіла чырвонае віно.

— Дзе віно, там ісціна! — нараспеў, з тэатральным жэстам прачытала яна. — Гэта радкі Алкея, антычнага паэта, што захапляўся ў сваёй творчасці жанчынамі і віном. Шостае стагоддзе да нашай эры, Грэцыя.

Верачка прыгожая, прыгожая, прыгожая!.. І вершы чытае прыгожа. Але ж сёння яна зноў крочыла па кватэры басанож, без пантофляў і шкарпэтак. І ведаеце… у яе непрыгожыя, зусім непрыгожыя ступакі: з доўгімі пальцамі і выпуклымі косткамі збоку, як у бабулі. І я зразумеў: ёсць месцы, дзе Верачка бывае непрыгожай. Надта непрыгожай.

Пераключыў увагу на стол, дзе адцвітала цёмна-барвовая ружа ў вазе. Я падараваў кветку Верачцы тыдзень таму. Ружа была нераспушчаная, незразумелая і таму вельмі прывабная, а цяпер вось… адцвітала… Некаторыя дзяўчынкі сушаць падараваныя ружы (прынамсі, так рабіла Аленка): наіўная спроба не развітвацца з мінулым, а захаваць яго побач? Але ў сухіх руж няма ап’яняльнага водару, яны колеру запечанай крыві, амаль чорныя.

І ўзгадалася мне «гарбатная» лекцыя Соф’і Пятроўны пра Івана Буніна. Яна казала:

— Иван Алексеевич чувствовал, что природа красоты — недолговечность.

Я зірнуў на Верачку: дзве тоўстыя коскі, здаровы бляск у валасах, талія, якую так карціць абхапіць. І немагчыма паверыць, што гэта ўсё не назаўжды. Так, у гэта паверыць гэтак жа складана, як і ў тое, што праз пяць месяцаў будзе не мокры снег, а летняя гарачыня невыносная. Зрэшты, дзяўчынка Верачка з тоўстымі коскамі цяпер думала пра іншае. І сказала:

— Міця, мне падаецца, у цябе даволі моцны жаночы пачатак. Гэта не абраза. У гэтым нават нешта ёсць… прывабнае… Напрыклад, табе цікава, калі я чытаю ўслых свой стары дзённік, з усімі яго дзявочымі сантыментамі і драбязой. Звычайна хлопцам гэта нецікава…

— Можа быць, — згадзіўся я і задумаўся. — У мяне заўжды было шмат сябровак. Відаць, з дзяўчатамі мне неяк утульней.

Цішыня.

Цішыня пасуе гэтай кватэры.

Я тут ніколі не чуў тэлевізійнай балбатні, засмечанай папсой і рэкламай.

Вера разлівае віно ў келіхі — крышталёвыя, вытанчанай формы. А рукі ў яе ўсё ж прыгожыя, з доўгімі пальцамі, вельмі жаночыя…

Ап’яненне — такое мяккае. Сутонне, цішыня — мякка, як мякка. Оп!.. — і гэтага ўжо не будзе.

* * *

На пачатку сакавіка пацёк стомлены снег, паветра патыхала вясной і яшчэ неакрэплым сонцам. Змены панавалі на дварэ — нейкія зменлівыя працэсы запанавалі і ўва мне.

Цесната! Цесната падкатвалася ў Верачкінай кватэры. І хацелася бегчы адтуль: там нешта замінала. Натхненне ад «літаратурных» гарбат трансфармавалася ў «непатрэбна» — засохлае, як руды кляновы ліст, як ружа, колеру запечанай крыві. Соф’я Пятроўна любіць літаратуру, Соф’я Пятроўна мозгам і сэрцам — «літаратурная». Відаць, яна ўсе свае семдзесят гадоў была і ёсць «літаратурная». А я — не. Калі пацёк снег, стала «непатрэбна» не толькі на нашых гарбатах, але і ў кніжках. Бо кніжкі — так раптам адчуў я — чужое жыццё. Звычайная папера, на якой пасяліліся эфемерныя, нікчэмныя, але каляровыя фантазіі. Я ныраў, ныраў у чужыя фантазіі, каб забыцца на гэтае сваё зімовае «непатрэбна» і «цесна». Тая ж літаратура была раскідана па вуліцах, у стасунках між маімі аднагрупнікамі і шмат дзе яшчэ.

Я збягаў з Верачкінай кватэры — адзін, без яе. Сакавіцкія прыцемкі на дварэ прадзьмуваў ветрык і шалёна патыхала свабодай. Ведаеце, свабода накрывае толькі апасля цеснаты.

Тануў я, тануў у сакавіку, шчымлівым да немажлівасці. І раптоўна… заплакаў. (Дзявочы пачатак! Вера казала пра дзявочы пачатак!..) Гістфак па-ранейшаму быў непатрэбным, а ў яе дома, з ёй — стала цес-на! Зрэшты, а ці бывае са мной па-іншаму?

## 2

Хіпоўскі камуністычны флэт — двухпакаёўка ў старым-старым двары Піцера. Тут начуе штораз па чалавек дзесяць. Апошні паверх, і праз вакно можна лазіць на дах. Сцены распісаны вершамі, абклеены фоткамі і паштоўкамі, а калі пакінеш на кухні недапітую гарбату, яе абавязкова дап'е нехта, зусім не грэбуючы.

Заўчора зранку я проста з'ехаў у Піцер, аўтастопам. Вось так — проста вырашыў і проста з'ехаў. Не думаў пра універсітэт, хвасты і залікі. Лёгка і хутка, я проста з'ехаў. Можа, на тыдзень. Можа, на адзін месяц, а можа, на чатыры. Я не ведаю… Гэтай вясной усё ўнутры раптам стала гэткім жа лёгкім, бязважкім і празрыстым, як красавіцкае паветра. І я — лёгка і хутка — проста з'ехаў. Усе падзеі і ўсе рашэнні адчуваліся такімі правільнымі!..

Памятаю дарогу: святло ліхтароў машыны, хуткасць, імклівая траса і цёмны-цёмны, страшны лес, сіняя чарната на ўзбочынах. Сон, які немагчыма перамагчы. Добры кіроўца дзядзька Васіль раптоўна кажа: «Мне трэба не праехаць дзевяноста першы слупок. Там загінулі знаёмыя». І ён прыпыняецца ля дзевяноста першага слупка. Цьмянае святло захоплівае кавалак цемры і помнік. У страшным-страшным начным лесе — кароценькая прасека, якую зрабіла тады машына на хуткасці дзвесце кіламетраў у гадзіну. І мне больш ужо не трэба было змагацца са сном, такое вострае адчуванне дотыку да смерці на гэтай пустэльнай начной трасе. Далей была ноч, кіроўца-дальнабойшчык дзядзька Васіль і адчуванне таго… невытлумачальнага… якое хаваецца ў лесе, у цемры. Дзіўная роднасць і дзіўная еднасць паміж мной і дзядзькам Васем, якому ўжо сорак пяць, які слухае агідны шансон і які зусім не разумее, як можна забыцца на універсітэт, залікі і хвасты. Мы — такія розныя і так адчуваем адзін аднаго гэтай маўклівай ноччу, калі хуткасць трасы і цёмны-цёмны лес. Праз тры гадзіны я вылезу з кабіны, і ён знікне з майго жыцця назаўсёды, разам з цёплым пачуццём еднасці, разам з цёплым пачуццём роднасці.

Там — у Мінску, у кватэры бабулі Насты, у Верачкі, у кніжках, ва універсітэце — там стала цесна. Там стала непатрэбна. А цяпер жыццё, маладое, шалёнае, з пахамі, водарамі, ветрам, пачуццямі, такое жыццё ўварвалася, выветрыла затхлае «цесна».

Дзядзька Васіль высадзіў мяне на Сянной а трэцяй ночы.

Я — разгублена-шчаслівы.

Я — свабодны.

Я — радасць. Тая радасць, якая юнацкая, няўрымслівая. Ад якой думкі хаатычна скачуць, блытаюцца.

— Эй, прывітанне! — мяне дагнала дзяўчынка. У клятчастай хлапечай кашулі і ў джынсах, з валасамі рудымі і па плячо. Някідка, але неяк цнатліва прыгожая. Простай, як клятчастая хлапечая кашуля, прыгажосцю.

— Прывітанне! А я вось з Мінска стопам прыехаў, — паведаміў я.

— З Мінска?! Крута! — непасрэдна гледзячы на мяне, заўсміхалася яна.

І я таксама — непасрэдна, адкрыта заўсміхаўся ды нешта распачаў балбатаць… Не памятаю што. Напэўна, даросласць у грамадстве — гэта калі ты развучыўся казаць «прывітанне!» незнаёмцу, адкрыта ўсміхаючыся і балбочучы пра тое, што ў галаве круціцца.

— А ў цябе ўпіска ёсць?

— Не-а, — прызнаўся я.

— Тады пайшлі да Мікіты.

І мы пайшлі.

Дзяўчынку ў клятчастай кашулі звалі Ніка. Яна жыла ў Маскве, паўгода назад кінула свой факультэт журналістыкі і ўжо месяц тусіла ў Піцеры.

— Не ведаю, — яна балбатала хутка і, здаецца, магла выкласці пра сябе ўсё-ўсё, — не ведаю, чым хачу займацца ў жыцці. Можа, буду спрабаваць паступаць у Літінстытут. Ці паеду годзік павандрую па свеце. Журналістыка для мяне не была нейкім прафесійным заняткам. Я заўжды ўсім казала, што журналістыка для мяне — спосаб спазнання свету.

Мы не пайшлі да Мікіты. Мы пайшлі ў дворык — тыпова піцерскі, дзевятнаццатага стагоддзя — піць віно. У дворыку патыхала мачой (што падалося мне чамусьці рамантычным) і стаяла цёмна-сіняя цішыня.

— Усё пачалося з таго, што я зразумела: канцэрты і выставы мне больш не цікавыя самі па сабе, а цікавыя як матэрыял для артыкула… У Маскве, калі універ кінула, я сядзела дома і тэлек тупа глядзела два месяцы… А тут, у Піцеры, ужо месяц швэндаюся па флэтах, тусуюся ў пераходах з чувакамі, нішцякі збіраем у двары піцэрыі на Неўскім. У Піцеры пракарміцца і без грошай можна… А заўтра ў Наварасійск з’язджаю. Там мора!..

Мяккае ап’яненне і цёплае пачуццё роднасці з Нікай.

Я раптам адчуў, што яна — як і я: напэўна, ва універы ёй таксама стала «непатрэбна»? Цяпер была мая чарга. І я распачаў: пра тое, як захапляўся геаграфіяй і фізікай, а потым паступіў на гістфак; пра Машу і Верачку ды пра людзей-дэкарацыі; пра маё «цесна» і «непатрэбна».

Потым мы маўчалі. Маўчалі з сэнсам і эфектна.

— Ведаеш, Ніка, а ў цябе незвычайная прыгажосць. Простая, густоўная, дзіцячая і цнатлівая.

У Піцеры стаяў красавік. Красавік быў ініцыятыўны, красавік прагнуў працягваць гэтае зменлівае, вечнае, з выклікам зялёнае жыццё. І цела — таксама прагнула. Ніка стала гібкай і пластычнай, Ніка застагнала — першабытна і жывёльна, дакладна гэтак жа, як тысячы гадоў таму стагнала ў сакавітых травах яе прапра…бабуля — жанчына і маці.

— Вой! — раптоўна схамянулася яна.

За намі ўважліва назіраў няголены мужчына з дзвюма сумкамі ў руках.

…Я выпраўляў яе ў Наварасійск, на трасу, тым красавіцкім ранкам. Цяпер я быў няздольны думаць і аналізаваць, я толькі адчуваў, бо жыццё раптоўна аказалася шалёным і псіхадэлічным.

Ніка села ў аўтобус і з’ехала. Шчымлівасць. І новы прыліў паветранай і лёгкай, прасякнутай свежым ранішнім сонцам аморфнай свабоды. Ніка больш ніколі не здарыцца ў маім жыцці. Ды, мусіць, назаўтра — а мо і праз тры гадзіны — я забуду яе простую хлапечую кашулю й простую густоўную прыгажосць. Чамусьці мне ўзгадалася Верачка. Але праз тры хвіліны ўспамін растаў.

Гэтым ранкам я — паветраная і лёгкая,
Прасякнутая свежым ранішнім сонцам
Аморфная свабода.

* * *

Ніка, яшчэ да ад’езду, упісала мяне ў Мікіты, юнака з рудымі бязладнымі віхрамі.

У Мікіты два разы на тыдзень ладзілі кватэрнікі. У Мікіты знаходзілі прытулак украінцы і беларусы, чувакі з Масквы альбо з Пскова. У Мікіты заліваліся віном да самага ружовага ранку…

А сёння ўвечары, рассеўшыся на падлозе і на старой рыпучай канапе, усе слухалі фартэпіяна — граў Мікіта. Паўзмрок пакоя захапіла плынь ускудлачаных, асіметрычных, падчас з сэнсам няправільных і алагічных гукаў. Незразумела, дзіўна, але… страшэнна прыгожа.

Мікіта нідзе не вучыўся і нідзе не працаваў. Было раней афіцыянтства, а затым хлеб грузчыка, а затым — дворніка. «Ды там рабства адно», — сцвярджаў ён. І вось ужо чатыры месяцы ён піў віно, чытаў Дастаеўскага, збіраў бутэлькі і карміўся нішцякамі з той самай піцэрыі.

За жытло плацілі кватэранаймальнікі. То бок не зменлівыя ўпісчыкі, а Іван, Максім і Вераніка з сумнымі-сумнымі вачыма і голасам, нізкаватым, але надзвычай прыемным на слых, на смак і навобмацак.

Іван сышоў ад бацькоў, працаваў вартаўніком у дзіцячым садку і быў паэтам. Ён перакананы, што нейкім невытлумачальным чынам у яго перабраўся талент Уладзіміра Маякоўскага. Але дэбютная кніжка ніяк, ну ніяк не выдавалася… Іван з гэтай нагоды мог быць раздражнёным вельмі нават моцна і сядзеў у кладоўцы, каб людзей не бачыць. Бо два пакоі, кухня, балкон, ванная і прыбіральня скарыстоўваліся напоўніцу.

А з Максімам ды Веранікай пагутарыць-пазнаёміцца мне не выпадала.

* * *

— Чатыры месяцы не быў дома… — казаў за гарбатай мне Зміцер. — Ведаеш, а дарога змяніла маё разуменне жыцця.

Аўтастопшчык Зміцер вяртаўся дахаты, у Кіеў, з вострава Валаам, а да гэтага было падарожжа па Сібіры.

— З гэтай вандроўкі нават фотак не будзе, бо здымач зламаўся, а нейкі дзённік не было часу весці. Але гэта мяне не вельмі расстроіла. Мноства людзей, мясцін, перажыванняў… І такое адчуванне з’яўлялася, што фатаграфаванне, занатоўванне будзе ўсяго бляклай копіяй, жаданнем чапляцца за тое, што становіцца мінулым, і цягнуць яго ў будучыню, дзе яно ператворыцца ўсяго ва ўспаміны. Выразна, выразна зразумеў, што жыццё ёсць толькі тут і цяпер. Толькі тут і цяпер — і больш нідзе.

Я чамусьці ўзгадаў Верачку, і здалося, што Верачка зусім не чалавек з цёплым целам, а сумніўная фантазія, да якой, як і да тумана, рукой не дакранешся.

* * *

Праляцелі восем — альбо дзевяць? — піцерскіх дзянькоў. Мой дыванок і спальнік ля самай сценкі. Мой жоўты кубак, які шторанак «краў» піць гарбату Іван, ці Вадзім з Кіева, ці Лёша з Пскова. І ведаеце… Мяне ў глыбіні душы крыху злаваў мой жоўты кубак, калі знаходзіўся не ў родных, а ў чужых руках. Але я хачу не пра гэта, а пра Вераніку.

Тым вечарам мне раптам усё стала непатрэбна. Аднак тут падышла Вераніка ды сказала голасам нізкаватым, але надзвычай прыемным на слых, на смак і навобмацак: «А пайшлі пагуляем!» І мы сышлі ў вячэрні Піцер, гутарылі ўпершыню за гэтыя дзевяць — альбо дзесяць? — дзянькоў. Гэта была гутарка такая, ад якой свет навокал становіцца прамаляваным у тры разы больш выразна. Мне здавалася, што ў дом з павуціннем, аканіцамі і цёмнымі мёртвымі пакоямі засяліліся жывыя людзі, і «непатрэбна» развейвалася.

— Я пачала пісаць нейкія аповесці і апавяданні ў пяць гадоў, — павольна распавядала яна. — Памятаю, як накрэмзала цэлы паўагульны сшытак маме на народзіны: гэта быў твор «Прыгоды вясёлай сямейкі». Мама, тата і бабуля часцяком мне прарочылі: «Ты будзеш пісьменнікам!» — і зачытвалі мае сшыткі, калі госці збіраліся. У школьныя гады ў мяне зусім не было сяброў, я была хатняй і вельмі кніжнай дзяўчынкай. Думала, што каб стаць пісьменнікам, трэба быць адукаваным, і чытала, чытала, чытала… Усё запар. Усяго Эсхіла, усяго Еўрыпіда, усяго Шэкспіра. Большасць чытаць было нудна і нецікава, але я зусім не зважала на гэта. Проста была перакананая, што, каб быць пісьменнікам, трэба быць начытаным. Пасля школы быў філфак, дзе на другім курсе я зразумела… — Вераніка пачала ўсхліпваць, мяшаючы гэта са смехам быццам бы ў апраўданне, — на другім курсе я зразумела, што бацькі проста запраграміравалі мяне на вось гэта: «Ты станеш пісьменнікам!» І я тупа ішла да мэты, якая зусім не з’яўлялася маёй мэтай. Любіць пісаць — гэта яшчэ не значыць станавіцца пісьменнікам, прычым ужо ў дзесяць гадоў гэта ўсё, гэтая крэмзаніна, ужо так не лілася з мяне фантанам, як у пяць. Божа, Міця, бывае так лёгка шмат гадоў падманваць сябе! Цяпер я чытаю толькі тое, што мне сапраўды падабаецца. Літаратура для мяне, як хатнія кветкі на падваконні, — для прыгажосці. Я не магу і не хачу гэтым жыць…

Цяпер Вераніка пражывала акадэмічны адпачынак, працавала прыбіральшчыцай, але ва універ вяртацца збіралася.

— Думаю, што спярша буду выкладаць у школцы мову. Толькі не літаратуру! Не хачу прымушаць чытаць тое, што насамрэч можа быць для школьніка нудным. Не хачу прамываць мазгі дзеткам тым, што чытанне выхоўвае.

Яна ўсмешліва глядзела на мяне, яна пранікала ўважлівым позіркам у самую маю сутнасць — і гэта было так радасна і казытліва, што я не вытрымліваў, я адварочваўся, я абараняў сябе смехам.

Ве-ра-ніка. А тая Ніка, відаць, таксама была Вераніка? Ведаеце… У цяперашняй Веранікі, як і ў Нікі, простая, але густоўная і дзіцячая прыгажосць. Толькі формы носа, вачэй і твару іншыя.

У Піцеры — цёмныя, халодныя воды, і вецер — халодны, а яна — така-а-а-я цёплая…

* * *

Праз чатыры дні з Веранікай мы рванулі ў Крым, у Лісіную бухту.

— Там нудысцкі пляж… Мне здаецца, што калі людзі зусім без вопраткі — гэта новы ўзровень шчырасці і адкрытасці, — казала яна.

Напэўна, я больш ніколі не вярнуся на гэты флэт. І не ўбачу ўжо такіх родных Івана Маякоўскага і Мікіту, як і добрага кіроўцу дзядзьку Васіля.

Мы пакідалі Піцер, і мне было пранізліва, крыштальна сумна і радасна адначасова, мне было лёгка і прыгожа. Я, як і Зміцер, не фатаграфую і не запісваю, але гэта чамусь так няважна.

Ведаеце… З Веранікай мне добра. Не лепш і не горш, чым было з Нікай, Верачкай, Машай, Аленкай, Надзеяй, Марынай.



*Аксана Спрынчан нарадзілася ў 1973 годзе ў горадзе Лунінец Брэсцкай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1995) і аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі (1998). Працавала вядучым навуковым рэдактарам рэдакцыі літаратуры і мастацтва выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі. Цяпер — у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Аўтар кніг «Вершы ад А.», «ЖываЯ», а таксама «Дарога і Шлях» (сумесна з Алесем Анціпенкам).*

Аксана СПРЫНЧАН

# МОЙ СЛУЦКІ ТКАЧ

## ВЕРШАВАНЫ ПОЯС

### *Нітка шаўковая*

Цябе ў табе шукаю
мо таму,
што адчуваю —
я ў табе таксама...
Цябе ў табе шукаю
і чакаю,
што ты мяне ўва мне
перабіраеш,
выцягваючы ніткі залатыя,
каб слуцкі пояс ткаць...
Ёсць толькі ў вершы
слуцкія ткачыхі,
ёсць у жыцці —
мой слуцкі ткач.

### *Нітка жыцця*

Знайшла цябе,
каб апасля згубіць,
але й жыву,
каб апасля памерці...
Знайшла цябе,
маланку прыгубіла,
не апяклася,
апякла,
ды пекла
стваралася, відаць, не нам,
мы там, дзе пекна,
дзе кожны і знаходзіць, і губляе,
жыццё зямлі
маланкай працінае...

### *Нітка мінулага*

Ты для мяне —
бадай паэма...
Паэма ў прозе...

Я столькі мёртвых душ
знайшла ў табе,
але яны жылі,
няхай і да мяне,
кахалі і гукалі,
калі Радзіму, а калі й цябе...
Ды, нават адшукаўшы,
адчувалі —
не іх радзімкі
пад сваёй рукою
схаваеш ад маланак і святла.

***Нітка абярэгу***

Цяжк*а*я праца —
ткаць жыццё чужое
ці нават толькі пояс ад яго,
тым болей —
слуцкі,
на чужых узорах
ствараць, забыўшыся,
сваё...
Ткаць так,
каб заставаліся легенды,
ткаць так,
каб паўтарыць ніхто не змог
тваё жыццё,
сатканае з маім,
маё жыццё,
сатканае ў радок,
які, як пояс,
можа слуцкім стаць,
нібыта пояс,
нас аберагаць...

***Нітка залатая***

Ты кветкі Радзімы
ўплятаеш у косы мае,
забыўшыся —
пояс не тчэцца.
Ніякага сэнсу...
Ды жаўранак у вышыні
спявае,
што спее калоссе ў красе
і вечнасць,
схаваная ў зернейку кожным,
вось-вось усміхнецца.

***Нітка срэбная***

І ўдзень,
і калі зойдзе сонца,
ты пояс тчэш,
мой слуцкі ткач.
Удзень
ты з залатою ніткай,
уночы —
срэбная ў руках.
І я, стамлёная ад сонца,
чакаю срэбнае начы,
калі з рабра твайго ўзнікаю,
калі маланкі нас яднаюць,
знікаюць у шаўковым ложку
шчэ не апошняе зары...

***Нітка кахання***

У вушка маланкі
працягваеш нітку кахання
і ёю сшываеш нябёсы,
параненыя расстаннямі,
параненыя самотаю
і прыгажосцю,
якую ўжо разарвалі Ён і Яна.
Хай гэта пакуль не пра нас,
ды нехта калісьці
нябёсы, што мы паранілі,
сшые кахання ніткай,
самай празрыстай і чыстай...

***Нітка бясконцасці***

Калі ўсе ніткі
ў вашае душы
завяжуцца так шчыра,
як маглі вы дыхаць
у чужым жыцці,
якое на маланку
стала вашым,
вы самі вытчаце
чытацкі пояс
і згубіце...
Бадай што будзе так...



Ягор Конеў нарадзіўся ў 1970 годзе ў Мінску. Скончыў факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Працуе выкладчыкам. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар кнігі прозы «Вартавыя», выдадзенай у бібліятэцы часопіса «Маладосць», і інш.

Ягор КОНЕЎ

# КАЛЯДНАЯ ЗОРКА

***Паданне ў дыялогах***

**ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:**

**К а л я д а**
**В ы ш а н ь** — бацька Каляды
**З л а т а г о р к а** — маці Каляды
**Р а д а** — нявеста Каляды
**А м а л ф е я** — каза, «цётка» Каляды
**М і к о л а** — мядзведзь, «дзядзька» Каляды
**Ч а р н а б о г** — валадар цемры
**В і й** — сын Чарнабога, правадыр войска наўя
**Г а н н а** — маці Рады
**М я ш ч а н к а**
**Н а ў е** — ратнікі Чарнабога
**П а с л а н ц ы** ад людзей і звяроў
**В я с к о ў ц ы**

***Час дзеяння —***
***колькі тысячагоддзяў да Раства Хрыстова.***

## АКТ ПЕРШЫ

### ДЗЕЯ 1

Сарачынская гара.
Уваходзіць Вышань.

**Вышань.** Слаўная гісторыя пачынаецца! Паслухайце паданне, пра якое нашы праўнукі раскажуць унукам, а тыя — сваім праўнукам. Калісьці ўзгадаюць нашую гісторыю як даўніну даўнюю, даўно забытую. А вы пачуеце, як насамрэч усё было...

Сцэна патанае ў змроку. А потым загараецца зорка ў вышыні.

**В ы ш а н ь.** Пачуйце мяне, людзі і звяры, птушкі і рыбы! Вы памятаеце: быў час, калі валадар замагільнага царства Чарнабог пайшоў вайною супраць усяго існага на зямлі. Вайна была зацятай. Чарнабог — перамог. Чарамі схаваў ён сонца за чорнай заслонай. Холад і цемра запана-

валі на зямлі. Полчышчы наўя — вояў-мерцвякоў — нішчылі гарады і селішчы. І доўжылася тая страшная эпоха тысячу гадоў. Нараджаліся пакаленні, якія ўжо і не ўяўлялі, што такое сонца. Але былі і тыя, хто верылі ў прароцтва: ноч скончыцца світанкам! З'явіцца той, хто адолее Чарнабога. Пра яго нараджэнне папярэдзіць зорка, якая запалае сцюдзёнаю парою. Тое прароцтва гучала ў спевах ветру, у шоласху травы, у голасе агню... І аднойчы загарэлася зорка ў небе! Той ноччу мая жонка Златагорка нарадзіла дужага хлопчыка. І я, волат Вышань, даў сыну імя — Каляда. Бо яму наканавана зрушыць Кола Часу, выбавіць усіх нас ад улады Чарнабога! *(Спявае.)*

А ўчора ды з вячора засвяціла зорка!
Ой, учора ды з вячора засвяціла зорка!
    Зорка засвяціла, свет узвесяліла!
    Ой, зорка засвяціла, свет узвесяліла!
Свет узвесяліўся, Каляда нарадзіўся!
Ой, свет узвесяліўся, Каляда нарадзіўся!
    Каляды нараджэння людзям на збаўленне!
    Ой, Каляды нараджэння людзям на збаўленне!
Людзі, звяры, прыбягайце, Каляду шчыра вітайце!
Ой, хутчэй вы прыбягайце, Каляду вітайце!..

## ДЗЕЯ 2

Уваходзіць Златагорка, якая гушкае на руках немаўля.

Уваходзяць Пасланцы чалавечых і звярыных плямёнаў, кланяюцца Вышаню, ускладваюць падарункі да ног Златагоркі.

Вышань і Златагорка зычліва кланяюцца ў адказ.

Сярод Пасланцаў — каза Амалфея, якая нясе качан капусты, і мядзведзь Мікола, які прыцягнуў кадобчык мёду.

**Першы пасланец** *(Вышаню)*. Рады вітаць цябе, волат Вышань!

**Другі пасланец** *(Златагорцы)*. Рады вітаць цябе, Златагорка!

**Першы пасланец.** Птушкі разнеслі па свеце дзівосную навіну!

**Другі пасланец.** Нарадзіўся наш збаўца, наш ратаўнік!

**Першы пасланец.** Мы прыйшлі ад розных плямёнаў, чалавечых і звярыных!

**Другі пасланец.** Не з пустымі рукамі прыйшлі — Калядзе падарункі прынеслі!

**Вышань.** Дзякуй вам. Хай жа ад гэтай пары паўсюль укарэніцца звычай — віншаваць дзяцей падарункамі!

**Першы пасланец.** Уславім Каляду песнямі ды скокамі! *(Спявае.)*

Чарнабог сыходзіць,
Зорка ўзыходзіць!
Каляда прыйшоў! Каляда прыйшоў!

**Другі пасланец** *(спявае)*.

Узрадуемся, людзі,
Цемры больш не будзе!
Каляда прыйшоў! Каляда прыйшоў!

**Пасланцы** *(спяваюць разам).*

Вецер заспявае,
Новы час вітае!
Каляда прыйшоў! Каляда прыйшоў!
Радасць, шчасце, сонца
З намі ўжо бясконца!
Каляда прыйшоў! Каляда прыйшоў!

Пасланцы кружаць у карагодзе.
Мікола незнарок штурхае Амалфею, наступае ёй на нагу.

**Амалфея** *(раз’ятрана).* Вой, вой, крывалапы! Я — каза далікатная! А ты мяне ледзьве не скалечыў! *(Кульгае.)*

**Мікола** *(вінавата, падтрымлівае яе).* Прашу прабачыць мне. Я — мядзведзь Мікола. Мудры, але крыху няўклюдны...

**Амалфея.** А я — Амалфея! Самая прыгожая каза ў свеце. *(Падазрона.)* Пэўна, чуў пра мяне?

Мікіта *(дапамагае ёй сесці).* Не. А хіба павінен?

**Амалфея** *(пакрыўджана).* Кулёма ты махнатая! Нат не чуў пра мяне, прыгажуню гэткую! *(Пагражае Міколу рогамі.)* А ну, пайшоў прэч! Нячыстая цябе прыгнала!

Уваходзяць узброеныя Наўе, на чале іх — Вій.

**Мікола** *(Амалфеі, указвае на Наўе).* Вунь каго нячыстая прыгнала! А ты кажаш!

**Амалфея** *(спалохана).* Ой, і собіла ж мне сказаці!

Наўе расштурхоўваюць Пасланцаў. Спалоханыя Пасланцы разбягаюцца.
Вій набліжаецца да Вышаня і Златагоркі.

**Вій** *(Вышаню, указвае на зорку).* Валадар Чарнабог таксама ўбачыў зорачку ў небе. І даслаў мяне, свайго сына Вія, каб перадаў вам яго віншаванні. Чарнабог загадаў: хлопчык мусіць памерці. А ты і твая жонка адправіцеся ў вязніцу. Скарыцеся волі Чарнабога! *(Цягне рукі да немаўляці.)*

**Вышань.** Чакай ад вербы яблык! *(Адкідвае Вія.)* Будзем біцца! Пасланцы, бараніце Каляду! *(Азіраецца. З жахам бачыць, што ўсе, акрамя Міколы і Амалфеі, паразбегліся. Златагорцы.)* Златагорка, уцякай! Ратуй сына!

Наўе акружаюць Вышаня і Златагорку.
Вышань адкідвае Наўе, але ні ён, ні Златагорка не могуць прабіцца скрозь варожае ачапленне.
За бойкай з жахам назіраюць Амалфея і Мікола.

**Амалфея** *(мацае нагу, падымаецца, сабе).* Здаецца, магу рухацца. Нат змагу ўцячы!

**Мікола** *(асуджальна).* Як уцячы? Яны ж заб’юць Каляду!

**Амалфея.** А што можа бяроста супраць агню?

Да іх набліжаюцца Вышань і Златагорка.

**Вышань** *(Амалфеі і Міколу).* Лёс даслаў вас, каза і мядзведзь! Прашу вас: зберажыце Каляду!

**Златагорка** *(працягвае немаўля Амалфеі).* Каляда — наша надзея. А вы — мая.

**Амалфея** *(бярэ дзіця, разгублена).* Мы? Высакародная каза і крывалапы мядзведзь — надзея ўсяго свету? А ці ёсць яшчэ вакансіі? *(З надзеяй азіраецца.)*

**Мікола** *(спалохана).* Як я прыму такую адказнасць? Я ўсяго толькі мядзведзь. Няхай і самы кемлівы...

**Амалфея** *(рашуча, Міколу).* О, так! Твае лапы і мае рогі — гэта неадольная моц!

**Вышань.** Чарнабог будзе шукаць вас.

**Златагорка.** Сцеражыцеся позірку Вія!

**Вышань.** Вы ведаеце кожную сцяжыну ў лесе. Схавайце Каляду.

**Златагорка.** Бяжыце!

Амалфея і Мікола ўцякаюць. Наўе хапаюць Златагорку.
Вышань змагаецца з Наўе.

**Вій** *(Вышаню).* Спыніся, Вышань. Інакш пагляджу тваёй жонцы ў вочы. Ты ведаеш: мой позірк — смяротны. Ніхто не адолее ані мяне, ані майго бацьку.

**Вышань.** І так бывае, што святло цемру перамагае!

**Вій** *(Вышаню, указвае ўслед уцекачам).* Я знайду іх.

**Вышань** *(Златагорцы).* Вер мне, любая: самы страшны змрок — перад досвіткамі.

**Златагорка.** Хіба магу я табе не верыць, любы?

Наўе хапаюць Вышаня, які ўжо не супраціўляецца, і Златагорку, зводзяць іх.

**Вій** *(сабе).* Святло цемру перамагае? *(Смяецца.)* Хто ж у такое паверыць! *(Сыходзіць.)*

## ДЗЕЯ 3

Палац.
Уваходзіць Чарнабог.

**Чарнабог** *(спявае).*

Я не ведаю падзякі,
Я не ведаю пашаны.
Я — пан цемры, Чарнабог!
Я скраў святло, схаваў заганы.
Я — ратавальнік, далібог!
О, няўдзячны люд!
Ты не бачыш свой бруд,
Злыбядой з’яднаны
З існаваннем цьмяным.
Ў цемры немагчымы войны,
Ў цемры нельга забіваць.
Не патрэбны сонца промні,
Трэба Каляду стрымаць!
О, няўдзячны люд!
Ты не бачыш свой бруд,
Злыбядой з’яднаны
З існаваннем цьмяным...

*(Сабе.)* О, панылае жыццё! Я — уладар свету, а на сэрцы — горыч і страх... О, няўдзячныя людзі! Свяціла б сонца — яны ўбачылі б свае брыдкія заганы, мярзотныя хібы. Жахнуліся б! А ў змроку ўсім здаецца, быццам яны — прыгожыя, добрыя... Калі б не мая ўлада — даўно павынішчалі б адзін аднаго. І хаця б хто мне падзякаваў!

Уваходзіць Вій.

**В і й** *(Чарнабогу, кланяецца).* Я табе за ўсё ўдзячны, бацюхна. Мы з табою неразлучныя, як з горам бяда...

**Ч а р н а б о г** *(змрочна).* Гляджу, ты не знайшоў Каляду.

**В і й.** Дваццаць цёмных зім і летаў шукаў! Кожную дарогу агледзеў, у кожнае селішча зазірнуў. І ў лясах яго шукаў, і на рэках, і ў пячорах... Няма нідзе Каляды!

**Ч а р н а б о г.** Ты не выканаў мой загад, сынку!

**В і й.** Я шмат каго дапытваў. Ніхто Каляду не бачыў. Ніхто нат не чуў пра яго.

**Ч а р н а б о г.** Не давярай усяму, што кажуць. Глядзі людзям у сэрца. Там тоіцца праўда.

**В і й.** А мо Каляда ўжо памёр?

**Ч а р н а б о г** *(указвае на зорку).* Зорка свеціць — верная прыкмета, што Каляда па зямлі ходзіць. Знайдзі яго! Пакуль ён у сілу не ўвабраўся. Шукай не ў лесе і не ў пячорах. Каля чалавечага жытла шукай... Паспяшайся!

Вій сыходзіць.

**Ч а р н а б о г** *(гледзячы ўслед Вію).* Нават родны сын ненавідзіць мяне. Хоча сесці на мой трон... О, нязноснае жыццё!.. Хай жа і ва ўсіх такое будзе! *(Сыходзіць.)*

## ДЗЕЯ 4

Лес.
Уваходзяць Каляда з кіем у руцэ, мядзведзь Мікола з пустым мехам за плячыма, каза Амалфея з бубнам у капытах. Лоб Каляды павязаны хусткай.

**К а л я д а** *(указвае наперад, Міколу і Амалфеі).* Мікола, Амалфея, там вёска! Хадзем туды! Паспяваем, паскочам, падсілкуемся! Вы ж ведаеце: я люблю людзей весяліць!

**А м а л ф е я** *(заклапочана).* Ад жытла лепш далей трымацца. Дзе ёсць два чалавекі, там трэцяю будзе здрада! *(Міколу)* Хіба не на маім баку праўда, даражэнькі Мікола?

**М і к о л а** *(трасе мехам).* Харчы скончыліся, мілая Амалфея. Каляда не можа травой сілкавацца, як ты. Яму ежа патрэбна.

**А м а л ф е я.** З чалавекам столькі клопатаў! Вось я, каза, — ідэальная істота: і пысай, і рогамі, і капытцамі...

**М і к о л а** *(з’едліва).* ...і лагодным характарам!

**А м а л ф е я** *(незадаволена).* Ну добра, зойдзем у гэтае селішча, збяром пачастунак — і адразу ж у лес!

**К а л я д а.** Як скажаш, цётухна Амалфея.

Сярдзіта паглядзеўшы на Міколу, Амалфея сыходзіць.

**М і к о л а** *(Калядзе).* Заўважыў, як яна паглядзела на мяне? Верная прыкмета, што я ёй даспадобы!

**К а л я д а.** Чамусьці мне так не падалося.

**М і к о л а.** Блага ты ведаеш жаночае сэрца! Я ўпэўнены, Амалфея закахалася ў мяне, як толькі мы сустрэліся. Аднак сарамлівасць змушае яе ўтойваць свае пачуцці. Але яна ўсядно стане маёю жонкаю. Няўжо ты сумняваешся?

**К а л я д а.** Яшчэ б!

**М і к о л а.** О, на гэты конт я прыдумаў мудры план! Я звярнуся да Амалфеі з

палымянай прамовай. Твая цётка ўсё добра ўзважыць і зразумее, што я — лепшы ў свеце жаніх. Свой зварот я ўжо амаль дасачыняў. Ці хочаш пачуць?

**К а л я д а.** Яшчэ б.

**М і к о л а** *(прымае зухаватую паставу).* «Як жолуд неад'емны ад дуба, як хвост неразлучны з авечкай, як сцюжа спалучаецца з завеяй, гэтак і мы...» *(Чухае патыліцу.)* А далей я пакуль не прыдумаў... Што ж мне рабіць? Дзе знайсці натхненне?

**К а л я д а.** А хадзем на вёску, дзядзька! Паскачам, людзей павесялім! Пашукаем натхнення разам!

**М і к о л а.** Ат, хадзем!

Каляда і Мікола сыходзяць.

## ДЗЕЯ 5

Вёска.
Уваходзіць Рада.

**Р а д а** *(спявае).*

Зорачка заззяла ў нябёсах,
Я веру ў нашае каханне.
Веру ў перакрыжаванне лёсаў,
Чакаю з табою спаткання.
Цябе, Каляда, кахаю.
Цябе аднаго чакаю.
І зорку тваю вітаю.
Кахаю, кахаю, кахаю...
Зорачка ў нябёсах заззяла
І светам надзеі іскрыцца.
Цябе ўсёй душой пакахала
Я — фея, я — мара, я — жрыца.
Цябе, Каляда, кахаю.
Цябе аднаго чакаю.
І зорку тваю вітаю.
Кахаю, кахаю, кахаю...
Заззяла ў нябёсах зорачка,
Сустрэнуцца позіркі, рукі.
Мы пакахаем горача,
Мы пераможам разлукі!
Цябе, Каляда, кахаю.
Цябе аднаго чакаю.
І зорку тваю вітаю.
Кахаю, кахаю, кахаю...

Уваходзіць Ганна.

**Г а н н а.** Рада, дачушка, ты што тут робіш? Сцюжа на дварэ. А ну, ступай у хату!

**Р а д а.** У хаце, матухна, цёмна і млосна.

**Г а н н а.** А тут што? Светла?

**Р а д а** *(указвае ўвышыню).* А тут зорачка свеціць. Я гляджу на яе і думаю. Пра каханне...

**Г а н н а.** Чаго?

**Р а д а.** Кожная дзеўчына пра каханне думае. А я ўжо даўно кахаю. З самага дзяцінства.

**Г а н н а.** Каго? Хлопец з нашай вёскі? Ці з суседняй?

**Р а д а.** Каляду.

**Г а н н а.** Як так? Ты ж ніколі яго не бачыла!

**Р а д а.** Затое шмат пра яго чула. Каляда недзе ходзіць. Але кожны дзень набліжае яго да мяне.

**Г а н н а.** Годзе лухту плесці! Трэба меней думаць. Ад вялікага розуму багата гора! А ну, пайшла ў хату!

**Р а д а** *(panyла)*. Ты, матухна, не разумееш мяне.

Рада і Ганна сыходзяць.

## ДЗЕЯ 6

Уваходзіць Амалфея.

**А м а л ф е я** *(азіраецца)*. Тут як паўсюль: народ па хатах пахаваўся, ад холаду ратуецца, у змроку лучыну паліць... Што за панылае жыццё! *(Б’е ў бубен.)* Гэй, людзі добрыя, выходзьце! Каляда да вас ідзе! *(Спявае.)*

Ой, ідзе Каляда,
Ой, да вашага двара!
Багацця, радасці таму,
Хто ў гэтым даму!
*(Указвае.)* І ў тым, і ў тым!
Каляда прыйшоў! Каляда прыйшоў!

Уваходзіць Ганна, за ёй, крадком, Рада.

**Г а н н а** *(Амалфеі)*. Адкуль такая галасістая каза ўзялася? Адкуль ты да нас прыбілася?

**А м а л ф е я.** Ад Сарачынскай гары брыду, радасць людзям нясу!

**Р а д а** *(Амалфеі)*. Ад Сарачынскай гары? Той, дзе Каляда нарадзіўся? Ты яго бачыла, цётухна каза?

**А м а л ф е я** *(Радзе)*. Кожны яго ўбачыць, хто захоча.

**Г а н н а** *(Радзе)*. Ты што тут згубіла? А ну, у хату!

**Р а д а** *(надзьмула губы)*. Матухна!

**Г а н н а.** Каму сказала!

Уваходзяць Мяшчанка, Вяскоўцы.
Рада хаваецца ад матулінага позірку за іх спінамі.

**М я ш ч а н к а** *(Ганне)*. Што здарылася, суседачка? Хто тут?

Уваходзяць Каляда і Мікола.

**К а л я д а** *(пастукваючы кіем)*. Вечар добры, грамада! Я — Каляда. Ад вёскі да вёскі хаджу. Цётухну казу і дзядзьку мядзведзя з сабой ваджу. Мы здалёк да вас ішлі. Дабрабыт вам прыняслі. Будзе ў кожнай хаце прыбытак! У кожным хляве будзе скаціна вадзіцца, а на полі пшаніца ўрадзіцца!

**М і к о л а.** Адарыце нас з клеці рашатом, а з печы пірагом! Шчодрасць вашая з лішкам вернецца да вас!

**А м а л ф е я.** Будуць добрыя вашыя каровы, а самі вы — здаровы!

**К а л я д а.** Будуць козы вашыя мэкаць, а бараны бэкаць! Сто гадоў будзеце жыць, дзетак сваіх расціць!

**М і к о л а.** Будуць весціся ў вас цялушкі, кураняты, свінні, птушкі! Каб капуста ў вас урадзіла ўсяму свету на дзіва!

**А м а л ф е я.** Я вам праўду кажу. Я — каза Амалфея шэрая, вельмі смелая. Я — каза вучоная, прайшла ўсе навукі, ведаю розныя штукі. *(Ківае, б'е ў бубен, ходзіць па крузе, прытупвае. Спявае.)*

Дзе я стану хадзіць,
Там будзе жыта радзіць!
З Калядой іду! З Калядой іду!
Дзе махну хвастом,
Там жыта кустом!
З Калядой іду! З Калядой іду!
Дзе торкну рогам,
Там стане жыта стогам!
З Калядой іду! З Калядой іду!
Дзе я пабываю,
Там шчасце вітаюць!
З Калядой іду! З Калядой іду!

**К а л я д а** *(спявае).*

Го-го-го, каза, го-го, шэрая!
Го-го-го, каза, го-го, белая!
А ну, цётухна мая, смелая!
А ну, цётухна мая, умелая!
Расхадзіся! Весяліся!
І гаспадарам пакланіся!
Пакланіся зграбна!
Павярніся складна!

Амалфея кланяецца Вяскоўцам.

Некаторыя з Вяскоўцаў танцуюць разам з ёй. Мяшчанка сыходзіць.

Нечакана Амалфея падае. Мікола з гаротным выглядам хапаецца за галаву. Каляда ўсплёсквае рукамі.

**К а л я д а** *(Ганне).* Ой, стамілася мая каза! Гаспадынька, йдзі, каўбасу нясі! *(Спявае.)* Тры кавалкі сала,
Каб каза ўстала.
Адну мерку аўса,
Каб каза пайшла.
Адну мерку жыта,
Каб каза была сыта.
Каза любіць падарункі,
Хоча пачастункі!

**Г а н н а** *(скрыжаваўшы рукі).* Самім няма чаго есці!

**Р а д а** *(Ганне, з дакорам).* Матухна, у нас жа поўным-поўна ў каморы і ў амбары!

**Г а н н а** *(Радзе, строга).* А мне шкада калядоўшчыкам дабра! І чаму гэта ты яшчэ тут? А ну, вяртайся ў хату!

**Р а д а.** Матухна...

**Г а н н а.** Маўчы, хітрая ты варона. Ведай сваё дрэва!

Рада сыходзіць.

**Г а н н а** *(Калядзе).* Хто вас сюды запрашаў? Ніхто. Вось і прыбірайце адсюль свае ногі-рогі!

Уваходзіць Мяшчанка, нясе ў місе каўбасы, пернікі, пірог.

**М я ш ч а н к а** *(спявае).*

Гаспадынька йдзе,
Каўбасу нясе!
Сем кускоў сала,
Каб каза ўстала!
Паўмеркі жыта,
Каб каза была сыта!
Паўмеркі аўса,
Каб каза расла!

Частуйцеся! Добрым дабра не шкада! Уславім Каляду!

**А м а л ф е я** *(падымаецца, да Мяшчанкі).* Дзякуй, добрая душа. Будзе заўсёды хата твая прыбрана, міскі-ложкі памыты, а дзеткі сыты. Будуць поўны кублы яец, а ў хляве шмат свіней і авец. За кожны піражок уродзіць твая паласа жыта стажок!

Мяшчанка высыпае пачастунак у мех, які раскрыў перад ёй Мікола.
Гаспадыня асуджальна круціць галавой, сыходзіць.
Мікола перадае мех Калядзе.

**М і к о л а** *(да Вяскоўцаў).* Дазвольце і мне пацешыць расповедам шаноўнае спадарства. Я не толькі раскажу, а яшчэ і пакажу. Мы даўно па свеце блукаем, шмат цікавага прыкмячаем. Бачылі, як гаспадыня цеста месіць! *(Робіць выгляд, быццам месіць.)* Бачылі, як дзяўчаты перад люстэркам круцяцца! *(Водзіць лапай па твары, круціць задам.)* А што яшчэ паказаць? *(Задумліва чухае патыліцу.)*

**К а л я д а.** А пакажы, Мікола, як гаспадар на кірмаш ідзе!

Мікола тупае, радасна падскокваючы.

**К а л я д а.** А пакажы, як ён з кірмашу дадому вяртаецца!

Мікола гайдаецца, бы п’яны.

**К а л я д а.** А пакажы, як бабы плачуць! Плачуць — не ўсміхаюцца, фартухом закрываюцца.

Мікола імітуе жаночы плач такім чынам, што Вяскоўцы рагочуць.
Каза Амалфея па чарзе звяртаецца да кожнага з Вяскоўцаў.

**А м а л ф е я** *(спявае).*

Гаспадынька, будзь ласкавая!
Вазьмі свечачку
Ды йдзі ў клецечку.
Зазірні ў бачок,
Там стаіць мачок,
Калядоўшчыкам шмат не трэба.
Рэшата аўса,
Зверху каўбаса,
Рэшата грэчкі,
Наверх яечкі!

Вяскоўцы сыходзяць, вяртаюцца з пачастункам.
Каляда, адклаўшы кій, падстаўляе для падарункаў мех.
Амалфея дзякуе кожнаму, звяртаецца да маладых сялянак.

**А м а л ф е я** *(спявае).*

Ой, дала ты, маладая,
Нам белы сыр, белы сыр.
Будзе ў цябе, маладая,
Першы сын, першы сын...
Ой, дала ты, маладая,
Нам мачку ды мачку.
Ой, народзіш, маладая,
Ты дачку, ты дачку!

Крадком вяртаецца Рада. Да яе сукенкі прымацаваныя дзве сплеценыя з саломы зоркі. Падыходзіць да Каляды.

**Р а д а** *(хвалюючыся).* Мяне завуць Рада. У мяне, Каляда, для цябе падарунак. *(Адшпільвае ад сукенкі зорку, працягвае.)* Я люблю ўсялякія драбніцы з саломы плесці. Гэтую зорачку сппяла для цябе. *(Указвае на зорку ў вышыні.)* Бачыш, яна такая ж, як тая, што абвясціла пра тваё нараджэнне! Ну, амаль такая ж... *(Указвае на другую зорку, якая засталася на яе кашулі.)* І ў мяне другая. Зорачкі — часткі майго сэрца. Адну частку возьмеш з сабой. Паглядзіш на яе і згадаеш: чакае тут цябе Рада. А я буду глядзець на сваю частку і думаць: аднойчы Каляда вернецца.

**К а л я д а.** Ты — незвычайная, Рада. Шмат дзе я хадзіў. А такой, як ты, нідзе не сустракаў.

Амалфея падбірае адкладзены Калядой падарожны кій, падыходзіць да Каляды, працягвае яму кій.

**А м а л ф е я** *(заклапочана).* Пара ісці. Прадчуваю небяспеку.

**К а л я д а** *(прымацоўвае саламяную зорку да свайго кія, Радзе).* Бывай, Рада. Мо сустрэнемся яшчэ.

**Р а д а.** Абавязкова. Ты — маё наканаванне.

**К а л я д а** *(збянтэжана).* Адкуль ты ведаеш? Хто напрарочыў?

**Р а д а** *(усміхаецца).* Я сама. Толькі што.

**К а л я д а** *(да Вяскоўцаў).* Дзякуй за шчодры пачастунак, грамада! Добра тут у вас. Ды пара нам ісці!

**М я ш ч а н к а.** Прыходзь да нас зноў, Каляда!

**К а л я д а** *(спявае).*

Будзь, ваша, здароў,
Як рыжык бароў!

**А м а л ф е я і М і к о л а** *(спяваюць).* Каляда ідзе! Каляда ідзе!

**К а л я д а, А м а л ф е я, М і к о л а** *(спяваюць).*

Майце торбу грошай,
Жывіце ў раскошы!
Каляда ідзе! Каляда ідзе!
Майце ўсяго даволі,
А бяды — ніколі!
Каляда ідзе! Каляда ідзе!

Каляда, Амалфея і Мікола сыходзяць.
Вяскоўцы падхопліваюць песню, кружаць у карагодзе.

**В я с к о ў ц ы** *(спяваюць).*

Стары год скончаем,
Новы зачынаем!
Каляда ідзе! Каляда ідзе!
З светлаю вясною,
З буйнаю травою!
Каляда ідзе! Каляда ідзе!
Са збожжам каласістым,
З зернейкам ядрыстым!
Каляда ідзе! Каляда ідзе!
Ды з чырвоным летам,
І з хлебам пры гэтым!
Каляда ідзе! Каляда ідзе!
І з восенню яснай,
І з долею шчаснай!
Каляда ідзе! Каляда ідзе!..

## ДЗЕЯ 7

Уваходзіць Вій, за ім — Наўе.

**В і й.** Паўсюль цішыня і гора. А тут смех і песні. Значыць, Каляда сюды завітаў. *(Да Наўе.)* Дагнаць яго!

Частка Наўе пераследуе ўцекачоў, другая палова застаецца з Віем.
Напалоханыя Вяскоўцы апускаюць вочы, пазбягаюць позірку Вія.

**В і й** *(да Вяскоўцаў).* Хіба не чулі загаду? Кожны, хто сустрэне Каляду, мусіць схапіць яго, скруціць. У крайнім выпадку, данесці на яго. А вы? Частавалі калядоўшчыкаў... Вы парушылі волю Чарнабога. Ці ведаеце, якое пакаранне вас чакае? Вязніца ў замагіллі. Там страшна, паверце...

Уваходзяць Наўе, якія праследавалі ўцекачоў. Вінавата апускаюць галовы. Адзін з іх трымае ў руцэ саламяную зорку.

**В і й** *(злосна).* Упусцілі?
**П е р ш ы Н а ў е.** Амаль дагналі, ды Каляда кіем ад нас адбіўся.
**Д р у г і Н а ў е.** У час бойкі згубіў ён гэтую зорку. *(Працягвае Вію.)* Хацеў вярнуцца за ёй, падабраць. Ды мядзведзь з казой яго затрымалі, з сабой звялі.
**П е р ш ы Н а ў е.** Мы згубілі іх след у лесе.
**В і й** *(Наўе).* Вёску спаліць. Жыхароў гнаць у палон.

Прыбягае Ганна.

**Г а н н а** *(Вію).* Чакай, даражэнькі! Злітуйся з нас! *(Кідаецца да Рады.)* З мяне і маёй дачушкі! Я анічога не дала Калядзе. І дачка такая ж сквапная! Хай усе згінуць, а нас пашкадуй!
**Р а д а** *(Ганне, з горыччу).* Пасаромелася б, матухна!

Вій заўважае другую саламяную зорку на кашулі Рады.

**В і й** *(Ганне).* Памыляешся, цётка. Яблык далёка ад яблыні ўпаў. *(Паказвае Радзе зорку, якую ўпусціў Каляда.)* Твой падарунак? *(Бярэ пальцамі Раду за падбародак.)* Бачу, палымнее ў тваім сэрцы каханне да Каляды. *(Вяртае Радзе саламяную*

*зорку.)* Ступай за ім. Знайдзі яго. Прывядзеш Каляду сюды — пакіну вас у спакоі. *(Указвае на Вяскоўцаў.)* Ад цябе залежыць: будуць яны жыць або сканаюць у кайданах. Што абіраеш: сваё каханне або іх жыццё?

**Рада.** Лепш забі мяне!

**Вій.** Смерці яшчэ ніхто не пазбегнуў. Ад цябе залежыць, як ты яе сустрэнеш. *(Указвае на Ганну.)* Любіш матулю? Не пойдзеш у лес — убачыш, як паляціць з плеч яе галава.

**Рада.** Годзе! Я пайду. І прывяду.

**Ганна** (*Радзе*). Вяртайся хутчэй, дачушка!

**Мяшчанка** *(Радзе, ціха).* Лепш заставайся з Калядой.

Рада сыходзіць.

**Вій** *(задаволена, сабе).* Ніколі не адгадаеш: айдзе выйграеш, айдзе прайграеш. Не мог я знайсці Каляду. Цяпер Каляда сам мяне знойдзе! *(Наўе.)* Чаго размарыліся? Гнаць сялян у вязніцу! А вёску пакуль не паліце.

Наўе гоняць Вяскоўцаў. Вій сыходзіць у задуменні.

## ДЗЕЯ 8

Лес.
Уваходзяць, цяжка дыхаючы, Каляда, Амалфея, Мікола.

**Мікола** *(Амалфеі).* Здаецца, адарваліся ад пагоні!

**Амалфея** *(Міколу).* Без мяне не ўратаваліся б. Мае рогі адагналі Наўе. Мой хвост падмёў нашыя сляды на сцяжыне. Цяпер нас ніхто не адшукае.

Уваходзіць Рада з саламянай зоркай у руках.

**Рада.** Ну, нарэшце я вас адшукала!

**Амалфея** *(збянтэжана).* Якім гэта чынам? (*Міколу, які ўсміхаецца.*) Хочаш кпіць з мяне?

**Мікола.** Хачу сказаць наконт твайго хваста...

**Амалфея.** Лепш маўчы! Ігрушы ў бары не растуць, а ў тваёй дубовай галаве разумныя думкі не начуюць!

**Рада.** Слядоў, сапраўды, не відаць. Мне сэрца падказала дарогу... *(Калядзе.)* Ці памятаеш мяне? Я — Рада.

**Каляда** *(радасна).* Такую, як ты, не забудзеш...

**Рада** *(працягвае зорку).* Ты згубіў, калі ўцякаў ад Вія.

**Каляда** *(бярэ зорку, прымацоўвае да кія).* Я ад Вія бегаю ад самага нараджэння.

**Рада.** То, можа, хопіць бегаць?

**Каляда.** Блага ты Вія ведаеш.

**Рада.** Ты насамрэч баішся не Вія. Ты баішся свайго страху. Але ж нельга ўсё жыццё ад страху хавацца. Будзь смелым — і страх сам ад цябе пабяжыць!

**Каляда** *(з горыччу).* Ты не разумееш, пра што гаворыш.

**Амалфея** *(Радзе).* А чаму ты да нас прыйшла?

**Рада.** Матуля мяне даслала. Ёй сорамна за сваю сквапнасць. Просіць ёй даравацьь. Запрашае вас зімаваць у нашай хаце.

**Каляда.** Перадай матулі, што мы не крыўдуем на яе. На жаль, не можам прыняць яе запрашэння...

**Рада**. Чаму? Вій і Наўе сышлі з вёскі. А калі раптам заявяцца — вяскоўцы вас схаваюць.

**К а л я д а.** Мне так хочацца быць заўсёды побач з табой...

**А м а л ф е я** *(задуменна).* А мне хочацца зазімаваць у хляве. Пабачыць сурodзічаў. Пагутарыць пра нашае жыццё казлінае...

**М і к о л а** *(Радзе, заклапочана).* А мёд у вас яшчэ застаўся?

**Р а д а.** Матуля вам анічога не пашкадуе.

**К а л я д а.** Ну, то раніцай вернемся на вёску.

**А м а л ф е я** *(зяхае).* А зараз адпачнём. Набегаліся мы сёння.

**М і к о л а.** Вы спіце, а я буду вас вартаваць. Дабранач!

Каляда, Рада і Амалфея сыходзяць.

## ДЗЕЯ 9

**М і к о л а.** Паколькі голад нам ужо не пагражае (*вымае з меха кадобчык*), то можна паласавацца мёдам! *(Адкаркоўвае, з асалодай п’е, ляпае сябе па брусе.)* Я ведаю — шчасце ёсць!

Уваходзіць Амалфея.

**М і к о л а** *(разгублена).* Ты чаму не спіш?

**А м а л ф е я.** Як тут заснеш! Каляда з Радай усё шэпчуцца... *(Заўважае кадобчык, здзіўлена.)* А ты што робіш, вартавы?

**М і к о л а** *(працягвае кадобчык, вінавата).* Частуйся, калі ласка. Яшчэ на донцы засталося...

**А м а л ф е я** *(з дакорам).* Толькі пра пуза сваё думаеш! Галава ў цябе яловая, патыліца дубовая!

**М і к о л а.** Нешта мне падаецца, што ў тваіх словах, мілая Амалфея, замала павагі да маёй мудрай асобы.

**А м а л ф е я.** І што ж ты такога ўмудрагеліў, што я мушу цябе, абтропка махнатага, паважаць?

**М і к о л а.** А ці ведаеш, чаму мяне завуць Мікола? Таму што бацькі мае хацелі, каб менавіта я зрушыў Кола Жыцця, каб я выбавіў свет ад улады Чарнабога. Але калі я нарадзіўся, на небе не засвяціла зорка. Гэта азначала, што я не адолею Чарнабога. Расчараваныя бацькі адцураліся мяне. Рос я сіратою. І лічыў, што са мной абышліся несправядліва.

**А м а л ф е я.** З табой абышліся несправядліва, Мікола. Даруй мне мае кпіны. Ну, наконт ненажэрнага пуза...

**М і к о л а.** А калі ўбачыў я калядную зорку ў небе, то такі ж пробліск азарыў і мой розум. Я ўсвядоміў: так і павінна быць! Род, які стварыў Сусвет, жадае, каб галоўнай істотай на зямлі быў чалавек. Ані звяры, ані птушкі, ані рыбы — чалавек! Я ўсвядоміў гэта — і ўзрадаваўся.

**А м а л ф е я.** Што ж тут радаснага?

**М і к о л а.** Не я адужаю Чарнабога. Але я дапамагу Калядзе. Вось у чым маё наканаванне! І калі ўсвядоміў гэта, то пазбавіўся ўсялякай крыўды на жыццё.

**А м а л ф е я.** Мала хто мае мудрасць, каб прымірыцца са сваім лёсам... А я заўсёды меркавала, што маё наканаванне — быць самай прыгожай казой у свеце. Я нават зрабіла вялікае адкрыццё: прыгажосць уратуе свет! Я так шкадую, што наўкол пануе змрок! У цемры цяжка разгледзець маю прыгажосць...

**М і к о л а** *(замілавана).* Каханне і з казы зробіць прыгажуню. А ты такая прывабная, Амалфеюшка!

**А м а л ф е я.** Мудры ты, Мікола. І як я раней не сцяміла?

**М і к о л а.** Ніколі не позна мяне пахваліць, Амалфея...

**А м а л ф е я.** Няхай ты і мудрэц! А таго, што адбываецца пад тваім мядзведжым носам, не заўважаеш!

**М і к о л а** *(прынюхваецца, азіраецца).* Што я павінен бачыць?

**А м а л ф е я.** Як перамяніўся Каляда. З той хвіліны, як убачыў Раду, вочы яго, бы зорачкі, гараць!

**М і к о л а.** Ён закахаўся, Амалфея. Ёсць такое незвычайнае пачуццё, пра якое даўно я хацеў пагаварыць з табою...

## ДЗЕЯ 10

Уваходзіць Рада.

**Р а д а.** Добрай раніцы, цётухна Амалфея. Прывітанне, дзядзька Мікола. А ці бачылі Каляду?

**А м а л ф е я** *(Радзе, занепакоена).* А хіба ён не з табою? Вой, а раптам што з ім здарыцца? Пайду пагляджу! *(Сыходзіць.)*

**Р а д а** *(Міколу).* Дарэмна цётачка так баіцца за Каляду.

**М і к о л а.** Амалфея не баіцца. Проста губляе розум ад шчасця кожны раз, як бачыць мяне. Але сарамлівасць замінае ёй прызнацца ў сваіх пачуццях.

**Р а д а.** Якраз пра пачуцці, дзядзька, я і хацела сказаць...

**М і к о л а** *(апанаваны салодкімі марамі).* Ты заўважыла, як Амалфея пазірае на мяне? Верная прыкмета, што я мілы яе сэрцу! Аднойчы яна стане маёй жонкай... Ці ты сумняваешся?

**Р а д а.** Калі шчыра...

**М і к о л а** *(паважна).* О, на гэты конт я прыдумаў мудрагелісты план! Я звярнуся да Амалфеі з палымянай прамовай. І яна зразумее, што я — лепшы ў свеце жаніх. Свой зварот я ўжо амаль дасачыніў. Ці хочаш пачуць?

**Р а д а.** Калі шчыра...

**М і к о л а** *(прымае зухаватую паставу).* «Як жолуд неад’емны ад дуба, як хвост неразлучны з авечкай, як сцюжа спалучаецца з завеяй, гэтак і я з Амалфеяй...» *(Разгублена чухае патыліцу.)* Прабач, зноў забыўся, што там далей...

**Р а д а.** Мікола, ты не адзіны ў нашай суполцы, хто кахае.

**М і к о л а.** Га?

**Р а д а.** Каляда папрасіў мяне стаць яго жонкай. Я сказала, што падумаю да ранку. А зараз ужо ранак.

**М і к о л а**. І што ты надумала?

**Р а д а.** Я згодная.

**М і к о л а** *(абдымае Раду).* Віншую вас, дзеткі! Цяпер мы з табой, Рада, радня.

**Р а д а** *(заклапочана).* А што скажа Амалфея?

**М і к о л а** *(усміхаецца).* Яна будзе тупаць капытамі, верашчаць дурным галасам, торкаць рогамі ў мой бок. Карацей, Рада, і яна будзе вельмі рада.

## ДЗЕЯ 11

Уваходзіць Каляда.

**Р а д а** *(Калядзе).* Я згодная.

Рада і Каляда абдымаюцца.

**М і к о л а.** Пайду і я абдымуся з Амалфеяй. *(Крычыць.)* Амалфея, я іду! Цікавую навіну нясу! *(Сыходзіць.)*

**Р а д а** *(Калядзе).* Дзе ты быў?

**К а л я д а.** Блукаў па лесе. Не мог заснуць. Думаў пра цябе. Пра нас. Я ніколі не бачыў сонца. *(Указвае ўвышыню).* Толькі гэтую зорку. І лічыў сябе такой жа зоркай — халоднай, адзінокай. Меркаваў — гэта непазбыўна. А калі ўбачыў цябе, то быццам сэрца заспявала. Быццам сонца ўбачыў. Цяпер я ведаю, як яно выглядае. Ты — маё сонца. А колішняя адзінота — благі сон. Ты — маё жыццё, а я — тваё.

**Р а д а.** Маё каханне — бы возера без дна. Твая дабрыня — бы возера без берагоў. Нам ззяе з неба твая зорка. Мне наканавана быць тваім лёсам, а табе — маім... *(Спявае.)*

Ціха-ціха зорка ззяе
У сіняй ночы бясконцай.
Нам яна пра каханне спявае,
Пра тое, што ўзыдзе сонца.

**К а л я д а** *(спявае).*

Ты — мая зорка,
Мой сонечны промень,
Шчасце майго жыцця.
Я без цябе — адзінокі човен
У бездані небыцця.
Мы ніколі не бачылі сонца,
Свет даўно агарнуўся ў змрок,
Толькі так не будзе бясконца,
Змены рушаць за крокам крок.

**Р а д а.**

Ты — мая зорка,
Мой сонечны промень,
Шчасце майго жыцця.
Я без цябе — адзінокі човен
У бездані небыцця.
Дзякуй табе за ўсё, Каляда.

**К а л я д а.** Я так рады, што ты — мая Рада.

**К а л я д а і Р а д а.**

Разам любая бяда — не бяда,
Разам будзьце — усім наша парада!
Ты — мая зорка,
Мой сонечны промень,
Шчасце майго жыцця.
Я без цябе — адзінокі човен
У бездані небыцця...

**К а л я д а.** Я стаміўся ўцякаць. І баюся спыніцца. Ці патрэбна табе такая доля — быць жонкай уцекача?

**Р а д а.** Я буду жонкай Каляды... Дык ідзём?

**К а л я д а.** Так. Вяртаемся ў вёску.

Каляда і Рада сыходзяць.

## ДЗЕЯ 12

Ускраіна вёскі.
Уваходзяць Амалфея з бубнам і Мікола з мехам за плячыма.

**Амалфея.** Чакай, Мікола. Страшна мне. Трывожна на сэрцы...
**Мікола.** Чаго ты баішся, Амалфеюшка? Я ж побач.
**Амалфея** *(заклапочана).* Гняце прадчуванне. Хвалююся. Вось-вось здарыцца нешта страшнае, непапраўнае...
**Мікола.** Не хвалюйся дарма. Наканаванага не пазбегнуць.

Уваходзяць Каляда з кіем у руцэ і Рада.

**Рада.** Чаго спыніліся? Вёска ўжо блізка.
**Амалфея** *(Калядзе).* Ці не падаецца табе падазроным, што сярод двароў не чуваць галасоў?
**Каляда** *(прыслухоўваецца).* Але сабакі брэшуць. Каровы ў хлявах мыкаюць, свінні верашчаць. Усё быццам ладам, цётка.
**Амалфея.** Здаецца мне, што там, на вёсцы, Вій стаіўся...

Уваходзіць Вій.

**Вій** *(Амалфеі).* Памылілася ты, каза! Я ўжо тут!

Уваходзяць Наўе, акружаюць Каляду, Амалфею, Міколу і Раду.

**Рада** *(Вію).* Чаму на вёсцы не чуваць галасоў?
**Вій** *(Радзе).* Твая маці і суседзі даўно ў вязніцы кайданы прымяраюць. Няўжо ты паверыла маім абяцанкам?
**Рада.** Паверыла. На імгненне. І не больш.
**Вій.** Навошта ж Каляду прывяла?
**Рада** *(Калядзе).* Памятаеш, я казала табе: годзе ўцякаць! Ад страху не ўцячэш! Адужаеш страх — ніхто цябе не адолее.
**Каляда.** Што ты такое кажаш?
**Вій** *(Наўе).* Узяць іх усіх!
**Амалфея** *(Наўе).* Сцеражыцеся! Я — каза далікатная, але рогі ў мяне вострыя! *(Адступае за спіну Міколы.)* А мой Мікола — самы дужы ў свеце мядзведзь!
**Рада** *(Калядзе).* Як ты пераможаш, калі пазбягаеш бітвы? Я прывяла цябе сюды, каб ты даў свой першы ў жыцці бой!
**Каляда.** Ты прывяла мяне ў палон!
**Рада.** Я кахала цябе, Каляда, яшчэ да нашай сустрэчы. Я веру ў тваю сілу! Ты мацнейшы за Вія і Чарнабога! І зараз самы прыдатны момант, каб даказаць гэта!

Наўе хапаюць Раду.
Каляда адбіваецца ад Наўе кіем. Зноў яго зорка падае.
Мікола і Амалфея прабіваюцца скрозь варожае ачапленне.

**Амалфея**. Бяжым, Каляда! Інакш згінем!

Каляда вагаецца, робіць крок да Рады — і адступае.
Амалфея, Мікола і Каляда ўцякаюць.
Вій падбірае ўпушчаную Калядой зорку.

**Вій** *(уздыхае).* І калі ж я даганю яго? *(Радзе, злосна.)* У твайго Каляды і сэрца, і ногі зайчыныя.
**Рада.** Мой жаніх насамрэч мужны, смелы, адчайны...

**В і й** *(рагоча).* Бачылі мы, які ён мужны, смелы, адчайны! *(Нахмурыўшыся.)* Ну, пара ў дарогу, нявеста.

**Р а д а.** Сышоў Каляда. Знёс з сабой маё шчасце, маю надзею...

**В і й.** Адправішся ты, нявеста, у замагілле. Там холадна і млосна. Зараз ты прыгажуня, а неўзабаве станеш брыдкай, як пачварына. Такі лёс чакае ўсіх вязняў Чарнабога.

**Р а д а.** Каляда вернецца за мной! Куды б ты ні схаваў мяне, ён паўсюль знойдзе!

**В і й** *(задумліва).* Вернецца, кажаш? А ці ўпэўнена? *(Наўе, указвае на Раду.)* У вязніцу яе!

Наўе і Рада сыходзяць.

**В і й** *(круціць саламяную зорку ў руках, сабе).* Аніколі не адгадаеш: айдзе выйграеш, айдзе прайграеш... А раптам Каляда насамрэч кінецца яе шукаць?.. Што ж, Каляда, паспяшайся. Я чакаю! *(Кідае зорку, сыходзіць.)*

## ДЗЕЯ 13

Уваходзіць Каляда. Падымае зорку, уздыхае.
Уваходзіць Мікола, далікатна маўчыць.

**К а л я д а** *(азіраецца, Міколу).* Не крыўдуй, дзядзька. Зразумей: не мог я не вярнуцца...

**М і к о л а.** Я не крыўдую. Я разумею.

**К а л я д а.** А што цётухна Амалфея?

**М і к о л а.** Не разумее. Крыўдуе. Торкае рогам у дрэвы. Крычыць, што трэба нам браць лахі пад пахі. Кажа, быццам такога дурня, як ты, нідзе больш не знойдзеш...

**К а л я д а.** І такога баязліўца... Як мне жыць, дзядзька? Як мне жыць без яе? Яна ў мяне паверыла. А я яе кінуў... Пэўна, ты мной пагарджаеш? Шкадуеш, што некалі ўратаваў?

**М і к о л а.** Не пагарджаю. І не шкадую. Я ганаруся табой.

**К а л я д а.** Ганарышся?

**М і к о л а.** Зусім ты не баязліўца. Ты — мудры стратэг.

**К а л я д а.** Стратэг?

**М і к о л а.** Хто ўвязваецца ў бітву ў неспрыяльных умовах? Дурань, дый годзе. А ўмовы сапраўды былі непрыдатныя для бою. Але ты аказаўся хітрэйшым. Ты адступіў. Каб ударыць тады, калі вораг страціць пільнасць. Ты герой, Каляда.

**К а л я д а.** Герой?

**М і к о л а.** Герой не той, хто нічога не баіцца. Але той, хто ведае, якая небяспека яго чакае, і ўсё ж ідзе ёй насустрач.

**К а л я д а.** Што ты кажаш, дзядзька? Ты хоць уяўляеш, які страх я адчуў, калі Наўе схапілі яе?

**М і к о л а.** Уяўляю. Сам такое адчуў. Дваццаць зім таму. Калі ўбачыў, як Наўе акружылі Вышаня, Златагорку і Амалфею. Як я тады спужаўся! Захацеў уцячы, схавацца, стаіцца. Але паглядзеў на Амалфею і падумаў: хто ж яе абароніць, як не я? Ведаў бы ты, Каляда, якім рамантычным было нашае знаёмства!.. І як я мог яе кінуць? Дрыжэў ад страху, але памкнуўся ў бой. І так мы з Амалфеяй уратавалі цябе... Таму не кажы, быццам ты кінуў Раду. Я ўсяадно не паверу. Я ведаю: ты насамрэч умудрагеліў хітры план, як яе ўратаваць. І калі магу быць карысным, то вось табе мая лапа! *(Працягвае лапу.)* Пакуль растуць на ёй кіпцюры, пакуль тахкае сэрца ў маіх грудзях — мядзведзь Мікола будзе побач з Калядой!

**Каляда.** Які ж ты мудры, дзядзька!

**Мікола** *(паважна)*. Нават Амалфея гэта прызнала. Аднойчы.

**Каляда**. Аднойчы і я памыліўся. Але і памылкі могуць быць добрымі настаўнікамі. Калі на іх вучышся... Ці верыш, дзядзька, што я адужаю Вія?

**Мікола.** Што Вій! Ты Чарнабога выспяткам згоніш з трона. Я ў гэта заўсёды верыў. І Рада верыла. Будзь ёй верным.

**Каляда.** Калі ведаў, чаго ж раней нічога не казаў мне?

**Мікола.** Кожнаму здзяйсненню — свая часіна. Ты мусіў увабрацца ў сілу. Магутны дуб спярша прарастае кволым дрэўцам. Дотык рукі можа яго зламаць. А надыдзе пара — і сякера аб той дуб-волат пераломіцца... Надышоў і твой час, Каляда. Пара адужаць цемру.

Зорка ў руках Каляды засвяцілася.
Уваходзіць Амалфея.

**Амалфея** *(падазрона)*. Пра што вы тут сакрэтнічаеце?

**Каляда.** Цётухна, у мяне навіна. Іду вайной на Чарнабога.

**Амалфея** *(спалохана)*. Ты? Куды?

**Каляда.** Яго сіла — змрок. Мая — святло. Чарнабог моцны хлуснёй, а я — сумленнем. Я ўжо не баюся. Насамрэч не баюся. *(Ківае ў бок Міколы.)* Вунь, і дзядзька Мікола пацвердзіць. *(Насаджвае зорку на кій, сыходзіць.)*

**Амалфея** *(Міколу)*. Што ты яму набалбатаў, булдырына?

**Мікола.** Што ён лёгка адужае ворага...

**Амалфея** *(ашаломленая)*. Няўжо ты ў гэтае верыш?

**Мікола** *(чухае патыліцу)*. Шчыра кажучы — не вельмі.

**Амалфея** *(раз'ятрана)*. Як жа ты мог, буркун махнаты!

**Мікола** *(вінавата разводзіць лапамі)*. А што мне было сказаць? Што Каляда — баязліўца, а цемра будзе вечна?

**Амалфея.** Гаркаватая праўда лепей за саладжавую хлусню!

**Мікола.** Што ёсць праўда? І што ёсць хлусня? Праўда ў тым, Амалфеюшка, што наш Каляда пакахаў. Праўда ў тым, што каханне здатнае здзяйсняць цуды. Праўда ў тым, што гэткі цуд баязліўца пераўтварае ў волата. І праўда ў тым, што святло пераможа цемру... *(Уздыхае.)* Хацеў бы я ў гэта верыць!

**Амалфея.** Закалю цябе рогамі, затапчу капытамі! Ашуканец!

**Мікола.** Годзе, мілая! Памятаеш, аднойчы ты казала: твае рогі ды мае лапы — гэта неадольная моц? Зараз нашая моц вельмі прыдасца Калядзе. Дык паспяшаемся за ім!

Мікола і Амалфея сыходзяць.

## АКТ ДРУГІ

### ДЗЕЯ 1

Вязніца ў сутарэннях палаца Чарнабога.
Уваходзяць зняволеныя Вяскоўцы. Сярод іх — Ганна і Мяшчанка. Твары ўвязненых схаваныя накідкамі з шчылінамі для вачэй.
Уваходзіць Рада з саламянай зоркай у руцэ.

**Рада.** Ці чуе мяне хто?! *(Сабе.)* На зямлі хоць адна зорка свеціць, а тут суцэльны змрок. І ў гэтым змроку нехта енчыць, стогне, плача... *(Спалохана.)* Хто мне дапаможа?!

Да яе набліжаецца Ганна, якая рухаецца, як сляпая. Мацае пальцамі твар Рады.

**Г а н н а**. Твой голас, дзяўчо, мне знаёмы. У мяне была дачка, адзіная. Гаварыла — бы ручай звінеў.

**Р а д а** *(радасна)*. Матухна!

**Г а н н а.** А я крыўдзіла яе... І ўсё пра сваю гаспадарку дбала, дурніца. А цяпер у мяне анічога няма... Ці ведаеш, што самае страшнае? Пакаранне — непазбежна. За ўсю крыўду, што мы зрабілі. Калі не там *(указвае ўгору),* то тут... Пайду шукаць сваю Раду. Мо яна даруе мне. *(Сыходзіць.)*

**Р а д а** *(у роспачы)*. Матухна! Я — твая Рада!

Да Рады набліжаецца Мяшчанка.

**М я ш ч а н к а.** Рада, пазнаю твой голас! Не крычы дарэмна. Маці не чуе цябе. Яна не адзіная, хто тут розумам крануўся.

**Р а д а.** Цётухна, суседачка! Вы мяне бачыце?

**М я ш ч а н к а.** Лепей і табе хутчэй аслепнуць і аглухнуць. Тут усе страшна змяняюцца: і той, хто невінаваты, і той, хто заслужыў кару. Мы — у сутарэннях Чарнабогава палаца. Гэтая вязніца і ёсць замагілле. Шырокія калідоры цягнуцца адсюль у нетры зямлі. Пойдзеш па адным — ткнешся ў сцяну, да якой нехта прыкуты. Пойдзеш па іншым — трапіш у пакой, дзе хтосьці рагоча, а нехта крычыць. Тут блукаюць незлічоныя здані, якія некалі былі людзьмі. Цяпер і мы з табой такія ж... А ці ведаеш, што самае страшнае? Што няма аніякай надзеі на ўратаванне.

**Р а д а** *(нервова дрыжыць)*. Млосна тут, цётухна.

**М я ш ч а н к а** *(указвае ўгору)*. Там, на зямлі, мінае дзень, а тут, пад зямлёй, цэлы век. Холад высмакча з нас жыццё. Змрок адбярэ памяць. Наўзамен падораць адчай... Ёсць, бадай, адзінае суцяшэнне.

**Р а д а.** Якое ж?

**М я ш ч а н к а.** Што можа быць яшчэ горш.

**Р а д а.** Што можа быць горш, цётухна?

**М я ш ч а н к а.** Не ведаю... Чарнабог так гаворыць.

**Р а д а.** Чарнабог тут?

**М я ш ч а н к а.** Зрэдку сюды прыходзіць. Ён шмат чаго казаў. Што зараз хоць і блага, але можа быць і горш. Што ў цемры мы не бачым свае хібы і павінны за гэта быць яму ўдзячныя... Хто ведае? Мо і насамрэч павінны.

**Р а д а** *(абурана)*. Як ты можаш верыць Чарнабогу?

**М я ш ч а н к а.** Калі не верыць яму, то каму давяраць наогул?

**Р а д а.** Калядзе!

**М я ш ч а н к а.** Каляда твой далёка. А Чарнабог — блізка.

**Р а д а** *(скрушна ўздыхае)*. Холадна тут, цётухна...

**М я ш ч а н к а.** Да холаду і змроку не прызвычаішся. Іх можна толькі цярпець. Як церпяць Вышань і Златагорка.

**Р а д а.** І бацькі Каляды тут?

**М я ш ч а н к а** *(указвае ўбок)*. Зараз пачуеш іх. *(Сыходзіць.)*

## ДЗЕЯ 2

Уваходзяць Вышань і Златагорка.

**В ы ш а н ь** *(Златагорцы)*. Не расло яшчэ ў лесе дрэва, якое б чэрві не тачылі. Не нараджаўся яшчэ чалавек, які не зведаў бы смутку, роспачы. Але ж калі сэрца тваё не засмечанае страхам, то аніякая бяда не страшная...

**З л а т а г о р к а.** Мы з табой, любы, так даўно тут...
**В ы ш а н ь.** Вер мне, любая: Каляда нас вызваліць.
**З л а т а г о р к а.** Ён нізавошта нас не пазнае.
**В ы ш а н ь.** Мы блукаем у цемры, бы сляпыя. Але часам і сляпы бачыць лепш за відушчага... Твой голас, любая, замяніў мне сонца. *(Бярэ Златагорку за рукі.)* Мы трымаемся за рукі — і кола рук стварае наш сусвет. А Каляда ўсё бліжэй да нас...

Рада падыходзіць да Вышаня і Златагоркі.

**Р а д а.** Рада чуць вас, Вышань і Златагорка. Мяне завуць Рада. Каляда прасіў папярэдзіць: ён хутка прыйдзе!
**В ы ш а н ь.** Рады чуць цябе, Рада!
**Р а д а** *(перадае Златагорцы сваю саламяную зорку).* І ў знак, што я праўду кажу, даслаў гэтую зорку. Такая ж свеціць у небе над зямлёй. Ну, амаль такая ж...
**З л а т а г о р к а** (*сціскае зорку*). Што ж ён марудзіць?
**Р а д а.** Яго затрымалі... Але ён прыйдзе! Я веру!
**В ы ш а н ь.** І я заўсёды верыў! Я ведаў: самы страшны змрок — перад досвіткам! *(Златагорцы.)* Хутка ўбачым нашага сына!

## ДЗЕЯ 3

Уваходзіць Чарнабог, яго суправаджаюць Наўе.
Вязні ў жаху разбягаюцца. Застаюцца Рада, Вышань, Златагорка.

**Ч а р н а б о г** *(Вышаню).* Ці хочаш убачыць сына, Вышань?
**В ы ш а н ь.** Мы ўсе хочам.
**Ч а р н а б о г.** Толькі ты.
**В ы ш а н ь.** Завошта ж мне такая ласка?
**Ч а р н а б о г.** Колькі часу твой сын-баязліўца хаваўся ад мяне! І раптам сам пайшоў на мяне вайной. Разбіў атрад, другі...
**З л а т а г о р к а** *(Вышаню).* Наш сын, Вышань! Наш Каляда!
**Р а д а** *(сабе).* Мой жаніх! Мой Каляда!
**Ч а р н а б о г.** Але і я не драмаў у шапку. Сабраў усё сваё войска, даслаў на Каляду. Ты ведаеш, Вышань, супраць майго полчышча яшчэ ніхто не ўстаяў. Я паранейшаму ўсемагутны!
**Р а д а** *(Чарнабогу).* Чаму ж тады, усемагутны, ты хаваешся тут? Пазіраеш на ўсіх грозна, а сам дрыжыш ад страху!
**Ч а р н а б о г.** Хто гэта адважваецца кідаць мне выклік? І дзе? У нетрах маёй вязніцы! *(Радзе.)* Ты хто?
**Р а д а.** Рада. Я — нявеста Каляды.
**Ч а р н а б о г.** Дзёрзкая ты, праніклівая... Можа, я і баюся. Крыху... Але і ты збаішся! Была ты прыгажуняй. А станеш брыдкай, гідкай пачварынай. І не праз шмат гадоў зняволення — цяпер! Жыві і ты ў страху! Бойся, што Каляда ніколі цябе не адшукае. А калі і адшукае — не пазнае. Бойся, што знойдзе і збяжыць ад цябе, калі ўбачыць, якой ты стала!

Чарнабог ускідвае руку, чаруе.
Наўе насоўваюць на галаву Рады накідку са шчылінамі для вачэй.
Златагорка паспявае перадаць Радзе саламяную зорку. Наўе зводзяць Раду.

**Ч а р н а б о г** *(Вышаню).* Каб улада не пахіснулася, трэба, каб людзі ўвесь час нечага баяліся. Калі бачу, як іншыя дрыжаць перада мной, то адчуваю, што я — лепшы. Адзін ты перада мной не дрыжыш. А калісьці ж мы былі добрымі сябрукамі...

**В ы ш а н ь.** Пакуль ты не захацеў стаць уладаром свету. А я папярэджваў: не кожная мара вартая здзяйснення!

**Ч а р н а б о г.** Дзе цяпер нашае шчаслівае мінулае? Часам, сябра, адзінота зусім невыносная!

**В ы ш а н ь.** У тыранаў няма сяброў. Цёмная ўлада не прынясе шчасця. Патрапіў ты ў клешчы, не тупае, не плешча.

**Ч а р н а б о г.** Ненавіджу цябе, Вышань! Нат у вязніцы ты шчаслівейшы за мяне!

**В ы ш а н ь.** Я ўдзячны лёсу за тое, што Златагорка стала маёй жонкай. За тое, што я стаў бацькам Каляды. І за тое, што не стаўся такім, як ты.

**Ч а р н а б о г.** Я пакінуў табе жыццё. Дзе ж твая ўдзячнасць?

**В ы ш а н ь.** Прыйдзе Каляда — ён табе аддзячыць.

**Ч а р н а б о г.** Я прадбачыў: аднойчы ты мне дапаможаш.

**В ы ш а н ь.** Раней сена пад дажджом высахне.

**Ч а р н а б о г.** Ступай да Каляды маім паслом. Скажы свайму нікчэмнаму сынку, што я прапаную мір. Хай прыбіраецца на край свету, жыве там паціху і больш не згадвае пра сябе.

**В ы ш а н ь.** А інакш?

**Ч а р н а б о г.** А інакш яго матуля Златагорка памрэ. Сёння ж.

**З л а т а г о р к а.** Устыла мне гэтая вязніца. Не хачу болей жыці. *(Вышаню.)* Пакланіся ад мяне сыну. Скажы, што я любіла яго.

**В ы ш а н ь** *(Чарнабогу).* Сам ідзі да Каляды. Сам з ім гавары. *(Златагорцы.)* Як я цябе кіну, любая? Мы разам жылі. Паміраць таксама будзем разам.

**Ч а р н а б о г** *(Вышаню).* Ты чуў не просьбу! Ты чуў загад! Калі зараз жа не ўтаймуеш сына, твая жонка...

**З л а т а г о р к а.** Што? Заб'еш мяне ў другі раз?

**Ч а р н а б о г** *(Златагорцы).* Бачыла, што я з Радай зрабіў? І цябе той жа лёс напаткае!

**З л а т а г о р к а** *(Вышаню).* Нешта мне маё аблічча не падабаецца, любы. Хачу яго змяніць. А ты ідзі. Ты патрэбны сыну.

**В ы ш а н ь.** Што ты кажаш, любая? Я кахаў цябе, калі ты была яшчэ дзяўчом. Кахаў, калі стала кабетай сталага веку. І буду кахаць, як бы ты ні выглядала. Чаго вартае каханне, якое залежыць ад змены аблічча?

**Ч а р н а б о г.** Як жа я вас ненавіджу! *(Пляскае ў далоні.)*

Уваходзяць Наўе.

**Ч а р н а б о г** *(Наўе, указвае на Вышаня і Златагорку).* Кіньце іх у самую глыбокую яміну!

Наўе зводзяць Вышаня і Златагорку.

**Ч а р н а б о г** *(сабе, з надзеяй).* Мо дарма я перад імі прыніжаўся? Мо Каляда ўжо забіты...

## ДЗЕЯ 4

Прыбягае Вій.

**В і й** *(панічна).* Бацюхна, Каляда ўжо тут!

**Ч а р н а б о г.** А маё войска?

**В і й.** Разбітае. Ушчэнт.

**Чарнабог** *(у жаху).* Як жа так?

**Вій.** Сабралася тваё полчышча ў чыстым полі. Выйшаў да іх Каляда. А з ім — мядзведзь і каза. Каляда ў руках кіёчак трымаў, а на ім — зорка зіхацела, вояў тваіх асляпіла. Пакідалі твае ратнікі зброю, паразбегліся хто куды. Я сам вочы зажмурыў, ледзьве даплёўся сюды.

**Чарнабог.** Ой, гора! Гора! Гора!

**Вій**. І гэта, бацюхна, яшчэ не самае горшае.

**Чарнабог.** Што ж можа быць горш?!

**Вій.** Ззянне каляднай зоркі разагнала чорную заслону з неба. *(Указвае ўгору.)* Над зямлёй ужо сонца свеціць.

**Чарнабог.** Ой, бяда! Бяда! Бяда!.. Хто ж са мной застаўся?

**Вій.** Толькі я. Мне няма куды бегчы.

**Чарнабог.** Цяпер ведаеш, сынку, што значыць быці валадаром. Штодня чакаць, што аднойчы надыдзе такая страшная часіна — а ты бяссільны... *(Крыва ўсміхаецца.)* Ці па-ранейшаму вабіць цябе мой трон? То займай яго!

**Вій.** Каляда блізка. Чую крокі!

Уваходзіць Мікола. Аслупянеў, убачыўшы Вія і Чарнабога.

**Чарнабог** *(Міколу).* А ты хто?

**Мікола** *(збянтэжана, указвае на Вія).* Ён ведае.

**Вій.** Я ведаю.

**Чарнабог.** Ты што тут згубіў, боўдзіла махнатае?

**Мікола.** Гэта ўсё Амалфея!

**Чарнабог.** Хто?

**Мікола.** Тут столькі калідораў! Мы заблукалі ў змроку. Амалфея кажа: трэба ісці налева. Я кажу — направа! Яна торкнула мяне рогам і павяла Каляду туды. А я прынцыпова павярнуў сюды... Чакай! А ты хто?

**Чарнабог** *(Вію, указвае на Міколу).* Забі яго!

**Вій.** Ахвотна.

Уваходзіць Амалфея.

**Амалфея** *(Міколу).* І куды ты падзеўся, кулёма? І прышукаў жа сабе кампанію! *(Убок Вія.)* Гэтую набрыдзь я ўжо бачыла. *(Чарнабогу.)* А ты што за жмурык?

**Мікола.** Амалфея, прыбірай рогі ў ногі — і валі адсюль!

**Амалфея.** А ты не камандуй! Ты не мой муж!

**Чарнабог** *(Амалфеі).* Дзе Каляда?

**Амалфея** *(здагадаўшыся).* Дык ён цябе шукае? Я паклічу...

**Чарнабог** *(Вію).* Забі і яе.

**Вій** *(набліжаецца да Амалфеі, мякка).* Паглядзі мне ў вочы, цётухна каза. А цяпер — памры.

Амалфея глядзіць у вочы Вію. Падае.

**Мікола** *(Вію, раз'юшана).* Ах, ты, злыдзень!

Мікола намагаецца ўдарыць Вія лапай. Ды той ухіляецца.

**Вій** *(гледзячы Міколу ў вочы).* Канай, дзядзька мядзведзь.

Мікола падае.

**Вій** *(Чарнабогу).* Толькі смерць неадольная, бацюхна!

**Чарнабог** *(са скрухай).* Калісьці я пакляўся смерці, што буду яе адданым паслугачом. Яна дала мне полчышча наўя. Але не зберагла ад мсціўца...

## ДЗЕЯ 5

Уваходзіць Каляда, сціскае кій, да якога прымацавана зорка.
Вій пазбягае глядзець на зорку, якая ззяе.
Чарнабог цішком адыходзіць, цікуе зводдаль.

**К а л я д а** *(Вію і Чарнабогу).* Зачакаліся мяне? *(Заўважае нерухомых Міколу і Амалфею, указвае на іх.)* А што з маімі цёткай і дзядзькам?

**В і й.** Заснулі. Магільным сном. Твая зорка іх не абудзіць.

**К а л я д а** *(Вію, пастукваючы кіем).* Мяркуеш, мая сіла — у гэтай саламянай зорцы?

**В і й.** Як мая — у позірку. Такім дарам надзяліла мяне цемра.

**К а л я д а.** Колькі я хаваўся ад цябе! А цяпер ты баішся мяне.

**В і й.** Не цябе. Тваю зорку. Без яе ты — нікчэмнасць.

**К а л я д а.** Якой бы ні была зброя, баязлаўца яна асілкам не зробіць! Не зорка надала мне моцы. Гэта я запаліў яе... Хочаш праверыць? Лаві! *(Кідае кій Вію.)*

Згасае зорка.
Вій хапае кій, з жахам адкідвае.

**В і й** *(збянтэжана).* Ты што ўмудрагеліў?

**К а л я д а.** У нашым з табой двубоі зброя без патрэбы.

**В і й.** Ну, калі такі смелы, то паглядзі мне ў вочы...

**К а л я д а** *(глядзіць у вочы Вію.)* Твае вочы, Вій, увабралі страх тысяч людзей...

**В і й.** Шмат хто сканаў ад майго позірку. Цяпер твая чарга гінуць, Каляда!

**К а л я д а.** Ты моцны чужым страхам. І толькі... А я моцны ад нараджэння. Як і кожны чалавек. І пакуль я баяўся, то быў слабы. А як адужаў свой страх, то стаўся неадольны.

**В і й** *(разгублена).* Быў час — мой позірк крышыў камяні. А зараз мне страшна.

**К а л я д а.** Ты ўжо не страшны, Вій, ты смешны. Не хадзіць табе болей па зямлі, жыцця людзям не тушыць!

**В і й** *(Чарнабогу).* Бацюхна, дапамажы!

**К а л я д а** *(Вію).* Сілай, нададзенай Родам усяму існаму, замыкаю твае павекі, Вій. Ад гэтай пары не зможаш ты сам павекі прыўзняць, на людзей жах і смерць наганяць.

**В і й** *(заплюшчыў вочы, падае на калені).* Я цяпер сляпы!

**Ч а р н а б о г** *(кідаецца да Вія, Калядзе).* Злітуйся з нас, Каляда! Ты перамог! Ты заслужыў права заняць мой трон! А мне дазволь быці тваім паслугачом.

**К а л я д а** *(падымае свой кій).* Не патрэбна мне твая ўлада. У мяне іншае наканаванне — выбавіць зямлю ад цябе.

**Ч а р н а б о г.** Навошта? Як ты не можаш даўмецца: твае высілкі — дарэмныя. Міне час — і людзі забудуцца пра цябе. Забудуць усё, што ты дзеля іх зрабіў. Няўжо ты мяркуеш, быццам людзі могуць выправіцца? Стаць добрымі, сумленнымі, разумнымі? Ды ніколі! Чалавечая натура ад стварэння свету заганная. Расце лес — расце і тапарышча для сякеры, якая вынішчыць гэты лес. Ты прагоніш цемру, але злосці ў людскіх сэрцах меней не стане. А калі так, то навошта знішчаць мяне?

**К а л я д а.** Я не магу вырашаць за ўсіх людзей ва ўсе часы. Я адказваю толькі за свае ўчынкі. І калі ёсць магчымасць зрабіць гэты свет лепей, то скарыстаюся ёю! Развітвайся з жыццём! *(Замахваецца кіем.)*

**Ч а р н а б о г** *(умольна ўскідвае руку).* Апошняе пытанне! А ці не шкада табе цёткі, дзядзькі?

**К а л я д а.** А якая табе справа?

**Ч а р н а б о г.** А такая, што я іх магу вярнуць да жыцця! Я — уладар смерці. Каго захачу, таго адпушчу з-пад сваёй улады! Хочаш — забірай і ўсіх вязняў з замагілля!

**К а л я д а** *(апускае кій).* Што просіш наўзамен?

**Ч а р н а б о г.** Адпусці мяне і майго сына.

**К а л я д а** *(падумаўшы, уздыхнуўшы).* Адпускаю. Але забараняю падымацца вам на зямлю. Ад гэтай пары, Чарнабог, твая ўлада толькі тут, у замагільным царстве. А ўсе, хто дагэтуль увязненыя былі, цяпер вольныя!

**Ч а р н а б о г** *(дакранаецца да Амалфеі і Міколы).* Прачынайцеся ад смяротнага сну. Выбаўляю вас з-пад маёй улады.

**К а л я д а** *(занепакоена).* Чаму яны не прачынаюцца?

**Ч а р н а б о г.** Шлях з небыцця не такі хуткі, як з жыцця. Пачакай крыху. *(Дапамагае Вію падняцца.)* Хадзем, сынку.

**В і й.** Як жа мы цяпер будзем жыць, бацюхна?

**Ч а р н а б о г** *(ціха).* І Каляда не вечны, сынку. Калі-небудзь цемра зноў прывабіць людзей. Прыйдзе пара — і людзі самі запросяць нас, каб прыйшлі і валадарылі імі. Цемра не знікае. Яна чакае свайго часу.

**В і й.** Аніколі не адгадаеш: айдзе выйграеш, айдзе прайграеш.

Чарнабог і Вій сыходзяць.

## ДЗЕЯ 6

Уваходзяць Вышань і Златагорка.

**В ы ш а н ь.** Рады бачыць цябе, Каляда.

**З л а т а г о р к а.** Рады бачыць, сынок.

**В ы ш а н ь.** Нас хацелі ўжо кінуць у самую глыбокую яміну. Ды як пачула варта, што ты блізка, у страху паразбеглася...

**К а л я д а.** Матухна? Бацька? *(Кідае кій, падыходзіць да Вышаня і Златагоркі, абдымае іх.)*

**В ы ш а н ь.** Мы ганарымся табою.

**К а л я д а.** А мо я памыліўся? Можа, не трэба было адпускаць Чарнабога? Здаецца, чаго прасцей: забіць злодзея — і аніякіх больш клопатаў!

**В ы ш а н ь.** Зброяй злосць не адолееш. Ты зрабіў мудры ўчынак.

**К а л я д а.** Чарнабог не змірыцца з паразай. Счакае зручнай часіны і зноў пачне людзям жыццё псаваць, спакушаць на зладзейства, схіляць да цемры.

**В ы ш а н ь.** І кожны сам зробіць выбар. Нягоднік пасля смерці пад цяжарам грахоў правaліцца ў царства Чарнабога. А добры чалавек узнясецца на нябёсы, у светлы Ірый... Наш шлях пралягае паміж жыццём і небыццём, святлом і цемрай, праўдай і крыўдай. Чалавек свядома пойдзе светлым шляхам, калі будзе ведаць, што можа нізрынуцца і ў змрок. Чарнабог патрэбны людзям, каб памяталі, куды прывядзе іх цёмны шлях. Нічый лёс не прадвызначаны. Але кожны мае выбар.

**К а л я д а.** Мы з табой, бацюхна, не вечныя. Хто ж дапаможа людзям, калі нас не стане? Хто іх абароніць ад Чарнабога?

**В ы ш а н ь.** Няўжо ты думаеш, быццам Род, які стварыў гэты свет, не паклапоціцца пра сваіх улюбёнцаў? Калі на цябе забудуцца людзі, Род дашле новага ўратавальніка. Народзіцца сын чалавечы, які прагоніць цемру, нагадае людзям, што ёсць светлы і цёмны шляхі, а выбар — за імі...

**З л а т а г о р к а** *(Калядзе).* Як я смуткавала, сынок...

**К а л я д а.** Матухна, бацюхна, я хачу пазнаёміць вас са сваёй нявестаю. Вось толькі адшукаю яе...

**В ы ш а н ь.** Яе завуць Рада? Мы з ёй ужо знаёмыя.

**К а л я д а.** Яна самая прыгожая ў свеце...

**З л а т а г о р к а.** Чарнабог змяніў яе аблічча, сынок. Цяпер яна будзе хавацца ад цябе.

**К а л я д а.** Навошта?

**З л а т а г о р к а.** Каб застацца ў тваёй памяці такой, якой была, калі ты яе пакахаў.

**К а л я д а.** Чаго вартае каханне, якое залежыць ад змены аблічча!.. Толькі... Як я пазнаю яе?

**З л а т а г о р к а.** Не давярай вачам, сынок. Слухай сваё сэрца.

**К а л я д а** *(апускае хустку з ілба на вочы).* Я знайду Раду. Ці бачылі вы, куды яе звялі?

**З л а т а г о р к а.** Мы праводзім, сынок.

Вышань і Златагорка бяруць Каляду пад рукі, сыходзяць.

## ДЗЕЯ 7

Ачуньваюць Мікола і Амалфея. Сядаюць, разгублена азіраюцца.

**А м а л ф е я**. Дык вось што бывае, калі памрэш. Бачыш тую ж махнатую кулёму, якая муляла табе вочы пры жыцці.

**М і к о л а.** Пакуль мы былі жывыя, Амалфея, я сачыняў палымяную прамову, хацеў прызнацца табе ў сваіх пачуццях.

**А м а л ф е я.** І чаго не прызнаўся?

**М і к о л а.** Чакаў зручнага моманту. Мяркую, цяпер ён прыспеў. *(Прымае зухаватую паставу.)* Як жолуд неад'емны ад дуба, як хвост неразлучны з авечкай, як сцюжа спалучаецца з завеяй, гэтак і я... *(Чухае патыліцу, узгадваючы.)* Я з табою... *(Рашуча.)* Гэтак і мы заўсёды павінны быць разам!

**А м а л ф е я.** Ты просіш мяне стаць тваёй жонкай?

**М і к о л а.** Але.

**А м а л ф е я.** Навошта?

**М і к о л а.** Каб заўсёды быці разам.

**А м а л ф е я.** Мы ўжо дваццаць зім і летаў разам. Няўжо ты не стаміўся ад мяне?

**М і к о л а.** Ад цябе, Амалфеюшка, немагчыма стаміцца. У цябе нораў — агонь. Побач з табой і ў сцюжу спякотна.

**А м а л ф е я.** Але ж мы ўжо не маладыя, Мікола...

**М і к о л а.** Каханне ўзросту не прызнае. Ты для мяне заўсёды была самай прыгожай казой у свеце. Заўсёды ёю застанешся.

**А м а л ф е я.** Праўда?

**М і к о л а.** Твой нораў — самы далікатны, Амалфеюшка. Твая постаць — самая звабная. Капытцы — самыя звонкія. А рогі — самыя крывыя...

**А м а л ф е я.** Я згодная, Мікола.

**М і к о л а.** Праўда?

**А м а л ф е я.** Я ўпадабала цябе, як толькі ўбачыла. Столькі чакала, калі ты прапануеш мне лапу і сэрца! *(З дакорам.)* А ты ўсё цягнуў. *(Уздыхае.)* Шкада, што мы памерлі. Я зрабіла б цябе самым шчаслівым мядзведзем.

**Мікола** *(дакранаецца лапай да лапы).* У мяне падазрэнне...

**Амалфея.** Варыла б табе напоі з мёду і маліны. Уладкавала б тваю бярлогу...

**Мікола**. ...што мы не зусім памерлі, Амалфея.

**Амалфея** *(збянтэжана).* Чаго?

**Мікола.** Калі б памерлі, ты адчула б гэта? *(Штурхае яе.)*

**Амалфея.** Ай!

**Мікола.** Мы толькі спалі. І ўсё, што адбываецца, — наяве. Якая цудоўная рэч жыццё! Я ведаю — шчасце ёсць.

**Амалфея.** Мы жывыя?

**Мікола.** Клянуся, што буду клапаціцца пра цябе, пакуль на маіх лапах растуць кіпцюры! Пакуль ты капыты не адкінеш!

**Амалфея** *(з гонарам).* І я клянуся быць вернай жонкай, Мікола. Не пакіну цябе і тады, калі паліняе твая поўсць і павыпадаюць кіпцюры.

**Мікола.** Вось і цудоўна! А зараз хадзем шукаць Каляду.

**Амалфея.** Як скажаш, мужанёк. *(Указвае налева.)* Упэўнена: нам трэба ісці туды!

**Мікола** *(указвае направа, рашуча).* Не, пойдзем у той бок!

**Амалфея** *(ківае).* Як скажаш, мілы. *(Указвае налева, ціха.)* А потым павернем туды.

Мікола і Амалфея сыходзяць.

## ДЗЕЯ 8

Уваходзіць Каляда: у руцэ — кій, на вачах — хустка.

Насустрач яму ідуць увязненыя Вяскоўцы, абыходзяць Каляду, сярод іх — Рада і Мяшчанка. У руцэ Рады — яе саламяная зорка.

**Каляда.** Рада, ці чуеш мяне? Змрок вакол... Цёмна, бо цябе няма побач... Што ж з таго, што не бачу я гэты свет з яго дзівосамі? Мне дастаткова цябе адной! Памятаеш, што я казаў табе перад расстаннем? Ты — маё жыццё, а я — тваё! *(Спявае.)*

Ціха-ціха зорка ззяе
У сіняй ночы бясконцай.
Нам яна пра каханне спявала,
Пра тое, што ўзыдзе сонца...

**Рада** *(перадае сваю зорку Мяшчанцы).* Прашу, мілая суседачка! Скажы Калядзе, быццам я памерла.

**Мяшчанка** *(абурана).* Што ты робіш?

**Рада** *(у роспачы).* Паглядзі на мяне. Жаба ў балоце выглядае прывабней. Няхай лепш знойдзе іншую прыгажуню, будзе з ёй шчаслівы. А я...

**Мяшчанка** *(набліжаецца да Каляды, працягвае яму зорку).* Вось, даражэнькі...

**Каляда** *(хапае Мяшчанку за руку, мацае).* Рада? Ты не Рада! А дзе яна? Чаму ў цябе яе зорка?

**Мяшчанка.** Рада памерла, Каляда. Перад смерцю прасіла перадаць, каб ты помніў пра яе і быў шчаслівы.

**Каляда.** Якое можа быць шчасце, калі няма кахання?

**Мяшчанка.** Жывуць жа іншыя. Вось я, напрыклад...

**К а л я д а.** Я табе не веру, цётухна. І не хачу верыць. Я буду шукаць. Я знайду яе. *(Хапае за рукі Вяскоўцаў, якія праходзяць міма.)* Рада, дзе ты?

Мяшчанка вяртае зорку Радзе, адыходзіць.
Каляда набліжаецца да Рады, бярэ яе за руку.

**К а л я д а.** Знайшоў нарэшце!
**Р а д а.** Як ты мяне адшукаў?
**К а л я д а.** Мне сэрца падказала дарогу. *(Спявае.)*

Ты — мая зорка,
Мой сонечны промень,
Шчасце майго жыцця.
Я без цябе — адзінокі човен
У бездані небыцця...

*(Сцягвае з вачэй хустку.)*
**Р а д а** *(у жаху).* Не глядзі на мяне! Калі ласка!
**К а л я д а.** Ты засталася той жа прыгажуняй, за якой я гатовы ісці куды заўгодна. Час змяняе наша аблічча. Але душа застаецца той жа... Я прашу цябе стаць маёй жонкай, Рада. Прысягаю табе ў вернасці і клянуся, што буду заўсёды кахаць і берагаць цябе. А калі скончыцца час нашага зямнога быцця, мы злучымся ў светлым Ірыі на нябёсах.

Каляда бярэ зорку Рады, знітоўвае са сваёй зоркай на кіёчку — утвараецца васьміканцовая калядная зорка.
Зорка заззяла. Святло запаўняе прастору.
Спадаюць накрыўкі з галоваў Рады і Вяскоўцаў.

**Р а д а** *(агаломшаная, мацае свой твар, спявае).*

Дзякуй табе за ўсё, Каляда.

**К а л я д а** *(спявае).* Я так рады, што ты — мая Рада!
**К а л я д а і Р а д а.**

Разам любая бяда — не бяда,
Разам будзьце — усім наша парада!..
Ты — мая зорка,
Мой сонечны промень,
Шчасце майго жыцця.
Я без цябе — адзінокі човен
У бездані небыцця.

## ДЗЕЯ 9

Уваходзяць Вышань і Златагорка, Мікола і Амалфея.

**З л а т а г о р к а.** Вось дзе наш любы сын!
**А м а л ф е я.** Вось дзе наш любы пляменнік!
**К а л я д а.** Бацюхна, матухна! Дзядзька, цётухна! *(Указвае на Раду.)* Вось мая Рада. Я ж абяцаў: знайду яе і пазнаю.
**В ы ш а н ь.** Што ж, пара ладзіць вяселле.
**К а л я д а** *(пераглянуўшыся з Радай).* Мы згодныя.
**Р а д а** *(Калядзе).* А што з намі будзе потым?
**К а л я д а.** Будзем жыць доўга і шчасліва. А на свята майго нараджэння будзем хадзіць па селішчах з цётухнай казой і дзядзькам мядзведзем, весяліць грамаду...

**Рада** *(указвае ўвышыню).* Цяпер на небе свеціць сонца. А ўночы заззяюць новыя зоркі. І твая зорка згубіцца сярод іх. Пра нас забудуцца.

**Каляда** *(прыўзнімае кій з замацаванай на ім зоркай).* І што з таго, што забудуцца? Наша зорка ім пра нас нагадае. Колькі б часу ні мінула, а ўбачаць яе людзі сцюдзёнай парой і згадаюць...

**Рада.** Што?

**Каляда.** Што цемра заўсёды напагатове. Але кожны можа абраць светлы шлях. Што самы страшны змрок — перад досвіткамі. А самая неадольная моц — у каханні. І сёння мы, а потым і нехта іншы, будзем хадзіць па селішчах з каляднай зоркай і спяваць добрым людзям...

**Рада** *(спявае).*

Чарнабог сыходзіць,
Зорка ўзыходзіць!
Каляда прыйшоў! Каляда прыйшоў!

Вяскоўцы, Вышань і Златагорка, Мікола і Амалфея падхопліваюць песню, кружаць у карагодзе.

Узрадуемся, людзі,
Цемры больш не будзе!
Каляда прыйшоў! Каляда прыйшоў!
Вецер заспявае,
Новы час вітае!
Каляда прыйшоў! Каляда прыйшоў!
Радасць, шчасце, сонца
З намі ўжо бясконца!
Каляда прыйшоў! Каляда прыйшоў!

***Заслона.***



Ала Нікіпорчык нарадзілася на Дзятлаўшчыне. Закончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Аўтар паэтычных зборнікаў «Сляза і малітва», «Пад бахайскую такату дажджу». Жыве ў Гродне.

Ала НІКІПОРЧЫК

# ПАДАРОЖЖА

* * *

*Галіне ТВАРАНОВІЧ*

мне Беласток ззяе
залацістым шарам
падараваным — навагоднім
і — зямным
на валасок ад згубы і бяды
трымціць у свеце
нібы нашы душы
у спляценні
зямных пакут і мрояў

мне Беласток усміхаецца
залацістым — навагоднім
і — зямным
мне Беласток журбуецца

* * *

апошні лісток зямнога болю
на галінцы слівовай
трапеча

* * *

як доўга пакута
перастае быць пакутай…
рука ўжо не цягнецца да тэлефона
але як мне не хапае
гэтага жэста
рука ўжо не цягнецца да тэлефона
а душа ўся — у руху
у парыве
з крыламі напагатове
толькі застыла
як Ніка

* * *

мой Божа
ці можаш мне дапамагчы
адна сярод начы
чытаю боль чужы

і плачу
мой Божа
ці можаш перайначыць
трагічнасць лёсаў на святло
а ці святла і так замнога?..

* * *

абудзіцца дух і пастукае ў сэрца
абудзіцца дух і куды ўжо падзецца
абудзіцца дух і дарога пачнецца
іспытаў і выпрабаванняў
з якой не сысці
і не вымаліць іншай

о дай Божа сілы
і дай мне надзеі
яе не зрачыся

* * *

месяц жоўтага лісця
(пры чым тут кастрычнік!)
месяц цудоўнай прыгажосці
фарбаў і тонаў
месяц ціхай радасці
месяц глыбокай гармоніі
суму і роздуму
месяц заплаканых вокнаў
і адзінокіх сэрцаў
месяц пранізлівага позірку
у бясколер'і нябёсаў
у сябе
і сусвет

* * *

каб хто падарыў падарожжа
у Прагу
Венецыю
Вену
або хоць — у шчасце

* * *

***памяці М. ЦВЯТАЕВАЙ***

давер Цвятаевай
згарае сонцам у небе
апошняга жніўня ў яе жыцці
Расія мроілася вяртаннем
паўстала смерцю
ніхто не ўмее забіваць так
як Радзіма

* * *

***Я ж дачка краіны крыжоў…***
Э. АЖЭШКА

я — дачка краіны крыжоў
і кругоў

і крыгаў — Нёманавых
і зёлак — амаль што нябесных
сэрцаў вольных
і доляў цесных
бо інакш
ці стала б я
перамогай

* * *

***Паэт не патрабуе доўга жыць...***
А. БАРСКІ

і хоць узрост твой
быў не Ісусавы
Вянок твой усё ж быў цярновы

гэта потым будуць крычаць «Асанна!»
і ўзнясуць у вышыні
(як лёгка ўзносіць у вышыні тых
хто ўзнёсся сам)

адзінае
чым цешуся Максіме
(даруй мне маё кашчуннае цешанне)
што не напаткаў цябе лёс
Вацлава Ластоўскага
ці Максіма Гарэцкага
любоўю да Айчыны — распятых

* * *

ты не пачуў мяне
я не пачула цябе
мёртвае рэха
працінае
стагоддзі

* * *

так хутка праходжу
амаль што прабягаю
памяць
запавольваю крок каля
забыцця

* * *

— ты мне чужы чалавек…
фраза лягла як мяжа
яшчэ мацней
чым у знакамітым вершы
Максіма Багдановіча
і я не маю сілы яе адолець
і горш таго — і жадання
не маю

* * *

так часта і неглыбока
папракаюць мяне ў песімізме
звысака — як дзіця
ці — ніжэйшую істоту

не адказваю нічым
і не тлумачу
была б ваенным ці эканамістам
і ні ў якім разе — не паэтам
калі б не мела глыбіні
роздуму
і ранаў

ды і паэзія — не выбар
а калі і выбар — то не мой

вынішчаю ўсе яе сляды
з майго жыцця
праступаюць — незнішчальныя

Анатоль ДЗЯЛЕНДЗІК

# ЭСКУЛАП І ФЕЯ

## *Аповесць*

*Ішоў дождж.* Па шашы імчала легкавая машына. За рулём сядзеў Валянцін Міхайлавіч, паважны мужчына гадоў пад пяцьдзесят, сівавалосы, з цяжкім пярсцёнкам на пальцы. Паглядваючы на дарагі масіўны гадзіннік, ён спяшаўся, рызыкоўна абганяў іншыя машыны. Сустрэчныя вадзіцелі яму сігналілі, але ён не звяртаў увагі. Калі папярэдняя машына з бярвеннямі, паказаўшы левы паварот, доўга не ішла на абгон трактара, ён вырашыў яе аб’ехаць. Пазбегнуць сутыкнення з цяжкагрузным самазвалам на стрэчнай паласе не ўдалося… Грукат, скрыгатанне металу.

Прыпыніліся вадзіцелі іншых машын, кінуліся да разбітай легкавушкі, паспрабавалі выцягнуць пацярпелага з-пад абломкаў.

Побач ехала машына хуткай дапамогі з хворым, прытармазіла, спынілася.

Пераканаўшыся, што вадзіцель жывы, медыкі на насілках паспешна перанеслі яго ў сваю машыну і паехалі.

Па вуліцы невялікага гарадка машына пад’ехала да старога аднапавярховага будынка раённай бальніцы. Пацярпелага перанеслі ў памяшканне.

У кішэні яго пінжака маладзенькая медсястра знайшла пашпарт.

— Баравік Валянцін Міхайлавіч.

З бакавой кішэні пінжака выпаў мабільны тэлефон.

Медсястра падняла, паглядзела на пажылога ўрача, ён мераў пульс пацярпелага.

— Апошні ў 15.43. Віка.

— Звані.

Медсястра набрала нумар.

— Слухаю, – адказаў жаночы голас на другім канцы.

— Ало! Кім вам даводзіцца Валянцін Міхайлавіч Баравік?

— Гэта мой бацька. А ў чым справа?

— Ён трапіў у аварыю. Тэрмінова прыязджайце ў Мікулічы.

— Куды?!

— Мікулічы. Раённая бальніца.

— Раённая?! О, Божа! Еду!



*Анатоль Дзялендзік нарадзіўся 4 сакавіка 1934 года ў г. Салігорску. Скончыў Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут (1957) і Літаратурны інстытут імя М. Горкага (1969). Працаваў у Рэспубліканскай псіханеўралагічнай бальніцы, быў членам сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі «Беларусьфільм». Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, юны партызан. Аўтар дзесяці кніг прозы, драматургіі, кінасцэнарыяў на беларускай і рускай мовах, у тым ліку «Пагібель», «Абы ціха», «Султан Брунея», «Дон Жуан в эпоху риска», гістарычнай дылогіі «Легенда об Анастасии Слуцкой» і «Князь Михаил Глинский» і інш. Па яго п’есах пастаўлены многія спектаклі, па кінасцэнарыях — мастацкія фільмы, якія адзначаны прэміямі на міжнародных фестывалях.*

Вікторыя, прыгожая, добра апранутая жанчына гадоў трыццаці пяці, падагнала дарагую машыну да пад'езда бальніцы, узбегла па прыступках у вестыбюль, сказала медсястры:

— Дзе мой бацька?! Валянцін Міхайлавіч!

Насустрач ёй выйшаў пажылы ўрач у белым халаце, запыніў.

— Спакойна! Туды нельга! Ён у аперацыйным пакоі. Туды нельга!

— Што з ім?

— Пераліваем кроў. Ідзе падрыхтоўка да аперацыі.

— Вы што, хочаце аперыраваць?! Тут?! Я забараняю! Толькі ў горад, у клініку!

— Але ён нетранспартабельны. Пераломы, унутраны крывацёк.

— Я патрабую перавезці яго ў гарадскую клініку! Інакш…

Увайшоў хірург Павал Сяргеевіч, у шапачцы, у акулярах, у халаце. Гэта быў чалавек хударлявы, год за трыццаць пяць.

— Да горада не давезці, — сказаў ён. — Патрэбна неадкладная аперацыя.

Вікторыя ўважліва паглядзела на хірурга.

— Павал?!

Ён таксама здзівіўся:

— Вікторыя? Гэта твой бацька?

— Павал, яго трэба ў клініку!

— Не паспеем. Аперацыю давядзецца рабіць тут. Неадкладна!

Яна агледзелася.

— У гэтым хляве?! — Вікторыя ўважліва паглядзела на хірурга. — Я не ўпэўнена, што магу даверыць табе жыццёбацькі. Калісьці ты адправіў яго… за краты!

Павал Сяргеевіч памаўчаў.

— Мы павінны зрабіць усё, каб ён застаўся жыць, — адказаў хірург і накіраваўся ў аперацыйны пакой.

Расціраючы скроні, Вікторыя нервова хадзіла па калідоры. Дастала пачак цыгарэт, запаліла, прагна зацягнулася.

У аперацыйным пакоі медыкі схіліліся над пацярпелым.

Вікторыя ў калідоры, хвалюючыся за вынікі аперацыі, зноў і зноў прыгадвала тое лета...

І хірург, заняты аперацыяй, узгадваў мінулае.

Сціпла абсталяваная кватэра на трэцім паверсе пяціпавярховага дома была асветлена промнямі ранішняга сонца. На сцяне вісеў павялічаны фотаздымак барадатага мужчыны пад сорак, у шапцы, з люлькай у зубах.

Павал, падлетак гадоў семнаццаці, хударлявы, высокі, спартыўны, дапіваў гарбату, а ягоная маці, Надзея Пятроўна, мілавідная жанчына пад сорак, пазіраючы на гадзіннік, каля люстэрка даводзіла да ладу прычоску. У кутку заканчваў сняданак сабака.

— Павал, аднясеш бялізну ў пральню, аплаціш рахункі ў касе, сходзіш у магазін.

— І ўсё? — сыранізаваў хлопец.

Яна пашукала ў кашальку грошы, паклала на стол, уздыхнула.

— Як дацягнуць да канца зарплаты — ніяк не прыдумаю!

— Не купляй мяса — буду лавіць рыбу.

— Ну-ну! Сёння цяжкі дзень — тры аперацыі.

Павал паглядзеў на маці, усміхнуўся.

— Падрыхтоўка хірурга да аперацыі пачынаецца каля люстэрка?

— Будучаму ўрачу, — павучальна сказала Надзея Пятроўна, — трэба ведаць, што знешні выгляд медыцынскага персаналу ўплывае на настрой, а значыць, на вылечванне хворых.

— Улічу, — жартам пагадзіўся Павал.

Маці зірнула ў акно, убачыла легкавую машыну, якая пад'язджала да дому.

— Да вечара! — яна накіравалася да выхаду.

— Да сустрэчы, мама! — адказаў Павал. Ён паглядзеў у акно, радасна памахаў рукой вадзіцелю, мужчыну гадоў пяцідзесяці. Гэта быў хірург Фёдар Сцяпанавіч. Ён адказаў усмешкай, жэстам запрасіў Паўла да машыны. Хлопец паспяшаўся за маці. Фёдар Сцяпанавіч павітаўся з ім за руку і працягнуў кнігу.

— Гэта табе, эскулап.

Павал прачытаў назву:

— «Псіхалогія хірургічнага хворага». Пераклад з англійскай? Ух, ты! Калі вярнуць?

— Дару. Будучаму Пірагову.

— Шчыры тлусты дзякуй, Фёдар Сцяпанавіч!

Маці ўсміхнулася.

— Ты столькі кніг перадаў Паўлу, што і ў інстытут можна не паступаць.

Пасмяяліся.

Фёдар Сцяпанавіч адчыніў дзверцы машыны. Маці села. Ён зачыніў за ёй дзверцы, сеў за руль, машына зрушыла з месца. Кіруючы машынай, ён паклаў руку ёй на далонь.

— Як я сумаваў!

Яна пацалавала яго ў шчаку.

— Глядзі на дарогу!

Павал, разглядаючы кнігу, вярнуўся ў кватэру, кінуў позірк на сабаку.

— Байкал, хочаш на рыбалку?

Сабака радасна заскавытаў, заскакаў, паспрабаваў лізнуць Паўла па носе.

— Толькі без гэтых цялячых пяшчот! — спыніў яго Павал.

Ён прыбраў посуд са стала, вымыў, паставіў у шафу. Узяў тэлескапічную вуду, іншыя рыбацкія прынады, адчыніў дзверы. Сабака кінуўся на лесвіцу.

У двары Павал адамкнуў металічны гараж, выкаціў трафейны матацыкл «Харлей», які шмат бачыў на сваім жыцці, надзеў шлем, выбраўся на вуліцу і няспешна паехаў між дамоў у бок лесу, што быў бачны за горадам. Байкал бег наперадзе. Побач з дарогай знаходзілася вадасховішча. Сонца адбівалася ў вадзе. Павал прыпыніўся ля моста. Паставіўшы матацыкл ля агароджы, падоўжыў вуду, стаў лавіць рыбу на матыля. Па шашы праходзілі машыны — легкавыя, грузавыя, аўтафургоны.

Рыба бралася дрэнна.

Праз нейкі час на міліцэйскім матацыкле «Урал» пад'ехаў Радзівон, малады лейтэнант ДАІ, з вусікамі, выключыў рухавік.

— Прывітанне, каўбой! — гэта быў намёк на клятчастую кашулю Паўла. — Лавіся рыбка, вялікая і малая.

— Ты гаворыш гэта, калі выходзіш на злодзеяў? — саркастычна заўважыў Павал.

— Ага, таварыш Лісоўскі! Байкал, вітаю!

Сабака павіляў хвастом.

— Ці ж гэта рыба? На Прыпяці бацька выцягваў вось такіх шчупакоў! — Павал паказаў, наколькі хапіла шырыні рук.

— Рыбацкія байкі?

— Я ніколі не маню!

— Даўно цябе не было, Пал Сяргеевіч, — сказаў Радзівон.

— Рабіў суседу сталярку, вокны і дзверы — рамантуе лецішча.

Лейтэнант паглядзеў на трафейны матацыкл Паўла.

— Драндулет яшчэ не разваліўся?

Павал з раздражненнем запярэчыў:

— Хоць ты і гоншчык, мой стары трафейны «Харлей» абгоніць твой новы «Урал»! Ідзеш у заклад?

Радзівон нібы задумаўся.

— Аддасі з Байкалам? — ён з усмешкай паглядзеў на сабаку, які хадзіў па вадзе і да нечага прыглядаўся.

— Ну не! — пакрыўдзіўся Павал. — Нават жартам не магу. Памяць пра бацьку — прынёс яго маленькім шчанём...

— Даруй. А мяне цябе не абагнаць — фарсіраваны рухавік.

Здалёк лейтэнант заўважыў легкавушку, што ехала з уключаным сігналам павароту. Ён выцягнуў жэзл, загадаў прыпыніцца.

З машыны хуценька выскачыў інтэлігентны лысаваты стары гадоў сямідзесяці. Дастаў вадзіцельскія правы, падбег да Радзівона, запыхаўшыся, засмучана сказаў:

— Вінаваты, вінаваты, таварыш капітан! Але ў чым?

Радзівон рассмяяўся.

— Выключыце паварот. Можаце ехаць.

— Дзякуй! — нізка схіліўся вадзіцель, сеў за руль і паехаў.

Радзівон пасміхнуўся.

— Бачыў?

— Прыемна адчуць уладу над чалавекам, праўда? Таму і злачынцаў шмат — акулы гуляюць, а ганяецеся за драбязой!

— Дык ён жа мог стварыць аварыйную сітуацыю!

Павал працягнуў чырвоны яблык.

— Частуйся!

— З зоны? — пажартаваў Радзівон.

— Не бойся, мясцовы — сусед пачаставаў.

Радзівон узяў яблык, выцер аб кашулю, стаў хрумкаць.

— Няўжо сапраўды можаш — вокны, дзверы?

— Ды то, чаго там умець.

— Смачна! — Радзівон дастаў з сумкі плітку замежнага шакаладу ў яркай упакоўцы, працягнуў Паўлу.

— Бяры.

— Адламі кавалак.

— Бяры ўвесь!

У Радзівона запрацавала рацыя.

— Сёмы слухае. Знаходжуся ля моста... Зразумеў!

Радзівон уключыў рухавік.

— Калі зловіш вялізную рыбу, — сказаў ён, — кліч! Будзем цягнуць матацыклам!

— Ты таксама! Зловіш тоўстага мафіёзі — свісні! Дапамагу!

Уздыбіўшы матацыкл, Радзівон з ровам паімчаўся па шашы.

А ў гэты час дзяўчына ў шлеме, на прыгожым матацыкле «Сузукі», ліха ганяла па ямах і выбоінах, выпісваючы крутыя віражы. У высокай траве яна спатыкнулася, пераляцела праз матацыкл…

Бачачы, што рыба не бярэцца, Павал звярнуў вуду, сеў на матацыкл і няспешна паехаў па сцежцы ўздоўж берага. Байкал пабег за ім.

За ўзгоркам Павал убачыў незнаёмую дзяўчыну гадоў шаснаццаці. Кульгаючы, яна вяла ў руках элітны матацыкл «Сузукі», які свяціўся на сонцы. Пярэдняе кола было спушчана. Павал паглядзеў на дзяўчыну, усміхнуўся:

— Сутыкнулася з паравозам?

— А табе якая справа? — на яе вачах ён убачыў слёзы.

На руках і нагах заўважыў сінякі.

Павал сказаў:

— Дай пагляджу кола.

— Едзь сваёй дарогай.

— Можа, выпраўлю.

Яна недаверліва пакасілася, але прыпынілася. Павал падышоў, агледзеў прабоіну.

— Куды гэта ты ўрэзалася?

— Якая розніца? — памаўчаўшы, растлумачыла: — У траве была разбітая бутэлька. Я б гэтых выпівох — тапіла. На самым глыбокім месцы.

З багажніка свайго матацыкла Павал дастаў шунты, балончыкі з клеем.

— Запаслівы! Атрымаецца? — запыталася яна. — Ці выкінуць?

— Што выкінуць? — не зразумеў Павал.

— Матацыкл.

— Добра жывеш!

— Не скарджуся.

Павал заняўся рамонтам кола. Зняў яго, дастаў камеру, стаў клеіць. Яна назірала.

— Што гэта за птушкі спяваюць? — спытала дзяўчына.

— Жаўрукі.

— А чаму іх не відаць?

— Высока.

У небе яна імкнулася разгледзець птушак.

— Гараджанін? — запыталася яна.

— Напалову.

— Як разумець?

— Жыў на Прыпяці. Была?

— Не.

— Шкада. Больш прыгожай ракі няма.

Яна ўсміхнулася.

— Паляшук? Гэта пра вас — людзі на балоце?

— На алмазах! Там столькі ўсяго…

— Не хацела б я жыць у балоце.

— Дарма! Балота — гэта прыгожа! Яно жывое! Калі японцы гадзінамі могуць глядзець на голыя камяні, то з нашых балот яны б не вылазілі!

— Так, сядзелі б па вушы ў вадзе! З п’яўкамі, жабамі... — развесялілася дзяўчына.

— А Прыпяць!.. Якія берагі...

— За мяжой я бачыла рэкі цікавейшыя!

— А такой няма, — не пагаджаўся Павал. Ён прымружыў вочы і ўспамінаў. — Пясок — белы-белы! Па берагах — дубровы! Наверсе — гнёзды з буслámi! Баржы вязуць грузы. А паветра!..

— Чаго ж з’ехаў?

Ён адказаў не адразу.
— Давялося.
— З гэтых, чарнобыльцаў?
Павал не адказаў.
— Вось яно што! — працягнула дзяўчына. — Пракажоны, так?
— Ды не, я без забабонаў.
Ён сабраў кола, паставіў на месца, накатаў. Яна спытала:
— Як ты даведаўся, што мне патрэбна дапамога? Па гэтай сцежцы ніхто ніколі не ездзіць.
— Інтуіцыя.
— Што?
— Я заўсёды адчуваю, калі людзям дрэнна.
— Экстрасенс?
— Яшчэ шмат невядомага. З маці працуе хірург. Ён гаворыць, што па паху адчувае анкалагічных хворых.
— Фігня. Залівае!
— За мяжой імкнуцца навучыць гэтаму сабак. — Павал праверыў рухавік, штосьці адрэгуляваў. — Калі ласка. Можаш зноў, па бутэльках.
— Не чакала.
— Я свой «Харлей» збіраў па вінціку. У суседа гніў на лецішчы! Машыне — гадоў шэсцьдзесят. А пацягаецца з любой!
— А выгляд — не вельмі. Колькі я вінна?
Павал дастаў шакалад, працягнуў.
— З'есці шакаладку.
Дзяўчына ўсміхнулася.
— Ты незвычайны, — яна адламіла кавалачак. Астатняе вярнула.
— Што незвычайнага?
— Губляць час на чужы матацыкл, частаваць незнаёмку шакаладам...
— Прабач. Павал.
Яна ўсміхнулася.
— Святы Павал… Вікторыя.
— Віка? А гэта мой сябар — Байкал.
— Прыгожы.
— Не баішся катацца адна?
— А ў мяне пушка, — пад кофтачкай была кабура. Віка дастала пісталет.
Павал паглядзеў.
— З кулямі?
— Газавы. Пакладзе любога!
— Нічога сабе! Страляла?
— Па варонах? А нашто?
— Ты павінна ім авалодаць.
Віка схавала пісталет.
— Я малюю, — патлумачыла яна. — Пейзажы. Вось, назапашваю ўражанні.
— У кар'еры прыгожа, праўда?
— Мяне больш прыцягвае вада.
— Ля вадаспада была?
— Дзе гэта?
— Паехалі!
Яны селі на матацыклы і пакацілі ўздоўж берага. Байкал пабег за імі.
На лузе пажылая сялянка пасла коз. Павал прыпыніўся.

— Дабрыдзень!
— Дзень добры, дзеткі!
— Мая жонка, — Павал паказаў на Віку, — хоча купіць казу. А даіць не ўмее. Можна, я пакажу, як гэта робіцца?
— Гарадскія? А дзе ж вы будзеце яе трымаць, — у ванным пакоі?
— На балконе. Я ўжо гняздо зрабіў, з футра.
— Казе гняздо? — недаверліва запытала сялянка.
— Ці яны жывуць у норах? — перапытаў Павал, прыхаваўшы ўсмешку.
— У гнёздах! — адказала жанчына. — Лётаюць з дрэва на дрэва!
Віка ўсміхалася, слухаючы іх гаворку.
— Так можна падаіць?
— Гм! Паспрабуй! — раптам хітра пагадзілася сялянка. — Вось тую!
Павал узяў у жанчыны шкляны слоік, падышоў да жывёлы, паглядзеў, усміхнуўся.
— Што такое? — запыталася Віка.
— Ад казла малака не атрымаеш. — Ён звярнуўся да жанчыны. — А можна, падаю вось гэту?
— Любую, — адказала жанчына.
Павал стаў на калені, пачаў даіць. Малако струменямі пацякло ў слоік. Жанчына з цікавасцю глядзела.
— Вось так, — сказаў Павал Вікторыі. — Цяпер паспрабуй ты.
Віка няўмела пачала даіць, але раптам каза стукнула капытом па слоіку, распляскала малако, да таго і баднула дзяўчыну рожкамі. Усім было весела. Сядаючы на матацыкл, Павал запытаў у жанчыны:
— Можа, возьмеце жонку ў памочніцы?
— Абавязкова! Заўтра прыходзьце. Люблю вясёлых!
У дуброве пад дрэвам Павал убачыў на зямлі мёртвых птушанят. Ён патлумачыў Віцы:
— Зязюля падкінула свае яйкі ў чужое гняздо. Калі зязюльчыны птушаняты вылупіліся, яны выкінулі з гнязда сваіх братоў.
Віка жахнулася:
— Чаму?
— Думаеш, толькі людзі так паступаюць?
Па дарозе Віка разглядала дубы.
— Класная карцінка! Гэта я намалюю!
Дастаўшы фотаапарат, яна зрабіла некалькі фотаздымкаў.
— Калі ёсць фота, навошта карціна?
Віка ўсміхнулася.
— Карціна — гэта яшчэ і маё стаўленне! Кожны з мастакоў перадае нешта сваё.
Яшчэ здалёк яны пачулі грукат вады за плацінай.
— Вось гэта цуд! — з захапленнем прамовіла Вікторыя.
Пад’ехалі, паставілі матацыклы на беразе. Байкал кінуўся ў ваду, паплыў.
З вялікай вышыні вада з грукатам падала ўніз, утвараючы буруны, віры. Тысячы кропель стваралі ў паветры вясёлку. Там, дзе было спакойна, купаліся хлопчыкі. Найбольш адчайныя спрабавалі падплыць бліжэй да імклівай вады.
— Ніягарскі вадаспад у мініяцюры, — усміхнуўся Павал.
— Фантастыка! Дзякуй, што прывёз! — сказала Віка, назіраючы за вясёлкай з кропель. Яна выбірала розныя ракурсы і фатаграфавала.
Павал распрануўся, лёг на пясок, глядзеў у неба, дзе высока кружыў бусел. Прымружыўшы вочы, успомніў Прыпяць, як з сябрам Косцем знайшлі параненага бусла, кармілі, ставілі на ногі…

Віка схавала фотаапарат, прасачыла за позіркам Паўла.

— Настальгія?

Ён не адказаў. Віка таксама распранулася, лягла побач.

— Дома бываеш?

Ён адказаў не адразу:

— Туды нельга — радыяцыя.

— Памятаеш, як ад’язджалі?

Памаўчаўшы, Павал адказаў:

— Падагналі аўтобусы і загадалі: «З сабой нічога не браць!» Пакінулі рэчы, машыны, тэлевізары, жывёл... Байкал быў маленькі. Мне ўдалося вывезці яго патаемна. Пад кашуляй...

Павал бачыў разбураную атамную станцыю, пустыя аўтобусы, якія пад’ехалі да людзей з пакункамі, чамаданамі, тэлевізарамі. З першага выйшаў стомлены, з чырвонымі пражылкамі вачэй вайсковец.

— З сабой нічога не браць.

Натоўп заварушыўся.

— Як жа так?!

— Мы ўсё жыццё…

— Без рэчаў мы жабракі!

— Жабракі!

— Паўтараю, — цвёрда прамовіў вайсковец. — Толькі грошы і дакументы.

Пакінуўшы рэчы, расчараваныя людзі садзіліся ў аўтобус. Жанчыны плакалі. Адна з іх страціла прытомнасць. Вайсковец убачыў, што на грудзях Паўла пад кашуляй варухнулася нешта жывое. Ён паглядзеў у спалоханыя вочы хлопчыка і адвёў позірк…

Віка глядзела на сабаку. Той хадзіў ля вады.

— У вас вялікая сям’я?

— Я, мама і Байкал. Бацька памёр. Ён працаваў на станцыі, інжынерам. На ліквідацыі аварыі схапіў вялікую дозу.

— Мне шкада, — прагаварыла Віка. — А ты шмат схапіў?

Павал пацiснуў плячыма.

— Ніхто не ведае, шмат гэта ці не. Дастаткова адной гарачай часціцы... Будучыня пакажа.

— Паплаваем?

— Давай.

Яны скокнулі ў ваду. Байкал пабег за імі. Падплылі да самага вадаспада. Забаўляліся, дурэлі. Павал даў нырца, з нары дастаў рака, гарэзліва наблізіў яго да твару Вікі.

— Мадэмуазель, прапаную вам амара.

Яна з крыкам паплыла да берага.

Павал развёў касцёр. Назбіраў слімакоў. На вугольчыкі паклаў кавалак бляхі, на яго — слімакоў. Калі яны падсмажыліся, стаў есці. Прапанаваў дзяўчыне, але яна грэбліва адмовілася.

— Ты б яшчэ жабак прапанаваў з’есці!

— Дарэмна ты так. Беларускія вустрыцы.

— Калі б з лімонам…

— Людзі ядуць змей, саранчу, конікаў…

— Супыніся! Павал, час дадому ўжо ехаць...

Перад пасёлкам іх запыніў выпівака, каржакаваты мужчына, пад хмелем, развёў рукі ў бакі:

— Моладзь, гэта… Скіньцеся на бутэлечку вінца. Век не забуду!

Павал нядобразычліва адмовіў:

— Здаровы мужык! Не можаш зарабіць?

— Пацан, не грузі! — зморшчыўся мужчына. — Ад працы коні дохнуць. — Праз незашпіленую кофтачку Вікі ён пабачыў кабуру. — Гэта што, пушка? Сапраўдная? Ды не, газавы, — расчаравана заключыў ён і ўсміхнуўся. — Мухабойка. Вараб'ёў пужаць.

Памаўчаўшы, Віка адказала:

— Я магу даць грошай.

— Сапраўды? Золатка ты маё! — ён радасна пацёр далоні.

Яна дастала пісталет.

— Але хачу праверыць, наколькі добра працуе.

Мужчына зніякавеў.

— Ты што — з глузду з'ехала?

— Метраў з пяці, у грудзі. Прасіў бабкі на бутэльку?

— Э, не! Знайшла дурня!

— Дзве бутэлькі гарэлкі! — прапанавала Віка.

Выпівака задумліва глядзеў на пісталет.

— Пакажы грошы.

Яна дастала кашалёк, адкрыла. Мужчына махнуў рукой.

— Ну і чорт з табой, страляй.

Павал спрабаваў яе спыніць:

— Віка, ты што? Не трэба!

— Гэты выстрал яму — што слану драбінка!

— Спыніся!

— Тады выпрабуем на сабаку. — Яна накіравала пісталет на Байкала, запытальна паглядзела.

Павал кінуўся да яе, падняў руку з пісталетам уверх.

— І не думай!

Мужчына сказаў Паўлу:

— Эй, пацан, не сунься! Страляй, фіфа! Ці здрэйфіла?

Віка прымружыла вока і націснула на курок. Прагучаў стрэл. Мужчына закашляўся, захістаўся, закрыў вочы рукой, зрабіў некалькі крокаў убок і накіраваўся да лесу. Віка гукнула яго:

— Эй! А бабкі?

— Ды пайшла ты…

Віка дагнала яго, сунула грошы ў кішэню. Вярнулася да Паўла, усміхнулася.

— Бачыў?

Ён адвёў злосны позірк.

— Пашкадаваў п'янага? — сказала яна. — Можа, на яго бутэльку я наехала.

— Добра, рушым далей.

Уехалі ў дачны пасёлак, пад'ехалі да двухпавярховага асабняка, які патанаў у зеляніне.

— Вось я і дома, — сказала Вікторыя.

— Ты тут жывеш? — здзівіўся Павал.

Віка шырока ўсміхнулася:

— А чаму тут нельга жыць?

Ён не адказаў. Каля іх праімчаўся «Мерседэс».

Валянцін Міхайлавіч, мужчына гадоў сарака, збавіў хуткасць, уважліва паглядзеў на Паўла. Боб, каржакаваты ахоўнік у камуфляжнай вопратцы і высокіх цяжкіх чаравіках, адчыніў стальныя вароты. Машына ўехала ў двор.

— Гэта твой дом?

— Майго бацькі.

— Ён хто — міністр?

Віка ўсміхнулася.

— Дзелавы чалавек. Міністра могуць замяніць. А калі ў тваіх руках лесапілка, цагляны завод... Гэта надоўга. Заўтра сустрэнемся?

— Заўтра я еду ў Сасноўку — наведаць сябра.

— Што з ім?

— Тое, што з іншымі.

— А паслязаўтра?

— Буду заняты.

— А пасля-паслязаўтра? — усміхнулася яна.

— Не змагу.

— Ды што з табой? Мы так добра правялі дзень!

— Я сапраўды заняты. Гэта сёння...

— Тады абмяняемся тэлефонамі. Вось мой, — яна працягнула візітоўку. — А які ў цябе?

Павал маўчаў.

— Працуеш у сакрэтнай арганізацыі?

Ён назваў нумар:

— 325411.

— Стэлефануемся, — сказала Віка і накіравалася да веснічак. — Сэнк'ю, сэр, за прагулку.

Яна закаціла матацыкл у двор.

Боб зачыніў вароты.

Дома бацька працаваў за камп'ютэрам. Віка падышла, пацалавала.

— Тата, прывітанне!

— Добра пакаталася?

— Вельмі. Пазнаёмілася з цікавым хлопчыкам. Заклеіў мне кола. Ты ведаеш — умее ўсё!

— Хто ён?

— З чарнобыльцаў, перасяленец. Бацька загінуў пасля аварыі. Яны ўсе наглыталіся гэтай гадасці.

— Ён здаровы?

— Спадзяюся, — усміхнулася яна. — Такі моцны!

Бацька ўважліва паглядзеў.

— Ну, і дзякуй Богу. — У яго зазваніў тэлефон. — Слухаю? Па якой цане? Трэба паглядзець…

Назаўтра, назбіраўшы ў лесе ягад, Павал прыехаў у Сасноўку, у шпіталь для пацярпелых ад чарнобыльскай аварыі. Ён паставіў матацыкл у двары санаторыя. Насустрач выйшла Надзея Пятроўна, яна была ў белым халаце.

— Яму горш, — сказала яна шэптам, — але пра гэта не гавары.

Да іх падышоў Косця, худы, нездаровага выгляду хлопчык. Маці ўсміхнулася:

— Пакідаю вас адных, — сказала яна і стала падымацца па прыступках. На пляцоўцы яе чакаў Фёдар Сцяпанавіч, які пачаў нешта жвава распавядаць.

— Здароў, джыгіт! — бадзёра сказаў Павал і падмануў: — Выглядаеш нядрэнна!

Косця адчуў фальш у яго словах, але змоўчаў.

— Кормяць як? — запытаў Павал.

— Добра.
— Сумна?
— Ды не — кнігі, тэлевізар...
Павал усміхнуўся:
— А лодкі нашай няма.
— Тут недалёка возера.
— Ну, гэта не тое! Памятаеш, як у паводку паплылі і не маглі саўладаць з плынню?
— Канечне…
Яны ўспомнілі, як хуткаплынная вада несла іх плыт усё далей і далей ад берага. Яны ўпарта граблі палкамі, але не маглі саўладаць з плынню. Дрэнна звязаныя бярвенні хадзілі пад нагамі, як клавішы, ападаючы ўніз. Вецер падымаў хвалі, вада залівала плыт. Здалёку паказаўся выратавальны кацер, які плыў да іх…
— Калі б не мужыкі на кацеры...
— Перапужаліся.
— А памятаеш, як забраліся ў сад, — Павал хацеў развесяліць сябра, — і сабака рваў нам штаны?
Залезшы на яблыню, Павал ірвануў галіны. Яблыкі пасыпаліся на зямлю. Косця стаў іх падбіраць. Аднекуль здалёк на іх імчаў сабака, які не пераставаў гаўкаць. Павал скокнуў з дрэва, яны кінуліся ўцякаць. Сабака наганяў, рваў за штаны то аднаго, то другога…
Успамінаючы, Павал весяліўся, Косця быў прыгнечаны, задумлівы.
Убаку хлапчукі каталіся на веласіпедах.
— Хочаш пакатацца? — запытаўся Павал. — Я папрашу.
— Не.
— Чаму? Ты ж любіў!
Пасля маўчання Косця сказаў:
— Павал, я губляю сілу. Раней з лёгкасцю гуляў з двухпудовай гірай. А цяпер... Нянечка просіць падаць вядро з вадой…
Косця закашляўся.
— Еш ягады, — прапанаваў Павал. — Сам збіраў.
— Павал, калі са мной што-небудзь здарыцца...
— Кінь, Косця!
— Аднясеш гэта на магілу маёй маці, — ён паказаў на невялікую карзіну з вярбы. — З кветкамі.
Павал паспрабаваў усміхнуцца:
— Ты разважаеш, як сямідзесяцігадовы стары!
— Я і ёсць стары.
— Дурань, падлечаць цябе, і мы аб’ездзім усе сцяжынкі вакол горада! Як там.
— Не, Павал, урачы маняць, але я ўсё разумею... Засталося нядоўга.
Павал не знаходзіў слоў.
— Ведаеш, пра што шкадую? — спытаў Косця. — Нічога не паспеў! Такія былі планы!
Пасля доўгага маўчання Павал сказаў:
— Памятаеш, як змагаліся з плынню? Змагайся! Назло ўсім! Усяму! Гэтак жа я сказаў бы і сабе.
— Мне трэба ісці.
— Косця, пачакай, пакуль паступлю ў медыцынскі! Я табе дапамагу.
Косця ўважліва паглядзеў і накіраваўся ў будынак. Выйшла Надзея Пятроўна. Пасля размовы з Фёдарам Сцяпанавічам яна была ўзрушана.

— Паразмаўлялі?

— Мама, няўжо яму нельга дапамагчы?

— Чакаем з-за мяжы медыкаментаў.

З будынка выйшла група мужчын, накіравалася да легкавой аўтамашыны. Лейна, пажылы дабрадушны фін у акулярах, падышоў да Надзеі Пятроўны:

— У гэтых мясцінах, доктар Надзея, я ваяваў, — сказаў ён з акцэнтам.

— Вось як! — здзівілася яна.

— Так. На баку фашыстаў. Потым быў у палоне. Аднаўляў ваш горад. Увесь горад быў у руінах!

— Спадар Лейна, пазнаёмцеся з маім сынам.

— Павал.

Фін працягнуў руку, абмяняліся рукапацісканнямі.

— Ого! Якая моцная рука! Як у майго ўнука Юхана! Чым цікавішся?

— Матацыклам, — адказаў Павал.

— Будучы медык, — усміхнулася Надзея Пятроўна. Зрэдку яна паглядала на Фёдара Сцяпанавіча, які на алеі размаўляў з хворым. Ён таксама паглядаў у яе бок.

— Дынастыя? Юхан таксама хоча ў медыцынскі каледж! Вам трэба пазнаёміцца! Запросім Паўла ў Фінляндыю, хай павучыць Юхана вашай мове, а потым Юхан прыедзе сюды. Медыкі розных краін павінны сябраваць, праўда?

— Зразумела! — сказала Надзея Пятроўна.

Да Лейны падыйшоў калега:

— Нас чакаюць у дзіцячым доме.

Лейна прывітальна памахаў рукой:

— Да пабачэння, доктар Надзея! Добрае ў вас імя! Да сустрэчы, Павал!

— Да пабачэння, спадар Лейна!

— Чакайце нас з фургонам медыкаментаў!

— Мы вам вельмі ўдзячныя!

Госці селі ў аўтобус і паехалі.

— Толькі на іх уся надзея, — уздыхнула Надзея Пятроўна і накіравалася да Фёдара Сцяпанавіча.

Павал звярнуў увагу на BMW, які стаяў побач. За рулём сядзеў вадзіцель у дымчатых акулярах, чытаў газету і кагосьці чакаў, пазіраючы на гадзіннік. У машыне гучала ўсходняя музыка, спявачка цягнула сумную песню. Павал задумаўся — дзе ж ён яго бачыў? Успомніў! Ахоўнік Вікінага бацькі. Гэта ён адчыняў вароты. Што яму тут трэба?

Павал убачыў у матацыкле разгайданую гайку, дастаў ключ, стаў завінчваць.

Вадзіцель выйшаў з машыны. Да яго падышла маладая медсястра і незадаволеным тонам вымавіла:

— Барыс, калі ласка, не прыязджай болей.

— Чаму, Наталка? — здзівіўся ён. — Табе са мной дрэнна? Паглядзі, што я табе прывёз. — Ён накіраваўся да машыны, дастаў картонны пакунак.

Яна схавала рукі за спінай.

— Не трэба! Праз цябе ў мяне непрыемнасці!

Памаўчалі.

— Прынесла? — спытаў ён ледзь чутна.

Не адказаўшы, яна павярнулася і рашуча пакрочыла да будынка.

— Ну, ліха цябе бяры!— зазлаваў Боб, кінуў пакунак на задняе сядзенне. Нешта забрынчэла. Гледзячы на Паўла, Боб незадаволена вымавіў: — Прынцэса!

Раз’юшаны, ён завёў машыну і, рвануўшы з месца, імкліва паехаў.

Валянцін, бацька Вікі, назіраў, як кран здымаў бярвенні з грузавіка з прычэпам і ўладкоўваў іх на пілараму. Пілы распільвалі камлі на дошкі. Пагрузчыкі адвозілі дошкі на склад.

Вадзіцель чарговай машыны наблізіўся да Валянціна.

— Усё, шэф, больш там няма.

— Як — няма?

— Так ён сказаў.

Падумаўшы, Валянцін рашуча паказаў на вароты склада.

— Бяры дзве скрыні гарэлкі, аддасі лесніку. Без бярвенняў — не вяртайся!

Памарудзіўшы крыху, вадзіцель адышоўся, стаў грузіць скрыні ў машыну.

На легкавушцы да Валянціна пад'ехаў Боб. Намагаючыся перакрычаць скрыгат піл, пачаў таропка нешта расказваць.

Валянцін адышоў ад пілармы, усміхнуўся.

— Гэта табе твая краля сказала?

— Яна ўжо не мая.

Валянцін жэстам даў знак рабочым, потым спытаў Боба:

— Ты нічога не пераблытаў?

— Не. Фін сказаў — чакайце фургон з медыкаментамі. Да хуткай сустрэчы!

Валянцін спыніў грузавік, сказаў нешта вадзіцелю. Той пагадзіўся, паехаў.

— Шэф, трэба дзейнічаць, — пераконваў Боб. — Дэфіцыт!

— Перакупіць?

— Ды не! Перахапіць па дарозе!

Валянцін здзіўлена зірнуў на Боба.

— Хочаш падвесці мяне пад манастыр?

— Фарт гарантую! Там будзе столькі ўсяго!

— Які спрытны! Я ў такія гульні не гуляю.

— Не зробім — перахопяць іншыя. Валянцін, ты ж ведаеш, што робіцца на дарогах!

Шэф не паспеў адказаць. Збоку, на матацыклах, вырабляючы піруэты, пад'язджалі Віка і Павал.

Паглядзеўшы, як пілы распільваюць бярвенні на дошкі, Павал сказаў:

— Люблю працаваць з дрэвам. Такі пах!

— Бацькава гаспадарка.

— Дырэктар?

Віка паблажліва ўсміхнулася, памахала бацьку рукой. Валянцін адказаў.

— Не будзем перашкаджаць, — крыкнула дзяўчына Паўлу і рванула наперад. Ён паспяшаўся за ёй.

Боб незадаволена сказаў:

— Нешта часта я бачу іх разам.

— Трэба ж ёй з кімсьці катацца, — кінуў Валянцін.

— Ці тая гэта кампанія? У Амерыцы дзеці мільянераў ніколі не сябруюць з дзецьмі простых людзей.

Валянцін рассмяяўся. Боб сказаў:

— Шэф, каманду я набяру. Мне патрэбны толькі машыны.

Пасля паўзы Валянцін прапанаваў:

— Я не хачу ў гэта лезці. Але пастарайся даведацца, што прывязуць фіны. Можа, перакупім па дарозе. — Ён дастаў кашалёк, выняў грошы, перадаў. — Заедзь на рынак, купі дзесяць кілаграмаў сала, мех агуркоў і скрыню яек. Адвязеш у дзіцячы дом.

— Зноў? Нядаўна ж адвезлі макароны, крупы, цукар. Вялізны торт!

— Калі б ты пажыў у дзіцячым доме, пагаладаў з маё… Гэта зусім не многа. — Ён паспяшаўся да рабочых. — Не так, мужыкі!

Боб правёў яго задумлівым позіркам.

Павал і Віка каталіся на конях. Потым падвялі коней да конюха. Віка з ззяючым выглядам сказала старому:

— Даўно я не атрымлівала такой асалоды!

— Лепш, чым на матацыклах?

— Ніякага параўнання!

— Коні лечаць хворых дзетак. — Ён паказаў убок. — У санаторыі. Узімку я пракачу цябе на санках, з ветрыкам!

— Ладна! — Зірнуўшы на гадзіннік, Віка прапанавала Паўлу: — Паедзем да нас, паснедаем.

— Я есці не хачу.

— Бацька любіць, каб мы снедалі разам. Іншага часу паразмаўляць у яго няма.

— Едзь. Я яшчэ трохі парыбачу. Абяцаў маці прыгатаваць заліўнога шчупака.

Віка раззлавалася:

— Павал, не будзі звера! Паглядзім кліпы.

— Не люблю тэлевізар. Байкал, за мной!

Ганарлівая, самалюбівая Віка неадабральна паглядзела яму ўслед і паехала дадому.

Аўтафургон з’ехаў з шашы, звярнуў да ракі, спыніўся. Вадзіцель і напарнік выйшлі з кабіны, пацягнуліся, размінаючы мышцы. Павал стаяў ля вады і закідваў спінінг.

Вадзіцель усміхнуўся Паўлу:

— Прыгожыя мясціны!

— Ёсць і лепшыя, — сказаў Павал.

— Гэта дзе — у Швейцарыі?

— На Прыпяці.

— Згодзен! — сказаў вадзіцель. — Адтуль, ці што?

Павал не паспеў адказаць. Пад’ехала чорная «Вольва», рэзка спынілася. У ёй сядзелі трое моцных хлопцаў у спартыўнай вопратцы «Адыдас». Двое выскачылі з машыны, накіраваліся да вадзіцеля.

— Так! Адкуль едзем? Што вязём? — хутка запытаў альбінос.

— Дзіцячае харчаванне, — дабрадушна ўсміхнуўся вадзіцель. — Вам гэта ўжо нецікава.

— Тады плаціце. Па трыста баксаў.

Вадзіцель збянтэжыўся:

— Ды вы што, хлопцы, адкуль у нас такія грошы?

— Ездзіш за бугор і не маеш валюты? Не вешай лапшу на вушы!

— Мужыкі, сапраўды, няма. Дробязь была — набыў сыну падарунак.

— Апошні раз кажу — ганіце па дзвесце долараў!

— Далібог, няма!

— Ах, так? — падняўшы з зямлі палку, альбінос размахнуўся і грохнуў ёю па лабавым шкле машыны, разбіўшы яго на друз.

— Гад, ты што робіш?!

— Будзеш больш згаворлівы!

Вынуўшы фінку, другі злодзей пракалоў пярэднія колы аўтафургона. Зашыпела паветра, кабіна апусцілася.

— Ах ты, гадзіна! — не вытрымаў напарнік вадзіцеля і кінуўся ў бойку.

Спрытным прыёмам злодзеі збілі яго з ног, сталі біць нагамі. Напарнік падхапіўся, пачаў наносіць абодвум моцныя ўдары.

Убачыўшы ў руках аднаго са злодзеяў нож, Павал скамандаваў:

— Байкал, узяць!

Сабака кінуўся да злодзея, напаў, зубамі ўпіўся ў руку з нажом. Нож упаў на зямлю. Альбінос дастаў з-пад курткі кароткі аўтамат, даў доўгую чаргу. Байкал заенчыў, закруціўся і ўпаў на зямлю, у сутаргах заціх. Злодзеі ўскочылі ў «Вольва» і паімчаліся.

Павал падбег да сабакі, стаў на калені.

— Байкал! Байкал! — паўтараў ён са слязьмі на вачах.

Пад'ехаў Радзівон на матацыкле. Убачыўшы разбітае шкло, праколатыя шыны і забітага Байкала, спытаў:

— Дзе яны?

Абхапіўшы галаву рукамі, вадзіцель раскачваўся з боку ў бок. Ягоны напарнік, трымаючыся за разбіты нос, свабоднай рукой паказаў накірунак, у якім паехалі злодзеі.

— Чорная «Вольва», — сказаў ён. — «КМ 37-19».Трое, з аўтаматам!

Радзівон уключыў рацыю:

— Усім пастам! Затрымаць чорную «Вольва», «КМ 37-19»! Злачынцы ўзброены!

Ён даў поўны газ і паімчаўся.

Праз нейкі час супрацоўнікі ДАІ на посце паспрабавалі затрымаць чорную «Вольва», але яна праляцела не спыняючыся. Была арганізавана пагоня. Патрульныя машыны з уключанымі сірэнамі нагналі «Вольва», загадалі спыніцца. Але «Вольва» прыбавіла хуткасць, абганяючы машыны і небяспечна рызыкуючы на загружанай шашы. Пагоня працягвалася да таго часу, пакуль легкавушка не зачапілася за самазвал, які спрабавала абагнаць, развярнулася і, вылецеўшы ў кювет, стала кувыркацца.

Пад'ехала група спецназа, прыімчаўся Радзівон. Ён крыкнуў:

— Асцярожна! Узброеныя!

Злодзеі пастунова прыходзілі ў сябе, аглушаныя, выбіраліся з перакуленай машыны. На іх руках спецназаўцы адразу шчоўкалі бранзалетамі.

Вадзіцель аўтафургона падышоў да Паўла з сапёрнай рыдлёўкай.

— Пахаваем пад дрэвам. Месца заўважнае. Будзеш ведаць, куды прыязджаць.

Не атрымаўшы адказу, пайшоў да дрэва, стаў капаць яму.

На матацыкле пад'ехала Віка.

— Я пачула стрэлы... — Убачыўшы забітага Байкала, ускрыкнула: — Які жах! Хто гэта зрабіў?

Павал маўчаў. Змываючы ля вады кроў з разбітага твару, напарнік сказаў:

— Калі б не гэты сабака, не ведаю, што б яны са мной зрабілі!

Віка села на калені побач з Паўлам, паклала руку на ягонае плячо.

Ён падняў на яе заплаканыя вочы:

— Бацька прынёс яго маленькім шчанём. А я не змог зберагчы...

Побач праязджала чарада падлеткаў на матацыклах, прыпыніліся. Адзін з іх, вушасты, здзекуючыся, сказаў:

— Вы хоць шкуру здыміце. Будзе такая шапка! Вечная.

Павал успыліў:

— Дуй адсюль, вырадак! Пакуль не зняў шкуру з цябе!

Падлеткі пасмяяліся і паехалі.

Вярнуўся Радзівон.

— Злавілі, — сказаў ён, падыходзячы да мёртвага Байкала. Зняўшы фуражку, сказаў:

— Мне будзе яго не хапаць…

Усе разам паднялі Байкала, аднеслі да вырытай ямы, апусцілі. Залажыўшы зялёнымі галінкамі, засыпалі пяском.

— Цяпер у нашай сям'і, — сказаў Павал, — засталося толькі двое...

Віка ціхенька сціснула ягоныя пальцы.

За рулём «Мерседэса» быў Боб. Валянцін сядзеў побач. Яны ехалі па шашы. Па радыё грала ўсходняя музыка. Нечакана іх падрэзала легкавушка. Боб рэзка затармазіў, з'ехаў на ўскраек дарогі, пасігналіў, вылаяўся.

— Кандагар, вашу маць! Бачыш, як ездзяць?

Валянцін спытаў:

— У Афгане — цікавыя жанчыны?

— А то! У палоне мне гатавала чарнавокая Зухра. Аднойчы я пагладзіў яе руку, зірнуў у вочы. Спытала: «Муслім? Мусульманін?» — «Так, муслім. Няма Бога, апроч Алаха, а Магамет — прарок яго!» І яна падарыла мне такое свята кахання! Не думаў, што ўсходняя жанчына здатная на шаленства!.. Дасюль успамінаю.

Валянцін усміхнуўся.

— Потым чытала мне суры з Карана, перакладала. Наладзіла ўцёкі.

З акна «Мерседэса» Валянцін убачыў Віку і Паўла. На матацыклах яны каталіся па мелкаводдзі, падымаючы кучу вясёлкавых пырскаў.

— Зноў разам! — усклікнуў Боб.

— Трэба адправіць яе ў Англію, да маці, — сказаў Валянцін. — Хай там вучыцца.

— Можа, мне з ім пагаварыць, каб забыў сюды дарогу?

— Не трэба. Я пазнаёмлю яе з Лёшам.

— Так, гэты круты далёка пойдзе!

Віка памахала бацьку рукой, спыніла ў траве матацыкл, хутка распранулася, пайшла да вады.

— Ой, крапіва! Кусаецца, як кракадзіл! Ой! Паміраю!

Павал намачыў руку ў вадзе, правёў ёю паназе дзяўчыны.

— Зараз пройдзе. Крапіва — гэта карысна.

— Карысна?!

Ён сабраў крапіву, стаў лёгка біць сябе па руцэ.

— Раней у сялянскіх сем'ях крапіва была вельмі неабходнай. Кармілі курэй — нясліся ўсю зіму. Давалі каровам — павышаліся надоі. Кідалі ў малако — не скісала. Давалі куранятам — раслі хутчэй. — Ён узяў у рот некалькі пялёсткаў, пачаў жаваць.

Гледзячы на яго, Віка зморшчылася.

— Ды што ў ёй такога?!

— Запомні. Аскарбінавай кіслаты ў два разы больш, чым у чорных парэчках. А караціну больш, чым у моркве. Шмат жалеза. А ўжо пра тое, што вітамін К спрыяе нармальнаму зварочванню крыві, ведаюць нават зайцы.

— Калі б яна яшчэ так не пяклася!

Павал лёг на крапіву.

— Ты што робіш?!

— Яднаюся з прыродай, — стрымана адказаў ён.

Яна глядзела на яго з захапленнем.

Павал падняўся.

— Пайшлі, пакажу адно з цудаў свету.

Яны пайшлі да берага. Развёўшы сцяблінкі чароту, Павал паказаў ёй некалькі бялюткіх лілей.

— Афанарэць! Такая прыгажосць! — узрадавалася Віка і пацягнулася да кветак. — Вось гэта букет!

— Не рві! — спыніў яе Павал, — не чапай!

Яна спынілася, незадаволеная.

— Ё-маё! Павал, я не люблю, калі мне перашкаджаюць!

— На Усходзе гэта — лотасы. Будысты гавораць: «Усё багацце свету — у кветцы лотаса». Згодна?

Віка хмурылася і маўчала.

Валянцін прывёз Аляксея Малкіна ў асабняк.

Віка ля мальберта малявала пейзаж з вадаспадам. Убачыўшы таўставатага прыгажуна ў малінавым пінжаку і ў модных, шырокіх штанах, з карзінай заморскай садавіны, дзяўчына не змагла стрымаць усмешку.

— Чаму бізнесмены носяць шырокія штаны — хаваюць тавар ад мытнікаў?

— Знаёмся, — сказаў бацька дачцэ, — Аляксей Малкін, узыходзячая зорка нашага бізнесу.

— Мыеш машыны ці здаеш бутэлькі? — запытала Віка, даючы руку.

Нават не глянуўшы на яе работу, Аляксей крыва ўсміхнуўся. Валянцін заўважыў:

— Калі б ты ведала, якім капіталам ён валодае, так не жартавала б.

Аляксею сказаў:

— Гэта яе манера размаўляць, не надавай увагі.

Аляксей бесцырымонна разглядаў дом, падышоў да клавішнага электраінструмента, віртуозна сыграў папуры модных мелодый. Валянцін з дакорам сказаў дачцэ:

— Бачыш? Маэстра! А ты не хочаш займацца музыкай!

Віка спытала Аляксея:

— Праўда, што ты кінуў школу?

— А што яна мне дасць? — Ён адышоўся ад інструмента, разглядаў у серванце японскі і кітайскі фарфор. — Патрэбны курсы па бізнесу. І замежная мова.

— Ну, а як жа — без атэстата, дыплома?

— Будуць, — усміхнуўся Аляксей. — І атэстат, і дыпломы.

— А спорт табе не патрэбны? — з’едліва спытала Віка. — Лішнія кілаграмы за долары не прадасі!

— Галава больш важная. Калі спатрэбіцца, куплю любога чэмпіёна. Будзе мяне ахоўваць. — Ён цяжка плюхнуўся ў шырокае скураное крэсла. — Італія? Пяць тысяч баксаў?

— Больш, — сказаў Валянцін.

Аляксей уважліва агледзеў мэблю.

— Пераплацілі! Калі б пазванілі, я б сказаў, дзе такая мэбля больш танная.

— Усё ведаеш? — спытала Віка.

— Прафесія. Люстру варта замяніць — гэта для плябеяў.

Павал на матацыкле пад’ехаў да варот. Выйшаў Боб, склаўшы далоні на грудзях, жарцікам пакланіўся.

— Віка абяцала кнігу, — сказаў Павал.

— Паехала ў горад, — не маргнуўшы вокам, зманіў Боб. З розных палажэнняў ён лоўка кідаў фінку ў дрэва. І ні разу не прамахнуўся.

— Спрытны! — ацаніў Павал. — Як жа так? Чаму ж прасіла прыехаць?

— А то! Перадумала. Не ведаеш жанчын?

Павал развярнуў матацыкл, але раптам пабачыў Віку і Аляксея, якія спускаліся па лесвіцы ў сад.

— Усё зразумеў? — спытаў Боб. — Гэты хлопец не нашмат старэйшы за цябе, але можа купіць ёй на дзень нараджэння тачку, «Альфа Рамэа» ці нават «Мерседэс». У бізнесе — яму няма роўных! Геній! Бабкі выдзімае з паветра. А што можаш ты? Заклеіць кола? Я цябе, брат, разумею, але лепш бы ты забыў сюды дарогу.

— Выбачайце, сэр, але ў мяне іншая праграма.

— Стаць лекарам? Ужо не модна. Таленты ідуць у бізнес!

Павал запярэчыў:

— Ты пойдзеш лячыцца да сярэдняга ўрача?

— Я — не пайду. Ён прыйдзе да мяне, дахаты! І будзе рассыпацца макам дзеля чаявых. — Боб паглядзеў на Аляксея і Віку, якія гулялі ў бадмінтон. — Зразумеў, хто герой сёння?

Павал раптам раззлаваўся:

— Калі здарыцца, трапіш да мяне на стол, аперацыю я табе зраблю. Але без навакаіну! Запомні!

Боб спрытна кінуў фінку ў дрэва, рассмяяўся:

— Эх, кораш! У Афганістане духі каталі мяне без усялякага навакаіну!.. Вытрымаю!

Павал завёў матацыкл і паехаў. На горку падымаўся са злосцю, выжымаў з матацыкла ўсё, на што ён быў здольны.

Павал паглядзеў у акно. Ён убачыў, як да дома пад'ехаў «Масквіч». У машыне знаходзіліся Фёдар Сцяпанавіч і Надзея Пятроўна. Калі машына спынілася ля пад'езда, маці абняла хірурга, пацалавала, лёгка выскачыла з машыны, кінула позірк на вокны.

Павал адскочыў ад акна. Паглядзеў на фотаздымак бацькі на сцяне. Імгненне памарудзіўшы, схапіў куртку, выскачыў за дзверы, па лесвіцы кінуўся наверх.

Ні Надзея Пятроўна, ні Павал не бачылі, як двое моцных малайцоў сталі на дарозе «Масквіча», спынілі машыну. Толькі хірург прытармазіў, як яны рыўком адчынілі дзверцы, селі ў салон.

— Паехалі! Хутчэй!

Ззяючая Надзея Пятроўна адчыніла ключом дзверы.

— Павал, — паклікала яна.

У адказ — маўчанне.

— Павал, ты дома?

Адказу не было. Надзея Пятроўна задумалася — яна была ўпэўнена, што бачыла сына ў акне.

На пустыры бандыты загадалі хірургу спыніцца.

— Не бойся. Будзеш разумным, не зачэпім ні цябе, ні лайбу. Патрэбныя ампулы.

Хірург сказаў:

— Гэта немагчыма, хлопцы. Строгі ўлік!

— Ведаем. А ты — зрабі. Інакш... Новая тачка? Як бы не давялося купляць другую!

У спартыўным касцюме, з тэніснай ракеткай Віка сустрэла Паўла ў горадзе.

— Ты куды прапаў?

— Нікуды.

— А чаму не прыехаў, як дамаўляліся?

Ён уважліва паглядзеў, але нічога не сказаў.

— Паўлік, я сумую без цябе! — яна ўзяла яго за руку. — Абяцай, што прыедзеш заўтра. Добра?

Пасля доўгага маўчання Павал пагадзіўся:

— Добра.

— Спазняюся на трэніроўку! — усміхнулася яна. — Пойдзем на корт, паглядзіш, як я гуляю.

— Іншым разам.

— Чао!

Валянцін і Боб ехалі на лецішча. Наперадзе пабачылі Віку з Паўлам на матацыклах. Яны скакалі праз канаву, дурэлі.

Валянцін усміхнуўся:

— Старое каханне не ржавее?

Боб незадаволена пакачаў галавой.

Гледзячы ў люстэрка задняга віду, Валянцін сказаў:

— Здаецца, неблагі хлопец. Трэба прыцягнуць яго да справы.

Боб зморшчыўся.

— Валянцін, колькі разоў я бачыў яго з маладым міліцыянерам на матацыкле.

— Ну і што?

— Нічога. Але калі працуе паведамляльнікам... Такі сябар для нас — што міна пад падушкай.

Пасля доўгага маўчання Валянцін сказаў:

— Запрашу яго дадому.

«Мерседэс» уехаў у вароты.

Павал праводзіў машыну позіркам.

— Паехалі да нас, — прапанавала Віка.

Павал жартаўліва падняў рукі да неба:

— Грэшніца, я пакажу табе дарогу да храма! За мной!

Праз нейкі час яны пад’ехалі да царквы. Пакінулі матацыклы. Увайшлі ў будынак. Там вянчалі маладых. Убачыўшы Віку, малады святар усміхнуўся і злёгку нахіліў галаву ў знак прывітання.

Павал шэптам з усмешкай спытаў:

— Ходзіш да яго на споведзь?

Гэтак жа шэптам Віка адказала:

— Бацька даў грошы на аднаўленне храма.

Павал з цікавасцю глядзеў навокал.

Ён запаліў свечку, паставіў, прашаптаў:

— Божа, зрабі так, каб ён не памёр.

Віка ўважліва паглядзела. Таксама запаліла свечку.

— Каб з бацькам, Божачка, нічога не здарылася...

Павал задумліва глядзеў на алтар.

Пасля вянчання святар падышоў да Вікі, спытаў:

— Як бацькава здароўе?

— Выдатна.

— Аберагай яго Бог! Ідзёмце. — Ён павёў іх да дамка ўбаку, паказаў шчанят.

— Якія слаўныя! — усклікнула Віка, узяла аднаго на рукі, пачала песціць.

Святар сказаў:

— Аўчарка. Хочаце, аднаго падару?

Віка ўзрадавалася.

— Павал!

Хлопец адказаў не адразу.

— Не. — Пасля паўзы патлумачыў. — Гэта было б здрадай…

Яны ішлі да матацыклаў. Зірнуўшы на сумнага Паўла, Віка спыталася:

— Ну, што здарылася?

Ён адказаў праз працяглую паўзу:

— У маці раман з Фёдарам Сцяпанавічам, калегам. Калі я гэта зразумеў, як кіпнем абварыла!

— А табе што?

Павал уздыхнуў:

— Апякло — здрадзіла бацьку?! Потым падумаў… Фёдар харошы чалавек. — Ён памаўчаў. — Як толькі даведаецца яго жонка…

— У яго сям'я?

— Не зусім здаровая жонка, двое дзетак.

— Можа, і не даведаецца. І мама будзе шчаслівая.

Памаўчалі. Віка сказала:

— А чаму б ёй не знайсці нежанатага мужчыну?

— Дзе? На дыскатэцы? З раніцы да вечара ў шпіталі. Дзяжурыць і па начах.

Віка задумалася, а потым прызналася:

— Тата таксама сустракаецца з іншай жанчынай. Павал, чаму нельга кахаць вечна?

— У мяне так будзе. Калі пакахаю — на ўсё жыццё.

— Дай Бог чутае бачыць, гаворыць мая бабуля, — усміхнулася яна.

— Віка, давай з'ездзім у шпіталь да Косці. Трэба падняць яму настрой.

— Давай!

Косця, ідучы па калідоры шпіталя, згубіў прытомнасць.

— Сястра! — закрычаў нехта з хворых.

Хлопца хутка перанеслі ў палату, зрабілі ўколы, паставілі кропельніцу, далі кісларод.

Павал і Віка ўехалі ў двор шпіталя. Насустрач ім выйшла Надзея Пятроўна ў белым халаце, адмоўна паматала галавой, нешта сказала. Віка ўважліва разглядала хворых на прагулцы. Настрой яе сапсаваўся. Надзея Пятроўна ўздыхнула:

— Прабачце, у мяне аперацыя.

— Можна нам паглядзець? — спытаўся Павал.

— Ні ў якім разе! Не! — рашуча адмовілася Віка.

У асабняку Валянцін адчыніў дзверы прасторнага пакоя, прапанаваў Паўлу ўвайсці. На сталах стаялі два камп'ютэры.

— А навошта другі? — пацікавіўся Павал.

— Для Вікі. — На сцяне вісеў партрэт Мэрлін Манро. — А гэта бібліятэка.

Павал не хаваў здзіўлення.

— Столькі кніг!

Валянцін з гонарам агучыў:

— Некалькі тысяч тамоў.

Павал хадзіў ля палічак з кнігамі, хціва чытаў назвы, беражліва гартаў.

— Я паставіў бы тут раскладанку і ўсе ночы…

— Віка зрэдку чытае да раніцы.

— Такі шык!

— Ха! — усміхнуўся Валянцін. — У мяне ёсць старадаўнія кнігі коштам з машыну.

Павал узяў кнігу з паліцы.

— «Медыцына старажытнага Кітая». Можна, вазьму пачытаць?

— Прабач, сюды прыходзь, чытай гадзінамі…

Павал паставіў кнігу назад.

— Вы ж ніколі не зможаце іх прачытаць.

Валянцін паблажліва пасміхнуўся:

— Вось пакіну справы… Пайшлі пап’ём гарбаткі. — За сталом ён наліў гарбаты з дарагога кітайскага чайніка з драконамі ў піялы. — «Эрл Грэй».

— Смачны! Я такога не піў!

— З бергамотам. Шкада, што не расце ў вас на Палессі. Праўда? — усміхнуўся Валянцін. — Даўно паехаў? — Валянцін адкрыў дарагую каробку цукерак, падсунуў печыва.

— Пасля аварыі.

— І ўсё прыйшлося пакінуць? — уздыхнуўшы, Валянцін абвёў вачыма багата абсталяваны пакой. — Не ўяўляю — калі б у адно імгненне згубіць...

— Ад сумы і турмы не заракайся, казалі ў мінулыя часы.

— Да чаго ты гэта?

— Ні да чаго — прыказка. Віка хутка вернецца?

— Затрымалася на трэніроўцы. Яна казала, твая мама — медык?

— Хірург найвышэйшай катэгорыі. Робіць такія складаныя аперацыі!

— Вось як! Колькі зарабляе?

— Якая розніца?

Валянцін усміхнуўся:

— Амерыканцы кажуць: колькі чалавек зарабляе, столькі ён і каштуе.

— Дазвольце не пагадзіцца. Паміраючы ў галечы Рэмбрант, Мадыльяні... У вечных даўгах Моцарт... Дастаеўскі... Многія таленты жылі ў пастаяннай галечы.

— Хочаш быць урачом?

— Добрым.

— Каб шмат зарабляць?

— Каб выцягваць безнадзейных хворых.

— Пахвальна! Вось толькі жыць на жабрацкую зарплату...

Павал раззлаваўся:

— Ды што вы зацыкліліся на грошах? Можа, у жыцці ёсць нешта больш цікавае!

— Ці ж не быццё вызначае свядомасць? Павал, чаму б табе між іншым не заняцца бізнесам? Сёння прафесары прадаюць БАДы, пісьменнікі пішуць рэкламныя тэксты. У твае гады можна нядрэнна зарабіць! Я магу дапамагчы.

— Як вы пачыналі?

Валянцін уздыхнуў:

— Цяжка, чуў такое слова — цэхавік?

— Ну.

— Вытворчасць вялікіх грошай не давала. Гандляваў камп’ютэрамі. З таварам ездзіў у Польшчу, у Турцыю. Бывала, білі, грабілі... Падманвалі… Пагаджайся, Павал! Заўтра мае людзі едуць у камандзіроўку, паедзеш з імі.

Павал не пагадзіўся.

— Хай кожны займаецца сваёй справай.

— Тваёй маці была б такая дапамога, і кніг мог бы купіць!

Павал прамаўчаў. Потым сказаў:

— Не ляжыць у мяне душа да камерцыі.

І тады Валянцін амаль узарваўся:

— А дарагі чай любіш... Ці хопіць твайго ўрачэбнага жалавання, каб утрымліваць любімую жанчыну? Купляць дарагія духі прывыклай да раскошы?.. Калі яшчэ закончыш інстытут!

— Хочаце, каб не сустракаліся?

— Гэта вашы справы. Але не ўскладняй жыццё ні сабе, ні іншым. Рана ці позна жанчыны вызваляюцца ад рамантыкі. І тады... Каханне праходзіць, а патрабаванні растуць і растуць...

Павал падняўся.

— Больш я не магу яе чакаць.

Валянцін праводзіў яго да варот.

— Мне падабаецца твой характар. Але табе перашкаджае «саўковае» ўяўленне пра бізнес. З часам пачнеш думаць іначай. А аднагодкі будуць наперадзе.

На беразе ракі Павал стаяў з вудай. Зрабіў падсечку, выцягнуў рыбу.

На матацыкле пад’ехаў Радзівон, спытаўся:

— Не бачыў дзяўчыну на чырвоным матацыкле?

— Звядуць цябе дзеўкі!

— З часам зразумееш, што гэта самае выдатнае…

— Няўжо не рыбалка? — спытаўся Павал з прыхаванай усмешкай. — Вядзеш рыбаньку спінінгам, падводзіш да берага. Потым сачком — раз!

Павал зняў з кручка рыбіну сярэдняга памеру, выкінуў у ваду.

— Ты што робіш?! — здзівіўся Радзівон.

— Ці ж гэта рыба? — з расчараваннем сказаў Павал. — Часам думаю — можа, вярнуцца ў зону? Гавораць, старыя вяртаюцца і жывуць.

— У іх жыццё ў асноўным прайшло… А нам, зямлячок, яшчэ жыць і жыць.

— Не падабаецца мне тут, — прызнаўся Павал.

Радзівон уздыхнуў. Яго выклікалі па рацыі.

— Сёмы слухае. Еду! — Ён завёў матацыкл.

Наверсе, на мосце, на вялікай хуткасці праімчалася Віка. Радзівон незадаволена павярнуў галаву.

— Перадай сяброўцы: калі будзе ганяць, як шаленая, я яе аштрафую!

— Гэтым яе не напужаеш.

— Тады пасаджу ў дрэнную турму! Пакуль не разбілася, — сказаў Радзівон і рвануў з месца.

Віка ехала палясной дарозе. Вакол спявалі птушкі. Яна стала насвістваць. Птушкі ёй адказвалі. Завязаўся цікавы дыялог. Вікторыі стала весела. Раптам Віка азірнулася і ўбачыла, што за ёй на матацыклах едзе страката апрануты гурт падлеткаў. Яны па чарзе пілі з бутэлькі спірт «Раял».

— Цьфу! Які балван набухаў столькі шампанскага?

— «Паўночнае ззянне» б’е, нібы кувалда! Калі б не развёў, ты б адразу зваліўся з колаў!

Віка паспрабавала ўцячы. Але падлеткі заціснулі яе матацыкл між сваімі і ехалі, не даючы магчымасці звярнуць, весяліліся, дурэлі. Старэйшы прапанаваў:

— Золатка, давай пагуляем! Ты — наша каралева!

— Царыца! — сказаў вушасты.

— А мы твае рабы! Будзеш нам указваць!

— Вось гэта падарунак! — усклікнуў віхурысты.

— Адцягнемся на ўсю катушку! — весяліўся вушасты.

— Цёлка што трэба! — усклікнуў старэйшы, паляпаўшы яе ніжэй спіны. — Ох, і пазабавімся, братва!

— Не чапайце мяне! — перапалохана прасіла Віка.

Але падлеткі з жартамі везлі яе ў лес.

Рыба не бралася. Побач, па мосце, праграмыхаў цяжкі цягнік. Павал прыкрыў вочы рукою і ўспомніў іншы шум — у месяцовую ноч па жалезным мосце праз раку праходзіў пасажырскі цягнік. Святло з акон адбівалася ў вадзе. Здалёк падавалася, нібы рухаюцца два цягнікі, уверсе і ўнізе…

Павал не мог зразумець, чаго ён нервуецца. Так ён адчуваў сябе перад нейкай бядой. Ён звярнуў вуды, сеў на матацыкл і пакаціў па дарозе.

Насустрач яму, азіраючыся, імчалі на веласіпедах дзве перапалоханыя дзяўчынкі.

— Эй, што здарылася? — спытаўся Павал.

Дзяўчынкі не адказалі. Але адна з іх паказала рукой у бок лесу. Яны выехалі на шашу і паляцелі ў горад.

Павал вырашыў паглядзець, што іх так напужала, паехаў у лес.

Падлеткі звярнулі за кусты, сцягнулі Віку з матацыкла.

— Вось гэта тачка!

— Круты байк! Цур, мой!

— Ты што, дурань! Другога такога ў горадзе няма! Хочаш у каталажку?

Зрабіўшы круг, яны распачалі недарэчную гульню — штурхалі Віку з розных бакоў, пашчыпвалі, казыталі, заводзячы сябе. Потым, гуляючы, сталі рваць на ёй адзежу, распранаць.

— Дружбаны, на поўную пагуляем!

Віка адбівалася, маліла:

— Адпусціце мяне, калі ласка!

— Ты, дурнічка, не рвіся, паспрабуй атрымаць кайф. — Віхурысты працягнуў ёй бутэльку. — Хлебані шампані з «Раялам». Усё роўна табе зараз ад нас не ўцячы…

Яна адкінула бутэльку.

Яшчэ здаля Павал заўважыў раздурэлы натоўп. Пад’ехаўшы бліжэй, убачыў, як падлеткі зрывалі з Вікі адзенне, а яна абаранялася як магла. Сілы былі занадта няроўныя. Пашукаўшы на зямлі рэч, з якой можна было б кінуцца ў бойку і нічога не знайшоўшы, Павал раптам кінуў матацыкл, выцягнуў з кішэні складанчык, адчыніў яго, наблізіўся да падлетка, які найбольш заўзята распранаў Віку. Пранізліва свіснуў у пальцы, локцем зацiснуў шыю вушастага падлетка, прыставіў нож да яго шыі. Астатнія азірнуліся, збянтэжана глядзелі на Паўла. Пагляд яго быў рашучым.

— Гэта мая сястра. Калі вы яе не адпусціце, я яго зарэжу!

— Эй, кораш, не дурэй, — крыкнуў старэйшы. — А то прыкончым!

— Смерці я не баюся, бачыў, — сказаў Павал. — Але перад тым дваім-траім бруха распару!

Вастрыё нажа ён паступова ўдаўліваў у шыю падлетка.

— Ну?! Вось сонная артэрыя. Калі перарэжу, ніхто не ўратуе… Лічу да пяці. Раз, два, тры…

Вушасты раптам пранізліва закрычаў:

— Браткі, ратуйце!

Падлеткі хацелі кінуцца на дапамогу, але Павал крыкнуў:

— Назад, падла! Закалю!

У яго паглядзе была такая рашучасць, што тыя спыніліся.

— Ну ты і тормаз! — сказаў старэйшы.

— Бярыце байкі і дуйце адсюль! — скамандаваў Павал. — Калі будзеце на шашы, я яго адпушчу.

— Вар’ят, ці што?

— Вальтануты!

— Ладна, заканчвай! — усклікнуў старэйшы і сплюнуў.

— Ды да д’ябла нам гэта пігаліца!

— Каб з-за гэтай вешалкі…

— Ён што, не дадуў? Мы гулялі! Далбануты…

— Ну і дзеўка! Сама заманіла, завабіла… Цьфу!..

Яны селі на матацыклы і неахвотна накіраваліся да шашы.

— А з табой, сука, мы яшчэ сустрэнемся! — пагразіў старэйшы.

Павал нягучна сказаў Віцы:

— Гані дадому!

Дрыжачымі рукамі Віка схапіла матацыкл, села і паімчалася ў бок асабняка.

Праз нейкі час Павал адпусціў падлетка. Нагнаў Віку ля варот. Яна спынілася. Дрыжала, рыдаючы.

— Супакойся. Усё скончылася. Забыла пісталет?

— Вось ён. Але я так разгубілася… — Яе біла ліхаманка. Цокалі зубы.

— Прымі гарачы душ і выпі чаго-небудзь. Ну, супакойся ж! Віка! — Павал гладзіў яе валасы.

Падыйшоў Боб. Змрочна глядзеў на абоіх.

— Што ты з ёй зрабіў? — запытаў Боб.

Павал маўчаў. Віка ўсхліпвала.

На «Мерседэсе» пад’ехаў Валянцін, выйшаў з машыны.

— Што тут адбываецца? — трывожна спытаўся ён, гледзячы на парваную сукенку дачкі.

Размахнуўшыся, Боб урэзаў Паўлу з такой сілай, што той зваліўся з матацыклам.

— Ідыёт! — з гневам крыкнула Віка. — Ён жа мяне ўратаваў! Ад цэлай банды!

Яна кінулася да ляжачага на пыльнай дарозе Паўла. Падышоў Валянцін. Яны дапамаглі Паўлу ўстаць на ногі. Свядомасць да яго вярталася марудна.

— Даруй, браток, не зразумеў, — развёў рукамі Боб. — Што ж адразу не сказаў?

— Пойдзем да нас, адпачнеш, — прапанаваў Валянцін Паўлу.

— Мне час ісці дадому.

— Бацька, адвязі яго!

— Канечне, — сказаў Валянцін.

— Не трэба, я сам, — Павал сеў на матацыкл.

— А раптам яны чакаюць цябе на дарозе? — спужана сказала Віка.

Павал паспрабаваў усміхнуцца, але ўсмешка атрымалася вымучанай:

— Разбяромся.

Ён няроўна пакаціў па сцежцы.

— Божачкі! — усклікнула Віка. — Ну чаму так па-дурному атрымліваецца?!

Дома Надзея Пятроўна сустрэла яго сумным паведамленнем:
— Павал, Косціку стала горш.

У лесе Фёдар Сцяпанавіч перадаў ампулы Бобу і ягоным сябрам.
— Калі б вы ведалі, як я рызыкаваў…
— Колькі хочаш баксаў?
— Мне нічога не патрэбна! Давайце разыдземся і забудзем.
Боб усміхнуўся:
— Кажуць, нядрэнны хірург? А простых рэчаў не разумееш. Цяпер мы — адна каманда.
— Чаго вы ад мяне хочаце?!
— Нічога асаблівага. Даведайся, калі фіны прывязуць медыкаменты.
— Не разумею.
— Даведайся, калі прыедзе фургон.
Фёдар Сцяпанавіч зразумеў.
— Не!
Боб уважліва паглядзеў:
— Мы ведаем, дзе працуе твая жонка, басейн, які наведвае твой сын… Музычную школу, куды ходзіць дачка… Ці ты скажаш, калі прыбудзе фургон з медыкаментамі, ці…
Хірург доўга маўчаў. Нарэшце ціха вымавіў:
— Семнаццатага.
— Вось і добра. — Боб пашлёпаў яго па шчацэ.

У горадзе Фёдар Сцяпанавіч спыніў машыну побач з будынкам, на якім вялікімі літарамі было напісана «Міліцыя». «Ты можаш гэтаму перашкодзіць, — думаў ён. — Але што далей? Ці зможа міліцыя абараніць тваіх дзяцей? Не…»
Заўважыўшы, што на яго пачаў паглядаць паставы міліцыянер, хірург паехаў далей.

Павал доўга катаўся па беразе ў пошуках Вікторыі. Але калі пачало змяркацца, ён пад'ехаў да высокай цаглянай сцяны, якая акаляла сядзібу. За сцяной чуліся музыка, ажыўленыя галасы мужчын і жанчын, прамаўлялі тосты — святкавалі дзень народзінаў Валянціна.
— За імянінніка!
— Многія леты!
Азірнуўшыся па баках, Павал па дрэве асцярожна залез на сцяну і паглядзеў уніз.
Там былі бачныя сталы, асветленыя кітайскімі ліхтарыкамі. Ля вогнішча на мангале гатаваўся шашлык. Тут жа смажылася рыба і птушка. У басейне плавалі кавуны і дыні, там жа дурэлі дзеці. Прыгожа апранутыя госці пілі і вучыліся есці палачкамі…
Віка стаяла з Аляксеем, які пажартаваў:
— Ведаеце, калі настане сусветны голад? Калі кітайцы пачнуць есці лыжкамі.
Віка ўсміхнулася.
— Калі б ты еў палачкамі, быў бы худым, як кітаец!
Пасмяяліся. Разбіўшыся парамі і на групы, госці гулялі па алеях садка.
Маладыя танчылі на пляцоўцы.
Група навічкоў жартам забаўлялася кальянам, нюхала траўку.
Павал вачыма шукаў Віку…

Да варот працягвалі пад'язджаць машыны з гасцямі.
Часам чуліся хлапкі адкаркаваных бутэлек з шампанскім…
Валянцін і сівавалосы мужчына хадзілі па сцежцы.
— Даўно сюды не зазіраў, Сямён! — сказаў Валянцін.
— Ні хвіліны вольнай, па сабе ведаеш.
— Трое дзетак?
— Чацвёра ўжо!
— Віншую! Сямён, у цябе не галава — камп'ютэр! На курсе быў самым здатным. А зараз чым займаешся? Давай папрацуем разам.
Памаўчаўшы, Сямён сказаў:
— Валянцін, не хачу рызыкаваць, хадзіць па лязе.
Гаспадар асабняка пасміхнуўся.
— «Хто не рызыкуе, той не п'е шампанскага»! Ты ж ведаеш, самы вялікі прыбытак даюць рызыкоўныя аперацыі.
— Выбачай, але я хачу спаць спакойна, займацца вытворчасцю і чэсным бізнесам.
— У нас?
Сямён уздыхнуў.
— Мяркую, далей будзе лепш. — Ён памаўчаў. — Валянцін, магу я даць параду?
— Канечне.
— Не вельмі давярай кампаньёну, Аляксею Малкіну. Ён задумвае супраць цябе аферу.
Валянцін рассмяяўся.
— Дзіўна проста!
— Я табе нічога не гаварыў.
Здалёку Валянцін задуменна паглядаў на Аляксея.
Седзячы на сцяне, Павал убачыў Віку і Аляксея. Яны ліха вытанцоўвалі самбу. Танец скончыўся. Усе заапладзіравалі.
У небе свяціліся лічбы «40». Пачаўся шумны феерверк, з ракетамі, петардамі.
У альтанцы, недалёка ад сцяны, Боб размаўляў са спартыўнага выгляду мужчынам, у якога валасы былі падстрыжаны пад вожыка.
— З вадзіцелямі я дамоўлюся. Патрэбна група байцоў.
— Пакупнікі знойдуцца? — ціха запытаў стрыжаны.
— Колькі заўгодна! Толькі свісні…
— Але ж калі з трасы знікне фура з медыкаментамі — гуманітарная дапамога! — мянты пачнуць такі шмон!
— Пакуль раскачаюцца, справа будзе зроблена.
— Валянцін з намі?
— Абыдземся. Можа тармазнуць.
Убаку Павал зноў пабачыў Віку — яна размаўляла з маладой жанчынай — і пачаў рабіць ёй знакі, спрабуючы прыцягнуць яе ўвагу.
— Віка! Вікторыя!
Сабакі яго пачулі. Яны кінуліся да сцяны і пачалі брахаць.
Павал саскочыў са сцяны, сеў на матацыкл і рвануў у цемру, натыкаючыся на кусты і дрэвы.
Мужчына і Боб пераглянуліся.
— Ён чуў?
— Наўрад ці, далёка, — супакоіў Боб.
Заўважыўшы на сабе пільны позірк Валянціна, кіўнуў:
— Але захады я зраблю…
Віка пабегла да варот, расчыніла весніцы. Матацыкл ад'язджаў у цемру.

Свяціла сонца. Павал спакойна каціў па абочыне асфальту. Джып нагнаў яго і раптам бокам спіхнуў у кювет. Павал некалькі разоў перакуліўся, ледзь не ўрэзаўся ў дрэва. Устаў, памацаў пабітыя месцы — косці былі цэлыя. Джып аддаляўся. Павал паглядзеў на пашкоджаны матацыкл — яму быў патрэбны сур'ёзны рамонт.

Увечары патэлефанавала Віка, незадаволена сказала:

— Ты зноў знік? Мы ж дамовіліся сустрэцца!

— Баюся, не атрымаецца.

— Чаму?

Памаўчаўшы, Павал расказаў:

— Мяне на шашы з матацыклам наўмысна збіў джып.

— Якая машына? Нумар?

— Не паспеў разгледзець.

Віка паклала слухаўку і рашуча накіравалася ў бацькаў пакой. Дзверы былі зачыненыя. Віка настойліва пастукала.

Праз некаторы час пачуўся голас Валянціна:

— Віка, у чым справа? Я сплю.

— Паўла ледзь не забілі! Твая работа?

Устаўшы з ложка і накінуўшы халат, Валянцін нягучна сказаў бландзінцы:

— Схавайся!

Падышоўшы да дзвярэй, прачыніў, але так, каб Віка не змагла ўвайсці.

— Я нічога не ведаю. Пагаворым заўтра.

У шчыліну Віка ўбачыла бландзінку, якая ўсміхалася.

Віка павярнулася і пабегла ў двор. Ля варот гуляў Боб.

— За што ты хацеў забіць Паўла?

— Бог з табой! Калі?

— Учора! На джыпе!

— Я тры дні не выязджаў з дачы. Любы пацвердзіць!

— Значыцца, гэта былі твае сябрукі!

— Апамятайся! Так, я лічу, што ён табе не пара. Але не забіваць жа за гэта! Ёсць шмат іншых спосабаў адвадзіць…

— Якая твая сабачая справа?!

— Я служу твайму бацьку, — спакойна адказаў Боб.

— Вось назло вам нараджу ад яго!

— Давай! Толькі спачатку я завязу цябе ў дзіцячы дом інвалідаў.

— Нашто? — аслупянела Віка.

— А то! Убачыш, каго нараджаюць чарнобыльцы.

Віка адказала не адразу:

— Яго гэта не кранецца.

Боб сказаў:

— Ты забудзься. Усё роўна рана ці позна разбяжыцеся…

Не сказаўшы ні слова, Віка вярнулася ў дом.

У зале яе чакаў Валянцін.

— Дождж ідзе?

Віка не адказала.

— Бацька, ты парушаеш законы?

Валянцін уважліва паглядзеў.

— Калі выконваць усе абмежаванні, бізнесу не будзе. Не хвалюйся, дачка. Я не раблю нічога такога, чаго можна было б саромецца.

— Праўда?

— Тое, што я раблю, для Захаду — звычайная практыка. Заўтра стане нормай і ў нас.

— А як з падаткамі?

Валянцін уздыхнуў.

— Калі плаціць па правілах, пайшлі б па свеце жабраваць: «Падайце, Хрыста дзеля, на выплату падаткаў!»

Віка паглядзела з дакорам:

— Здрадзіць маме…

— Віка, ты ўжо дарослая. Каханне не вечнае. Мы з маці і так доўга… Мужчына можа кахаць столькі жанчын, на колькі яго хапае.

— Ты кажаш гэта і маме?

— Я яе ні ў чым не абмяжоўваю. І яна гэтым карыстаецца.

— Ну і сямейка!

— Віка, я ўсё жыццё працаваў, як катаржны. Інжынерам нічога не меў. Сёння добра зарабляю. І хачу жыць поўным жыццём. А ўсё гэта — ён абвёў вачыма залу, абстаноўку — застанецца табе. Бліжэйшага ў мяне нікога няма.

Віка падышла, прытулілася да бацькі.

— Тата, тата!..

У дзверы пазванілі. Павал адчыніў і ўбачыў на пляцоўцы Віку.

— Калі гара не ідзе да Магамета, — усміхнулася Віка, — то Магамет ідзе да гары.

— Уваходзь, Магамет, — сказаў Павал. — Пачастуйся юшкай. Такой ты яшчэ не ела.

— Дзякуй. Не галодная я.

Віка ўвайшла, агледзела сціплую абстаноўку. Узяла раскрытую кнігу.

— Пірагоў? Хто гэта?

— Вялікі хірург! Вера ў яго магчымасці была такой глыбокай, што аднойчы падчас бою салдаты прынеслі свайго таварыша з адарванай галавой. «Мікалай Іванавіч, вы можаце ўсё. Калі ласка, ажывіце…»

На сцяне яна ўбачыла фотаздымак мужчыны, які ўсміхаўся.

— Бацька? Як гэта здарылася?

— Выратоўваў іншых, пасля аварыі на станцыі…

— Памятаеш, якім ён быў?

— Моцным, жыццярадасным. Браў палатку, надзяваў на мае плечы заплечнік — а было мне чатыры гады — і ў паход!.. Увечар сядалі ў лодку і рыбачылі — да раніцы! Умеў усё! Прымушаў мяне рабіць тое, чаго я не хацеў… Тады я злаваў. Зараз удзячны яму за гэта. І такога чалавека — няма. А якая-небудзь сволач… Чаму такі свет? Калі Бог ёсць, чаму ён такое дазваляе?

— Спытай што лягчэйшае. Цыгарэты ёсць?

— Ты смаліш? — здзівіўся Павал.

— Часам. Забаўляюся.

— Дарма, — засмуціўся Павал. — Для мяне пацалаваць дзяўчыну, якая смаліць… Што попельніцу.

— Які дрымучы! На Палессі — усе такія?

— Праз аднаго.

Яна наблізілася і прытулілася.

— Як гэта разумець? Замерзла? — запытаў Павал, не ведаючы, што рабіць са сваімі рукамі.

— Абдымі мяне моцна-моцна!

Яна прытулілася да яго ўсім целам. Павал раптам адштурхнуў яе ад сябе, прайшоўся па пакоі.

— Гарбаты хочаш? — запытаў ён.

— Павал, надакучыла быць цнатлівай. Як казалі ў Старажытным Рыме? Цнатлівая таму, што яе ніхто не пажадаў.

Ён нервова рассмяяўся.

— Божа, да чаго ж ты яшчэ неразумная! Сарваныя кветкі хутка вянуць.

— Лухта! Ад кахання жанчыны толькі квітнеюць.

Яна паклала пальцы на яго руку, пачала лашчыць, пацягнулася да яго.

— Адыдзі!

Віка заляпіла яму гучную аплявуху.

— Ты абразіў мяне як жанчыну!

Раптам дзяўчына заплакала.

— Ну, чаго ты?

— Паўлік, мне страшна! Калі гэтая навалач пачала рваць адзежу… Думала, знепрытомнею! Калі гэта калі-небудзь паўторыцца… Не хачу, каб нейкая сволач была першай!

— Ага! Дзякуй. Гэтай сволаччу ты прапануеш стаць мне?

— Ты — зусім іншае. Павал, я хачу, каб упершыню — з пяшчотай, з любоўю… З чалавекам, які падабаецца… А там — нешта будзе.

Павал разгублена вымавіў:

— Я… Я не ведаю, што табе сказаць.

— А ты не гавары. — Яна падышла да ложка, села. — Ідзі сюды.

— Віка, у мяне таксама нікога не было.

Павал падышоў да цэнтра, стаў перабіраць дыскі.

— Лепш я пастаўлю табе музыку. Што хочаш — «Бітлы», Адама, Дэміс Русас?

Загучала «Гуд бай, май лав, гуд бай!» Віка не рэагавала на музыку.

— Лаліце колькі гадоў было? Дванаццаць. Я бабуля ў параўнанні з ёй!

— Хто гэта Лаліта?

— Не чытаў Набокава?!

— Я чытаў Гіпакрата, Авіцэну, Амосава!

— Пакрыўдзіўся, так? Ну, даруй. Дай я цябе пашкадую… Мой мілы доктар!

Яна пачала абдымаць яго, лашчыць, цалаваць. З кішэні дастала і паклала на стол пакецік у яскравай упакоўцы. Расшпіліла сваю кофтачку, яго кашулю, стала цалаваць…

— Віка, за гвалт патрапіш за краты, атрымаеш тэрмін!

— Адседжу!

Потым яны ляжалі на ложку ў абдымках адно аднаго. Ён сказаў:

— Разам — і назаўсёды!

— Ты ўпэўнены?

— Віка, я даўно... Як толькі пабачыў! Тады, побач з матацыклам… Фея, якая зачаравала… Пачакай, пакуль стану ўрачом.

Віка ўсміхнулася, пальцам націснула на яго нос.

— Эскулап! А ведаеш, якая гісторыя была ў Марка Твена? Аднойчы ў знаёмых ён сустрэў дзяўчынку. Яна яму так спадабалася, што шмат гадоў чакаў, пакуль вырасце… Прыходзіў у госці, прыносіў цацкі… Потым з ёй ажаніўся. І жылі доўга і шчасліва!

— Так будзе і ў нас.

Раптам яна прапанавала:

— Паехалі ў бярозавы гай! Гэта будзе шлюбнае падарожжа!

— Паехалі!

Пад дажджом яны насіліся па лузе. Убаку Віка ўбачыла стог сена пад навесам. Наверх ішла лесвічка. Дзяўчына пад’ехала, усміхнулася:

— У нас мядовы месяц?

— Так.

— Лезь! Атэль для каханкаў! Такога шлюбнага падарожжа ні ў кога не было!

Павал забраўся наверх, пад навес, падаў ёй руку. Хутка распрануліся…

Унізе па сцежцы ішла сялянка з козамі. Убачыўшы знаёмыя матацыклы, зразумела, задуменна ўсміхнулася, успомніўшы сваю маладосць. Каб не перашкаджаць, павярнула коз убок.

— Чуеш, як пахне сена? — сказала Віка.

— Дурманіць.

— Давай увесь месяц правядзём тут, — усміхнулася яна.

Ён пагадзіўся.

— Гаспадыня будзе прыносіць малако, яйкі, тварог…

— І стала я жанчынай… Чаму не звоняць званы ў храме?

Здалёк пачула вясёлае перагукванне званоў.

— Ну вось, зусім іншая справа. Паўлік, мілы! — прашаптала яна і пацягнулася, пачала абдымаць, цалаваць.

Стажок пакасіўся, аголеныя маладыя з’ехалі долу. Смяяліся Віка і Павал, усміхалася сялянка, бляялі козы, абмяркоўваючы дзіўны інцыдэнт…

Потым на матацыклах яны насіліся па сцежках, па схіле дамбы, па мелкаводдзі, падымаючы хвалі пырскаў. На беразе ракі спыніліся пад шырокімі стогадовымі вербамі, цалаваліся.

— Мы абавязкова павянчаемся! У белай сукенцы, з вэлюмам, я буду такой прыгожай!

Яна ўявіла сваё вянчанне з Паўлам. Малады святар вёў службу.

— Віка, лепшай за цябе няма!

— Клянёмся! — прагаварыла яна. — Хай наша каханне жыве столькі, колькі гэтыя вербы!

— Клянёмся!

Шчаслівы Павал прыбег дадому. Надзея Пятроўна доўга не магла пачаць гаворку. Нарэшце рашылася:

— Павал, Косці больш… няма.

— Памёр?! Косця?! Не!

— Не паспелі фіны.

Павал паехаў у шпіталь.

Пажылы, каржакаваты санітар дыхнуў на яго перагарам, адчыніў дзверы морга. Павал глядзеў на твар памерлага сябра, успамінаў катанне з ім і Байкалам на лодцы, рыбалку, паляванне на качак. Адным стрэлам шроту бацька Паўла забіваў дваіх качак. Байкал кідаўся ў ваду, выцягваў іх на бераг…

Павал прашаптаў:

— Ні бацькі, ні Байкала, ні Косці… Няўжо жыццё — адны страты?

Санітар запытаў:

— Эх, браток. Гэта сёння — трэці. І ўсе маладыя, прыгожыя… Думаеш, лёгка?

У гэты дзень Павал стаў старэйшым на некалькі гадоў.

На аўтастрадзе ў міліцэйскай форме сядзелі ў легкавой машыне Боб і двое мажных хлопцаў. Па радыё гучала ўсходняя музыка. Жавалі гумку, пілі «Кока-Колу», груба жартавалі ў чаканні фургона з медыкаментамі. Напружана паглядвалі на трасу, уважліва аглядалі праязджаючыя аўтафургоны.

— Не, не яны.

— Вечарам пазабаўляемся ў матэлі? Наладзім поўны раскалбас!

— Я рушу да Ленкі.

— Ці не закахаўся? У матэлі я знайду табе лепшую кралю!

Боб прамовіў:

— Што, мужыкі, пойдзеце ў ахоўную фірму?

— Вырашыў пачаць сваю справу?

— А то! Надакучыла быць нумарам два. Вось адхопім бабкі за медыкаменты... — Здалёк пабачыў фургон. — Ціха! Увага! — Ён пільна агледзеў аўтафургон, што ішоў побач. — Яны! Памагай, Алах!

Машына рванула з месца. На хаду Боб паставіў на верх мігалку, падключыў сірэну. Абагнаўшы аўтафургон, загадаў вадзіцелю спыніцца. Падышоў, казырнуў.

— Капітан Клімовіч. Ведамства па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю. Што везяце?

Лейна дастаў дакументы.

— Гуманітарная дапамога, спадар капітан. Вязём медыкаменты.

— Наркотыкі ёсць?

— Не, спадар капітан.

— Трэба праверыць. Едзьце за намі.

— Навошта? Фургон апламбаваны. Праверыце ў шпіталі.

— Выконвайце загад!

Праехаўшы па шашы, легкавая машына звярнула на прасёлачную дарогу, уехала ў кар’ер, спынілася. Фургон спыніўся за ёй.

З розных бакоў да фургона імкліва пад’ехалі грузавікі. З іх выскачылі спрытныя хлопцы. Адкрыўшы аўтафургон, сталі перагружаць каробкі з медыкаментамі ў грузавікі.

Яшчэ раней Лейна западозрыў няладнае.

— Паслухайце! Без гэтых медыкаментаў хворым будзе дрэнна. Многія памруць!

— Змоўкні! — абарваў яго Боб, паглядваючы па баках. — Братва, хутчэй!

— Вы ж хрысціяне! — працягнуў Лейна, убачыўшы на кашулі Боба нацельны крыж. — Бог вас пакарае!

Боб ударыў яго кулаком у жывот. Лейна ўпаў.

— Заткніся, нарэшце! Знайшоў месца…

Павал хацеў заглушыць душэўны боль хуткай яздой. Павярнуў у лес. Не разбіраючы дарогі, рваўся то на адзін бок, то на другі, тараніў кусты. Галіны рвалі яму кашулю, але ён не звяртаў на гэта ўвагі. Прыпыніўся ля бярозкі, зняў шлем, даў волю слязам.

— Косця, Косця!..

Побач пасвіліся коні. Адзін з іх пазнаў хлопца, падышоў. Павал абняў каня за шыю, прытуліўся шчакой.

Убаку пажылы пастух хістаўся з боку ў бок і нягучна прычытаў:

— Авой! Што робіцца! Што робіцца!

Павал падышоў, глядзеў не бачачы.

Конюх паказаў уніз, у кар’ер.

Павал падышоў да краю кар’ера і скрозь вецце дрэў убачыў унізе машыны. Са знаёмага фінскага аўтафургона падазроныя асобы спешна перакладвалі каробкі з медыкаментамі ў грузавікі. Убачыўшы Лейна, які ляжаў на пяску, а побач з ім Боба, Павал усё зразумеў.

Ён успомніў, як паміраў бацька і сваё бяссілле — ніхто не мог яму дапамагчы...

Успомніў Косцю, які, пахістваючыся, выходзіў да яго на двор…

Павал хутка сеў на матацыкл, завёў.

— Братачка, ты куды? Заб’юць! Авоечкі!

Развярнуўшы матацыкл, Павал паімчаўся па лясной дарозе.

Знізу, з кар’ера, Боб убачыў мільгаючы сярод дрэў матацыкл.

— А, чорт! Бачыў ці не?

— Канечне, бачыў! — сказаў стрыжаны пад вожыка і сплюнуў.

— За ім! Хутка! У палон не браць!

Дзве легкавыя машыны кінуліся ў пагоню за Паўлам.

Заўважыўшы пагоню, ён звярнуў з дарогі, імчаў па лесе між кустоў і дрэў.

Адна з машын урэзалася ў дрэва, спынілася, разбітая.

Джып працягваў пагоню.

Павал выскачыў на шашу. Адлегласць паміж ім і машынай скарачалася.

Стрыжаны падрыхтаваў пісталет с глушыцелем. Раптам ягоны напарнік крыкнуў:

— Мянты! Хавай зброю!

Яны звярнулі на бакавую дарогу.

Павал убачыў на абочыне міліцэйскую машыну, збавіў газ, стаў тармазіць. Але яшчэ раней даішнік заўважыў высокую хуткасць матацыкла, выйшаў з машыны, выцягнуў жэзл.

Рэзка затармазіўшы юзам, Павал выгукнуў:

— Там, у кар’еры, рабуюць фургон з медыкаментамі!

Даішнік усміхнуўся:

— На якія хітрыкі толькі не ідуць парушальнікі!

— Хто табе сказаў? — запытаў другі.

— Сам бачыў!

— А ты хто такі?

— Якая розніца?! Рабуюць гуманітарную дапамогу!

Міліцыянеры пераглянуліся.

— Верыць яму?

— Выдумляе!

— О, Госпадзі! Звяжыце мяне з Радзівонам!

— А хто гэта?

— Лейтэнант Анцулевіч.

Адзін з міліцыянераў уключыў рацыю.

— Лейтэнант Анцулевіч ёсць на трасе?

У гэты момант Радзівон, размясціўшыся на траве, лашчыў дзяўчыну, расшпільваў яе вопратку.

Пачуўся голас з рацыі.

— Лейтэнант Анцулевіч ёсць на трасе?

— Род, не адказвай! — строга папярэдзіла дзяўчына, прыкрыўшы яго рот пацалункам.

Радзівон працягваў яе распранаць.

— Паўтараю: Радзівон Анцулевіч ёсць на трасе?

— Не думай адказваць! Заб'ю! — прыстрашыла дзяўчына, наблізіўшы кулак да яго носа.

Тым не менш, Радзівон схапіў рацыю!

— Я слухаю!

Павал наблізіўся да рацыі, крыкнуў:

— Радзівон, гэта Павал!

Радзівон працягваў адказваць на пацалункі дзяўчыны.

— Павал, я заняты, звяжамся пазней.

— Радзівон! У кар'еры рабуюць фінскі фургон з медыкаментамі!

— Павал, ты ўпэўнены?

— Не губляй час! Выклікай групу спецназа!

— Зразумеў! — Радзівон падняўся. Апранаючыся, вінавата паглядаў на дзяўчыну.

Дзяўчына таксама ўстала. Дала Радзівону аплявуху.

— Каб я яшчэ раз звязалася з мянтом…

Яна накіравалася да свайго матацыкла.

У кар'еры заканчвалася перагрузка медыкаментаў.

— Хутчэй! — крычаў Боб. — Што вы як сонныя мухі?!

— Не думалі, што тут так шмат!

— Ідыёты! Шмат тавару — шмат зялёных!

Лейна выціраў з твару кроў.

— Неверагодна! Бог вас пакарае.

Пагрузка была скончана. Вадзіцелі грузавікоў ускочылі ў кабіны, уключылі маторы. Грузавікі цяжка забурчалі і накіраваліся да выхаду з кар'ера.

І ў гэты момант наверсе паказаліся міліцэйскія машыны.

З гучнагаварыцеля пачуўся голас:

— Увага! Вы акружаны! Усім заставацца на месцах!

Боб на легкавой і адзін з адчайных вадзіцеляў на грузавіку паспрабавалі прарвацца, выскачыць з кар'ера. Завязалася перастрэлка.

Пад'ехаў Валянцін. Пачуўшы стрэлы, спыніў машыну. Назіраючы за падзеямі, сплюнуў:

— Дурні… Усё-ткі падставілі!

Завёўшы машыну, рынуўся на шашу. Але за ім паімчалася міліцэйская машына, загула сірэна.

У рэшце рэшт міліцыя затрымала злодзеяў.

Боб з нянавісцю глядзеў на Паўла. Ён вырашыў, што папаліся яны з-за яго.

— Данёс? Здраднік. Паўлік Марозаў!

Павал сказаў:

— Мой бацька памёр таму, што не было патрэбных медыкаментаў. А ўчора памёр Косця, сябар… З-за такіх нелюдзяў, як ты!

Ён не паспеў дагаварыць. Хоць рукі ў Боба былі ў наручніках, ён падняў іх над галавой, выцягнуў нож, схаваны за каўняром, і кінуў у Паўла. Нож трапіў у жывот. Зроблена гэта было імгненна, так што ніхто не паспеў яго спыніць.

Павал ахнуў і пачаў асядаць на пясок.

Радзівон схапіў ляжачага Паўла, кінуўся з ім у машыну.

— Ключы! — крыкнуў ён вадзіцелю.

Той замарудзіўся.

— Хутчэй! — прыспешваў маёр вадзіцеля. — Радзівон — гоншчык!

Вадзіцель перадаў ключы Радзівону, вызваліўшы месца за рулём.

Машына імкліва выбралася з кар’ера, выехала на шашу.

— Трымайся, землячок! — шаптаў Радзівон.

Уключыўшы сірэну, ён абганяў аўтобусы, грузавікі, рызыкоўна выязджаў насустрач легкавым машынам.

Пад’ехаў, не выключыўшы сірэну, да прыёмнага пакоя шпіталя.

На насілках санітары хутка перанеслі Паўла ў аперацыйную.

Хірургі спешна рыхтаваліся да аперацыі.

Прыбегла Надзея Пятроўна, кінулася да нерухомага сына.

Вочы яе малілі Фёдара Сцяпанавіча зрабіць усё магчымае і немагчымае.

Аперацыя цягнулася доўга. Прайшло некалькі гадзін.

Фёдар Сцяпанавіч выйшаў, зняў маску, стомлена ўсміхнуўся:

— Надзея, бяжы за каньяком!

Надзея падышла да яго, абняла, заплакала.

Паглядзеўшы на Радзівона, Фёдар Сцяпанавіч дадаў:

— Спазніся вы на некалькі хвілін… Цяпер справа за тым, каб не было ўскладненняў.

— Што небудзь не так?!

Памарудзіўшы, ён сказаў:

— Надзея, я страшна вінаваты перад Паўлам.

— Ты пра што, Федзя? Ён патрапіў сюды праз мяне…

У той жа дзень Валянціна арыштавалі. Зірнуўшы на паліцы з кнігамі, міліцыянер саркастычна заўважыў:

— Цяпер у вас будзе час, каб іх прачытаць.

— Віка, — прамовіў Валянцін, — клянуся, я ні ў чым не вінаваты. Мяне падставілі. Я хацеў дамовіцца з фінамі па-добраму. Але Боб і яго братва…

— На выхад! — загадаў міліцыянер.

Валянціна ў наручніках вывелі з асабняка, пасадзілі ў машыну, павезлі.

— З дому нічога не выносіць, — папярэдзіў міліцыянер, апячатваючы пакоі. — Складзем вопіс.

Званіў тэлефон. Усхваляваная Віка падбегла, зняла слухаўку.

— Так, я замаўляла Лондан… Мама, бацька арыштаваны! Магчыма, дом і маёмасць канфіскуюць…

— О, Госпадзі! Але гэтага варта было чакаць…

— Калі ты прыедзеш? — спытала Віка.

— Што я — дурніца?! — абурылася маці. — Вярнуся, калі ўсё супакоіцца.

— А як жа я?

— Што-небудзь прыдумай! Пажывi ў бабулі.

— У аднапакаёвай? Удваіх?

— Віка, людзі жывуць і больш сціпла! Час спусціцца з аблокаў…

— Я хачу прыехаць да цябе.

— Толькі не зараз! Днямі распачалася мая фотавыстава. Столькі турбот!.. Ды і на што мы будзем жыць? Пакуль нічога не купляюць. Кашмар! У банку без бацькі я нічога не магу зняць! Абзвані знаёмых — хай пазычаць мне грошай…

Грузчыкі выносілі мэблю. Вялізны дом рабіўся пустым, няўтульным.

Віка пазваніла сябрам, якія яшчэ нядаўна тут піравалі, кляліся ў сяброўстве…

— Мікалай Міхайлавіч, гэта Віка.

— Вы памыліліся нумарам.

— Мікалай Міхайлавіч, я ведаю ваш голас. Віншавалі мяне з днём народзінаў. Ці не маглі б вы…

— Выбачай, Віка. Нічым дапамагчы не магу.

Кароткія гудкі.

Падумаўшы, набрала іншы нумар.

— Барыс Адамавіч, гэта Віка. Мне патрэбна дапамога.

— А чаму ты званіш мне? Ёсць сацыяльная служба. Ёсць спонсары, фонды…

Яна націснула на рычаг тэлефона. Потым пазваніла Малкіну.

— Лёша, гэта Віка. Ці маглі б мы сустрэцца?

— Канечне! Прыязджай. Буду рады цябе бачыць.

Віка спыніла таксі, паехала ў горад.

Малады фінансавы геній прыняў яе ў шыкоўным офісе. На сцяне віселі дарагія ружжы.

— Салідны офіс!

— Статус абавязвае!

— Не ведала, што ты паляўнічы.

— Усё жыццё — паляванне. Сядай. — Ён паказаў на тахту. — Што будзеш піць? Віскі, віно, тэкілу?

— Днём не п'ю. — Яна ўзяла кнігу, што ляжала на тахце. — «Вялікі Гэтсбі».

— Чытала?

— Не.

— Як чалавек рабіў сябе. Вазьмі. Адна з маіх любімых.

— Лёша, пазыч мне грошай.

Ён падышоў да інструмента, зайграў.

— Падабаецца мелодыя?

— Так.

— Сам прыдумаў.

— Няўжо ў цябе ёсць музычная адукацыя?

— Негры не ведалі нот і ганарыліся гэтым. Віка, гэту мелодыю я прыдумаў для цябе.

— З чаго б гэта?

— Ты даўно мне падабаешся. Будзь маёю. — Ён паглядаў на дзяўчыну і працягваў граць.

Яна памаўчала.

— Прабач, Малкін. Дзеля гэтага трэба кахаць.

— «Кахаю» — з мінулага стагоддзя. І якое гэта мае значэнне? У нас — дзелавая дамова, бізнес-праект. Я буду пяшчотна да цябе ставіцца. Куплю кватэру. Будзем разам лятаць на далёкія астравы. Эскорт. Любое тваё жаданне…

Віка яму запярэчыла:

— Лёша, мне вельмі патрэбны грошы.

— Як толькі скажаш «так», я адразу ж пачну фінансаваць наш праект.

— Праект?! О, Божухна!

— Называй як хочаш!..

— Малкін, ты ж можаш купіць натоўп дзевак.

— Мне патрэбна ты.

— Лёшанька, прашу цябе, пазыч грошай. Пад распіску. Я вярну. Вось пабачыш!

Ён наблізіўся, сеў побач.

— Табе ўсяго будзе даволі. Табе будуць зайздросціць. — Ён памкнуўся яе пацалаваць.

— Адвалі! Бацька для цябе столькі зрабіў! Узяў у кампаньёны… Лёша, як мне атрымаць хаця б частку бацькавых грошай?

— Гэта немагчыма.

— Чаму?

— Каб выратаваць фірму, яго бізнес я перапісаў на сябе.

Віка знерухомела ад жудаснай навіны.

— Як ты мог?!

Аляксей пасміхнуўся:

— У мяне быў добры настаўнік. «Хто не рызыкуе, той не п'е шампанскага».

— Ты вычварэнец! І хацеў, каб я…

— Віка, забудзься на «саўковы» час. Сёння ўсё прадаецца і ўсё купляецца. І нічога не даецца проста так. Пакуль ты гэтага не зразумееш...

Яна ўстала, схапіла са століка дарагую кітайскую вазу, кінула ў яго, але ён нахіліўся. Ваза патрапіла ў сцяну, аскепкі разляцеліся па ўсім пакоі. Віка хутка выйшла.

Яго ўсмешка казала: «Нічога, ты яшчэ вернешся!» Але потым ён чамусьці засумаваў.

Аднойчы з'явіўся Павал. Ён быў бледны.

— Добры дзень, Віка!

Яна павярнула да яго заплаканы твар:

— Вельмі добры!.. І ты пасмеў сюды з'явіцца? З-за цябе я згубіла ўсё! Арыштавалі бацьку, канфіскавалі дом, рэчы… Мама не можа вярнуцца! Ты разбурыў маё жыццё!.. Прэч адсюль!

Павал цяжка ўздыхнуў:

— Гэта не мая віна.

— А чыя?

Павал маўчаў.

— Ты спецыяльна цягаўся сюды, каб вынюхваць?

— Ды не ведаў я! Не ведаў я, што твой бацька…

— Мой бацька спансіраваў дзіцячы дом. Даў грошы на аднаўленне храма!.. Там, у правінцыі, табе ніколі не казалі, што выдаваць другіх — подла?

Павал скрывіўся.

— Нават калі яны пазбаўляюць паміраючых медыкаментаў?!

— Бацьку падставілі! — Яна прайшлася па пустым пакоі. — У мяне аднялі ўсё! Нават матацыкл! Жабрачка! А як размаўлялі… Нібы я злачынца!

— Даруй, што нявольна прычыніў табе…

— Усе сябры разбегліся! Быццам пацукі з карабля! А калі тата ладзіў прэзентацыі — натоўпам кідаліся да стала! Абжыраліся!

— Можа, не былі яны сябрамі?

Яна ўважліва паглядзела на яго:

— Ты мяне таксама пакінеш?

— Абавязкова! Навошта мне дурніца? — Ён падышоў, прытуліў яе да сябе, пацалаваў. — Ого! Моцна не прыціскайся — цыраваны…

— Прабач, балюча?

— Збірайся.

— Куды?

— Будзеш жыць у нас.

Віка горка ўсміхнулася:

— А як на гэта паглядзіць твая мама?

— Дамоўлюся. Яна ў мяне добрая!

Віка падумала.

— Дзякуй за прапанову, шаноўны эскулап. Навязалася, узяла прыступам… Навошта табе ўсё жыццё пакутаваць?

— Я без цябе не магу.

Віка маўчала.

— Ну, што з табой? — спытаўся ён. Наблізіўся, памкнуўся абняць.

Яна аддалілася.

— Не, Павал. Нічога ў нас з табой не атрымаецца. Між намі заўсёды будзе стаяць здрада.

— Не здрадзіў я твайму бацьку! Віка, ты мая першая і… апошняя!

— Калі ласка, ідзі.

— Віка, не спяшайся. Давай сустрэнемся і на халодную галаву…

— Я бачыць цябе не магу! Няўжо не цяміш?!

— Віка, я кахаю.

— Змоўкні! Ненавіджу! Нашы шляхі разыходзяцца! Назаўсёды!

Маўчанне было доўгім. Павал зразумеў, што пераконваць — дарэмна.

— Калі табе спатрэбіцца мая дапамога…

— Дзякуй, дапамог! — яна адчыніла дзверы, халодная, далёкая.

— Я буду чакаць, — сказаў ён, выходзячы.

На вуліцы ішоў дождж. Павал сеў на матацыкл, паехаў. На шлем падалі кроплі, і цяжка было зразумець, плача Павал ці гэта ідзе дождж.

Прайшлі гады.

У аперацыйным пакоі Павал Сяргеевіч сказаў пажылому хірургу:

— Заканчвайце. — Зняўшы пальчаткі, маску, выйшаў з аперацыйнага пакоя.

Схаваўшы за спінай цыгарэту, Вікторыя насцярожана запытала:

— Ну?!

— Будзе жыць.

Віка з палёгкай уздыхнула, выкінула цыгарэту ў сметніцу.

— Дзякуй Богу! Магу яго пабачыць?

— Не трэба. Без памяці, забінтаваны…

— Калі можна адвезці яго ў горад?

— Не спяшайся. Без прытомнасці, у бінтах. Праз некалькі дзён, не раней.

Яна агледзела сціплае памяшканне.

— Раённая бальнічка. Эскулап… Гэта ўсё, чаго ты дасягнуў?

— Кожнаму сваё.

— Вось не думала тут цябе сустрэць!

— Чаму?

— На цябе так спадзяваліся! Стаў багаты?

Павал Сяргеевіч усміхнуўся.

— Цікава, што Біл Гейтс адказвае на гэта пытанне?

Яна з іроніяй паглядзела на старыя сцены, на патрэсканую столь, сумна ўздыхнула.

— Біл Гейтс…

— Як ты жывеш, Вікторыя Валянцінаўна? Выглядаеш эфектна...

— Што ж не выглядаць? Свой буцік — футра і касметыка…

— То-та водар такі!

— Падабаюцца духі?

— Не перадаць! Можна згубіць галаву.

— На гэта французы і разлічваюць. Калі бацьку арыштавалі, быў цяжкі час… Але сядзеў ён нядоўга. Дапамаглі вопытныя адвакаты… І зноў заняўся справай.

— Якой?

— Не хвалюйся, законнай. Дапамог мне распачаць бізнес. Фінансуе школу каратэ.

Памаўчалі.

— Фея на «Сузукі»… Пасля той размовы я ледзь не захварэў! Ноч не спаў, а раніцай кінуўся цябе шукаць.

З таго далёкага мінулага выплыла, як на матацыкле Павал прымчаў да асабняка, настойліва грукаў у вароты. Падняўся над сцяной, але нікога не ўбачыў, дом выглядаў нежылым.

На трасе спыніў матацыкл Радзівона. Той паціснуў плячыма.

Павал пад'ехаў да царквы. Насустрач выйшаў святар, адмоўна пакруціў галавой.

Павал паехаў на чыгуначны вакзал, шукаў Віку сярод пасажыраў.

Прымчаў у аэрапорт — там таксама не было.

Пад'ехаў да вадаспада, сеў на вываранень, заплакаў…

У бальніцы Вікторыя гаварыла:

— Я паехала да бабулі. Потым паляцела да маці ў Лондан.

— Як я цябе кахаў! Нават уявіць не можаш…

Памаўчалі.

— А ведаеш, — сказала яна, — гэта быў дзіўны час! Нягледзечы ні на што… Зрэдку так хочацца вярнуцца! — Яна лагодна паглядзела на яго. — Калі адчуваю пах свежага сена, кружыцца галава… Дасюль!

— Я помню гэты пах.

— Павал, чаму б нам не сустрэцца ў іншай абстаноўцы? Ёсць што ўспомніць. — Яна ўсміхнулася. — Як разбурылі стажок. І зноў я цябе ўгаворваю.

— Замужам?

Віка ўздыхнула.

— Выходзіла. І не раз. Мужчын карысна перыядычна мяняць.

— Ну і ну! — усміхнуўся ён.

Яна памаўчала.

— Нешта з мужамі не клеіцца. Магчыма, першы хлопец быў вельмі… душэўны…

— Я думаў, ты выйшла за Малкіна.

Віка горка ўсміхнулася.

— Не паспела. Падстрэлілі на паляванні. Гавораць, пераблыталі з дзікім кабаном.

— Дзеці?

— Мода на дзяцей праходзіць. У мяне выдатны сабака. Ноу проблем!

— Хм!

Памаўчалі.

— Павал, я ведаю, як жывуць урачы. Хачу табе аддзячыць. Колькі каштуе такая аперацыя?

— За мяжой — вельмі дарага. У нас — бясплатна.

— Павал, бацька — уплывовы чалавек. Што я магу для цябе зрабіць?

Павал Сяргеевіч аглядзеўся.

— Хай дапаможа адрамантаваць гэту бальніцу.

— О'кей!.. А для цябе?

Увайшла пажылая медсястра.

— Доктар, да аперацыі ўсё падрыхтавана.

Ён паглядзеў на Вікторыю.

— Прабач, у мяне яшчэ адна. Пра бацьку не хвалюйся, я паклапачуся, — сказаў ён і накіраваўся ў аперацыйны пакой. На хвіліну прыпыніўся. — Прабач.

Калі ён пайшоў, медсястра сказала Вікторыі:

— Дзетачка, усё будзе добра. Табе пашанцавала, што аперацыю рабіў прафесар… Залатыя рукі! Колькі я пабачыла дактароў!

— Прафесар?!

— Так, нейрахірург.

— Тут?

— Дык яго з горада выклікалі, на кансультацыю. Светлая галава! За мяжу запрашаюць, — паведаміла медсястра.

— Так ужо і запрашаюць! — раздражнёна сказала Віка.

— Апаратура ў іх, можа, і лепшая, а мазгоў, як нашы, не хапае. Гэтымі днямі ляціць у Іспанію.

Памаўчаўшы, Віка запытала:

— Ён жанаты?

Медсястра паціснула плячыма.

— Не ведаю. Той раз прыязджаў з сынам, студэнтам, таксама медык, — адказала яна і выйшла.

Ідучы да машыны, Віка цяжка ўздыхнула, дастала пачак цыгарэт, запаліла. Убаку ўбачыла дарагі джып, раней такіх не бачыла. Прыпынілася, затрымала на ім позірк. Села за руль сваёй машыны, доўга не заводзіла. У яе вушах гучала песня Дэміса Русаса «Гуд бай, май лав, гуд бай!» Потым паціху паехала.

На яе вачах выступілі слёзы.

Яна ўспомніла, як пад дажджом яны, шчаслівыя, ганялі на матацыклах па лужах, па плыткай вадзе ля дамбы, падымаючы тысячы пырскаў. Атрымоўвалася шматколерная вясёлка… Успомніла стажок пад навесам… І здавалася ёй, што лепшых дзён у яе жыцці не было.

# ЗАХАВАЛЬНІК КЛЮЧЫКА АД ТАЯМНІЦЫ



*Безумоўна ж, творчасць — вялікая таямніца, калі нават сам Творца, аднойчы далучаны, скажам, да паэзіі, не можа адказаць, які павеў раптам ахіне яго і ён ужо не можа без аркуша паперы і сціла... З'яўляюцца радкі... Для пачаткоўца пачынаецца шлях да Вяршыні, і невядома, ці будзе тая Вяршыня. Але тыя, хто да яе даходзіць, у адпаведным узросце згадваюць сваіх літаратурных Настаўнікаў, хто дапамагаў падказкай, парадай, адным словам, прыадхінаў, прыадкрываў сцежачку да той самай Таямніцы, тым самым укручваючы ў вір, у палёт, калі хочаце, нават у адданасць прыўкраснаму роднаму Слову...*

*Мікола Якаўлевіч АЎРАМЧЫК... Выдатны беларускі паэт, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы, якою ён быў ушанаваны ў далёкім 1964 годзе, заслужаны работнік культуры БССР, аўтар многіх і многіх цудоўных паэтычных кніг, тонкі лірык і мудры філосаф... І да ўсяго — Настаўнік з вялікай літары. Гэтым высокім імем яго могуць назваць дзесяткі і дзесяткі нашых паэтаў, да чыёй творчасці ён змог падабраць ключык на самым пачатку літаратурнага шляху, каб дапамагчы таленту развінуцца на ўсю сваю плынь і моц.*

*Мікалай Якаўлевіч з першых дзён заснавання нашага часопіса, з таго ўжо такога далёкага 1953 года пачаў загадваць аддзелам паэзіі, і ён быў адметным, назвычай творчым рэдактарам. «Маладосці» знакаміты, вядомы пісьменнік аддаў усё сваё творчае жыццё. У нашым выданні ён працаваў да заслужанага адпачынку, і сам гэты факт гаворыць пра многае: тут і клопат пра маладых, і маладосць сваёй уласнай душы, і, несумненна ж, высокі аўтарытэт у пісьменніцкім асяродку, што дасягаецца дзякуючы свайму ўласнаму Таленту, а яшчэ, напэўна, і характар... Усмешлівы, светлы, заўжды такі непаўторна шчыры, Мікола Якаўлевіч Аўрамчык сваім прыгожым паэтычным словам аздобіў куточак Магілёўшчыны, вёску Плёсы, у Бабруйскім раёне, дзе нарадзіўся, расказаў наступнікам пра балючыя, трагічныя гады мінулай вайны, калі яму, 22-гадоваму хлопцу, давялося апынуцца ў фашысцкім палоне, і... захаваў вялікую любоў да Жыцця.*

*Сёлета ў студзені Мікола Якаўлевіч Аўрамчык адзначае сваё 90-годдзе. Наша рэдакцыя віншуе дарагога Настаўніка з гэтым па-сапраўднаму залатым юбілеем, і кожны з супрацоўнікаў жадае здароўя, далейшага творчага плёну, новых паэтычных радкоў і старонак успамінаў! Мы Вас любім! (пад чым, напэўна, могуць падпісацца дзесяткі і дзесяткі нашых творцаў)!*

***МАЛАДОСЦЕЎЦЫ.***

Мікола АЎРАМЧЫК

## БЕЛАРУСКАЯ САСНА

З кожнай штольні пахне беларускай,
Баравой, смалістаю сасной...
Пад зямлёй праход нязручны, вузкі
Выглядае просекай лясной.

Столь над нізкім вугальным забоем
Падпірае стойка не адна.
Некаторая з іх над табою
Зарыпіць, як голлямі сасна.

Цісне яе зверху цяжкі камень,
Грунт падрэзаны асеў на ёй
Тысячагадовымі пластамі
На паўкіламетра таўшчынёй.

Не такі цяжар яна ўтрымае,
Выступіць, як пот, з яе смала,
А сасна, упартая, прамая,
Хоча зноў прабіцца да святла.

Ты з настойлівасцю вугаль колеш,
Іскры пырскаюць з-пад малатка...
Родная сасна пад цяжкай столлю
Не аддасць у крыўду земляка.

***1947***

## СУСТРЭЧА БЫЛЫХ КАНАГОНАЎ

***Паўлу БЕСПАШЧАДНАМУ***

Ты ж канагон, як кажуць, па прызванню,
А я, брат, паняволі канагон...
Заплюшчу вочы — ўсё як ёсць дазвання
Прыгадваю, нібы жахлівы сон.

Паўзмрочная капальня ў дымным Руры,
І ў ёй не я, а сноўдае штодзень
Шкілет, які яшчэ абцягнут скурай,
Ды на сцяне — чужы сутулы цень.

Ты на радзіме працаваў з сябрамі,
Тут зваўся Стрэпетам твой верны конь,
Што ўстрэсваў грывай, цішу стрыг
вушамі
І капытамі высякаў агонь.

Больш не расказвай мне у гэты вечар,
Як разумеў цябе ён пад зямлёй,
Бо сэрца птушкай раненай трапеча,
Гарачай абліваецца крывёй.

Са мной быў конь з чужой мянушкай
Тойфель[1],
Не раз яго зваў небаракам я —
Па-свойму зваў, хоць сам не знаў пра тое,
Што вымаўляў ягонае імя[2].

Быў побач ён адзін у шахце рурскай,
Каму сказаць мог слова хоць адно...
Але ўсё роўна ён па-беларуску
Не разумеў, бядак, ні «тпру» ні «но».

Разумнымі слязлівымі вачыма
Глядзеў у твар мне з нейкаю журбой,
Як быццам шкадаваў, што немагчыма
Пагаварыць нам шчыра між сабой.

Яны ў яго жывога ашклянелі,
Ён паўаслеп ад цемры і ад слёз
І мне напамінаў, што ў падзямеллі
Мяне чакае гэткі ж самы лёс.

Туман клубіцца, цёплы надвячорак
Дыхнуў з прысадаў свежасцю начной.

---

1 Тойфель — чорт (*ням.*)
2 Армэр Тойфель — небарака (*ням.*)

Здаецца, там прыціхла дзесьці мора
За тапалінай роснаю сцяной.

А там жа стэп, капры і тэрыконы...
Адзін аднога ўзяўшы пад руку,
Ідуць удвух былыя канагоны
Па вуліцы ў данбаскім гарадку.

***1957***

* * *

Вось яны, прывольныя прасторы,
Роднае зямлі спакон вякоў!..
Паабапал аржаное мора
Ледзь не хлыне на бальшак з бакоў.

Па-над абеліскамі-слупамі
Дуб-асілак з гордай галавой,
Тройчы расстраляны перунамі,
Выглядае вежай вартавой.

А як пеўні абвясцяць світанне,
Разам з дбайным сонцам аглядаць
Гэтыя бяскрайнія ўладанні
Бусел падымаецца з гнязда.

Апячэ дзяўчына ранкам буднім
Ногі аб расу на мураве,
Ледзяной вады глыне са студні
І курлыкне хрыпла журавель.

Калі бачыў ты, як тут шугае
Бэз ліловым полымем ля хат,
Ад якога сполахі мільгаюць
Ў шыбах вокан і ў вачах дзяўчат;

Як кіпіць перад пачаткам лета
Квецень перагрэтая садоў
І ружовай пенай белацвету
Пырскае на разамлелы дол;

Калі чуў, як салаўі тут хорам,
Захлынаючыся ад красы,
Прапалосквающь, бы лудзяць, горлы
Срэбнымі крупінкамі расы;

Калі звечара пасля змяркання
Адчуваў, душою малады,
Як у сэрцах спее тут каханне,
А ў садах — духмяныя плады;

Калі бачыў, як святлом барвовым,
Азарыўшы да вяршынь лясы,
Незгасальным полымем ліловым
Тут гарадь увосень верасы;

І калі не днямі, а гадамі
Адчуваў ты зблізку і здаля,
Як тут хлебам, мёдам і грыбамі
Пахне навакол сама зямля, —

Зразумееш ты тады, магчыма,
Не пражыць чаму мне без яе
І чаму ўсё тут перад вачыма
У ружовых фарбах паўстае.

***1958***

**КЛЮЧЫ ЖУРАЎЛІНЫЯ**

Жан, у нас загаіліся раны на целе.
Зноў вясна... Зноў расталі даўно
ледзяшы...
А пад сэрцам маім іх асколкі заселі,
І ад іх прабягае мароз па душы.

Ледзяшы-сталактыты ружовае солі
Ў падзямеллі чамусьці нагадвалі мне
Позні сок на бярозах, якія ў няволі
Цяжка ранены ў замаразкі па вясне.

Мо таму, што маё апякалася цела
Капяжамі салёнай падземнай вады,
Адчуваў я, здаецца, душой набалелай,
Як балюча смылелі іх раны тады.

Той парой нават птушкі з лясоў
і сядзібаў
Уцякалі за свет ад грымот і агню,
А ў вадзе касякі насцярожанай рыбы
З перапуду хаваліся у глыбіню.

Толькі людзі — магутныя духам і сілай.
Нам ратунак паслалі браты і сябры...
Касякі грозных птахаў сярэбранакрылых
З буркаваннем трывожным плылі угары.

Мне здавалася: імі расколваюць хмары,
Забіваючы ў іх клін за клінам здаля,
І заранкі выкрэсваюць кожным ударам,
Ад якога ўздрыгвалі неба й зямля.

Вартавыя ад жаху зусім анямелі.
А вясна, жураўліныя ўзяўшы ключы,
Адамкнула нам дзверы на свет
з падзямелля,
Абдала нас святлом пасля
змрочнай начы.

Жураўлі праляталі з выгнання дадому,
Абуджалі ў душы аб радзіме ўспамін...
Мы па іхніх ключах, як па стрэлках
рухомых,
Вызначалі напрамак да родных краін.

Прыгадаў гэта я, калі ўбачыў, як гусі
Пацягнуліся з выраю зноў ланцугом
Да лугоў заліўных і азёр Беларусі
І дачка з гладыша п’е кляновік нагбом.

Думаў ты, што да вас заляцела гагара,
Ажно гэта гаргара, якая з-за хмар
Ураніла пяро агнявое ў Сахару
І па свеце атрутны рассеяла гар.

Зноў вясна... Жураўліныя ўспомніш
ключы...
Жан, а ты спіш спакойна ўначы?..
***1960***

**РАБІНАВАЯ НОЧ**

Павольна спее навальніца
Сярод засмяглай цішыні...
Буйнымі гронкамі зарніцаў
Змрок набухае ўвышыні.

А постаць белая ў трывозе,
Як здань, мільгае пры акне —
Каханы позніцца ў дарозе:
Хай непагадзь яго міне.

Захвалявалася каханка:
За тупатам дажджын услед
Мільгнуў, асветлены маланкай,
Яго знаёмы сілуэт.

Дыханне сушыць вільгаць твару,
Ад цеплыні ўзаемнай іх
На вопратцы знікае парай
Вільготнасць кропляў дажджавых.

Пад бляск маланкі ў гэткім стане
У ноч рабінавую ім
Аголены ўвесь свет паўстане,
Абмыты ліўнем агнявым.
***1975***



Ян ДЛУГАШ

# ГРУНВАЛЬДСКАЯ БІТВА

## З «ГІСТОРЫІ ПОЛЬШЧЫ»

***15 ліпеня 2010 года** спаўняецца 600 гадоў з дня знакамітай Грунвальдскай бітвы, у час якой аб'яднаныя войскі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага разгramілі Тэўтонскі ордэн. Значэнне гэтай перамогі цяжка пераацаніць. Справа ў тым, што ў перыяд з 1345 па 1377 гады адбылося сто набегаў і нападаў крыжакоў на землі Польшчы і ВКЛ, да 1410 года тэўтоны здзяйснялі да васьмі паходаў за год. Іх напады рабіліся не толькі дзеля нажывы. Мэта была ў захопе новых тэрыторый, які праводзіўся пад ідэяй хрысціянізацыі язычнікаў і ў поўнай асіміляцыі народаў на захопленых тэрыторыях. Такі лёс напаткаў славянскія плямёны бодрычаў і люціцаў. Ваяўнічае літоўскае племя прусаў было вынішчана, нават іх назву немцы прысвоілі сабе. Такая ж горкая доля чакала літоўцаў і беларусаў. Перад тварам агульнай небяспекі палякі, літоўцы, беларусы і рускія, адкінуўшы ўбок асабістыя інтарэсы, аб'ядналіся і далі дастойны адпор смяротнаму ворагу. Вынікам было тое, што пасля перамогі пад Грунвальдам да Першай сусветнай вайны 1914 года на нашы землі не ступалі нямецкія войскі.*

*Таму можна зразумець, чаму гэтая знакавая бітва прыцягвае да сябе многія пакаленні гісторыкаў, даследчыкаў і пісьменнікаў. Сярод іх — М. Стрыйкоўскі, А. Каяловіч, Т. Нарбут, І. Лелевель, А. Лявіцкі, Ю. Крашэўскі, Г. Сянкевіч, А. Шайноха, А. Прохазка, А. Барбашоў, Г. Дэльбрук, С. Кучыньскі, А. Цірчынскі і іншыя. Летапісы і хронікі таксама пакінулі сведчанні аб ёй. Але, безумоўна, самай грунтоўнай з'яўляецца праца польскага гісторыка, дыпламата і царкоўнага дзеяча Яна Длугаша. У яго «Гісторыі Польшчы» цэлы раздзел прысвечаны апісанню Грунвальдскай бітвы і падзеям, якія ёй папярэднічалі. Каштоўнасць кнігі Длугаша ў тым, што ён жыў і працаваў побач з непасрэднымі ўдзельнікамі бітвы, яго ўласныя бацька і дзядзька змагаліся пад Грунвальдам. Ёсць версія, што ў распараджэнні Длугаша былі ўспаміны яго апекуна біскупа Збігнева Алясніцкага, складзеныя ім пад дыктоўку апошняга. У гэтых успамінах непасрэдных удзельнікаў падзей захаваліся такія яркія дэталі і вобразы, якія парадноўваюць працу Длугаша з мастацкай літаратурай. Але абапіраўся ён на вялікую колькасць арыгінальных дакументаў, якія адлюстроўвалі адносіны паміж Польшчай і Ордэнам, «Хроніку вайны караля польскага Уладзіслава з крыжакамі», складзеную кімсьці з палякаў адразу пасля Грунвальдскай бітвы, а магчыма, і на хроніку «Торуньскі летапісец», якая выйшла з ордэнскіх кругоў. Таму, нягледзячы на зразумелыя і даравальныя для таго часу недахопы — некаторую наіўнасць выкладання старажытнейшай гісторыі краіны, насычэнне характэрнымі для сярэднявечных аўтараў апісаннямі знакаў і цудаў, тэндэнцыйнасць у выкладанні падзей, праца Длугаша, пабудаваная на велізарным фактычным і дакументальным матэрыяле, прасякнутая глыбокім патрыятызмам, з'яўляецца выдатным гістарычным і літаратурным помнікам.*

*Колькі слоў аб аўтары. Аб жыцці і дзейнасці Длугаша мы ведаем з яго ўласнай прадмовы да яго «Гісторыі…» і з біяграфіі, якая, як мяркуецца, была напісана Філіпам Калімахам, яго сучаснікам і адным з першых польскіх гуманістаў.*

*Ян Длугаш нарадзіўся ў 1415 годзе ў горадзе Бжэзніцы, дзе яго бацька займаў пасаду бурграфа — памочніка старасты ў мясцовым замку. Калі бацьку перавялі ў Новы Корчын, шасцігадовы Ян пайшоў у школу. Любоў да кнігі і здольнасці, праяўленыя*

*хлопчыкам у час навучання, заахвоцілі бацькоў накіраваць яго шлях па духоўнай дарозе. Гэта падтрымаў дзядзька хлопчыка Барташ, які ў час Грунвальдскай бітвы быў капеланам Уладзіслава-Ягайлы. У 1428 годзе Длугаш паступіў на філасофскі факультэт Кракаўскага універсітэта, але па незразумелых прычынах яго не скончыў. У 1431 годзе яму пашчасціла атрымаць месца пісара ў канцылярыі кракаўскага біскупа Збігнева Алясніцкага, некалі сакратара Уладзіслава-Ягайлы. Выдатныя здольнасці Длугаша хутка звярнулі на сябе ўвагу біскупа, і ён робіць яго сваім сакратаром, а затым упраўляючым усімі вялізнымі зямельнымі ўладаннямі біскупства. Адначасова ўладкавалася і духоўная кар'ера Длугаша: у 1434 годзе ён быў узведзены ў духоўны сан. Дзядзька Длугаша адказваецца ад свайго прыхода ў Клобуцку і перадае яго пляменніку, а ў 1436 годзе біскуп назначае Яна кракаўскім канонікам. На гэтых пасадах Длугаш заставаўся да самай смерці біскупа. Ён заўсёды карыстаўся даверам свайго патрона, плацячы за гэта шчырай адданасцю.*

*Длугаш з'явіўся пры двары Алясніцкага ў час вышэйшага росквіту яго магутнасці. Атрымаўшы ў 1423 годзе ад Уладзіслава-Ягайлы кракаўскае біскупства, Алясніцкі, чалавек моцнай волі і неўтаймоўнай энергіі, змог у кароткі тэрмін узнесці аўтарытэт касцёла на вялікую вышыню. Ён быў прыхільнікам валадарства царкоўнай улады над свецкай і пры Уладзіславе III стаў фактычным кіраўніком дзяржавы. Длугаш прытрымліваўся такіх жа паглядаў.*

*Двор Алясніцкага быў не толькі палітычным, але і культурным цэнтрам, дзе бывалі прадстаўнікі польскай навукі і культуры, выкладчыкі Кракаўскага універсітэта. Тут знаходзілі прытулак пачаткі польскага гуманізму. І хаця Длугаш больш ахвотна ўспрыняў знешні бок гуманізму — захапленне класічнай латынню, — усё ж гуманістычныя ідэі аказалі на яго пэўны ўплыў.*

*У 1448 годзе Длугаш быў адпраўлены біскупам у Рым да папы Марціна V з даручэннем дабіцца для яго кардынальскай шапкі. Ён бліскуча справіўся са сваёй задачай, што падняло яго аўтарытэт у вачах біскупа, і ён накіраваў яго з новым даручэннем у Венгрыю, з якім Длугаш справіўся не менш бліскуча.*

*Поспехі, зробленыя Длугашам на дыпламатычнай ніве, выклікалі незадавальненне караля. Справа ў тым, што пасля гібелі Уладзіслава III з 1447 года каралём польскім стаў другі сын Уладзіслава-Ягайлы, Казімір Ягелончык. Ён паклаў канец неабмежаванай царкоўнай уладзе і зацвердзіў за сабой права прызначэння біскупаў. Алясніцкі, а з ім і Длугаш, трапілі ў апалу. У 1455 годзе Алясніцкі памёр, што з'явілася цяжкім ударам і непапраўнай стратай для Длугаша. Ён страціў чалавека, якому верай і праўдай служыў 25 гадоў, які быў для яго бясспрэчным аўтарытэтам, чые думкі і перакананні сталі яго думкамі і перакананнямі.*

*Падтрымку Длугаш знайшоў у сваёй працы, якой ён ужо некалькі год займаўся. Гэта была «Гісторыя Польшчы».*

*Заняцца гэтым яго ўгаворваў Алясніцкі, але ён доўга не рашаўся ўзяцца за такую вялікую і адказную працу. Хаця ў Длугаша на той час ужо быў пэўны вопыт: яшчэ з 1440 года ён займаўся карпатлівай справай — складаў вопіс усіх гарадоў, вёсак, угоддзяў і прыбыткаў, якія належалі біскупству. Гэтая праца прымусіла Длугаша часта звяртацца да старажытных дакументаў, знаёміцца са скарбамі кракаўскіх архіваў. Доказам таго, што ўжо тады ў яго з'явіўся інтарэс да вывучэння мінулага, былі дзве працы Длугаша: «Знакі і гербы каралеўства Польскага» і «Прускія сцягі», якія былі напісаны прыкладна ў 1448 годзе.*

*Смерць Алясніцкага застала Длугаша цалкам гатовым для ажыццяўлення справы, якую завяшчаў настаўнік і апякун. Да гэтага часу яму ўдалося сабраць вялікі матэрыял па гістарычнаму мінуламу сваёй Айчыны. Сустрэчы і гутаркі са знакамітымі гуманістамі таго часу, вывучэнне кніг Салюсція, Плутарха, Ціта Лівія дапамаглі яму знайсці класічныя ўзоры для сваёй працы.*

*Вучоныя заняткі Длугаша не былі сакрэтам, і калі стала вядома, што сціплы кракаўскі канонік піша гісторыю сваёй Айчыны, ён становіцца аўтарытэтнай асобай у польскім грамадстве.*

***Яго выдатныя здольнасці знайшлі прызнанне нават у караля. Забыўшыся на старую непрыязнасць, ён прыцягвае Длугаша для вырашэння шэрагу праблем міжнароднага значэння. У 1457 і 1459 гадах Длугаш уваходзіць у склад польскай дэлегацыі пры перамовах з Ордэнам у час вайны з ім, у 1460 годзе ўдзельнічае ў перамовах з Чэхіяй.***

***У 1461 годзе Длугаша спасцігла апала. Калі пасля смерці кракаўскага біскупа, пераемніка Алясніцкага, разгарэлася барацьба паміж капітулам і каралём з-за кандыдатаў, што вылучаліся на гэтую пасаду, Длугаш быў у ліку нямногіх, якія падтрымалі нялюбага каралю кандыдата. У выніку яго дом і ўладанні па загаду караля былі разграблены, а яму самому прыйшлося шукаць выратаванне ў сяброў за межамі Кракава. Кароль амнісціраваў яго толькі ў 1463 годзе.***

***З гэтага часу пачынаецца збліжэнне Длугаша з каралём, які зноў прыцягвае яго да дыпламатычнай дзейнасці. Вайна з Ордэнам скончылася, у 1464 годзе пачаліся мірныя перамовы. Длугаш увайшоў у склад польскай дэлегацыі, і ў тым, што пасля Торуньскага міру Гданьскае Памор'е было вернута Польшчы, ёсць яго нямалая заслуга.***

***У 1467 годзе кароль даручае Длугашу выхоўванне сваіх сыноў, і на гэтай пасадзе ён заставаўся да самай смерці, не пакідаючы і дыпламатычнай дзейнасці. У 1471 годзе ён суправаджае свайго старэйшага выхаванца Уладзіслава, абранага чэшскім каралём, на каранацыю ў Прагу. Длугаш карыстаўся такім вялікім аўтарытэтам нават за межамі краіны, што яму прапанавалі заняць пасаду пражскага архібіскупа. Але ён адмовіўся, вырашыўшы аддаць апошнія сілы на службу Айчыне.***

***Перад самай смерцю Длугаша прызначылі львоўскім архібіскупам, але папская була з зацвярджэннем Длугаша ў гэтым сане не застала яго ў жывых. У маі 1480 года ён памёр.***

***Пасля яго засталося не так многа твораў. Галоўны з іх, безумоўна, «Гісторыя Польшчы». Гэтае шматтомнае выданне складаецца з 12 кніг, і ў ім Длугаш апісаў гісторыю сваёй Радзімы ад старажытнейшых часоў да першых месяцаў 1480 года. Значнае месца ў гэтай працы адведзена гісторыі іншых краін і гісторыі царквы. Для Длугаша рухаючай сілай гісторыі з'яўляецца Боская воля, адсюль у яго двухпланавасць адлюстроўвання падзей: часам яны падаюцца ў двух ракурсах — зямным і нябесным, каб паказаць, што іх сыход быў загадзя вырашаны на нябёсах. Напрыклад, апісанню перамогі польска-літоўскага войска над крыжакамі пад Грунвальдам папярэднічае аповед аб знаку на нябёсах, — бітве апекуна Польшчы святога Станіслава з манахам і аб перамозе яго над апошнім.***

***Аднак «Гісторыя…» Длугаша ў лепшы бок адрозніваецца ад гістарычных прац яго папярэднікаў тым, што гэта — першая ў Польшчы праца, заснаваная на вывучэнні канкрэтных дакументаў, першакрыніц. Змясціўшы цалкам некаторыя дакументы ў сваёй «Гісторыі…», Длугаш аказаў неацэнную паслугу больш познім гісторыкам таму, што многія з гэтых матэрыялаў да нашых дзён не захаваліся. Для таго, каб выкарыстаць у сваёй працы матэрыял з рускіх летапісаў, Длугаш у сталым узросце вывучыў стараславянскую мову. «Гісторыя…» Длугаша — адзін з рэдкіх помнікаў польскай свецкай прозы на латыні, які дайшоў да нас з XV стагоддзя.***

***Вельмі каштоўным з'яўляецца тое, што Длугаш — адзін з першых (калі не першы) аўтараў, хто зрабіў экскурс у этнаграфію, міфалогію і пакінуў нам раздзелы аб паходжанні і звычаях літоўцаў. Гісторык не толькі выкарыстоўваў вобразы класічных лацінскіх аўтараў, але і ствараў уласныя паэтычныя метафары і параўнанні.***

***Сапраўднай перлінай паэтыкі Длугаша з'яўляецца яго апісанне Грунвальдскай бітвы, якое дае падставу аднесці яго «Гісторыю…» да буйнейшых літаратурных помнікаў XV стагоддзя.***

***Да нашых дзён у Кракаве ў бібліятэцы Чартарыйскіх захаваўся рукапісны арыгінал (праўда, не поўны) «Гісторыі Польшчы». Самым лепшым і старажытным спіскам з'яўляецца Свянтокшызскі (па назве манастыра, дзе ён некалі знаходзіўся). Ён захоўваецца ў архіве Патоцкіх у Вілянаве (пад Варшавай). Упершыню «Гісторыя» была надрукавана Іаганам Гербуртам у Даброміле ў 1615 годзе, але выйшаў толькі першы том, і выданне было забаронена ўказам караля Жыгімонта III таму, што многім шляхетным***

*родам прыйшлося не даспадобы тое, што пісаў аб іх продках Ян Длугаш. Поўны збор твораў гісторыка і пісьменніка ўбачыў свет толькі праз 400 гадоў пасля яго смерці. Яго надрукаваў вядомы мецэнат Аляксандр Пшэздзецкі ў 1863—64 гадах. Поўны пераклад на польскую мову быў зроблены К. Мехежыньскім і надрукаваны ў поўным зборы твораў Длугаша ў 1945 годзе.*

*Барацьба Польшчы і ВКЛ з Тэўтонскім ордэнам пачалася задоўга да Грунвальдскай бітвы.*

*Як і іншыя рыцарска-манаскія ордэны, Тэўтонскі ордэн, або Ордэн рыцараў чорнага крыжа дзевы Марыі, быў абавязаны сваім узнікненнем часу крыжовых паходаў. Ён з'явіўся ў канцы XII стагоддзя ў Палесціне на тэрыторыі прыйшоўшага ў занапад Іерусалімскага каралеўства і, як і іншыя ордэны, перасяліўся ў Еўропу. Напачатку ордэн крыжакоў кароль Венгрыі запрасіў у 1211 годзе для аховы сваіх межаў ад набегаў качэўнікаў. Аднак ён хутка зразумеў, наколькі небяспечна для яго краіны «бескарысная» дапамога манахаў-рыцараў, і ў 1224—1225 гадах выгнаў іх з краіны.*

*Хутка Ордэн атрымаў новае запрашэнне. Мазавецкі князь Конрад, чые ўладанні падвяргаліся частым набегам суседняга літоўскага племя прусаў, якія помсцілі за спробы палякаў падпарадкаваць іх сваёй уладзе, запрасіў крыжакоў, разлічваючы з іх дапамогай захапіць прускія землі. У выніку перамоў князь у 1228 годзе выдаў Ордэну грамату, па якой ён адмаўляўся ад памежнай з прусамі Хелмінскай зямлі і ўсе даходы ад яе перадаваў крыжакам. Аднак яшчэ раней частку гэтай зямлі князь падараваў біскупу Хрысціяну, якога ў 1215 годе папа накіраваў з місіянерскай мэтай да прусаў.*

*Пасяліўшыся на польскай зямлі, крыжакі сілай зброі пачалі захоп прускіх земель, прыкрываючыся высокай мэтай далучэння гэтых цёмных язычніцкіх плямён да хрысціянскай веры. На захопленых землях яны будавалі свае замкі і для каланізацыі захопленых тэрыторый запрашалі нямецкіх гараджан і сялян.*

*Паводле існуючай у сярэднявечным хрысціянскім грамадстве тэндэнцыі, землі, дзе жылі язычнікі, лічыліся нічыйнымі. На іх прэтэндавалі імператар (кіраўнік Свяшчэннай Рымскай імперыі германскай нацыі) і папа. Таму Ордэн ужо ў 1226 годзе дабіўся ў імператара Фрыдрыха II булы, якая прызнавала землі, захопленыя Ордэнам, яго ўласнасцю. Да таго ж у 1233 годзе біскуп Хрысціян трапіў у палон да прусаў, і Ордэн выкарыстаў гэта ў сваіх мэтах: у 1234 годзе яны дабіліся ад папы Грыгорыя IX булы, па якой прускія землі браліся пад апякунства папы і перадаваліся ім ва ўласнасць Ордэна.*

*Так было афармлена ўзнікненне Ордэнскай дзяржавы. У 1237 годзе Тэўтонскі ордэн аб'яднаўся з Ордэнам мечаносцаў, які размеркаваўся ў Лівоніі. Гэтае аб'яднанне стварыла моцны фарпост для новага наступства на славян, першы этап якога завяршыўся ў XII стагоддзі амаль поўным вынішчэннем прыбалцкіх і палабскіх славян. У вялікай небяспецы аказаліся літоўскія землі, асабліва Жмудзь (Самагіція, па Длугашу). Яна знаходзілася паміж прускімі і лівонскімі ўладаннямі Ордэна, і крыжакі стараліся прысвоіць гэтую тэрыторыю.*

*Ордэнская дзяржава пашыралася. Да 1260 года ў яе склад уваходзілі ўжо ўсе заходнепрускія землі, а к 1283 году — уся Прусія. Паўстанні прусаў, якія адчайна змагаліся з захопнікамі, былі жорстка падаўлены. Скарыстаўшы слабасць маладой Польскай дзяржавы, што ўзнікла на мяжы XIII і XIV стагоддзяў у выніку ліквідацыі феадальнай раздробленасці, Ордэн адабраў у яе Памор'е. Гэта было цяжкім ударам для Польшчы, бо яна страціла выхад да мора, і перамовы і войны з крыжакамі не паляпшалі яе цяжкага становішча.*

*Для Літвы суседства з Ордэнам таксама было вельмі небяспечным. На гэты час Літоўская дзяржава знаходзілася ў росквіце магутнасці. Шляхам захопаў і шлюбных саюзаў літоўскія князі яшчэ ў XIII стагоддзі завалодалі Чорнай Руссю (з гарадамі Гародня, Слонім, Ваўкавыск і інш.) і Полацкай зямлёй, а напачатку XIV стагоддзя — Віцебскай зямлёй і Валынню. Пры князю Альгерду (1345—1377 гг.) у склад Літоўскай дзяржавы ўвайшлі Кіеўскае, Чарнігава-Северскае, Смаленскае княствы і Падолія.*

*Хаця ў сувязі з падначаленнем Літве беларускіх, украінскіх і часткі рускіх земель хрысціянства пакрысе пачало распаўсюджвацца, краіна яшчэ не развіталася з язычніц-*

*твам. Таму захопніцкія наступствы Ордэна супраць Літвы матываваліся барацьбой з няверным з мэтай увядзення іх у лона хрысціянскай царквы. Прыкрываючыся гэтымі мэтамі, а насамрэч імкнучыся пашырыць свае ўладанні, браты-рыцары рабілі супраць літоўцаў адзін паход за другім, рабуючы іх землі, забіваючы і ўводзячы ў палон насельніцтва. У час праўлення Альгерда (1345—1377) было здейснена сто такіх набегаў. Літоўцы не заставаліся ў даўгу і адказвалі контрударамі: сорак два разы яны ўступалі ў валоданні Ордэна і спусташалі іх. Суседства крыжакоў перашкаджала эканамічнаму развіццю Літвы, таму пры перамовах з папам аб хрышчэнні літоўскія князі ставілі ўмовай перасяленне Ордэна ў стэпы, на мяжу з Залатой Ардой.*

*Польска-літоўская унія была адказам на пагрозы агульнага ворага. Ажыццяўленню яе перашкаджала барацьба паміж Літвой і Польшчай за валынскія землі, і калі ў 1366 годзе гэтая барацьба закончылася пагадненнем аб раздзеле іх, перашкод не засталося. Зручны момант для заключэння уніі ўзнік у 1382 годзе, калі пасля смерці караля Польшчы Людовіка (адначасова і венгерскага караля) на прастол узышла яго дачка Ядвіга. Польска-літоўская унія была заключана ў 1385 годзе і змацавана шлюбам Ядвігі з вялікім князем літоўскім Ягайлам. Польскія феадалы прызналі Ягайлу сваім каралём, а ўзамен ён абавязаўся хрысціцца сам разам са сваімі шматлікімі братамі і ўсім літоўскім народам і вярнуць Польшчы ўсе землі, якія ў яе адабраў Ордэн. Першую ўмову Ягайла пачаў выконваць яшчэ да жаніцьбы з Ядвігай: ён разам з братамі прыняў каталіцтва і пачаў насаджаць яго ў літоўскіх землях. Пераход Літвы ў хрысціянства быў вельмі важнай умовай, якая адымала ў Ордэна падставу для нападу на літоўскія землі і адкрывала яго захопніцкія мэты. Длугаш піша, што літаральна за адзін год і за падараваную вопратку з воўны ўдалося ахрысціць Літву. Насамрэч працэс гэты заняў не адзін дзесятак гадоў, у чым можна пераканацца, прачытаўшы ліст караля Уладзіслава да валадароў еўрапейскіх краін. Выкананне другой умовы лягло ў аснову знешняй палітыкі Ягайлы і прывяло да вайны з крыжакамі, якая скончылася Грунвальдскай бітвай і вялікай паразай Ордэна.*

*Заключэнне уніі паміж Польшчай і Літвой Ордэн успрыняў як цяжкі ўдар для сябе. Напады на Літву і, асабліва, на Жмудзь не скончыліся. Актыўнай барацьбе з Ордэнам перашкаджалі эгаістычныя інтарэсы малапольскіх паноў, якія хацелі захапіць паболей зямель на ўсходзе. Гэтых поглядаў прытрымлівалася большасць членаў каралеўскага савета, але пасля заключэння Рацёнжскага міру (1404) Уладзіслаў-Ягайла цвёрда вырашыў рыхтавацца да вайны з крыжакамі. Здрадніцкі напад Ордэна ў жніўні 1409 года на выкупленую ў яго Добжынскую зямлю выклікаў патрыятычны ўздым усяго польскага народа. Польшча пачала сур'ёзна рыхтавацца да вайны. У пачатку снежня ў Брэсце-Літоўскім адбылася таемная сустрэча Уладзіслава-Ягайлы з Вітаўтам пры ўдзеле падканцлера Тромбы, на якой быў вызначаны ўвесь план вайны, тэрмін і месца збору аб'яднанага войска, удзел татар, спосаб пераправы войска праз Віслу, у сувязі з чым прынята рашэнне аб будаўніцтве пантоннага моста, які раней ніводнага разу не выкарыстоўваўся. Магчыма, ужо тады былі прыняты меры для прадухілення ўдзелу ў вайне Лівонскага аддзелу Ордэна, што і ўдалося зрабіць праз некалькі месяцаў Вітаўту шляхам дыпламатычных перамоў, і ў Грунвальдскай бітве ўдзельнічала толькі адна лівонская харугва.*

*Ордэн таксама не губляў дарэмна часу. Галоўную ўвагу яны ўдзялялі прыцягненню новых саюзнікаў і вярбоўцы наёмнікаў, што было не вельмі цяжка рабіць з іх багаццямі. Месцам канцэнтрацыі галоўных сіл пад камандаваннем магістра выбралі Свеце. Аднак ён апасаўся, што Вітаўт збіраецца здзейсніць напад на ордэнскія землі праз Аструду, таму там была сфарміравана спецыяльная групоўка пад камандаваннем вялікага маршала Ордэна. Становішча праяснілася толькі ў пачатку ліпеня 1410 года, калі польскае і літоўскае войскі сустрэліся ў Чэрвеньску. Аднак засталося незразумелым, куды рушаць яны: на Добжынскую зямлю або на поўнач да Марыенбурга. Калі пасля 5 ліпеня стала зразумелым, што польска-літоўскае войска рухаецца на поўнач, Ордэн сцягнуў усе войскі ў Кужэнтнік на Дрвенцы і падрыхтаваўся даць бітву. Меркавалася дапусціць літоўска-польскае войска да атакі заходняга берага Дрвенцы, абстраляць яго з бамбард*

*і, выкарыстаўшы ў яго радах паніку, выпусціць супраць яго конніцу, каб давяршыць разгром. Аднак планы Ордэна не здзейсніліся.*

*Калі Ягайла з Вітаўтам прывялі 10 ліпеня свае войскі да берага Дрвенцы і ўбачылі на супрацьлеглым добра ўмацаваным беразе войска крыжакоў у поўнай баявой гатоўнасці, яны вырашылі адступіць і пасуху абысці рэчку ля яе вытокаў. Даведаўшыся аб адыходзе іх войска, вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген выступіў з усім сваім войскам уверх па Дрвенцы. Там рэчка робіць вялікі выгіб на поўнач, таму крыжакі вырашылі пераправіцца праз яе, не даходзячы да вытокаў. Ля крэпасці Браціяна магістр загадаў пабудаваць 12 мастоў. Са слоў Длугаша нельга высветліць ні часу выхаду ордэнскага войска з Кужэнтніка, ні далейшага яго руху з Браціяна да Таненберга, ні часу прыбыцця ў Таненберг.*

*Колькі слоў аб войсках, якія сышліся пад Грунвальдам, іх арганізацыі і ўзбраенні. Вайсковыя сілы Польшчы былі прадстаўлены паспалітным рушаннем — феадальным апалчэннем, якоеззывалася толькі ў выпадку вайны. Аснову яго складала рыцарства — шляхта, абавязаная да коннай службы. Пяхота набіралася з сялян.*

*Конніца складала аснову вайсковых сіл і на Літве. Яна фарміравалася з вышэйшага слоя літоўскага феадальнага грамадства. У пяхоце былі сяляне.*

*Ордэн уяўляў сабой пастаянную і моцную вайсковую арганізацыю. Узначальваў яе вялікі магістр, ён жа — галоўнакамандуючы вайсковымі сіламі ў час вайны. Яго ўлада абмяжоўвалася саветам (капітулам) вышэйшых братоў з ліку пяці. У савет уваходзілі вялікі комтур, вялікі маршал (палкаводзец Ордэна), вялікі інтэндант, вялікі госпітальер і вялікі казначэй. Ордэн складаўся з братоў-рыцараў і паўбратоў, або ордэнскіх слуг. Яны былі пастаянным конным войскам Ордэна, рыцары — у цяжкім узбраенні, ордэнскія слугі — у лёгкім. Акрамя таго, у выпадку вайны кожнае комтурства (акруга, на якія дзялілася тэрыторыя Ордэна) павінна было выстаўляць узброеныя атрады. На чале іх стаялі правіцелі гэтых акруг — комтуры. Пяхота набіралася з сялян і рамеснікаў.*

*Галоўную ролю ў войску таго часу адыгрывала конніца, асабліва цяжкая. Узбраенне рыцарскай конніцы складалася з дзід, мячоў, баявых молатаў, сякер, лукаў са стрэламі. Пяхота ў асноўным ахоўвала абоз, хаця ў апошняй, рашаючай стадыі Грунвальдскай бітвы яна прыняла актыўны ўдзел. Яе ўзбраенне складалася з лукаў, сякер, пік, мячоў.*

*Артылерыя ў тыя часы толькі пачынала развівацца і складалася з прымітыўных пушак (бамбард), якія стралялі каменнымі або свінцовымі ядрамі, былі малярухомымі і ў палявым баі значэння амаль не мелі, а больш выкарыстоўваліся як асадная зброя.*

*Найменшай баявой адзінкай было так званае «кап'ё» з трох вершнікаў. У яго склад уваходзілі: закаваны ў латы цяжкаўзброены рыцар з доўгай (да 6 метраў) дзідай, мячом і сякерай, лёгкаўзброены збраяносец рыцара і лучнік. У «кап'і» яшчэ знаходзіўся чацвёрты конь, вольны або з паклажай. Збраяносцаў і лучнікаў магло быць болей, таму лік конных мог даходзіць да сямі. У харугву ўваходзіла ад 20 да 100 «коп'яў». Харугвы аб'ядноўваліся ў «кліны» — калоны, якія звужваліся наперад.*

*Колькасць войска як з аднаго, так і з другога боку дакладна не вядомая. Длугаш паведамляе аб 51 харугве ў крыжакоў, 90 — у польска-літоўскім войску (з іх 50 у палякаў, 40 у літоўцаў). У польскім войску ўкраінскія землі выставілі 7 харугваў: Львоўскую, Холмскую, Галіцкую, Перамышльскую і тры Падольскія. У двух харугвах меліся наёмныя рыцары з чэхаў, маравaў, сілезцаў. Татарскіх вершнікаў, па Длугашу, было 300. Лічба яўна заніжаная. Сучасныя гісторыкі называюць ад дзвюх да пяці тысяч вершнікаў. С. Кучыньскі, абапіраючыся на мабілізацыйныя магчымасці краін — удзельнікаў бітвы, — вызначыў польскае войска ў 20 тысяч ваяроў, беларуска-літоўскае — у 11,5 тысячы, сілы Ордэна — 30 тысяч чалавек. З Кучыньскім цяжка пагадзіцца ў адносінах колькасці ваяроў, якіх выставіў Вітаўт. У выпадку перамогі ён забіраў Жмудзь, Судавы, некаторыя ўрадлівыя падольскія землі. Для дасягнення сваёй мэты быў абавязаны выставіць найбольшую колькасць ваяроў. Таму сілы ВКЛ пад Грунвальдам можна ацаніць у 20 тысяч конніцы, 3—5 тысяч татараў і 3—4 тысячы чэлядзі, абознікаў, канаводаў. З сарака харугваў Вялікага княства 30 мелі на сцягах «Пагоню», 10 — герб*

*«Калоны», белыя слупы на чырвоным фоне. Длугаш пайменна называе віленскую, трокскую, гродзенскую, ковенскую, лідскую, полацкую, віцебскую, наваградскую, ваўкавыскую, медніцкую, брэсцкую, пінскую, кіеўскую, старадубскую, драгічынскую, мельніцкую, крамянецкую, смаленскую, а яшчэ харугвы князёў Сігізмунда Карыбута, Сямёна-Лінгвена Мсціслаўскага і нейкага Юрыя. Астатнія харугвы не ўпамянуты. Кастусь Тарасаў лічыць, што сярод не названых былі мінская і заслаўская харугвы пляменніка Вітаўта і Ягайлы — заслаўскага князя Юрыя Міхайлавіча, мсціслаўская, аршанская, слуцкая, магілёўская, луцкая, уладзімірская, ратненская. Як пераканаўча мяркуе С. Кучыньскі, Вільна, Трокі — цэнтры вялікіх густанаселеных зямель — далі не па адной, а па дзве-тры харугвы. Сваіх ваяроў выставілі Нясвіж, Кобрын, Крэва, Лукомль, Ашмяны, Ушполле, Вількамір, Вежкгайла. Пад Грунвальдам сышліся каля 80—90 тысяч чалавек. Другой такой буйной бітвы гісторыя сярэднявечча не ведала.*

*Галоўнакамандуючым узброеных сіл Ордэна быў магістр Ульрых фон Юнгінген, камандаванне непасрэдна ажыццяўлялі вялікі комтур Фрыдрых фон Валенрод і вялікі маршал Конрад фон Ліхтэнштэйн.*

*Пытанне аб тым, хто ажыццяўляў вярхоўнае камандаванне ў польска-літоўскім войску, выклікала вялікія спрэчкі. Адны, услед за Длугашам, камандуючым называюць кракаўскага мечніка Зіндрама з Машковіц, другія — вялікага князя літоўскага Вітаўта, трэція — караля Уладзіслава-Ягайлу. Апошні пункт гледжання апошнім часам пераважае. Варта зазначыць, што ў апісанні Длугаша вобраз караля Ягайлы нагадвае каталіцкага святога, а Вітаўт пададзены з усімі яго недахопамі і дасягненнямі, дапамагае нам уявіць жывога чалавека, яркага прадстаўніка сваёй эпохі, калі для дасягнення пастаўленай мэты не грэбавалі ніякімі сродкамі.*

*У час бою войскі варожых бакоў размясціліся на прасторы, абмежаванай вёскамі Грунвальд, Таненберг і Людвікава. Мясцовасць няроўная, узгорыстая, зрэзаная неглыбокімі ярамі, дзе-нідзе парослая лесам і хмызняком.*

*Саюзныя войскі размясціліся на палях Таненберга і Людвікава, а крыжакі сталі перад Таненбергам, тварам да Людвікава. Конніца кожнага войска размясцілася ў тры лініі.*

*На выснове Длугаша аб тым, што перад боем магістр прапанаваў каралю адвесці сваё войска з занятых пазіцый і такім чынам даць месца для саюзных войскаў, некаторыя гісторыкі зрабілі меркаванне аб перабудове баявога парадку ордэнскага войска. Быццам бы магістр, заўважыўшы, што працягласць фронту яго войска ў два разы меншая, чым у супернікаў, загадаў другой лініі сваіх войскаў далучыцца злева да першай лініі, насупраць правага фланга польска-літоўскага войска.*

*Артылерыя ў крыжакоў стаяла перад баявымі лініямі. Дзе стаялі гарматы саюзнага войска, невядома.*

*Галоўнакамандуючыя ўзброенымі сіламі на пачатку бітвы знаходзіліся кожны на левым флангу сваіх войскаў, ззаду баявых ліній.*

*Падрабязны аповед Длугаша не дае агульнай карціны бою, таму спынімся на некаторых яго ключавых момантах. Раніца 15 ліпеня. Длугаш піша: «Як толькі загучалі трубы, усё каралеўскае войска моцным голасам запела «Багародзіцу», а потым, выставіўшы дзіды, рынулася ў бой. Войска ж літоўскае, па загаду князя Аляксандра, які не цярпеў ніякага прамаруджвання, яшчэ раней пачало бітву». Такім чынам, беларуска-літоўска-ўкраінскія палкі ўступілі ў бой першымі і першымі адчулі на сабе жорсткую сілу ворага. Ягайла ў гэты час узносіў малітвы Госпаду і не спяшаўся ўступаць у бой. Чаму ён марудзіў? Можна меркаваць, што кароль, які заўсёды апасаўся Вітаўта, чакаў, пакуль крыжакі не пераб'юць значную частку яго войска, каб аслабіць сілы свайго брата-саперніка. Але гэта толькі гіпотэза.*

*Далей Длугаш піша, што літоўскае войска, якое мела больш рэдкія шэрагі, горшых коней і зброю, адышло на адлегласць аднаго югера (каля 60 метраў). Калі ж крыжакі пачалі адцясняць мацней, яно вымушана было зноў і зноў адступаць і нарэшце кінулася*

***наўцёкі. Вялікі князь Вітаўт стараўся спыніць уцёкі пабоямі і моцнымі крыкамі, але дарэмна… Уцекачоў ахапіў такі жах, што яны беглі да самой Літвы.***

***Аповед Длугаша стварае ўражанне, што ўцякала ўсё войска ВКЛ, за выключэннем трох смаленскіх палкоў. У тэксце адчуваецца наўмысная зададзенасць прыніжэння ролі беларуска-літоўскага войска і ўзвышэнне ролі польскіх харугваў. Аднак гэты разгром і ўцёкі цяжка ўявіць, бо яны знаходзяцца ў супярэчнасці з рэальнымі ўмовамі. Іншыя крыніцы — «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» і «Хроніка Быхаўца» — даюць інакшую карціну, але што адбывалася на полі бітвы ў сапраўднасці, ніхто не ведае.***

***Длугаш піша, што на заключнай стадыі бітвы польскія харугвы доўга не маглі распазнаць ворага, які набліжаўся да іх на чале з вялікім магістрам, затым яны ўступілі з ім у крывавы бой і разбілі. З ордэнскай хронікі Посільге даведваемся, што ў час апошняга бою вялікі магістр тройчы прабіваўся са сваімі сіламі праз польскія рады, але падышлі наёмнікі караля з аднаго боку і язычнікі (маюцца на ўвазе літоўскія войскі) з другога і забілі яго, і вялікіх саветнікаў, і амаль усіх братоў Ордэна. Мяркуецца, што пры гэтым у бітве акрамя конніцы шырокі ўдзел прыняла і сялянская пяхота. Усе яны шчыльным кальцом акружылі крыжакоў і нанеслі ім канчатковую паразу.***

***Усяго ў Грунвальдскай бітве, па словах Длугаша, загінула 50 тысяч крыжакоў і было ўзята ў палон 40 тысяч. Лічбы яўна перабольшаныя. Лічыцца, што забітых было 18 тысяч, а палонных — каля 14 тысяч. Як бы то ні было, саюзнае войска пры нязначных уласных стратах нанесла знішчальны ўдар па ворагу, чым назаўсёды аслабіла яго ваенную моц. Высокі патрыятычны ўздым у барацьбе з ненавісным ворагам, мужнасць і стойкасць саюзнага войска вырашылі зыход бітвы.***

***Пры большай рашучасці Ягайлы саюзнікі маглі падпарадкаваць сабе ўсю Прусію, але прамаруджванне караля дазволіла крыжакам наладзіць абарону Мальборка. Аднак Ордэн хоць і захаваўся, але моцна саслабеў і не меў сілы весці агрэсіўную палітыку супраць сваіх суседзяў.***

***Важкі ўклад літоўцаў і беларусаў у перамогу вярнуў ВКЛ Жмудзь, Судавы, Падолле, што наўрад ці адбылося б, калі б палкі Вітаўта былі зганьбаваныя поўным разгромам і ўцёкамі.***

***Грунвальдская бітва — яркі прыклад славяна-балцкага братэрства, калі, адкінуўшы ўласныя інтарэсы, палякі, літоўцы, беларусы і рускія аб'ядналіся для барацьбы са смяротным ворагам і далі яму дастойны адпор.***

***Аляксандр ВАШЧАНКА***



*Крыжакі.*

# ГОД ГАСПОДНІ 1386

**МАГІСТР ПРУСІІ, ПАГРЭБАВАЎШЫ ЗАПРАШЭННЕМ, НЕ З'ЯЎЛЯЕЦЦА НА ХРЫШЧЭННЕ І КАРАНАЦЫЮ УЛАДЗІСЛАВА-ЯГАЙЛЫ, А, САБРАЎШЫ ВОЙСКА, РАЗАМ З БРАТАМ КАРАЛЯ, АНДРЭЕМ, СПУСТАШАЕ ЛІТВУ І ЗАЙМАЕ ПОЛАЦКІЯ ЗЕМЛІ. КАРОЛЬ, ПАСЛАЎШЫ СКІРГАЙЛУ, СВАЙГО БРАТА, І ВІТАЎТА З ПОЛЬСКІМІ РЫЦАРАМІ, ВЯРТАЕ ЎСЕ ЗЕМЛІ НАЗАД.**

[…] У гэты час вялікі магістр ордэна крыжакоў Прусіі Конрад Цольнер[1], раззлаваны маючым быць узмацненнем як Польскага каралеўства, так і літоўскіх зямель, з прычыны зліцця і саюза іх паміж сабою, палаў то зайздрасцю, то апаскай, як бы гэта не аказалася гібельным як для яго, так  і для яго ордэна. Нягледзячы на атрыманае праз Зміцера з Горая[2] урачыстае запрашэнне прыбыць (у Кракаў), каб быць хросным Ягайлы, вялікага князя літоўскага[3], і прысутнічаць на ўрачыстасцях яго хрышчэння, каранавання і вяселля, магістр Прусіі, ведаючы, што Ягайла і іншыя князі, яго браты, і галоўныя баяры і рыцары адбылі ў Кракаў, сабраў прускае і лівонскае войскі[4] і двума атрадамі ўварваўся ў літоўскія землі. Пры гэтым у яго свіце знаходзіўся родны брат вялікага князя Ягайлы, Андрэй[5], які трымаўся хрысціянскай веры па рускаму абраду і збег да крыжакоў, ахоплены жаданнем з іх дапамогай захапіць вярхоўную ўладу над літоўцамі і рускімі. Пасля польскі кароль Уладзіслаў, узяўшы яго ў палон, прымусіў, як небяспечную для ўсіх заразу, зведаць турму і ланцугі ў замку Хенцыны на працягу цэлых трох гадоў.

Конрад Цольнер, які ўбачыў літоўскую зямлю спусцелай і пакінутай жыхарамі, падзяляе свае войскі на дробныя атрады, даводзячы спусташэнне краіны, аддаючы яе рабаванням і пажарам. Звыш таго, ён без бою авалодвае літоўскім замкам Лукомлем і аддае яго ў валоданне і кіраванне князю Андрэю. Таксама і палачане адмаўляюцца ад падпарадкавання каралю Уладзіславу і яго братам, літоўскім князям, і аддаюць як сваю зямлю, так і полацкі замак князю Андрэю.

---

[1] Конрад Цольнер фон Ротэнштэйн (1382—1390).* Аснову ўладанняў Ордэна складалі землі прусаў (аднаго з літоўскіх плямёнаў, якое засяляла ўзбярэжжа Балтыйскага мора паміж Віслай і Нёманам). Адгэтуль — Прусія, прускі магістр, Прускі ордэн, прусакі. Ордэн літаральна вынішчыў гэта ваяўнічае літоўскае племя, прысвоіўшы сабе не толькі яго землі, але нават назву.

** Гады ў дужках без тлумачэнняў азначаюць гады кіравання.*

[2] Зміцер з Горая — адзін з ініцыятараў Польска-Літоўскай уніі, падскарбій Польскага каралеўства.

[3] Ягайла (па-польску Ягела) — сын вялікага князя літоўскага Альгерда (1345—1377) і Юліяніі, цвярской князёўны, вялікі князь літоўскі. Пасля смерці караля польскага Людовіка Венгерскага (1370—1382) і ўзвядзення на пасад юнай дачкі апошняга Ядвігі (нар. у 1371 г. — пам. у 1399 г.) частка польскіх саноўнікаў вылучыла Ягайлу як найболей выгоднага кандыдата на яе руку, разлічваючы дзякуючы гэтаму шлюбу далучыць да Польшчы літоўскія і асабліва  ўваходзячыя тады ў склад Літвы шматлікія рускія землі, а таксама забяспечыць сабе саюзніка ў барацьбе супраць агульнага ворага — Тэўтонскага ордэна крыжакоў. Польска-Літоўская унія была афармленая ў жніўні 1385 г. у г. Крэва (суч. Крэве ў Літве), адкуль атрымала назву Крэўскай. У лютым 1386 г. Ягайла прыняў хрышчэнне па каталіцкаму абраду, атрымаўшы імя Уладзіслава, быў абвенчаны з Ядвігай і каранаваны польскай каронай пад імем Уладзіслава II (1386—1434).

[4] Г. зн. сабраў рыцарства Тэўтонскага ордэна крыжакоў і рыцарства Лівонскага ордэна, раней Ордэна мечаносцаў.

[5] Андрэй — князь полацкі. Пасля смерці Альгерда прыняў актыўны ўдзел у барацьбе за вялікакняжацкі пасад. З прыходам да ўлады Ягайлы (1382) збег да крыжакоў. У 1386 г., абапіраючыся на ваенную дапамогу Ордэна, узначаліў рух у полацкай зямлі супраць Польска-Літоўскай дзяржавы.

Даведаўшыся аб гэтым, кароль польскі Уладзіслаў пасылае ў Літву сваіх братоў — роднага, Скіргайлу[1], і стрыечнага (па бацьку), Вітаўта[2], надаўшы ім вялікую колькасць польскіх рыцараў, каб даць адпор крыжакам. Князі, пачуўшы, што ворагі тым часам, пасля спусташэння краіны, вярнуліся ў Прусію, прамым шляхам накіроўваюцца да замка Лукомля і, праз некалькі дзён, бяруць яго прыступам, а пакінуты ў ім атрад князя Андрэя і крыжакоў часткай кідаецца ва ўцёкі, часткай захопліваецца ў палон або знішчаецца. Пасля гэтага князі ўступаюць у Полацкую зямлю, якая адпала ад караля; і ў той час як ні крыжакі, ні князь Андрэй не аказалі дапамогі палачанам, князі вяртаюць апошнім сваё спрыянне, пакараўшы на пласе толькі віноўнікаў адпадзення. […]

## ГОД ГАСПОДНІ 1387

**КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ З КАРАЛЕВАЮ ЯДВІГАЙ ПРЫЯЗДЖАЕ Ў ЛІТВУ І, ЗРЫНУЎШЫ ІДАЛАЎ, ПРЫВОДЗІЦЬ ДА ХРЫШЧЭННЯ ЎСЕ ПЛЯМЁНЫ, РАЗДАЮЧЫ ВОПРАТКУ, ПРЫВЕЗЕНУЮ З ПОЛЬШЧЫ.**

З-за таго, што Уладзіслаў, кароль польскі, пры заключэнні ім дамовы з Польскім каралеўствам і каралевай Ядвігай абавязаўся клятвай звярнуць літоўскі народ і краіну з ідалапаклонства і паганскіх забабонаў да глыбокай пашаны адзінаму праўдзіваму Богу і да спавядання каталіцкай веры і таму, што кароль больш за ўсе памкненні душы палаў жаданнем распаўсюдзіць каталіцкую веру, то ён накіроўваецца ў Літву, узяўшы з сабою з Польскага каралеўства Бадзанту, архібіскупа гнезненскага[3], і шматлікіх царкоўных мужоў набожнага і прыкладнага жыцця, вучэннем, клопатам і дзеямі якіх хрысціянская вера магла быць пасеяна ў народзе, які жыў па паганскіх абрадах, у краіне, дзе датуль Хрыстос быў невядомым і чужым. Але, не здавольваючыся суправаджэннем царкоўных мужоў, кароль Уладзіслаў бярэ з сабою каралеву Ядвігу, каб яна ўбачыла новую радзіму, краіну і народ свайго мужа, а таксама князёў Мазовіі Земавіта[4], Януша[5] і князя Конрада Алясніцкага[6], пазнанскага ваяводу

---

[1] Скіргайла — князь трокскі.

[2] Вітаўт — Вітаўтас (літ.) — сын Кейстута, стрыечны брат Уладзіслава-Ягайлы. У барацьбе, якая разгарэлася пасля смерці Альгерда за пасад паміж Ягайлам і Кейстутам, братам Альгерда, верх атрымаў у 1382 г. Ягайла. Кейстут загінуў у зняволенні, Вітаўт збег да крыжакоў, адкуль вярнуўся ў 1384 г. і, памірыўшыся з Ягайлам, атрымаў ад яго Гародню, Брэст і Луцк. У 1389 г., незадаволены сваім становішчам, зноў збег да крыжакоў і пры іх падтрымцы здзяйсняў напады ў 1390—1391 гг. на Літву. У 1392 г. наступіла прымірэнне паміж Вітаўтам і Уладзіславам-Ягайлам, змацаванае Астроўскай уніяй, у сілу якой Вітаўт стаў намеснікам Уладзіслава-Ягайлы ў літоўскіх і рускіх землях. У 1401 г. Вітаўт атрымаў тытул вялікага князя літоўскага, прычым вялікакняжацкая ўлада была перададзена яму пажыццёва. Падтрымліваемы то Ордэнам, то германскім імператарам, зацікаўленымі ў разбурэнні Польска-Літоўскай уніі, ён неаднаразова рабіў спробы адлучыцца ад Польшчы. Апошняя была здзейснена ім у 1429—1430 гг., і толькі нечаканая смерць Вітаўта ў 1430 г. перашкодзіла яе ажыццяўленню.

[3] Бадзанта — архібіскуп у 1386—1389 гг.

[4] Земавіт IV — старэйшы з трох кіраваўшых тады ў Мазовіі князёў (нар. каля 1357 г. — пам. у 1426 г.). Спрадвечная вобласць Польшчы Мазовія не ўвайшла ў склад адзінай Польскай дзяржавы, якая склалася на мяжы XIII—XIV ст. пасля ліквідацыі перыяду феадальнай раздробленасці, але лічылася ленным уладаннем польскага караля. Уз’яднанне яе з Польшчай адбылося ў 1526 г.

[5] Ян, часцей Януш (пам. у 1429 г.), — брат Земавіта.

[6] Конрад Белы — адзін з сілезскіх князёў. Сілезія, спрадвечная вобласць Польшчы, уваходзіла на той час у склад Чэхіі, аддадзеная ёй польскім каралём Казімірам III (1333—1370) па Вышаградскаму міру 1335 г.

Барташа з Візембурга, каштэлянаў — сандэцкага Крысціна з Козеглаў[1] і вісліцкага Мікалая з Асаліна[2], канцлера Польскага каралеўства Закліку з Мендзыгожа[3], падканцлера Мікалая з Машкажова[4], чашніка Влодка з Харбінавіц[5], кракаўскіх — падкормія Спытка з Тарнова[6] і падчашыя Томека[7] і шмат іншых вяльможаў і польскіх рыцараў. Па прыбыцці ў Літву кароль збірае ў Вільні з’езд у дзень Попела[8].Туды па волі караля з’ехаліся яго браты, князі Скіргайла Трокскі, Вітаўт Гродненскі, Уладзімір Кіеўскі, Карыбут Наваградскі[9], і вялікая колькасць рыцараў і простага люду. На працягу многіх дзён Уладзіслаў, кароль польскі, пры садзейнічанні каталіцкіх князёў, якія прыехалі з ім, прыклаў шмат намаганняў для таго, каб рыцары і простыя людзі, адрынуўшы ілжывых багоў, якім яны, ашуканыя марнасцю паганскіх памылак, датуль пакланяліся, пагадзіліся шанаваць адзінага праўдзівага Бога і пакланяцца яму і спавядаць хрысціянскую веру.

Варвары, аднак, аказвалі супраціў гэтаму і заяўлялі, што з іх боку было б несумленна і дзёрзка насуперак запаветам продкаў змяніць сабе, пакінуць і адрынуць сваіх багоў, галоўнымі з якіх былі наступныя: агонь, яго яны лічылі вечным, ён падтрымліваўся жрацамі, якія падкладалі дровы днём і ўначы; свяшчэнныя лясы; вужакі і змеі, у якіх, па вераванню язычнікаў, нябачна знаходзяцца багі[10]. Гэты агонь, ушанаваны варварамі як вечны і які захоўваўся ў Вільні, галоўным горадзе і сталіцы народа, дзе жрэц, што зваўся на іх мове «зніч», аберагаў яго і сілкаваў старанным падкладваннем дроў (а таксама прадказваў будучыню тым, хто да яго звяртаўся)[11]. Кароль Уладзіслаў распарадзіўся патушыць агонь на вачах у варвараў. Капішча і ахвярнік, на якім здзяйснялася закланне ахвяр, кароль таксама загадаў разбурыць. Звыш таго, ён загадаў высечы гаі ў лясах[12], якія лічыліся святымі, і зламаць у іх агароджы; а вужак і гадаў, якія меліся ў кожнай хаце ў якасці хатніх багоў, перабіць і знішчыць. Пры гэтым варвары толькі плачам і стогнамі праводзілі звяржэнне і згубу сваіх ілжывых багоў і бостваў, не адважваючыся наракаць на наказ караля.

---

[1] Крысцін з Козеглаў — каштэлян сандэцкі ў 1386—1417 гг.

[2] Мікалай з Асаліна — каштэлян вісліцкі ў 1377—1387 гг.

[3] Закліка з Мендзыгожа — у 1386—1409 гг. адначасова стараста куяўскі. Адзін з найблізкіх паплечнікаў Уладзіслава-Ягайлы.

[4] Імя падканцлера было Клеменс. Далей Длугаш заве яго правільна. Пасаду гэтую займаў у 1389—1402 гг.

[5] Влодэк з Харбінавіц — чашнік у 1375—1391 гг.

[6] Спытка з Тарнова — падкаморый у 1385—1395 гг.

[7] Томек — Томаш з Венглешына (1386—1403) — з 1401 г. стараста Вялікай Польшчы, потым каштэлян сандомежскі.

[8] Дзень Попела — дзень пакаяння, серада на першым тыдні Вялікага Паста.

[9] Карыбут-Зміцер — князь ноўгарад-северскі.

[10] Культ агню, лясоў і вужак існаваў і ў старажытнай Індыі, і ў Грэцыі. Захаваўся ў Літве да XV ст.

[11] Такі нязгасны агонь падтрымліваўся не толькі ў Вільні, але і ў Рамове (Прусія), у Ноўгарадзе Вялікім і іншых гарадах. У Воліна (Польшча), што размяшчаўся ў вусці ракі Одра і дзе знаходзілася свяцілішча найвышэйшага паганскага боства, зніч палаў у катле. Літоўскі тэрмін zincz (або žinŷš), па даведцы, дадзенай праф. Б. А. Ларыным, азначаў «жрэц», у сучаснай літоўскай мове — «знахар», «знаўца». На думку этнографа А. Карловіча, назва «зніч» абазначала святара, які падтрымліваў вечны агонь. У пісьмовых помніках на старабеларускай мове назва «зніч» не сустракаецца. У сучаснай беларускай мове тэрмін «зніч» замацаваўся ў значэнні «святы агонь у язычнікаў».

[12] Пад «гаямі» (luci) у лясах варта разумець хутчэй за ўсё, як мяркуе праф. Б. А. Ларын, абгароджаныя ўчасткі і палянкі, дзе стаялі ахвярнікі і вогнішчы.

Калі ж ідалы былі зламаны і знішчаны[1] і літоўцы ўвачавідкі ўпэўніліся ў ілжывасці сваіх багоў і зразумелі, што былі да таго часу ахвярамі падману, усё літоўскае племя і народ пагадзіліся, адрокшыся ад старажытнай памылкі, ахвотна і з пакорлівай адданасцю прыняць хрысціянскую веру.*

Праз некалькі дзён, калі яны былі навучаны асновам праўдзівай веры, якія належыць выконваць, — малітве гасподняй і сімвалу веры — польскімі святарамі і яшчэ ў большай ступені святарамі караля Уладзіслава (бо ён ведаў мову племя і з ім ахвотней згаджаліся), яны былі адроджаны святой вадой хрышчэння. Пры гэтым шчадротамі набожнага караля Уладзіслава кожнаму з простых людзей была раздадзена новая вопратка — кашулі і штаны з прывезенага з Польшчы сукна. Гэтай празорлівай міласцю і шчодрасцю кароль дасягнуў таго, што гэты цёмны і бедна апрануты народ, які да таго часу абыходзіўся ільняной вопраткай, як толькі распаўсюдзілася гаворка аб такой шчодрасці, пачаў з усіх абласцей натоўпамі сцякацца для прыняцця хрышчэння і дзеля атрымання ваўнянай вопраткі. А паколькі хрысціць кожнага верніка паасобку патрабавала б вялізнай працы, усё мноства літоўцаў, якія збіраліся для хрышчэння, было па распараджэнню караля падзелена на атрады і кліны. Пасля дастатковага акраплення святой вадой кожнаму атраду і ўсім, з каго ён складаўся, замест варварскіх імёнаў давалася адно са звычайных хрысціянскіх, а іменна: першаму атраду — Пётр, другому — Павел, трэцяму — Іаан, чацвёртаму — Якаў, пятаму — Станіслаў. Жанчынам, якія складалі асобныя атрады, даваліся адпаведныя жаночыя імёны, іменна: Кацярына, Маргарыта, Даратэя па парадку і колькасці атрадаў. Рыцарам жа і людзям больш высокага звання рабілася асобнае хрышчэнне, і яны самі разам з жонкамі, дзецьмі і сваякамі накіроўваліся ў Вільню, каб прыняць хрышчэнне і спазнаць асновы хрысціянскай веры. [...]

### ПАХОДЖАННЕ ЛІТОЎЦАЎ; АБРАДЫ ШАНАВАННЯ БАГОЎ І СТАРАЖЫТНЫЯ НОРАВЫ.

Хоць і малавядома, бо ніхто з пісьменнікаў не захаваў аб гэтым звестак, якім чынам, адкуль і калі літоўскія і самагіцкія плямёны прыйшлі ў тыя паўночныя вобласці, якія яны зараз насяляюць, а таксама ад якога племя яны вядуць свой род і пачатак, аднак праўдзівай падаецца здагадка, якая вядзе да высновы (маючы на ўвазе як гукавы склад мовы, так і падобныя моўныя звароты), што літоўцы і самагіты — лацінскага паходжання; і калі яны і не паходзяць ад рымлян, то, ва ўсякім разе, ад нейкага лацінскага племя. Сцвярджаюць, што ў час грамадзянскіх войнаў, якія разгарэліся спачатку паміж Марыем і Сулай, а затым паміж Юліем Цэзарам і Пампеем Вялікім і іх пераемнікамі[2], яны пакінулі старажытныя месцы свайго жыхарства і бацькаўшчыну ва ўпэўненасці, што ўся Італія загіне ва ўзаемным знішчэнні. Разам з жонкамі, быдлам і сваякамі літоўцы прыйшлі на шырокія і пустэль-

[1] Ідалаў, г. зн. статуй, літоўцы сваім багам не ўзводзілі. Тут слова «ідалы» трэба разумець, відаць, у сэнсе «ілжывыя багі».

* *Прыняцце хрысціянства часам сустракала ўзброены адпор, і яго прыходзілася ўводзіць агнём і мячом, а рэшткі язычніцтва захаваліся ў Літве да гэтага часу.*

[2] Вайна паміж рымскімі палкаводцамі Марыем, які прадстаўляў інтарэсы дэмакратычных пластоў рымскага грамадства, і Сулай, выразнікам інтарэсаў рабаўладальніцкай арыстакратыі, вялася ў 89—87 гг. да н. э. і скончылася перамогай апошняга. Барацьба за ўладу паміж Гаем Юліем Цэзарам і Пампеем адбывалася ў 49—48 гг. да н. э. і працягвалася яшчэ некаторы час пасля смерці Пампея паміж іх паслядоўнікамі.

ныя прасторы, якія пісьменнікі называюць «пушчы», даступныя адным звярам і пякучым маразам[1]. Гэтую паўночную краіну, якую яны па старажытнай звычцы [Італія] назвалі Літаліяй (цяпер яна, з прычыны некаторай змены, завецца палякамі і рускімі Літва). Племя ж яны назвалі літаламі, дадаўшы наперадзе адну толькі літару «л», якую яшчэ і цяпер дадаюць італьянцы ў сваёй народнай мове[2]. Да прыняцця праўдзівай веры яны пачыталі тыя ж самыя святыні, тых жа багоў і спраўлялі тыя ж святыя абрады і святы, якія існавалі ў рымлян, калі тыя былі язычнікамі, а менавіта: святы агонь (зніч), які рымлянамі па забабонах падтрымліваўся бесперапынна і ў Рыме шанавалі ў ім Юпітэра-грамавержца дзевы-вясталкі[3], якія загладжвалі сваю нядбайнасць, у выпадку яго згасання, сваім жыццём. Таксама і лясы, якія яны лічылі святымі і ў якіх дакранацца жалезам да дрэва прызнавалася ў іх паганым і згубным, бо ўсіх, хто дакранаўся да іх жалезам і ўздымаў на іх руку, хітры нячысцік сатана пры божым патуранні паражаў у руку, вока, нагу або іншую частку цела, каб утрымаць сваіх прыхільнікаў у паганай веры[4], і нібыта вяртаў ім цэласць толькі тады, калі яго ўміласціўлялі спаленнем цалкам бараноў і цялят[5]. Таксама лічылася, што ў іх лясах жыве бог Сільван і іншыя багі, па вядомаму выслоўю паэта: «Таксама і ў лясах жылі багі»[6]. У змеях жа і вужаках рымляне пачыталі бога Эскулапа, які ў выглядзе змяі прывезены быў у Рым на караблі з Грэцыі, менавіта з Эпідаўра, для спынення лютаваўшай чумы[7].

У такіх і падобных святадзействах літоўцы хоць і не паўтаралі ў дакладнасці абрады рымлян і італійцаў, але ўсё ж, па большай частцы, іх імітавалі.

Звыш таго, у літоўцаў, пакуль яны знаходзіліся ў цемры паганства, існавала перанятае ад продкаў святое свята і звычай: у пачатку кастрычніка, пасля збору ўраджаю, адпраўляцца з жонкамі, дзецьмі і сваякамі ў лясы, якія лічыліся святымі, і прыносіць на працягу трох дзён сваім багам быкоў, бараноў і іншых жывёл у ахвяру і поўнае спаленне; а пасля ахвярапрынашэнняў і святадзействаў праводзіць гэтыя тры дні ў святах, гульнях і скоках, аддаючыся баляванням і п’янству. Ад гэтага свята, якое было самым галоўным і важным, нікому нельга было ўхіліцца.

Таксама, вярнуўшыся з варожых зямель з перамогай або са здабычай, яны ўзводзілі з груды дроў вогнішча, на якое кожны кідаў па палене. У гэтым агні спальвалі самага прыгожага і знатнага палоннага, мяркуючы, што такога роду бязбожным спаленнем яны больш за ўсё дагаджаюць сваім багам. Нам не ясна, аднак, ці пера-

---

1 Пушчы (indagines) тут варта разумець не як лясныя масівы, а як пустынныя, ненаселеныя прасторы.

2 Длугаш выкладае тэорыю аб рымскім паходжанні літоўцаў, узнікшую ў яго час на аснове падабенства літоўскага слоўніка з лацінскім, якая доўга карысталася прызнаннем. Вядомы польскі гісторык, адначасова гісторык Літвы, Г. Лаўмянскі, падвяргаючы крытычнаму перагляду ўсе наяўныя гіпотэзы аб паходжанні літоўцаў, гэтую тэорыю заве пустой выдумкай XV ст. (H. Łowmianski. Początki.., стар. 2—12, 232).

3 Паданне, быццам нязгасны агонь, захоўваемы вясталкамі (жрыцамі Весты, багіні агменю), быў як бы ўвасабленнем Юпітэра-грамавержца, заснавана ў Длугаша на нейкім непаразуменні.

4 У старажытных культах часта забаранялася ўжыванне жалезных прылад (замест першапачатковых бронзавых або нават каменных), але тут гаворка ідзе наогул аб недатыкальнасці святых лясоў. Цікавым уяўляецца згадванне ўслед за паганскімі багамі хрысціянскага сатаны.

5 Пры звычайных ахвярапрынашэннях боству аддаваліся толькі некаторыя часткі жывёлін, іншыя пакідаліся для балявання.

6 Сільван (або Фаўн) — рымскае боства накшталт беларускага лесавіка. Цытата ўзята з другой кнігі «Эклог» Вяргілія, стар. 60.

7 Лац. Эскулапій, грэч. Асклепій — бог-лекар, якога асабліва шанавалі ў Эпідаўры. Аб перавозе яго ў Рым у 293 г. да н. э. распавядаюць Ціт Лівій (кн. 10, ст. 47, 7 ) і Авідзій (Метамарфозы, XV, ст. 622 сл.).

нялі яны гэты звычай ад продкаў або самі прыдумалі абрад, бо язычніцтву наогул уласціва ў сваім асляпленні ўзрастаць у сваіх памылках.

Акрамя таго, яны спальвалі сваіх нябожчыкаў, што было, як мы ведаем, у звычаі не толькі ў італікаў і лацінаў, але і ў іншых народаў. Аднак літоўцы, дзякуючы мноству лясоў і гаяў, мелі адмысловыя лясы, у якіх кожнае паселішча і кожная хата і сям'я мелі ўласныя вогнішчы для спалення па звычаю нябожчыкаў. Пры гэтым да чалавечага цела, якое спальвалі, далучалі найболей каштоўных жывёл і рэчы: каня, быка, карову, сядло, зброю, пояс, каралі, пярсцёнкі, і ўсё гэта спальвалі разам з трупам, не лічачыся з тым, што рэчы маглі быць залатыя або срэбныя. Паводле гэтага звычаю, быў аддадзены спаленню ў ляску Кокiвейт[1], каля замка і паселішча Міжэхолы, вялікі князь літоўскі Альгерд, сын Гедыміна[2] і бацька Уладзіслава, караля польскага (выкрадзены смерцю ў памылцы паганства), апрануты ў жупан, упрыгожаны перлінамі і каштоўнымі камянямі, у пышнай пурпурнай вопратцы, вышыванай золатам, і з срэбным пазалочаным поясам, разам са сваім лепшым канём.

Як літоўскія, так і самагіцкія плямёны жывуць на зямлі, звернутай большай часткай да самай халоднай вобласці поўначы, і настолькі стынуць ад дажджоў і халадоў, што многія гінуць ад моцных маразоў. У іншых асабліва пакутуюць насы, бо ў апошніх, відаць, больш вільгаці, на якую дзейнічае холад.

Лета ў той і другой абласцях хутчэй уяўляецца, чым існуе ў рэчаіснасці, і доўжыцца яно ўсяго два месяцы. Астатні час года яны стынуць ад холаду. Таму ў гэтых месцах збожжа дрэнна спее, і яго прыходзіцца сушыць на агні і надаваць яму спеласць штучным жарам[3].

Уласцівасці зямлі, якую яны насяляюць, і неба, пад якім жывуць, а таксама блізкія зносіны і змешванне з рускімі плямёнамі шмат у чым, але не цалкам, змянілі ранейшыя старажытныя схільнасці літоўцаў. Тыя, хто падпалі пад уплыў іншаземных заган, выраджаліся з прычыны благога ўплыву і шкоднай ежы і станавіліся больш здольнымі да рабаванняў і набегаў, чым да бітваў.

У даўнія гады заняты літоўцамі край знаходзіўся ў такім запусценні, невядомасці і нязначнасці, што, з прычыны іх беднаты і прыроднай бясплоднасці глебы, князі кіеўскія спаганялі з іх даніну аднымі шкурамі і лыкам, адзіна ў знак падначалення[4]. Упершыню Віцень, князь літоўцаў, падняўшы паўстанне супраць рускіх і паставіўшы сябе князем сярод сваіх, уступіў з рускімі ў барацьбу. Напаўшы на іх і дзейнічаючы хітрасцю, ён памалу настолькі набраўся сіл, што налажыў ярмо на рускіх князёў і нават прымусіў іх плаціць сабе даніну, якую сам на працягу шматлікіх гадоў да гэтага плаціў рускім[5].

---

[1] Назва гэтага лесу суадносіцца з распаўсюджаным у літоўцаў культам лясных бажкоў, каукаў*, свайго роду гномаў, якія нібыта жылі пад зямлёй паміж каранямі дрэў.

** Каукас ( літ. kaūkas, мн. лік kaukai) — у літоўскай міфалогіі дух, які прыносіць у хату дабро і грошы. Лічыцца, што Каукас дапамагае мужчынам, тады як Дэйве — жанчынам. Каукасы жывуць у падпечку або пад зямлёй; яны таксама звязаны з сушняй і стайняй; іх частуюць малаком і півам. Каукаса можна купіць. Нямецкі гісторык XVII ст. М. Прэторыус адносіць каукасаў да бостваў шчасця. Каукаса часта параўноўваюць з Айтварасам (лятучым духам у выглядзе вогненнага змея, дракона, чорнай вароны, кошкі). Мажвідас і іншыя згадваюць Каукаса сярод блізкіх яму духаў — Айтвараса, Жэмепаціса (духа зямлі), Лаукосаргаса (духа палёў). Ян Ласіцкі лічыў каукасаў душамі памерлых. Адно са значэнняў літоўскага kaukas — душа нехрышчонага дзіцяці.*

[2] Альгерд, сын Гедыміна, валадарыў у 1316—1341 гг.

[3] У Длугаша: colore. Відавочна, памылка або няправільнае чытанне замест calore, так як маюцца на ўвазе, відавочна, восеці, сушні.

[4] Рускія летапісы захавалі звесткі аб шэрагу паходаў Уладзіміра, Яраслава і іншых князёў супраць асобных літоўскіх плямёнаў. Магчыма, што гэтыя князі потым атрымоўвалі з літоўцаў даніну.

[5] Аб барацьбе брата Гедыміна, князя Віценя (1293—1316), з Руссю іншых звестак няма. Паходы на Русь літоўцы пачалі здзяйсняць задоўга да Віценя, яшчэ з канца XII ст.

Літоўцы ўтрымліваюць у рабстве вялікую колькасць рабоў; і таму, што народжаныя ад сужыцця з рабамі падзяляюць тую ж долю, а некаторыя, хоць і нарадзіліся вольнымі, але, не маючы магчымасці выплаціць падаткі або судовыя пені, якія ў іх вельмі высокія, становяцца рабамі або прадаюцца ў рабства, лік рабоў памнажаецца са дня на дзень. Службай жа і працай рабоў літоўцы назапашваюць маёмасць і багацці[1]. Навучаныя даўнімі парадкамі, яны з дзіўнай адданасцю захоўваюць свае таямніцы і таямніцы сваіх гаспадароў.

**ЗАСНАВАЎШЫ ГОРАД ВІЛЬНА, ЛІТОЎЦЫ ДАЛІ ЯМУ І РЭКАМ, ЯКІЯ ПРАЦЯКАЮЦЬ ПАБЛІЗУ, НАЗВЫ ВІЛІЯ І ВІЛЬНА Ў ГОНАР СВАЙГО КНЯЗЯ ВІЛІЯ. З-ЗА БЕДНАТЫ ЯНЫ ПЛАЦІЛІ РУСКІМ КНЯЗЯМ, У ЗНАК ПАДНАЧАЛЕННЯ, У ЯКАСЦІ ДАНІНЫ ШКУРЫ.**

Літоўцы, самагіты і яцьвінгі[2], хоць мелі розныя найменні і дзяліліся на мноства родаў, складалі тым не менш адзінае цэлае, вядучы сваё паходжанне ад рымлян і італікаў, і гэтае племя, на працягу доўгага часу невядомае і цёмнае, выступіла тады ўпершыню. Яны сталі выгнаннікамі, калі ў рымлян і італікаў разгарэліся міжусобныя войны паміж Юліем Цэзарам і Пампеем. Падчас гэтых войнаў яны былі прыхільнікамі Пампея. Калі ж апошні спачатку быў пераможаны на палях Фарсала, а затым забіты ў Александрыі ў Егіпце, яны, з прычыны таго, што некаторыя з іх знаходзіліся ў сваяцтве з Пампеем і дапамагалі пампеянцам старанней, чым іншыя рымляне, і ненавідзячы пераможца, Юлія Цэзара, і баючыся з яго боку асабліва жорсткіх ганенняў супраць сябе як людзей асабліва варожых, ненавісных і ненадзейных, пакінулі Рым у год ад заснавання горада семсот чатырнаццаты[3] і са ўсёй маёмасцю і рабамі падаліся ў паўночныя вобласці, дзе маглі бяспечна і бяскарна хавацца. Аб гэтым сведчыць самае імя, якім яны сябе завуць. Бо ўсе згаданыя плямёны звалі сябе літаламі, прытрымліваючыся старажытнага звычаю італійскай прамовы, які дагэтуль выконваюць італьянцы ў сваёй народнай мове, менавіта дадаючы літару «л» перад шматлікімі словамі.

І тыя ж самыя святыні, багі і святадзействы былі ў літоўцаў, што і ў рымлян у пару іх паганскай памылкі. Вулкана яны пачыталі ў агні, Юпітэра — у маланцы, Дыяну — у лясах, Эскулапа — у вужаках і змеях. У галоўных гарадах падтрымлівалі агонь, які яны звалі і лічылі вечным. Гэты агонь захоўваўся жрацом, які даваў нават, быўшы навучаны нячысцікам, двухсэнсоўныя адказы тым, хто прыносіў ахвяры і запытваў яго. Юпітэра ж яны пачыталі ў маланцы і звалі на сваёй народнай мове Пяркун, як бы percussor[4]. Таксама і шматлікія лясы яны паважалі як святыя, так што пранікаць у іх і ўздымаць на іх руку, ссякаючы дрэвы або лістоту, лічылася злачынствам; бо таго, хто зразаў лістоту або ўступаў у гэтыя лясы, нячысцік забіваў або знявечваў, шкодзячы тую або іншую частку цела. Нарэшце, амаль у кожнай хаце яны ўтрымоўвалі гадаў і змей, даючы ім у ежу малако, і рэзалі ім пеўняў у якасці ўміласціўляючай ахвяры.

---

[1] У часы, якія апісвае Длугаш, рабства ў літоўцаў, вядомае ім у патрыярхальнай форме, ужо не існавала.

[2] Яцьвінгі (яцвягі) — адно з літоўскіх плямёнаў, якое засяляла тэрыторыю на поўнач ад Белавежскай пушчы.

[3] Па паданню, Рым быў заснаваны ў 754 г. да н. э.

[4] Перкун, Перкунас — бог грому і маланкі, якому адпавядае славянскі Перун і беларускі Пярун, быў, мабыць, галоўнай боскасцю ў літоўцаў. Гэты міфалагічны персанаж узыходзіць да вобраза індаеўрапейскага грамавержца. Длугаш наіўна тлумачыць гэтае імя як адпаведнасць лац. percussor (ад percutere — прабіваць, трапляць).

Першапачаткова завучыся літаламі, з цягам часу ад іншых народаў яны атрымалі назву літванаў — шляхам прыбаўлення «в» і замены «л» на «н». Быўшы выгнанымі з Італіі міжусобнымі войнамі і смутамі, яны занялі шырокія пустэчы паміж Польшчай, Руссю, Лівоніяй і Прусіяй — вобласці, на працягу большай часткі года скаваныя зімовай сцюжай.

Там яны заснавалі спачатку горад Вільню, які і да гэтага дня з'яўляецца сталіцай племя, назваўшы яго па імені князя Вілія[1], пад кіраваннем якога яны пакінулі Італію і ўступілі ў гэтыя землі, а рэкам, якія праходзяць каля горада, Віліі і Вільні, далі назвы па імені таго ж князя.

Першапачаткова яны жылі вольна, па ўласных законах, бо суседзі не ўмешваліся ў іх справы, пакуль, размножыўшыся, не ўзраслі лікам і не спустошылі ніжнюю зямлю, звернутую да Прусіі, якая на іх мове адпаведна завецца Самагіція* (што значыць «ніжняя зямля»), а таксама і зямлю, сумежную з Польшчай, якую яны назвалі «Ярацонамі»[2].

Рускія і, галоўным чынам, кіеўскія князі, занепакоеныя рухам літоўцаў наперад (бо апошнія занялі лясы, якія былі ў валоданні рускіх), прымусілі літоўцаў плаціць даніну, аднак мізэрную і сціплую, толькі ў знак сваёй улады і панавання. І літоўцы плацілі шмат гадоў даніну карой дубовых галін, бо нельга было спаганяць з іх большага, з прычыны бясплоднасці зямлі.

Мова ў іх лацінская, якая адрозніваецца ад класічнай толькі нязначна, бо, з прычыны зносін з суседнімі плямёнамі, яна ўжо схілілася да ўласцівасцей рускіх слоў. Вопратка і нашэнне кароткіх валасоў і барады здаўна былі ў іх у звычаі. Вялікую частку войска ў іх складаюць рабы, якія таксама будуюць усе будынкі, выконваюць хатнія абавязкі і даюцца як пасаг зяцям; прычым уладальнікі ўжываюць да іх празмерную суровасць і скнарлівасць, больш чым варварскую. Ніколі не маюць яны звычаю даваць рабам вольнай. У сілу таго, што дзеці, якія нараджаюцца ў рабоў, таксама становяцца рабамі, лік іх са дня на дзень павялічваецца. Акрамя таго, часта зварот у рабства адбываецца і шляхам гвалту, па паклёпе або ў сілу несправядлівасці, асабліва ў наш час, калі вярхоўны гаспадар Літвы, якога гэтыя плямёны па звычаю продкаў завуць вялікім князем (так услаўлялі Пампея), не рабіў ніякай абароны прыгнечаным.

Чым багацей хто-небудзь, тым больш ён выстаўляе ўзброеных людзей свайму гасудару ў выпадку вайны.

Ежа ў гэтага племя бедная і суровая; яе кухараць у посудзе і гаршках, злепленых з мукі[3], і часцей пякуць на агні, чым вараць у вадзе.

Самыя невядомыя з паўночных плямёнаў, абавязаныя рускім падначаленнем і нікчэмнай данінай, яны, як гэта ні здасца дзіўным для ўсякага, ці то ўласнай доблесцю або па баязлівасці і бяздзейнасці суседзяў дасягнулі такога поспеху, што зараз загадваюць рускімі, пад уладай якіх амаль на працягу тысячы гадоў знаходзіліся на становішчы рабскай чэрні.

---

[1] Вілій — імя легендарнага літоўскага князя.

* *Самагіція — Жмудзь.*

[2] Размова тут ідзе аб зямлі яцвягаў. Брукнер лічыць, што назва Ярацоны, якой надзяліў тут Длугаш гэтае літоўскае племя і яго зямлю, заснавана на памылковай транскрыпцыі польскай назвы племя (яцьвінгі) ў адной з папскіх грамат (A. Brűckner. Starożytna Litwa, стар. 23).

[3] Cibus pascedis et ollis ex farina formatis coctus. Pasceda або pascedum — слова невядомае. Мяркуючы па тым, што яно стаіць побач з «гаршкамі», Длугаш, відаць, ужыў яго для пазначэння нейкага посуду. Здзіўляе ўказанне, што яна і гаршкі зроблены з цеста. Верагодна, маецца на ўвазе нейкі літоўскі спосаб вырабу, не вядомы палякам (як выраб шынкі, запечанай у цесце, і г. д.). Правільнасць тэксту наўрад ці можа быць западозрана, бо па праверцы, ласкава зробленай праф. М. Плезя (Кракаў), тое ж чытанне дае найбольш аўтарытэтны (кракаўскі) рукапіс «Гісторыі...» Длугаша, выкананы яго сакратаром з уласнаручнымі папраўкамі аўтара.

Пахаванні ў іх у пару язычніцтва не адрозніваліся ад італійскіх: усіх нябожчыкаў яны спальвалі на вогнішчы, а з імі і каня, вопратку і начынне, якую памерлы, як яны ведалі, шанаваў больш за ўсё; зараз яны хаваюць трупы ў зямлі.

Дух у гэтага племя ганарлівы, мяцежны, несумленны, дзёрзкі, хлуслівы і скнарлівы. Маўклівыя па прыродзе, яны пакрываюць маўчаннем уласныя таямніцы і таямніцы сваіх гаспадароў. З дзецьмі яны гарэзлівыя, дзяржаве сваёй адданыя горача і старанна, схільныя да юрлівасці, п'янства і ліслівасці, старанныя і на рэдкасць схільныя да варажбы і вядзьмарства. Яны кіруюцца скнарлівасцю і ў ежы скупыя, акрамя тых выпадкаў, калі робяць пышныя балі і пачастункі для гасцей і прыезджых. Аб святах і абрадах, якія адносяцца да служэння багам, клапоцяцца пераважна знатныя асобы і намеснікі, народ жа — мала. Жанчыны ў іх адрозніваюцца вялікай стараннасцю і клопатам у вядзенні гаспадаркі і прырашчэнні яе. Яны распараджаюцца ежай, а таксама вырабляюць усякага роду тканіны з ільну; але і яны схільныя да п'янства[1]. Вітаўт-Аляксандр[2] трымаў літоўскія плямёны[3] ў паслухмяным падпарадкаванні дзвюма мерамі, без якіх усякая ўлада гасудара ў іх была б сумнеўнай, нетрывалай і падобнай ценю, а менавіта страхам, бо ён быў схільны да кар, грозны і бязлітасны, а таксама сваім клопатам, бо ў паходах і ў задавальненні патрэб кожнага быў ён хуткі, шчодры і велікадушны.

### КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ АДСЫЛАЕ КАРАЛЕВУ ЯДВІГУ Ў ПОЛЬШЧУ, А САМ ПРЫКЛАДАЕ ЎСЯЛЯКАЕ СТАРАННЕ ДА ЗВАРОТУ Ў КАТАЛІЦТВА РУСКІХ І ЛІТОЎЦАЎ.

Такой вялікай і гарачай набожнасцю і стараннасцю да насаджэння і ўмацавання ў літоўцах веры і царквы каталіцкай быў ахоплены Уладзіслаў, кароль польскі, што, адправіўшы каралеву Ядвігу ў Польшчу, ён на працягу цэлага года знаходзіўся ў Літве. Там ён асабіста наведваў вобласці, гарады, паселішчы і вёскі, схіляючы і прымушаючы яшчэ не хрышчоных да глыбокай пашаны праўдзіваму богу і жагнаючы іх святой вадой сам або праз пасрэдніцтва польскіх князёў, вяльможаў і святароў; навучаў святымі настаўленнямі і выратавальнымі запаветамі. Акрамя таго, ён у шматлікіх месцах узводзіў храмы, адорваў і забяспечваў цэрквы, капліцы і святыя месцы, так што кароль заслужана можа лічыцца асветнікам і апосталам літоўскага племя.

Тады ж набожны кароль выдаў на карысць веры распараджэнні і ўказы для абвяшчэння, змацаваўшы іх уласнаручным подпісам, каб надзейныя літоўцы-каталікі пазбягалі і грэбавалі браць шлюбы з рускімі адрачэнцамі, якія не падпарадкоўваліся рымскай царкве. Калі ж яны бралі падобны шлюб, патрабавалася, каб руская жонка прымала і спавядала веру мужа-каталіка, а рускі муж — веру жонкі-каталічкі, цалкам пакінуўшы грэчаскі абрад, і прымушалі іх да гэтага цялеснымі пакараннямі.

Акрамя таго, кароль пастанавіў вызваліць як сапраўдныя, так і будучыя царкоўныя ўладанні ад усіх падаткаў, збораў, абавязальніцтваў, паставак, пастоеў і ўсялякіх турбот, звычайных і надзвычайных.

---

[1] Будучы адукаваным чалавекам і святаром, Длугаш ставіцца да літоўцаў пагардліва як да малакультурнага народа, які толькі нядаўна прыняў хрышчэнне. І ўсё ж ён адзначае іх гарачы патрыятызм і адданасць радзіме.

[2] Аляксандр — імя, прынятае Вітаўтам пры хрышчэнні.

[3] «Літоўскія плямёны» ў тэксце адсутнічаюць, замест гэтага стаіць «has», як быццам адносячыся да жанчын, аб якіх перад гэтым ішла гаворка. Відавочна, абмоўка Длугаша.

***Каментарыі Л. В. Разумоўскай, Б. В. Казанскага, А. П. Вашчанкі.***
***Пераклад Аляксандра ВАШЧАНКІ.***

***Працяг будзе.***




# СТУДЗЕНЬ

**1**

*— 100 гадоў з дня нараджэння Герцовіча Якава Бенцыянавіча (1910—1976), беларускага крытыка, нарысіста, сатырыка.*

**1**

*— 80 гадоў з дня нараджэння Шырына Лявона (Леаніда Іванавіча; 1930—1994), беларускага паэта, крытыка, дзіцячага пісьменніка.*

**3**

*— 105 гадоў з дня нараджэння Хадыкі Уладзіміра Марцінавіча (1905—1940), беларускага паэта, перакладчыка.*

**3**

*— 60 гадоў з дня нараджэння (1950) Трафімчука Міколы (Мікалая Мікалаевіча), беларускага паэта.*

**4**

*— 60 гадоў з дня нараджэння Барэйшы Міхася (Міхаіла Уладзіміравіча; 1950—1990), беларускага празаіка, паэта, перакладчыка, журналіста.*

**7**

*— 85 гадоў з дня нараджэння Карпечанкі Васіля Васільевіча (1925—2005), беларускага паэта.*

**9**

*— 95 гадоў з дня нараджэння Зуба Валянціна Андрэевіча (1915—1980), беларускага празаіка, драматурга, фельетаніста.*

**11**

*— 60 гадоў з дня нараджэння (1950) Руцкай Алены Віталье́ўны, беларускай паэтэсы, педагога, заслужанай настаўніцы Рэспублікі Беларусь.*

**14**

*— 90 гадоў з дня нараджэння (1920) Аўрамчыка Міколы (Мікалая Якаўлевіча), беларускага паэта, празаіка, перакладчыка, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.*

**14**

*— 60 гадоў з дня нараджэння (1950) Спрынчана Вадзіма Браніслававіча, беларускага паэта, перакладчыка.*

**16**

*— 105 гадоў з дня нараджэння Пальчэўскага Алеся (Аляксандра Восіпавіча; 1905—1979), беларускага празаіка, драматурга.*

**22**

*— 75 гадоў з дня нараджэння Ракава Віктара Апанасавіча (1935—2000), беларускага паэта.*

**26**

*— 110 гадоў з дня нараджэння Моркаўкі Аркадзя Андрэевіча (1900—1957), беларускага паэта.*

**27**

*— 70 гадоў з дня нараджэння Вышынскага Міхася (Міхаіла Антонавіча; 1940—1996), беларускага празаіка, крытыка.*

**28**

*— 70 гадоў з дня нараджэння (1940) Дайнекі Леаніда Мартынавіча, беларускага паэта, празаіка.*

*80 гадоў з часу выдання (1930) штомесячнага ілюстраванага грамадска-палітычнага і літаратурна-мастацкага часопіса «Беларусь».*

*60 гадоў з часу заснавання (1950) дзяржаўнага кніжнага выдавецтва «Полымя». У 2002 г. разам з выдавецтвам «Ураджай» увайшло ў склад дзяржаўнага кніжнага выдавецтва «Беларусь».*

Яўген ГАРАДНІЦКІ

# МЕТАМАРФОЗЫ ВІКТАРА ШНІПА

Што важней для мастацкага самасцвярджэння паэта — здольнасць быць разнастайным, зменлівым, увесь час непадобным на сябе папярэдняга, учарашняга? Або зусім наадварот — усталяванасць аўтарскай пазіцыі, выразная вызначанасць галоўнага кірунку, пастаянства ў выбары тых або іншых сродкаў мастацкага выражэння?

Пытанне ўвогуле рытарычнае, паколькі ў кожным канкрэтным выпадку яно вырашаецца па-свойму, у адпаведнасці са схільнасцямі, мастацкімі прыярытэтамі самога аўтара. Усё залежыць у канчатковым выніку ад прыроды паэтычнага таленту, ад тых спосабаў яго ўвасаблення, якія ён сам выбірае як унутрана яму не супярэчлівыя. А зрэшты, у той або іншай ступені ў творчасці кожнага сапраўднага паэта выяўляюцца, мабыць, абодва гэтыя бакі. Паэт не можа не быць у пастаянным руху, у пошуку адэкватных сродкаў выражэння сваёй зменлівай гістарычнай эпохі, выяўлення плыннасці чалавечага жыцця. У той жа час ён абапіраецца пры гэтым на ўжо знойдзенае, на тое, што адстаялася, пэўным чынам выкрышталізавалася. Разам з няспынным пошукам адбываецца пастаяннае назапашванне гэтага ўнутрана сутнаснага, вызначальнага.

Калі азірнуць увесь немалы творчы набытак Віктара Шніпа, то адразу кідаецца ў вочы, што паэзія яго зазнала значныя змяненні на шляху свайго развіцця. Прытым яны датычацца ўсіх яе бакоў — як змястовых, так і фармальных. Мяняліся з часам танальнасць, характар светаадчування, паэтыка, стыль. Ад прасякнутай святлом, даверлівым прыманнем жыцця, настраёвасці першых зборнікаў — да насычаных супярэчнасцямі і антаганізмамі, драматызмам, сарказмам і іроніяй кніг пазнейшага часу. І — адпаведна — назіраўся рух мастацкіх форм, адбываліся змены ў сферы паэтычнай мовы, рытміка-інтанацыйным ладзе верша.

Можна паспрабаваць умоўна вылучыць у творчасці Шніпа **тры** перыяды, якія прыблізна суадносяцца з дзесяцігоддзямі.

Васьмідзесятыя гады — час юначых мар і надзей, светланосных адчуванняў, захопленага ўзірання ў шматаблічны, такі дзівосны і неспазнаны свет. Гэта, вядома, пара паэтычнага вучнёўства, актыўнага засваення мастацкага вопыту папярэднікаў і сучаснікаў, але, адначасова, і прыўнясення ў паэзію чагосьці такога, чаго ёй тады, мабыць, не ставала. А менавіта — непаўторнага спалучэння юнацкага наіву, даверлівага стаўлення да свету з сур’ёзнасцю і ўзважанасцю жыццёвых пераканнанняў, спавяданнем духоўных і маральных каштоўнасцей, якія былі звязаны ў першую чаргу з блізкім і зразумелым маладому паэту светам першавытокаў, зямлёй маленства. Глыбінная сувязь з роднай зямлёй, блізкімі людзьмі, землякамі застаецца для Шніпа і зараз, у пару паэтычнай сталасці, жыццёва неабходнай патрэбай, жывіць яго творчасць духаўздымнай энергетыкай. Мабыць, трывалая ўсталяванасць на гэтым жыццёвым грунце, моцная стрыжнёвая аснова характару, у якім захавалася штосьці радавое, карнявое, прадвызначылі тое, што і ў дынамічныя, напоўненыя ўзрушлівымі падзеямі дзевяностыя гады паэзія Шніпа, паўстаючы рознымі сваімі гранямі, выяўляючы ў сабе супярэчнасці часу, застаецца з’явай унутрана цэласнай.

Гэты, другі перыяд варта абазначаць як час творчых, ідэйна-эстэтычных пошукаў. Такім жа шматстайным, разгорнутым, адкрываючым бясконцае мноства напрамкаў і шляхоў, як рэальны свет, бачыцца і свет мастацтва, паэзіі. Для творчага самасцвярджэння, рэалізацыі сваіх магчымасцей паэту хочацца апрабаваць як мага больш напрамкаў, прайсці многімі шляхамі і сцяжынамі. Гэта, мабыць, наогул адна з вызначаль-

ных прыкмет таленавітай асобы, выяўлення закладзенага ў ёй творчага патэнцыялу — менавіта такое самаадданае памкненне да найпаўнейшага спазнання ў мастацтве і жыцці ўсяго, што ўяўляе пэўную цікавасць, з чым можна непасрэдна судакрануцца, засвоіць, паспрабаваць па-свойму выказаць на мове ўласнай душы. Як мне ўяўляецца, існуе несумненная крэатыўная залежнасць паміж шматфарбнасцю, багаццем, невычарпальнасцю жыцця і здольнасцю творчай асобы ўсё гэта ўспрыняць. Таму што адэкватнае ўспрыманне вымагае ў дадзеным выпадку неардынарных якасцей і з боку суб’екта: душэўнай адкрытасці, шырыні поглядаў, чуйнасці да ўсіх быццёвых праяў.

Што ж датычыцца трэцяга перыяду, то гэта цяперашні час — пачатак новага стагоддзя і тысячагоддзя, той час, у якім мы жывём. Шніп, які сустракае сёлета свой паўвекавы юбілей, выйшаў сёння на новы ўзровень, на тыя пазіцыі, якія даюць магчымасць для падсумавання пройдзенага шляху і зробленага ў літаратуры (ужо не толькі ў паэзіі, але і ў прозе). Ёсць падставы гаварыць якраз пра выніковасць творчых пошукаў.

Сёння Віктар Шніп мае значныя мастацкія здабыткі, якія сведчаць пра тое, што многае ў яго шматграннай творчасці адстаялася, набыло выразныя формы, усталявалася як выяўленне арыгінальнага аўтарскага стылю. Аднак думаецца, што і цяпер ім не страчана здольнасць да творчага эксперыменту, адчування рухомасці і зменлівасці паэтычнага слова, яго адпаведнасці дынаміцы жыцця.

Шніп адносіцца да ліку тых аўтараў, якія могуць вельмі натуральна і арганічна спалучаць пошукі новага ў мастацтве з фундаментальнымі, анталагічнымі жыццёвымі і эстэтычнымі каштоўнасцямі. І гэта ўласцівасць з’яўляецца наогул адной з самых характэрных адзнак нацыянальнай мастацкай свядомасці, вызначальнай адметнасцю літаратурнага развіцця. Сінтэзаваць, засвоіць, адаптаваць усё, што ўяўляецца прымальным і спрыяльным для далейшага руху, і ў той жа час заставацца з’явай выключна самабытнай, самадастатковай — у гэтым



*Маці паэта Ніна Міхайлаўна з унукамі Максімам і Веранікай. 31.12.2008.*



*З Алесем Бадаком на свяце паэзіі, прысвечаным юбілею В. Дуніна-Марцінкевіча. Заслаўе, 2008 г.*

сутнасць дыялектыкі развіцця нашай літаратуры. Менавіта гэта дазволіла ёй паўстаць у сусветнай культурнай прасторы нацыянальна адметным феноменам. Пісьменнікі, якія прытрымліваюцца адзначанай лініі развіцця, могуць з поўным на тое правам называцца нацыянальнымі творцамі. Шніп у гэтым сэнсе — прадаўжальнік менавіта нацыянальных мастацкіх традыцый, творца, які ўзрос на нацыянальнай глебе, шматлікімі повязямі звязаны з быццём народным, з першаасновамі.

Па свайму характару — лагоднаму, спакойнаму, ураўнаважанаму, ды разам з тым цвёрдаму, мэтаімкнёнаму — Віктар Шніп тыповы беларус. Хоць радаводныя карані яго заглыблены не толькі ў беларускую глебу. Продкі яго па бацькоўскай лініі паходзяць з Прусіі. Пра аднаго з іх, прускага рыцара Германа Шніпа, які навекі парадніўся з беларускай зямлёй, паэтам напісана балада, якой адкрываецца цыкл «Балады радаводу», што ўяўляе сабой гісторыю станаўлення роду, выкладзеную на мове паэзіі.

Спасціжэнне гісторыі, цікавасць да якой нязменна спадарожнічае творчасці паэта, мае, такім чынам, і асабісты характар. Айчынная гісторыя ў яго творах, асабліва баладнага тыпу, разгортваецца як гісторыя перш за ўсё асоб, канкрэтных людзей. Уменне глыбока пранікнуць у характар чалавека, раскрыць яго ўнутраны свет дазваляе наблізіць і ўзбуйніць постаці тых, хто пакінуў след у падзеях як даўняй, так і зусім нядаўняй нашай гісторыі. Пры гэтым трэба адзначыць, што эпічная разгорнутасць і панарамнасць у творах такога кшталту непарыўна сплаўляюцца з лірычным спосабам выражэння. Аўтар як бы перапісвае людскія лёсы на мову лірыкі, даючы магчымасць сваім героям выказацца ў сваіх маналогах гэтак жа шчыра і непасрэдна, як і ён сам, калі прамаўляе ад свайго імя, выяўляючы свае ўласныя пачуцці і думкі.

Наогул жа трывалая спалучанасць асабовага і агульнага, сумоўе аўтарскага паэтычнага голасу з галасамі герояў з'яўляюцца характэрнымі прыкметамі паэзіі Шніпа на ўсім працягу яе развіцця. Безумоўна, у першых зборніках дамінавала лірычнае самараскрыццё, пераважалі інтанацыі, якія сыходзілі найперш ад уласных экзістэнцыяльных перажыванняў, ад перапоўненасці пачуццямі. Аднак і ў першым зборніку «Гронка святла» (1983) мы можам сустрэць прыклады таго, як з дапамогай літаральна некалькіх штрыхоў, дэталей паўстае яскравы вобраз іншага чалавека. Вось, напрыклад, зусім невялічкі верш — чатырохрадкоўе, у якім, тым не менш, высвечваецца ўсё жыццё немаладой жанчыны, выяўленае праз імгненне самотнай засяроджанасці:

Цыбулю мама у вянкі пляце,
Нібыта дочкам заплятае косы.
Ёй чуецца ў задумнай немаце
Гадоў забытых гоман шматгалосы.

У гэтым малюнку — сапраўднасць рэальнасці, натуральнасць убачанага насамрэч моманту жыцця і ў той жа час значнасць мастацкага абагульнення, якое выводзіць выяўленае на ўзровень не паўсядзённасці, а быцця. Вобраз маці, якая паглыбілася ва ўспаміны, вызначаецца сваёй шматзначнасцю, пэўнай загадкавасцю, глыбінёй псіхалагічнай трактоўкі.

Першая кніга Шніпа з такой мажорнай, прасвечанай наскрозь пачуццём юначай захопленасці жыццём, назвай — «Гронка святла» — складалася з вершаў, якія ўтрымлівалі ў сабе гарманічны пачатак, вызначаліся празрыстасцю вобразнага ладу, адчуваннем жыццёвай перспектывы. Тэматычна і змястоўна яны аб’ядноўваліся вакол ідэі роднаснай сувязі паэта з малой радзімай, бацькамі, землякамі. Вёска Пугачы, у якой нарадзіўся паэт, паўстала духоўным асяродкам, месцам, у якім найбольш адчувальная повязь аўтара з усім неабсяжным сусветам, з быццём наогул.

Ёсць на Валожыншчыне
вёска Пугачы,
Дзе рэчышчы сцяжын
не зараслі ў лугах,
У агародчыках красуюць касачы,
Буслы
На Захад
Сонца коцяць па дубах.

Яшчэ ў адным вершы паэт з гонарам за сваіх землякоў прамовіць: «Валожынскія мы!» Пачуццё далучанасці да зямляцкага таварыства, адчуванне чагосьці агульнага, што аб’ядноўвае ўсіх ураджэнцаў гэтага цудоўнага, маляўнічага, авеянага легендамі краю, з’яўляецца ўстойлівай, нязменнай рысай характару Шніпа. Гэтым пачуццём прасякнуты многія яго вершы пра землякоў, пра родную валожынскую зямлю, яе гісторыю і паўсядзённасць. Апрача таго, паэтам многа робіцца і па практычным выяўленні сваёй прыхільнасці да малой радзімы, садзейнічанні раскрыццю яе духоўнага і творчага патэнцыялу. Ён, напрыклад, выступіў ініцыятарам стварэння літаб’яднання «Рунь» пры рэдакцыі раённай газеты «Працоўная слава», якім пэўны час кіраваў, перадаючы свой творчы вопыт пачынаючым літаратарам. Дзеля гэтага спецыяльна ездзіў штомесяц з Мінска ў Валожын на пасяджэнні творчай суполкі.

Паэтычны почырк Шніпа станавіўся з кожным годам усё больш выразным і ўпэўненым, разнастаілася яго стылявая мастакоўская палітра. Ды заўсёды захоўвалася ў яго паэзіі штосьці стрыжнявое, сутнаснае, што зыходзіла менавіта ад гэтай лучнасці з жыццёвай асновай, арыентаванасці на рэальна ўспрынятае і адчутае, тое, што разумелася як першаснае і неабходнае. За зборнік вершаў «Гронка святла» Віктар Шніп быў у свой час узнагароджаны Усесаюзнай прэміяй імя Уладзіміра Маякоўскага — выпадак увогуле беспрэцэдэнтны, калі мець на ўвазе, што гэта першая кніга паэта. Мабыць, тыя, хто вырашаў пытанне аб прысуджэнні прэміі, таксама звярнулі ўвагу на жыццетрываласць паэзіі Шніпа, яе прапіску на канкрэтнай мясцовасці.

Паэтычны свет Шніпа з цягам часу разгортваўся ў бок метафарычнага пераасэнсавання, пашыраўся за кошт сімвалізацыі быццёвых праяў. Жыццёвыя рэаліі, застаючыся вельмі істотнай часткай мастацкай прасторы, напаўняліся дадатковымі сэнсамі, уключаліся ў агульны кантэкст светаразумення, у якім не існавала мяжы паміж матэрыяльным і метафізічным. Свет, узбуйняючыся і ўскладняючыся, пазбаўляўся ў вачах паэта аднамернасці, а разам з тым і пэўных рыс гарманічнай упарадкаванасці, суладнасці. Ён паўставаў ва ўсёй сваёй супярэчлівасці, дысгарманічнасці, і ў гэтым, безумоўна, выяўляўся ўплыў бурлівых перамен часу.

У вершах паэта пачынаюць абазначацца прыкметы прытчавасці, міфалагічнага светаадчування. Усё большае пашырэнне атрымоўваюць вобразы-сімвалы, у якіх праз іх матэрыяльную абалонку праступаюць сэнсы іншай, паэтычна трансфармаванай рэальнасці. У кнігах, якія выйшлі ў дзевяностыя гады («На рэштках Храма», «Горад Утопія», «Выкраданне Еўропы» і інш.), жыццё бачыцца ў сваёй рэальнай паўнаважкасці, насычанасці няпростымі клопатамі і праблемамі. Пачуцці, якія апаноўваюць аўтара, яго лірычнага героя, вызначаюцца сваёй амбівалентнасцю, узаемапераходнасцю мажорных і мінорных тонаў. Часам у асобных творах пачынае нават пераважаць даволі змрочны каларыт. Адным з найбольш частых у вобразна-стылявой палітры становіцца якраз чорны колер («і цемра як чорная багна / чорнай крыві і сажы...»; «у атрутным тумане курганне, / чорны прывід на чорным кані...», «у чорных вулках шукаю ратунку / ад маўклівай як камень самоты...» і г. д.). Якая відавочная і ўражвальная розніца, калі супаставіць такую вобразнасць з ранейшай, той, што вызначала стылістыку і настраёвасць першага і наступных за ім зборнікаў!

Адным з цэнтральных вобразаў-сімвалаў паэзіі Шніпа стаў вобраз Храма. Гэты вобраз сапраўды вельмі шматгранны і шматзначны, ён у розных кантэкстах суадносіцца з



*Разам у жыцці і літаратуры.*
*З Людмілай Рублеўскай. 2008 г.*

розным жыццёвым зместам, выяўляе шматстайныя перспектывы духоўнага развіцця. Дарога да Храма як увасабленне жыццёвага ідэалу ўяўляецца паэту самым важным кірункам, у якім неабходна рухацца сучаснаму чалавеку дзеля таго, каб аднавіць для сябе (і ў сабе) ствральныя магчымасці, пазбавіцца таго, што не дае ім разгарнуцца. «На рэштках Храма» — так назваў паэт адну са сваіх кніг, акрэсліўшы тым самым экзістэнцыяльную сітуацыю пераходнасці, чакання і прадчування змен. І зруйнаваны Храм — усё ж Храм, пакуль хоць бы ў адной душы не згасла святло, што ад яго зыходзіць. Для паэта якраз найважней тое, што адкрываецца ў людскіх душах. І надзеі, і спадзяванні (а яны цепляцца ў глыбіні падтэксту нават самых мінорных па сваёй настраёвасці вершаў) звязаны ў яго найперш з духоўнымі і маральнымі магчымасцямі сучаснага чалавека выстаяць, сцвердзіць трываласць асноўных жыццёвых каштоўнасцей. «На гэтым свеце кожны — госць, / І хто як можа, так піруе. / Зямлю ўратуе прыгажосць... / Хто ж прыгажосць саму ўратуе?» — задаецца паэт пытаннем, па-свойму пераасэнсоўваючы вядомы пастулат. Пытанне гэта тоіць у сабе адказ.

Паэт шмат эксперыментуе якраз на пераvале стагоддзяў, быццам спрабуючы адшукаць мастацкі адпаведнік крутабежнаму, зменліваму часу, імкнучыся выхапіць з несупыннай плыні імгненныя адбіткі вечнага жыцця. На сумежжы стагоддзяў, як падсумаванне вынікаў і развітанне з цэлай эпохай, гучаць паэтавы радкі:

Канчаецца дваццатае стагоддзе,
Нібы ў пустэльні шлях за небасхіл,
Нібыта з-пад вазоў дзядоўскіх пыл,
Нібыта крык у знішчанай прыродзе,
Канчаецца дваццатае стагоддзе...

Нягледзячы на такую акцэнтацыю на матыве *fin de sicle*, у гэтым і іншых творах Шніпа не знойдзеш сведчанняў рэзкага часавага абрыву. У працытаваным урыўку якраз выразна адчуваецца жаданне як бы расцягнуць развітанне з векам, у якім гэтулькі перажыта, спазнана. Выяўленню гэтага памкнення дапамагае ў дадзеным выпадку і структурная арганізацыя верша, размеранае нанізванне на стрыжнёвую думку разнастайных асацыяцый-прыпадабненняў.

У настойлівых пошуках адпаведнай часу і сваёй мастакоўскай сутнасці формы паэтычнага выказвання, у непасрэднай далучанасці да складаных калізій сучаснага жыцця, Шніп паступова фармаваў сваю адметную манеру пісьма. Яе можна было б ахарактарызаваць як *баладны лад верша* (улюбёным жанрам, прытым індывідуальна-аўтарскім, стала апошнім часам для яго балада). Аднак, мне думаецца, значэнне вынайдзенага паэтам творчага метаду далёка перасягае межы аднаго паэтычнага жанру. Калі гаварыць пра тую жанравую разнавіднасць балады, якая прадстаўлена ў творчасці Шніпа, то варта перш за ўсё адзначыць, што яна ўяўляе сабой спецыфічны спосаб разгортвання паэтычнага выказвання. Тут не так важна падрабязнае выяўленне паслядоўнасці падзей, знешніх у адносінах да героя, як унутраная сюжэтыка, якая перадае яго душэўныя рухі, напружаную плынь думак.

Шматлікія балады В. Шніпа ўяўляюць сабой своеасаблівыя псіхалагічныя партрэты прадстаўнікоў розных гістарычных эпох. Рэальнасць іх духоўнага вобліку дасягаецца за кошт сумяшчэння некалькіх ракурсаў бачання. Яны паўстаюць перад намі ў пэўныя моманты свайго жыцця, пад час глыбокай засяроджанасці, калі адкрываецца перад унутраным зрокам абсяжны жыццёвы далягляд. Таму мы маем магчымасць успрымаць гэтыя вобразы ў іх аб’ектывізаванай увасобленасці і адначасова становімся сведкамі іх

унутранага, духоўнага жыцця, перажывання канкрэтнай жыццёвай сітуацыі, якая разгортваецца перад імі.

У баладах Шніпа лірызм як адзнака суб'ектыўнага ўспрымання цесна спалучаны з эпічным поглядам на сувязь асобы з шырокім кантэкстам гістарычнага развіцця. Гэта наогул характэрна для баладнага жанру. Але Шніп уносіць пры тым даволі істотныя нюансы, якія выяўляюць яго асабісты падыход да сучаснага выкарыстання старых жанраў. Звяртае на сябе ўвагу тое, што апрача звыклага абазначэння героя ў трэцяй асобе (*ён*) у баладах Шніпа прысутнічае і іншая займеннікавая форма — *ты*. Такім чынам, праз непасрэдны зварот да героя адбываецца дыялог, сутыкненне некалькіх пунктаў гледжання, розных свядомасцей і гістарычных эпох. Для Шніпа важней за ўсё выразна выявіць і вобразна ўвасобіць у сваіх творах тую духоўную, віртуальную прастору, у якой адбываецца гэтае плённае сумоўе.

Самым істотным момантам у выбудоўванні такога разгорнутага ў сваёй перспектыве мастацкага свету з'яўляецца імкненне да сінтэзу ўсіх магчымых сродкаў паэтычнага выражэння. У сучасных літаратуразнаўчых працах ужо досыць зацягалі да месца і не да месца ўжыванае слова *дыскурс*. Але ў дадзеным выпадку, мне здаецца, яно будзе дарэчы. Таму што як інакшай назваць гэтую быццам памкнёнасць самога тэксту да самаўзнаўлення, свайго працягу? Як інакшай ахарактарызаваць тую вольную плынь асацыятыўных вобразаў, якая, несучы ў сабе непаўторнасць голасу аўтара, увесь час пашырае абсягі паэтычнага бачання свету?

Паэтычны свет Шніпа ў сваёй дынаміцы, пастаянным станаўленні раскрываецца якраз найбольш выразна праз счапленні, нанізванні асацыяцый, прыпадабненняў, параўнанняў. Па сутнасці, усё адлюстроўваецца і праламляецца ва ўсім, і ў гэтым выяўляецца адзінства быцця і, разам з тым, яго пастаянная зменлівасць, рухомасць. Аснову дадзенага паэтычнага свету складаюць спрадвечныя з'явы і рэчы, з якімі чалавек вымушаны суадносіць сваё жыццё. Гэтыя архетыповыя вобразы-праявы быцця, такія як дарога, храм, крыж, віно, сад, камяні і г. д., найбольш часта сустракаюцца апошнім часам у творах паэта. Аднак пры гэтым не ўзнікае адчування замкнёнасці ў абмежаваным коле з'яў, паколькі кожны раз у новым паэтычным кантэксце яны, гэтыя адвечныя праявы, прадстаюць у іншым асвятленні, у спалучанасці з рэальным лірычным перажываннем, за якім адкрываюцца штораз новыя, нязведаныя быццёвыя перспектывы.

У дзвюх апошніх па часе выдання кнігах («Балада камянёў», 2006; «Страла кахання, любові крыж», 2008) Шніп побач з вершаванымі творамі змясціў празаічныя. І гэты пераход ад паэзіі да прозы, зафіксаваны ў межах адзінай мастацкай прасторы кнігі, прадстае як цалкам натуральны і мэтазгодны. Па сутнасці, гэта яшчэ адно пацвярджэнне асваення аўтарам новых магчымасцей мастацкага выяўлення пры захаванні цэласнасці паэтычнага светаадчування. Дзённікавая і лірычная проза Шніпа яшчэ больш акцэнтуе складаную ўзаемазалежнасць у яго мастацкім свеце канкрэтна-адчувальнага, рэчыўнага і метафізічнага, духоўнага. Гэтыя полюсы быццам увесь час аддаляюцца адзін ад аднаго, пашыраючы тым самым сферу эстэтычнага ўспрымання, але пры гэтым захоўваючы сваю асноўную прыцягальную ўласцівасць.

Пастаянны ў сваёй зменлівасці і зменлівы ў пастаянстве, Віктар Шніп заўсёды застаецца верным аднойчы абранаму крэда — творчаму пошуку. Няхай жа заўжды гэта будзе і для яго, і для чытача п о ш у к р а д а с ц і!

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# НА ПАГОРКАХ, НА СТА СЯМІ ГОРКАХ

## ЛІРЫК ПЕРАМОГ... ХІМІКА

Знакамітыя радкі Барыса Слуцкага: «Что-то физики в почете, // Что-то лирики в загоне…» успомніліся адразу, калі даведаўся, што начальнік аддзела культуры Капыльскага райвыканкама Наталля Царкова скончыла хімічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Праўда, працытаваць іх Наталлі Іванаўне не спяшаўся. Хацелася спачатку ад яе самой пачуць, як гэта сталася так, што яна рэзка змяніла накірунак у сваёй прафесіянальнай дзейнасці, быццам засведчыўшы, што гэтыя самыя фізікі, калі глядзець больш шырока, не ў пашане, а «лірыкі» куды больш запатрабаваны.



*Наталля Царкова.*

— Чаму рэзка? — запярэчыла Царкова. — Усё ішло да гэтага.

— Як гэта ішло?

Аказваецца, Наталля Іванаўна пасля атрымання дыплома аб вышэйшай адукацыі (яна родам з Капыля) размеркавалася на Капыльшчыну. Пачала працаваць настаўніцай у Камсамольскай сярэдняй школе. Сваю работу любіла. Але паколькі належала да людзей, пра якіх кажуць, што яны здатны генерыраваць новыя ідэі, ёй хацелася большай самастойнасці. Правільней нават не большай самастойнасці, а наяўнасці такіх умоў, пры якіх можна лепей і, зразумела, з большай аддачай свае задумкі праводзіць у жыццё, хоць гэта, несумненна, таксама магчыма толькі тады, калі сам можаш прымаць шмат якія важныя рашэнні. Таму неўзабаве стала адказным сакратаром раённага таварыства «Веды».

Гэтая работа, па прызнанню Царковай, ёй падабалася тым, што пастаянна даводзілася кантактаваць з новымі людзьмі. І разам з тым заўсёды адчуваць немалую адказнасць. Адказнасць жа, таксама па яе перакананню, не столькі ўскладняе працу, колькі, наадварот, робіць яе больш разнастайнай, цікавай, творчай, не дазваляе замыкацца на ўжо дасягнутым, а выклікае жаданне пастаянна імкнуцца да чагосьці новага, да таго, што знаходзіцца на больш высокім узроўні.

Гэта яшчэ ў большай ступені адчула, калі прызначылі загадчыкам дзіцячага сада № 2 г. Капыля. Праўда, прапанавалі гэтую пасаду не адразу. Пяць гадоў была выхавацелем, што зноў жа пайшло толькі на карысць. Таму ў наступныя гады, на працягу якіх узначальвала дзіцячы сад, і набыла належны вопыт кіраўніка. Вопыт гэты штодня запатрабаваны цяпер, калі з’яўляецца начальнікам аддзела культуры. Але і гэтым разам прайшла добрую школу: сем гадоў працавала вядучым спецыялістам аддзела культуры.

Цяпер у яе абсяг работы вельмі шырокі. Але таму і спраўляецца з ёю, што не толькі на сябе спадзяецца, а і мае зладжаную, жыццяздольную каманду гэткіх жа адданых культуры людзей, як і сама. Прытым такіх, на каго можа спадзявацца, як на сябе,

шмат. І працуюць яны на розных участках: у бібліятэках, клубных установах, музеі, школах мастацтва.

## МЫСЛІЦЬ — ЗНАЧЫЦЬ ПРАЦАВАЦЬ

Называючы тых, каго б ёй хацелася ў першую чаргу адзначыць за рупную працу, Царкова, крыху задумаўшыся, пачала пералічваць прозвішчы асабліва старанных, як кажуць, лепшых сярод лепшых. Гэты, так бы мовіць, ганаровы спіс склаўся з добрага дзесятка чалавек.

— А ці не зашмат? — здзівіўся я.

— Чаму шмат? — здзівілася ўжо Наталля Іванаўна. — Каго са згаданых мной працаўнікоў ні возьмеш, пра кожнага можна пісаць асобны артыкул.

Сапраўды, праўда была на баку Царковай, у чым я і ўпэўніўся пасля таго, як наведаў некаторыя ўстановы культуры, бліжэй пазнаёміўся з іхнімі супрацоўнікамі. Несумненна, тыя, пра каго гаварыла з такой павагай Наталля Іванаўна, заслугоўваюць самых удзячных слоў, бо не толькі самі добра працуюць, а і іншым прыклад падаюць. Важна і тое, што яны, як правіла, з'яўляюцца ініцыятарамі ў правядзенні многіх мерапрыемстваў, якія маюць вялікую запатрабаванасць.

Такімі якасцямі валодаюць кіраўнік жаночага вакальнага ансамбля Таццяна Хілько, дырэктар раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Таццяна Серая, навуковы супрацоўнік мясцовага краязнаўчага музея Андрэй Лятчэня, дырэктар раённага цэнтра культуры Наталля Рыбак, мастацкі кіраўнік Лоцвінскага сельскага Дома культуры Галіна Дрожжа, выкладчык Капыльскай дзіцячай школы мастацтваў Аксана Мельнічэнка, выкладчык Цімкавіцкай ДШМ Аляксандр Карповіч, бібліятэкар Лясноўскай сельскай бібліятэкі Святлана Лазарава, дырэктар Быстрыцкага сельскага Дома культуры Людміла Пасюк. Дарэчы, напярэдадні прафесійнага свята работнікаў культуры падзякі старшыні Капыльскага райвыканкама Міхаіла Боды атрымалі намеснік дырэктара Капыльскай ЦБС Валянціна Камінская і намеснік дырэктара Капыльскай ДШМ Уладзімір Чаркас.

Капыльскі раён належыць да тых рэгіёнаў, у якіх кіраўніцтва заўсёды разумее значэнне эстэтычнага выхавання ў сучасным грамадстве. Таму, дасягаючы вялікіх поспехаў у многіх накірунках развіцця сельскай гаспадаркі, Капыльшчына мае не меншыя значныя набыткі і ў галіне культуры. У чым, зразумела, заслуга кіраўніцтва райвыканкама.

— З Міхаілам Тарасавічам Бодам прыемна працаваць, — прызнаецца Царкова, калі гаворка заходзіць пра тое, наколькі дзейсная дапамога сферы культуры з боку раённай вертыкалі. — Дый і ягоныя намеснікі з разуменнем ставяцца да нашых запатрабаванняў. Прынамсі, Ала Марксаўна Раеўская, якая курыруе сацыяльную сферу і якую я замяніла на пасадзе начальніка аддзела культуры.

Калі я, нарэшце, працытаваў Царковай знакамітыя радкі Барыса Слуцкага, яна засмяялася:

— Ці не хімікаў вы маеце на ўвазе пад фізікамі?

— А чаму б і не, — на жарт я адказаў жартам.

— Але калі мець на ўвазе мяне, — працягвала ў тым жа духу Наталля Іванаўна, — то атрымліваецца, што «химики в загоне».

— А «лирики в почете», — падтрымаў я яе.

— Лірыкі — гэта стан душы, — летуценна прамовіла Царкова.

— І калі вы гэта адчулі?

— Калі звязала свой лёс з культурай, — сур'ёзна адказала яна. — Без узнёсласці, без адчування паэзіі ў паўсядзённасці ў нашай працы нельга. Інакшай застыласць, таптанне на месцы. Культура ж — гэта, пры ўсім іншым, і высокі паэтычны палёт.

Ці не тых, хто падобны Царковай, меў на ўвазе Віктор Гюго, калі пісаў: «Будучыня належыць двум тыпам людзей: чалавеку думкі і чалавеку працы. Па сутнасці, яны складаюць адно цэлае, таму што мысліць — значыць працаваць».

## ЗБЛІЗКУ І ЗДАЛЯ — НЯМА ЛЕПЕЙ КАПЫЛЯ

У гэтым, канечне, у першую чаргу ўпэўнены тыя, хто жыве на гэтай прыгожай зямлі, якая пастаянна ім сніцца, дзе б ні даводзілася бываць. Дый тыя, каго лёс закідвае ў далёкія краі, прыехаўшы сюды, не хаваюць свайго замілавання, дакранаючыся да таго,

што назаўсёды прапісана ў іхняй памяці. Але і ўраджэнцы іншых мясцін, звязаўшы сваё жыццё з Капыльшчынай, таксама пераканаными: такое хараство, як тут, трэба яшчэ шукаць ды шукаць.

Сярод іх і дырэктар раённай цэнтралізаванай сістэмы Таццяна Серая. Хоць Таццяна Пятроўна і нарадзілася ў Лунінецкім раёне, у вёсцы з вабнай назвай Кажан-Гарадок і, безумоўна, з задавальненнем наведваецца туды, але душой і сэрцам даўно параднілася з капыльскай зямлёй.

Перад гэтым вучылася ў Магілёўскім бібліятэчным тэхнікуме, а потым у Мінскім інстытуце культуры, пасля заканчэння якога была ў ім намеснікам сакратара камсамольскай арганізацыі, адначасова выкладчыкам. Калі ж выйшла замуж, то і пераехала на радзіму мужа. Уладкавалася ў цэнтральную раённую бібліятэку, што носіць імя знакамітага беларускага паэта Анатоля Астрэйкі. Працавала ў аддзеле камплектавання, потым — у метадычным, загадвала аддзелам абслугоўвання.

На цяперашняй пасадзе з 1998 года. Працуе з задавальненнем. Дый як не працаваць, асабліва цяпер, калі і ў сферу культуры ў цэлым, і ў бібліятэчную, у прыватнасці, прыйшлі сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі, а гэта адкрыла новыя магчымасці, дазволіла разнастаіць мерапрыемствы, зрабіць іх больш цікавымі. Чытачы ж могуць лёгка атрымліваць неабходныя звесткі па самых розных пытаннях.

Ужо два гады ў цэнтральнай раённай бібліятэцы працуе сістэма аўтаматызаванага абслугоўвання. Камп'ютэрызавана 11 бібліятэк. Ёсць выхад у Інтэрнет. Увесь электронны каталог налічвае 41770 тысяч запісаў, у тым ліку 7700 аналітычных, сярод якіх 910 краязнаўчых. Што апошніх шмат — і не дзіўна. Каму ў гэтым сэнсе, як не капылянам, карты ў рукі.

Тамашняя зямля надзіва багатая на розныя падзеі, на людзей, якія ў розны час нарадзіліся тут. Шкода хіба тое, што пакуль далёка не ўсе ведаюць, што з Капыля родам і Мендэле Мойхер-Сфорым, што перакладаецца як Мендэле-Кніганоша. Яго невыпадкова называюць дзядулем яўрэйскай літаратуры, бо менавіта ён сваёй творчасцю наблізіў яе да шырокага чытача. Верыцца, што памкненнямі бібліятэчных работнікаў з'явіцца пра яго фільм, як ёсць ужо фільмы «Чароўная песня Адама Русака», а таксама «Капыль паміж мінулым і будучым». Аўтар гэтых фільмаў загадчык аддзела абслугоўвання і інфармацыі Ірына Пятровіч.

## КНІГУ НІ З ЧЫМ НЕ ПАРАЎНАЦЬ

Аднак, якія б мерапрыемствы ні праводзіліся, у цэнтры ўвагі бібліятэчных работнікаў нязменна застаецца кніга. Праз яе адзначаюцца юбілейныя даты пісьменнікаў. Кніга — сродак, што дазваляе назапасіць звесткі па розных галінах ведаў. Але, прапагандуючы кнігу, капыляне імкнуцца і высветліць, якая літаратура больш запатрабавана. Так, напярэдадні 65-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў прайшла акцыя «Прачытай кнігу аб вайне». Як высветлілася, самай вялікай папулярнасцю ў чытачоў карыстаюцца творы Васіля Быкава і Івана Шамякіна, а калі канкрэтна — «Пайсці і не вярнуцца» і «Глыбокая плынь».

Быстрыцкая сельская бібліятэка прымала ўдзел у рэспубліканскім конкурсе «Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры», а таксама ў рэспубліканскім конкурсе на лепшую пастаноўку работы па экалагічнаму выхаванню і інфармаванню насельніцтва ў 2006—2008 гг. «Сонца свеціць кожнаму».

Дзеля таго, каб прывіць любоў да кнігі школьнікам, працуюць 80 аматарскіх аб'яднанняў. Толькі апошнім часам яны з'явіліся пры Браткаўскай, Бучацінскай, Садавіцкай, Семежаўскай і Песачанскай сельскай бібліятэках. Практыкуецца і ажыццяўленне мэтавых праграм: «Разам з кнігай мы расцём» — у Быстрыцкай і Грозаўскай, «Чытаем, вучымся, гуляем» — у Вялікараёўскай, «Будуем храм у душах» — у Семежаўскай.

Пастаянная ўвага надаецца набыццю новых кніг. У асноўным гэта адбываецца, канечне ж, за кошт мэтавых паступленняў (працэнт каплектавання бібліятэчных фондаў складае ад агульнага бюджэтнага фінансавання 16,4 працэнта, тым самым у год паступае больш як 10 тысяч асобнікаў). Практыкуецца таксама і такая форма як перадача літаратуры з асабістых бібліятэк. Зямляк-фалькларыст Антон Гускі, настаяцель Спаса-Узнясенскага храма айцец Сергій, чытачы Алена Абрамовіч, Уладзімір Кавалешка, Таццяна Змітровіч, Наталля Радкевіч, Антон Шышмароў і іншыя падарылі амаль 800 кніг.

## КВЕЦЕНЬ БІБЛІЯТЭЧНАГА ДРЭВА

Дасягнуў у пэўнай справе поспеху — не замыкайся ў сабе, а паспяшайся падзяліцца з іншымі тым, як дамагчыся гэтага. Ва ўсякім разе, так мусіць быць тады, калі хочаш, каб і яны пераймалі твой вопыт, вучыліся ў цябе. Гэта стала паўсядзённай нормай для бібліятэчных работнікаў Капыльшчыны, а бяруць яны прыклад з самой Таццяны Серай.

Таццяна Пятроўна і тут, як і ў іншых пачынаннях, праяўляе сябе чалавекам па-сапраўднаму творчым. Больш за тое, атрымлівае задавальненне, калі бачыць, што і ў іншых раёнах пераймаюць вопыт капылян. Таму заканамерна тое, што менавіта Капыльшчына восенню мінулага года стала месцам работы Школы дырэктара. Іначай кажучы, двухдзённага семінара-вучобы, які сабраў кіраўнікоў цэнтральных раённых бібліятэк сталічнай вобласці. Тэма яго была такая: «Гісторыя бібліятэк Міншчыны: публічныя бібліятэкі Капыльскага раёна — мінулае і шляхі наступнага развіцця».

Не абышлося, канечне, як бывае ў падобных выпадках, і без разваг гісторыка-тэарэтычнага кшталту, калі пад час гаворкі звярталася ўвага на тое, што ў гэтым накірунку рабілася раней, што з назапашанага вопыту варта пераймання. Аднак тэорыя тэорыяй, гісторыя гісторыяй, але, як адзначыў адзін з класікаў, «суха теория, мой друг, а древо жизни пышно зеленеет». Вобразна кажучы, квецень гэтага капыльскага бібліятэчнага дрэва ва ўсёй красе і ўбачылі ўдзельнікі семінара, калі наведалі лепшыя аналагічныя ўстановы культуры раёна.

Першая ж дарога пралягла ў Пясочнае — вёску даўнюю і слаўную. А паколькі 2009 год для жыхароў Капыля і раёна стаў не толькі Годам зямлі, а і годам 105-годдзя з дня нараджэння Адама Русака, карані якога менавіта тут, то госці змаглі пазнаёміцца з літаратурна-музычнай кампазіцыяй «Хай цвітуць твае прасторы, хай жыццё красуе!», якую падрыхтавалі вучні і настаўнікі мясцовай сярэдняй школы, а таксама Капыльскай дапаможнай школы-інтэрната пад кіраўніцтвам бібліятэкара Надзеі Баранавай.

Прысутныя, дзякуючы змястоўнасці, насычанасці гэтай праграмы (як фактычнай, так і разнастайнай у жанравых адносінах — гучалі ўспаміны пра Адама Герасімавіча, урыўкі з найбольш вядомых ягоных твораў, выкананне асобных з якіх па сутнасці ператваралася ў сцэнічныя міні-абразкі), змаглі ўвайсці ў свет жыцця і творчасці Русака, адчуць, наколькі моцнай была ягоная повязь з роднымі мясцінамі. Разам з тым ён не замыкаўся толькі ў любові да «малой радзімы», а, адштурхоўваючыся ад яе, любові гэтай, гэтаксама шчыра, пранікнёна апяваў усю Беларусь.

## РАКА З БРУІСТАГА РУЧАЙКА

Адначасова госці семінара атрымалі для сябе і важны ўрок, упэўніўшыся, што радзімазнаўства — тая крыніца, вада ў якой заўсёды будзе заставацца свежай, калі часцей далучацца да гэтага бруістага ручайка, чэрпаючы з яго натхненне. З іншых жа раёнаў, у прыватнасці, Міншчыны, таксама выйшла нямала знакамітых людзей, прынамсі, пісьменнікаў. Таму неабходна часцей і лепш прапагандаваць іхнюю творчасць.

Асаблівая нагода для такой работы — чарговы юбілей творцы і, як відаць з вопыту капылян, не абавязкова круглы. Было б толькі жаданне. З гэтага ж жадання, з гэтай жа любові да паэтычнага слова беларускага, да мовы роднай нарадзілася і задума стварыць у Песачанскім сельскім Доме культуры пакой-музей Русака. Месца размяшчэння музея выбралі таксама невыпадкова.

У свой час знакаміты зямляк на будаўніцтва на сваёй радзіме гэтай установы культуры выдзяляў уласныя грашовыя зберажэнні. Прымаючы гэта пад увагу, увекавечыць ягоную памяць і вырашылі ў Доме культуры. Стваралі мемарыяльны пакой супрацоўнікі Капыльскага раённага краязнаўчага музея. У арганізацыі экспазіцыі нямала дапамагла дачка Адама Герасімавіча. Яна, у прыватнасці, перадала пісьмовы стол, за якім нараджаліся многія творы знакамітага паэта-песенніка, некаторыя асабістыя рэчы бацькі.

Ёсць у музеі і унікальны экспанат, падобнага якому, бадай, больш нідзе не знойдзеш. Гэта велізарная заліковая кніжка, якую некалі падарылі свайму любімаму настаўніку студэнты. Як вядома, Адам Герасімавіч яшчэ перад вайной скончыў Беларускі музычны тэхнікум, а потым Ленінградскую кансерваторыю. Няцяжка здагадацца, што ўжо тады яго як чалавека, па-сапраўднаму захопле-

нага паэзіяй і музыкай, найбольш цікавіла прыгожае. Гэты момант і вырашылі абыграць дасціпныя студэнты, зрабіўшы згаданую залікоўку, у якой выстаўлены адзнакі па некаторых прадметах. Прынамсі, валторна — 5, скрыпка — 5 і г. д. Паводзіны ж пазначаны лічбай 2. Унізе тлумачэнне, накшталт таго, што сядзеў на лекцыях, глядзеў у акно і пісаў вершы.

Музей — невялікі, але жадаючых наведаць яго стае. Чаму б не пайсці такім шляхам і ў іншых раёнах? Асабліва сёння, калі на ўсе добрыя пачынанні, на жаль, сродкаў не стае. У такім разе неабавязкова «замахвацца» на вялікія музеі: дастаткова і падобных песачанскаму музеяў-пакояў. Гэтаксама неабавязкова размяшчаць іх у Доме культуры ці ў клубе. Можна стварыць і ў школе. У чымсьці гэта нават і лепей, бо да жыцця і творчасці таго ці іншага пісьменніка-земляка ці не штодня будуць далучацца вучні.

Пясочнае — толькі адзін з адрасоў, дзе пабывалі «вучні» Школы дырэктара. Нямала дало ім і наведванне вёскі Лясное, мясцовая бібліятэка якой таксама мае вялікі вопыт наконт таго, як весці работу такім чынам, каб людзі ахвотна ішлі сюды, а не толькі бавілі вольны час ля экрана тэлевізара. Асаблівы ўпор робіцца на моладзь, у тым ліку на школьнікаў. Таму і працуюць у бібліятэцы некалькі гурткоў, ладзяцца прэм’еры кніг, праводзяцца выстаўкі, у тым ліку і кніжныя.

Пра гэта расказала гасцям бібліятэкар Святлана Лазарава. Не абмінула Святлана Іванаўна і работу экалагічнага клуба «Лесавічок», а таксама клуба цікаўных «Пазнайка». Аднак асаблівы гонар лясноўцаў — лялечны тэатр «Пятрушка», юныя ўдзельнікі якога неаднаразова выходзілі пераможцамі раённых і абласных конкурсаў і спаборніцтваў. Адметна тое, што тэматыка большасці спектакляў — экалагічная, а прывіваць любоў да прыроды, да ўсяго жывога на зямлі, як вядома, вельмі важна. Дарэчы, незадоўга да гэтага семінара юныя гурткоўцы вярнуліся з Белавежскай пушчы, дзе на рэспубліканскім конкурсе занялі трэцяе месца. У ліку пераможцаў была і вучаніца адзінаццатага класа Лясноўскай сярэдняй школы Марыя Чыжык.

## ГЭТА ЎСЁ АДСЮЛЬ, САПРАЎДНАЕ

Грэшна было б не завітаць і ў Цімкавічы, якія звязаны з імем класіка беларускай літаратуры Кузьмы Чорнага. Адсюль родам ягоныя бацькі. У Цімкавічах яму, тады яшчэ Мікалаю Раманоўскаму, давялося жыць. Ён скончыў Цімкавіцкае народнае вучылішча, а пасля таго, як завяршыў вучобу ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, у гэтай вёсцы працаваў сакратаром валаснога рэўкама, настаўнічаў.

Як шмат значылі Цімкавічы ў жыцці Чорнага, яскрава сведчыць ягонае прызнанне, якое прагучала ў дзённіку пасля таго, як пісьменнік даведаўся аб вызваленні сваёй «малой радзімы» ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў: «Учора ўночы паведамілі ў зводцы, што ўзялі Цімкавічы, Вялікую Раёўку, Жавалкі. Родныя мае мясціны! Як мая душа рвецца туды! Яна заўсёды там. Там жывуць усе мае персанажы. Усе дарогі, пейзажы, дрэвы, хаты, чалавечыя натуры, пра якія калі-небудзь пісаў. Гэта ўсё адтуль, сапраўднае».

Шмат чаго чорнаўскага, сапраўднага можна ўбачыць і ў музеі пісьменніка. Цяпер гэты музей з’яўляецца філіялам Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. Пачынаўся ж яшчэ ў 60-х гадах мінулага стагоддзя з невялікага куточка ў школе — некалькі стэндаў, што афармілі вучні пад кіраўніцтвам дырэктара школы Зінаіды Раманенкі. Зінаіда Іосіфаўна была знаёма з сёстрамі Мікалая Карлавіча, бачыла яго самога, ведала людзей, якія сустракаліся з ім.

У стварэнні музея дапамаглі родныя і блізкія пісьменніка, а таксама яго сябрылітаратары і тыя, хто вывучэнню творчасці Чорнага прысвяціў сваё жыццё. Пакрысе адшукваліся чорнаўскія пісьмы і рукапісы, рэдкія фотаздымкі, першыя выданні ягоных твораў, запісваліся ўспаміны землякоў. Будынак музея ўзводзілі сваімі сіламі. Грошы вучні зараблялі ў час нядзельнікаў. Пэўную суму атрымалі ад рэалізацыі прадукцыі з прышкольнага ўчастка. Пазней да невялікага доміка была далучана прыбудова. У музеі праходзілі ўрокі беларускай літаратуры, а сам ён набыў статус народнага.

Знаёміцца з экспазіцыяй удзельнікам семінара дапамагала дырэктар музея



*Таццяна Серая выступае перад удзельнікамі Школы дырэктара.*

Людміла Ніжэвіч. Загадчыца ж Цімкавіцкай сельскай бібліятэкі Надзея Рудэнка, таксама не абыходзячы ўвагай жыццё і творчасць Чорнага, расказала, як шмат увагі ва ўстанове, якую яна ўзначальвае, удзяляецца краязнаўству, прытым краязнаўству літаратурнаму. Літаратура, як вядома, пачыналася з вусна-паэтычнай творчасці народа, фальклор жывіць яе і па сённяшні дзень. Таму хараша ўпісалася ў сустрэчу і пастаноўка мясцовага тэатра фланелеграфіі «Легенда пра Цімкавічы». Гэта дазволіла прысутным вярнуцца па сутнасці да вытокаў гэтай вёскі, лішні раз упэўніцца ў тым, што акурат мінулае і жывіць сваімі жыватворнымі сокамі наш сённяшні дзень.

## ПАГЛЯДЗЕЛІ — АБМЕРКАВАЛІ

Было што паглядзець і ў Семежаве, і ў Быстрыцы — тамашнія сельскія бібліятэкі таксама ладзяць сваю работу такім чынам, што сумных мерапрыемстваў у іх проста не бывае, а таму пастаянна і хапае наведвальнікаў. Пасля ж паездкі па раёне ў цэнтральнай раённай бібліятэцы ладзіўся круглы стол, на якім гаворка выйшла і за межы тэмы, пазначанай у парадку дня Школы дырэктара. Яно і зразумела. Знаёмства з работамі сельскіх бібліятэк Капыльшчыны, не кажучы пра саму бібліятэку імя А. Астрэйкі, перакanala — назапашаны багаты вопыт, які варты пераймання. Яшчэ больш пэўнасці ва ўдзельнікаў семінара ў тым, што ў капылян абавязкова неабходна шмат чаму вучыцца, з’явілася пад час выступлення Таццяны Серай.

Дырэктар ЦБС, аднак, не толькі гаварыла пра поспехі, а і закранула тыя праблемы, што патрабуюць свайго вырашэння. Аўдыторыя была настроена на дзелавую, пазітыўную размову. Хоць, правільней сказаць, на дыялог, бо не проста гучалі выступленні, выказваліся думкі, а нярэдка і сутыкаліся погляды, што таксама ішло на карысць справе, бо не было (і не магло быць) абыякавых. А тое, што на выніковым пасяджэнні выступілі галоўны спецыяліст упраўлення культуры Мінскага абласнога выканаўчага камітэта Таццяна Краўчонак, загадчык аддзела бібліятэказнаўства Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна Іна Даўматовіч, намеснік дырэктара па рабоце гэтай установы культуры Вольга Малюга, яшчэ больш спрыяла дзелавітасці і канструктыўнасці.

Абыякавых не было, дый быць не магло. Пацвярджэнне таму і тое, што Школа дырэктара выклікала цікавасць не ў адных бібліятэчных работнікаў. Пра гэта я даведаўся ў гутарцы з дырэктарам Капыльскага раённага краязнаўчага музея Валянцінай Шураковай.



*Валянціна Шуракова.*

## ЭКСПАНАТЫ ДЛЯ МУЗЕЙНАЙ «ХАТЫ»

Сталася так, што я, хоць і нарадзіўся ў Слуцкім раёне, вучыўся ў сярэдняй школе і заканчваў яе на Капыльшчыне, таму гэтую зямлю даўно лічу для сябе роднай і стараюся як мага больш ведаць пра яе багатую гісторыю. Не пакідаю па-за ўвагай і звесткі пра літаратараў, дзеячаў мастацтва, культуры, якія ў розныя часы нарадзіліся ці жылі тут. Як жа прыемна здзівіўся, калі пры складанні гісторыка-дакументальнай хронікі Капыльскага раёна «Памяць» ад Шураковай пачуў яшчэ адно прозвішча. Расказала тады Валянціна Леанідаўна пра вядомую польскую пісьменніцу Міхаліну Даманскую (у дзявоцтве Фядушка).

Нарадзілася Міхаліна Адамаўна ў 1875 годзе ў вёсцы Чыжэвічы. Пакінуўшы родныя мясціны, жыла ў Варшаве, дзе і памерла ў 1936 годзе. Аднак, знаходзячыся далёка ад «малой радзімы», не забывала зямлю маленства. У асобных творах звярталася да падзей, сведкай якіх была. Прынамсі, у яе кнізе «Эдвард Вайніловіч. Успаміны» ёсць нямала не проста беларускіх старонак, а старонак капыльскіх, бо Вайніловіч валодаў некалькімі маёнткамі ў тамашніх мясцінах. Вядома Даманская і як перакладчыца з французскай мовы. Больш за тое, дзякуючы ёй па-французску загучалі асобныя творы Элізы Ажэшкі, Генрыка Сянкевіча.

Тады і адбылося знаёмства з Шураковай, якая, як высветлілася, нарадзілася ў Капылі. У 1980 годзе, скончыўшы Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя М. Горкага, вярнулася ў родны гарадок. Працавала настаўніцай у мясцовым сельскім прафесіянальна-тэхнічным вучылішчы № 21 (цяпер ліцэй), а ў 1985 годзе ўзначаліла музей, якому на той час споўнілася ўсяго пяць з нечым гадоў, і, зразумела, ягоная экспазіцыя знаходзілася ў стане фарміравання. Дзякуючы Валянціне Леанідаўне музейператварыўся ў адзін з асяродкаў культуры, якія добра вядомы за межамі раёна. Цяпер ён знаходзіцца ва ўтульным, адрэстаўрыраваным будынку (вядома, без належнай падтрымкі і клопатаў раённай «вертыкалі» гэта было б немагчыма). Але галоўнае, што экспазіцыя пастаянна папаўняецца і, як правіла, не муляжамі, а матэрыяламі, якія найчасцей захаваліся ў адным асобніку.

— Дзе іх знаходзім? — апярэдзіла маё пытанне Шуракова. — Усюды.

Валянціна Леанідаўна прызнаецца, як некалі аблазіла гарышчы ў многіх вясковых хатах, ведаючы, што там звычайна захоўваюцца розныя старыя рэчы. І нярэдка такія, якія даўно выйшлі з паўсядзённага ўжытку. Для кагосьці яны і сапраўды не ўяўляюць аніякай каштоўнасці. Толькі не для музейных работнікаў.

Цаніць даўніну, з павагай ставіцца да яе Шуракова навучылася тады, калі праходзіла музейную практыку ў Маскве і Ленінградзе. Значэнне яе па-сапраўднаму зразумела, наведваючыся ў лепшыя музеі, не прамінаючы, безумоўна, знакамітыя Траццякоўскую галерэю і Эрмітаж. Прызнаецца: «Для мяне знайсці новы экспанат — заўсёды шчасце» — і з захапленнем расказвае, як выпадкова ўдалося натрапіць на старое крэсла. Высветлілася, што яно было зроблена яшчэ ў XIX стагоддзі.

## ПАСЫЛКА Ў СОРАК ЧАЦВЁРТЫ

З цягам часу ў Шураковай з’явіліся добраахвотныя памочнікі. Начуліся людзі, як ашчадна ставяцца ў музеі да даўніны, рупна зберагаюць тое, што, здавалася б, даўно

ўстарэла, але будзе ўяўляць цікавасць і для нашчадкаў як сведчанне пэўнага часу, сваёй эпохі. І пачалі пераглядаць пакладзенае ў самыя глухія куткі, а ў выніку экспазіцыя музея значна папоўнілася. Хто стары прас прынёс, хто гліняны гаршчок, у якім варыла страву яшчэ прабабуля, а хтосьці са статуэткамі з'явіўся, узрост якіх таксама вымяраецца не адным стагоддзем.

— Наведвальнікі ў вас часта бываюць?

— Некаторыя па некалькі разоў заходзяць! — у словах дырэктара музея гучыць непрыхаванае захапленне. — Асабліва часта наведваюцца школьнікі, для якіх рэгулярна арганізоўваем і праводзім экскурсіі. І аглядныя, калі можна пазнаёміцца з усёй экспазіцыяй, і тэматычныя. Апошнія былі прымеркаваны да 65-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 65-годдзя Вялікай Перамогі.

Разумеючы важнасць падобных мерапрыемстваў у патрыятычным выхаванні, тым не менш, мне падумалася: «Наўрад ці адкрылі яны тут штосьці новае». Аднак, як даведаўся, хто шукае, той абавязкова знаходзіць такое, чаго раней не было. Гэтым і кіраваўся навуковы супрацоўнік музея А. Лятчэня, калі пяць гадоў таму адзначалася 60-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Выпускнік гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, ён спецыялізаваўся на музейнай справе, таму добра ведаў, што і да чаго. Молада — ды не зелена. Андрэй распрацаваў два сцэнарыі спецыяльных музейных урокаў. Адзін з іх называўся «Пісьмо з 1942-га», другі — «Пісьмо з 1944-га». Па змесце яны блізкія, хіба што раскрываюць розныя перыяды Вялікай Айчыннай вайны. У абодвух выпадках у музей запрашаліся не толькі школьнікі, а і ветэраны.

У зале, дзе праходзіла сустрэча, вялася шчырая гаворка старэйшага пакалення з малодшым пра тое, што ніколі не забываецца. Пасля зачытваўся адзін з лістоў, з тых, якія ў свой час родныя атрымалі з фронту і якія, на шчасце, захаваліся. У час урока «сорак чацвёртага» было пісьмо Іосіфа Барысевіча, прысланага некалі ім сваёй сястры.

Вядучы, вытрымаўшы паўзу, гаварыў юным наведвальнікам музея:

— Уявіце, што піша вам дзядуля. Мабыць, хочаце адказаць на ягоны ліст? — Падумаўшы, дадаваў: — І нават невялічкую пасылку жадаеце адправіць на «фронт»...

Дзеці згаджаліся. Балазе, зрабіць гэта было не так і складана. З фондаў музея загадзя падбіраліся экспанаты, што дазвалялі перанесціся ў той векапомны час. На стале ляжалі канверт, лыжка, компас, наручны гадзіннік... Праўда, знаходзіліся і прадметы, без якіх на фронце можна абысціся, а то і такія, якія зусім не падыходзілі для перасылкі, як, напрыклад, ільнотрапалка. Школьнікам трэба было падумаць-паразважаць, асабліва калі на ўрок прыйшлі малодшыя вучні, што адправіць «дзядулю», які ваяваў. Упакаваўшы пасылкі, дзеці тлумачылі, чаму выбралі ў якасці падарунка франтавіку той ці іншы прадмет. У канцы ўрока яны дзякавалі ветэранам за сустрэчу, дарылі кветкі, уручалі кнігу «Памяць», потым слухалі ў запісе голас Марыі Кот, якая цудам уцалела, калі ў верасні 1942 года гітлераўцы знішчылі 254 мірных жыхароў вёскі Вялікія Прусы.

Той жа Лятчэня распрацаваў і сцэнарый урока-гульні «Ваенная азбука». У аснову яе паклаў экспазіцыю «Ваенна-гістарычныя мініяцюры», аўтар якой — Ігар Гарбуноў з горада Маладзечна. Ігар Васільевіч памайстэрску зрабіў з каляровага пластыку метадам ручной лепкі з далейшым абпальваннем у духоўцы маленькія фігуры розных эпох: ад антычнасці да Першай сусветнай вайны. Пасля таго як вучні, а сярод іх пераважаюць дапрызыўнікі, пазнаёмяцца з гэтай выстаўкай, пачуюць расказ супрацоўнікаў музея, іх дзеляць на дзве каманды і прапаноўваюць шэраг заданняў, выконваючы якія, можна праявіць высокую эрудзіраванасць, калі валодаеш немалымі ведамі наконт таго, што тычыцца гісторыі войска.

Вялікую зацікаўленасць у наведвальнікаў выклікалі экспазіцыі «Гісторыя Капыля праз археалогію» і «Мястэчка». Характэрна, што калі першая з іх была створана за кошт бюджэтных сродкаў, дык другая «вырасла» на энтузіязме музейных работнікаў, без прыцягнення грошай, як кажуць, збоку.

Валянціна Шуракова падкрэслівае:

— Гэта доказ таму, што сёння пры жаданні можна працаваць, не маючы вялікага паступлення фінансавых сродкаў з бюджэту. Кожны павінен умець прадаць свой тавар, а наш тавар — экспазіцыі.

Абедзве з названых экспазіцый добра дапаўняюць адна адну. Першая расказвае пра Капыль і ягоныя ваколіцы праз тыя рэчы і рэшткі некаторых з іх, што былі знойдзены ў час раскопак, праведзеных з 1996 па 1999 год археолагам Лявонам Калядзінскім. Увесь матэрыял, паводле дамовы, заключанай з Інстытутам гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, быў апрацаваны, закансерваваны і перададзены ў фонды музея.

Другая экспазіцыя таксама цалкам пабудавана на арыгіналах, а прывабнасць яе ў тым, што яна адлюстравала праўдзіва жыццё колішняга мястэчка, якім з'яўляўся Капыль. Можна лёгка «трапіць» у майстэрню па апрацоўцы і вырабу скур, «паназіраць» за работай банкаўскіх работнікаў, «прайсціся» вулкамі колішняга Капыля, пазнаёміцца з газетамі, якія выходзілі калісь, угледзецца ў твары выпускнікоў канца XIX стагоддзя, а пасля «завітаць» на некалькі хвілін у карчму.

## АДЗІНЫ Ў КРАІНЕ

Ужо названых прыкладаў дастаткова, каб упэўніцца, што Капыльскі краязнаўчы музей належыць да тых устаноў гэтага профілю, якія не проста з'яўляюцца захавальнікамі унікальных фондаў, а ўмела працуюць дзеля патрыятычнага, эстэтычнага выхавання. Адбываецца фарміраванне сапраўднай духоўнасці, што складаецца з некалькіх кампанентаў, калі далёка не апошняя роля адводзіцца знаёмству з мінулым. Ёсць у дзейнасці капылян і яшчэ адзін важны аспект: музей не толькі папаўняе свае фонды, а і пашыраецца за кошт музеяў-філіялаў, якія ствараюцца ў населеных пунктах раёна.

У вёсцы Вялешына працуе этнаграфічны філіял, што знаёміць з колішнім бытам беларускага (чытай: капыльскага) сялянства. У ім, у прыватнасці, праводзяцца для школьнікаў урокі «Рэчы з бабулінага куфра», пад час якіх дзеці могуць распаліць старую печ, замясіць цеста для блінцоў, спячы іх. Унікальнасць гэтай установы яшчэ і ў тым, што ў ёй ёсць свайго роду музей у музеі — музей пачатковай школы, дарэчы, адзіны ў нашай краіне.

У гэтым музеі стаіць парта, за якой у царкоўнапрыходскай школе некалі сядзела па 4—5 вучняў. На парце — чарнільніцы, бутэлечкі з чарнілам, ляжаць ручкі, зробленыя... з саломак. Ёсць і некалькі пёраў — тых, што з'явіліся тады, калі прагрэс у гэтай справе толькі пачаў заяўляць аб сабе. Дзецям прапануецца рашэнне задач дарэвалюцыйных часоў, перагарнуць старонкі даўніх падручнікаў, а дзякуючы старому глобусу яны могуць паглядзець, як выглядала некалі карта свету.

— Няўжо ўсё гэта знойдзена на гарышчах? — не верылася мне.

— Шмат што прыдбалі, наведваючыся ў антыкварныя магазіны Мінска, — патлумачыла Валянціна Леанідаўна. — Дый конкурс дапамог.

— Які яшчэ конкурс?

— «Знаходка года» называецца.

## ХТО ШУКАЕ, ТОЙ ЗНАХОДЗІЦЬ

— Конкурс «Знаходка года», — працягвае Шуракова, — праводзіцца не першы год. Палажэнне яго зацвярджае старшыня райвыканкама Міхаіл Тарасавіч Бода, а тэкст друкуецца ў раённай газеце «Слава працы». Каб заахвоціць людзей, за цікавыя знаходкі плацім ім. Так, прынамсі, прыдбалі дзённік паэта Уладзіміра Ясючэні, які загінуў у Вялікую Айчынную вайну.

Да 65-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у краязнаўчым музеі адкрыта новая экспазіцыя «Трагедыя і подзвіг. XX стагоддзе». Як ужо відаць з яе назвы, тэматычна яна ахоплівае найбольш важныя падзеі, што адбываліся на працягу не аднаго дзесятка гадоў, а яны, як вядома, розныя па сваім змесце. Было не толькі тое, чым можна і трэба ганарыцца, але і такое, пра што б лепей забываць. Ды забываць ні ў якім разе нельга, бо гэта, як гучыць у вядомай песні, «наша з табой біяграфія», наша гісторыя.

У экспазіцыі знайшлося месца і рэвалюцыйным падзеям, а Капыль, як вядома, на Беларусі на той час з'яўляўся населеным пунктам, у якім былі моцныя сацыял-дэмакратычныя традыцыі. Не абыдзены ўвагай грамадзянская вайна, калектывізацыя, сацыялістычныя пераўтварэнні. Але не замоўчваюцца і сталінскія рэпрэсіі. Шмат матэрыялаў расказвае пра ўсенародную барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, а таксама пра пасляваенны час, калі на руінах ладзілася новае жыццё. Гэтая экспазіцыя аформлена такім чынам, што чарговы раздзел яе ўспрымаеш як бы праз акно. Спыняешся ля

яго і можаш стаяць у роздуме колькі заўгодна, асэнсоўваючы ў думках пабачанае.

— Што б вы адзначылі з апошніх паступленняў? — пытаюся ў Шураковай.

— Матэрыялы, якія тычацца 17-га пагранічнага атрада.

Да вайны непадалёку ад Цімкавіч праходзіла дзяржаўная мяжа, за якой пачыналася Заходняя Беларусь, што тады ўваходзіла ў склад Польшчы. Граніцу і ахоўвалі савецкія пагранічнікі. Сярод тых, хто служыў тут, быў і будучы абаронца Брэсцкай крэпасці Андрэй Кіжаватаў: пасля вераснёўскіх падзей 1939 года гэты атрад перадыслацыравалі ў горад над Бугам. Зразумела, што кожны новы матэрыял, які тычыцца 17-га пагранічнага, адразу ж выстаўляецца ў музеі. А тут з Клецка перадалі цэлую папку з цікавымі матэрыяламі, што маюць дачыненне да тагачасных пагранічнікаў. Апроч таго, у музей завітаў адзін жыхар Капыля і прынёс пашпарт, у якім стаіць віза згаданага атрада. Для музея гэта таксама стала каштоўным набыткам.

## СПЫНЯЦЦА — НЕДАРАВАЛЬНА

Некалькі гадоў назад капыльскія музейшчыкі парупіліся аб адкрыцці экспазіцыі, што знаёміць з гісторыяй Капыльшчыны ад даўніх часоў па сённяшні дзень, у адной са школ падмаскоўнага горада Чэхава, з якім падтрымліваюцца самыя цесныя сяброўскія сувязі і кантакты.

Мінулы год адметны і тым, што адзначалася 735-годдзе Капыля. У сувязі з гэтым з’явілася галерэя землякоў, удастоеных у розны час ганаровага звання Герой. Гэта адзінаццаць Герояў Савецкага Саюза і дзесяць Герояў Сацыялістычнай Працы, а таксама Герой Беларусі — знакаміты аўтамабілебудаўнік Міхаіл Высоцкі. Насупраць жа будынка музея ўстаноўлены вялізны камень-валун — у знак памяці аб усіх капылянах, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Гэта не толькі франтавікі, партызаны, а і мірныя жыхары, знішчаныя нямецка-фашысцкімі акупантамі.

Робіцца пад кіраўніцвам Шураковай шмат. І работа гэтая не застаецца незаўважанай. І не толькі з боку наведвальнікаў. У 2007 годзе Капыльскі раённы краязнаўчы музей стаў пераможцам у намінацыі «Лепшы музей года». Годам пазней ён заняў першае месца сярод аналагічных устаноў першай групы, да якіх адносіцца па свайму статусу.

— Ведаеце, — не хаваючы сваёй радасці, паведаміла Валянціна Леанідаўна, — 1 жніўня 2008 года ў нас адкрыўся яшчэ адзін музей.

— Дзе?

— У Семежаве…

— Ткацтва? — выказаў я здагадку, успомніўшы, як чатыры гады таму, пад час аднаго з маіх наведванняў Капыльшчыны, Шуракова дзялілася сваімі задумкамі.

Сярод іх яна называла і будучы музей ткацтва ў гэтай вёсцы, у які мелася перадаць найбольш значныя экспанаты з таго музея, што працаваў у Семежаўскай сярэдняй школе. Семежава месцам размяшчэння яго было выбрана невыпадкова. Разам з вёскамі Лешня, Агароднікі, Макраны (цяпер Чырвоная Дуброва) яно здаўна славілася гэтым традыцыйным беларускім рамяством.

— Не, не ткацтва, — расчаравала мяне Валянціна Леанідаўна.

— А які? — гэта выклікала ў мяне яшчэ большую цікавасць.

— На месцы і паглядзіце, — адказала Шуракова і прапанавала паехаць у Семежава.

Ад такой прапановы я адмовіцца, канечне, не мог. Ужо хоць бы таму, што Семежава знаходзіцца не так і далёка ад Навасёлак (удакладню: Навасёлак Браткаўскага сельсавета, бо ў Капыльскім раёне, як, між іншым, і ў іншых раёнах, гэтая назва распаўсюджаная), дзе я заканчваў сярэднюю школу. Чаму б у такім разе не толькі новы музей паглядзець, а і, як кажуць, абнавіць сваю памяць, бо быў у Семежаве апошні раз гадоў трыццаць з нечым назад. Да ўсяго гэтая вёска цікавая сама па сабе, бо ў яе гісторыі ёсць такое, чаго больш нідзе не знойдзеш.

## СЕМЕЖАВА — ТОЙ ЖА ЛУХМІНСК

Не можаце паверыць у такое сцверджанне? Сапраўды, Семежава на слыху ў многіх. Асабліва калі прыняць пад увагу тое, што з ім звязаны падзеі, якія адбываліся ў першыя гады савецкай улады. Найменне ж Лухмінск нідзе напаткоўваць не даводзілася. Яно-

то так, тым не менш, Семежава — той жа Лухмінск. Але пра гэта крыху ніжэй.

Спачатку пра паходжанне назвы згаданай вёскі. Як часта бывае ў падобных выпадках, ёсць некалькі меркаванняў. У «Кратком топонимическом словаре Белоруссии» аўтар яго Вадзім Жучкевіч сцвярджае, што «название образовано от фамилии и дохристианского имени Семеж (седьмой сын)». Праўда, у школьныя гады мне даводзілася чуць легенду, паводле якой калісь гэтае паселішча ўзнікла на тым самым месцы, дзе знайшлі «семь ежев». Аднак святар Фелікс Сцяпура ў канцы пазамінулага стагоддзя прытрымліваўся іншай думкі: «Название свое м. Семежево несомненно получило от реки Мажа: се Мажа, — а такое производство названия свидетельствует, что оное явилось в довольно отдаленные времена, когда в сей местности еще был в силе древнеславянский выговор».

Але хто такі Ф. Сцяпура, каб да яго меркавання прыслухоўвацца? Аднак чаму б і праз 130 гадоў не прыслухацца, бо акурат гэты святар, які, па ўсім відаць, быў чалавекам добра адукаваным, да ўсяго цікавіўся гісторыяй свайго краю, з'яўляецца аўтарам «Этнографического очерка местечка Семежево», апублікаванага ў шаснаццатым нумары «Минских епархиальных ведомостей» за 1880 год. Па сённяшні дзень гэта, бадай, найбольш аўтарытэтная пісьмовая крыніца, што тычыцца жыцця Семежава ў мінулым.

Семежаўцы некалі вылучаліся сярод жыхароў навакольных вёсак тым, што былі надзіва працалюбівыя: «Начиная с весны до глубокой осени они работают буквально день и ночь — не знаешь, когда они отдыхают и употребляют пищу». Апроч таго, у параўнанні з іншымі яны з'яўляліся амаль што поўнымі цвярознікамі. Хіба што маглі прыгубіць кілішачак на вяселлі, на памінках ці ў час хрэсьбін. Працалюбства ім, дарэчы, і сёння не займаць, а ў астатнім... Не ў ізаляванай жа прасторы жывуць. Адзначыў Ф. Сцяпура і вялікую міласэрнасць семежаўцаў, іхнюю дабрачыннасць. З-за яе, гэтай дабрачыннасці, Семежава іператварылася ў Лухмінск.

Рэч у тым, што семежаўцы, як ні ў адной іншай вёсцы, са спагадай ставіліся да жабракоў. Самі жывучы заможна, хацелі хоць неяк прыўкрасіць іхні лёс. Хоць чаму неяк? Да Вялікадня, Тройцы, Дня святога Вялікапакутніка Георгія і Радуніцы яны спецыяльна рабілі «большие хлебы, называемые перепечками, а в дни св. Георгия и Радовницы к этому присоединяются еще яйца, и каждый нищий в эти дни в каждом доме наделяется перепечкою и яйцом, сколько бы их ни случилось».

Добрае ж далёка чуваць, таму ў Семежаве і ягоных ваколіцах з'явілася столькі жабракоў, што яны нават стварылі свой спецыяльны прафесіянальны цэх. З выбарным начальнікам, так званым цэхмістрам, са сваімі правіламі і звычаямі. І са сваёй мовай. Такой, якую іншыя, апроч тых, хто ўваходзіў у гэты цэх, зразумець не маглі. Калі ж хтонебудзь спрабаваў «рассакрэціць» яе, яго жорстка каралі. Аднак Сцяпуру ўсё ж удалося ўвайсці ў давер.

Гэта ён і ўстанавіў, што Семежава на жабрацкай мове называецца Лухмінск. Дарэчы, Бучаціна гучыць як Біштурова, Лешня — Крэмніца, Цімкавічы — Звініравічы, Капыль — Канцынск... Для цікаўных яшчэ колькі слоў з гэтай незвычайнай мовы (між іншым, быў у Семежаве яшчэ і цэх краўцоў, таксама са сваёй мовай, але яна мала чым адрознівалася ад жабрацкай, таму жабракі разумелі яе). Вясну жабракі называлі снопкай, бутэльку — пляхтаўкай, жонку — рахай, курыцу — варначкай, мёд — саладкімнікам, чалавека — логам, язык — лемехам і далей у гэткім жа духу.

Семежава адрознівалася ад іншых вёсак і тым, што тут былі свае абрады. Некаторыя з іх забыліся, а адзін з іх, звязаны з Калядамі, не проста вытрымаў выпрабаванне часам, а і быў адроджаны. Цяпер жа ён стаў вядомы далёка за межамі Беларусі.

## У СПІСЕ СУСВЕТНАЙ СПАДЧЫНЫ

У горадзе Абу-Дабі, а гэта, як вядома, сталіца Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў, з 28 верасня па 2 кастрычніка 2009 года праходзіла IV Сесія Міжурадавага камітэта UNESCO па захаванні нематэрыяльнай культурнай спадчыны. Міжурадавы камітэт у Спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны, якой патрабуецца тэрміновая ахова, уключыў і абрад «Калядныя цары» з вёскі Семежава Капыльскага раёна.

Гэты даўні абрад унікальны тым, што ён спалучае ў сабе элементы каляднага карнавалу і вядомай народнай драмы «Цар Максіміліян», якая здаўна бытавала на Беларусі, у Расіі і ва Украіне. «Цар Максіміліян» па сутнасці пакладзены ў аснову дзейства, што адбываецца на Шчодры вечар (з 13 на 14 студзеня), калі ў хаты семежаўцаў завітваюць тыя, хто і сам жадае адпачыць. Дый іншых хоча павесяліць. Але інтэрпрэтацыя драмы вольная, увязаная з мясцовымі рэаліямі. Так, як было і тады, калі згаданы абрад нараджаўся.

Пачатак яму, як перадаюць семежаўцы з пакалення ў пакаленне, быў пакладзены ў XVIII стагоддзі, калі ў вёсцы размяшчаўся атрад рускай арміі. З-за доўгага знаходжання ў Семежаве салдаты і афіцэры паспелі з жыхарамі добра пазнаёміцца і стаць для іх сваімі людзьмі. А каб разнастаіць сваё жыццё, часам адзначалі разам з імі і некаторыя святы.

Асабліва ж іх зацікавілі Каляды. Настолькі ўпадабалі іх, што і самі вырашылі разнастаіць гэты абрад. Праўда, пры гэтым спецыяльна не апраналіся, хадзілі па хатах местачкоўцаў у той жа апратцы, як і штодня. Аднак, завітаўшы да таго ці іншага гаспадара, ладзілі прадстаўленне. Пры гэтым спявалі, танцавалі. А якое ж выступленне без падарункаў? Калі абыходзілі некалькі хат, прысмакаў збіралася шмат, пасля чаго ўжо адзначалі Каляды ў сваім вузкім коле.

Атрад праз некаторы час пакінуў вёску, але памяць пра тое, як салдаты і афіцэры разнастаілі святкаванне Каляд, засталася. Таму семежаўцы вырашылі прадоўжыць гэтую традыцыю. Цяпер ужо мясцовыя хлопцы пачалі напярэдадні Каляд шукаць сабе апратку, якая б нагадвала армейскую. Іх вяскоўцы пачалі называць «царамі». Гэтыя «цары», як некалі і вайскоўцы, хадзілі з хаты ў хату. Да іх далучаліся такія персанажы, як дзед і баба, якія былі вядомы па іншых абрадах, што стала прапісаліся ў Семежаве. Разам і калядавалі.

Ды нічога вечнага, як вядома, не бывае. Мінулі дзесяцігоддзі. Бліжэй да нашага часу пра абрад «Цары» ў вёсцы забыліся. Толькі правільна і іншае меркаванне: добрае цягам часу абавязкова вяртаецца з небыцця. Так адбылося і з гэтым калядным абрадам. Культурна-асветныя работнікі пра яго ўспомнілі бліжэй да канца мінулага стагоддзя. І па-сапраўднаму зацікавіліся ім.

Гэта ж і падштурхнула іх да думкі, што «Цароў» абавязкова трэба аднавіць. Але, захаваўшы сутнасць самога абраду, разам з тым неабходна яго больш увязаць з канкрэтнымі рэаліямі. Зрабіць яго такім, каб семежаўцы, якіх, як і жыхароў іншых вёсак, сёння мала чым здзівіш, з захапленнем сустракалі з’яўленне «цароў» у сваёй хаце.

Распрацавалі сцэнарый, улічваючы пры гэтым тое, што яго ў час святкавання нельга ўспрымаць чымсьці застылым, а толькі асновай, свайго роду каркасам, да якіх па ходу дзеяння могуць уносіцца дапаўненні, улічваючы канкрэтную сітуацыю.

## «ЦАРЫ» — НА ЎСЕ ЧАСЫ «ЦАРЫ»

Першы раз «цары» зноў прайшліся па вуліцах Семежава ў 1997 годзе. Вынік пераўзышоў самыя лепшыя чаканні. Людзі не проста радаваліся з’яўленню нечаканых каляднікаў, а і самі ахвотна далучаліся да іхняга імправізаванага дзейства. Назаўтра толькі і размоў было пра «цароў». Тыя ж, хто не сустрэўся з імі, гарэлі жаданнем абавязкова пабачыць іх. Але для гэтага, вядома, трэба было чакаць цэлы год. Затое чаканне гэтае не расчаравала. І тых, хто ўжо быў знаёмы з «царамі». Дый тых таксама, хто сустрэўся з імі ўпершыню.

На сённяшні дзень калядны абрад «Цары» ў Семежаве прапісаўся стала. Адпаведна, і правядзенне яго набыло тую кампазіцыйную завершанасць, што ўжо няма асаблівай неабходнасці ўносіць нейкія папраўкі. Удзельнікамі гэтага гурту з’яўляюцца сем чалавек — школьнікі, маладыя працаўнікі СПК «Семежава-Агра».

Перад тым, як пайсці па вёсцы, яны апранаюць белыя штаны, белыя кашулі і падпяразваюцца чырвонымі семежаўскімі паясамі з геаметрычным арнаментам. На шыю ж навязваецца вялікая жаночая хустка ў буйную клетку ці кветкі. Гэтая хустка, што называецца тарыноўкай, сваімі канцамі закладваецца за паясы. На ногі «цары» абуваюць чорныя боты. На галаву надзяваюць высокія папяровыя шапкі з рознакаляровымі кутасамі. Кожны «цар» мае шаблю, што мацуецца з левага боку.

«Цары» гэтыя не людзі без роду-племені, а маюць уласныя імёны. Адзін з іх, як і вымагае відовішча, блізкае да народнай

драмы, завецца Максіміліянам. Паплечнікі ягоныя — канкрэтныя асобы: цар Мамай, Іван Грозны... Зразумела, што і паводзяць яны сябе такім чынам, як рабілі гэта іхнія прататыпы.

Кіруюцца па вёсцы «цары» не адны, а ў суправаджэнні «лекара». Той сваім знешнім выглядам падобны на вайскоўца: апрануты ў цёмную ваенную форму, на нагах — армейскія боты, на галаве — фуражка, праз плячо — медыцынская сумка. У руках «лекар» трымае градуснік. Праўда, не звычайны, а картонны, прытым вялікі. Да «цароў» і «лекара» далучаюцца музыка і барабаншчык, а яшчэ дзед з бабай.

Цікава тое, што выканаўцы гэтых роляў узяты не ў той паслядоўнасці, як трэба было б чакаць. У ролі дзеда выступае не юнак, а дзяўчына. Прытым у яе выгляд такі, што хочаш смейся, а хочаш плач. Апранута яна ў да таго рванае мужчынскае адзенне, што яно нагадвае сабой лахманы. А яшчэ твар у гэтага «дзеда» вымазаны сажай. Не лепей выглядае і «баба», у якую пераўвасабляецца адзін з юнакоў.

Ды іначай і нельга, бо задача гэтых двух персанажаў — смяшыць тых, да каго яны завітаюць. Для гэтага ж усе сродкі падыходзяць. Таму «дзед» з «бабай» і самі цалуюцца, могуць і гаспадароў хаты без дай прычыны расцалаваць. А яшчэ... Глядзіш, што-небудзь і ўкрадуць. Галоўнае ж для іх — пастаянна знаходзіцца ў цэнтры ўвагі. Хоць ад гэтага не адмаўляюцца і самі «цары». Яны могуць распачаць «бойку», пад час якой абавязкова акажацца «забіты», якога «лекар», праўда, пастараецца паставіць на ногі.

Перад тым, як пачаць сваё шэсце, «цары» загадзя збіраюцца ў якой-небудзь хаце, дзе і апранаюцца ў свае строі. Звычайна накіроўваюцца ў тыя хаты, у якіх ёсць дзяўчаты на выданне. Аднак могуць ісці і туды, куды іх загадзя запрашаюць. Пры гэтым, выйшаўшы на вуліцу, выстройваюцца па росту.

Першым ідзе самы прыгожы і дасціпны «цар». Замыкаюць шэсце барабаншчык з музыкам, а яшчэ так званы «механоша» — юнак з мяшком, прызначаным для дарункаў ад удзячных гаспадароў, і з санкамі, на якіх размяшчаецца звычайны стул, што сімвалізуе сабой трон. «Лекар» выступае адначасова і ў ролі камандзіра, таму ідзе збоку, падаючы каманды, куды павярнуць — направа ці налева, у залежнасці ад таго, з якога боку знаходзіцца хата, у якую ідуць «цары». Правільней, не проста ідуць, а маршыруюць пад гукі барабана, а за імі, таксама па баках, бягуць «дзед» з «бабай». Дзед для запалохвання непаслухмяных трымае ў руцэ пугу.

Непаўторнасць гэтаму відовішчу надае і тое, што «цары» і тыя, хто суправаджае іх, ідуць з факеламі, паколькі абрад праводзіцца каляднай ноччу.

Так і закарцела пазнаёміцца з гэтым арыгінальным гуртам. Але для гэтага трэба было пачакаць Каляд. На дварэ ж быў кастрычнік...

## ЁСЦЬ МУЗЕЙ ВЫСОЦКАГА

Тым часам мы пад’язджалі да Семежава.

— Дык хоць цяпер скажыце, што гэта за музей, — папрасіў я Шуракову.

— Высоцкага, — прагучала ў адказ.

Як жа я і не здагадаўся?! Міхаіл Сцяпанавіч, які родам з Семежава, несумненна, жывая гісторыя айчыннага аўтамабілебудавання. У гэтым я пераканаўся некалькі гадоў назад, калі пісаў нарыс пра гэтага выдатнага чалавека для часопіса «Полымя». Яшчэ больш упэўніўся, што ён і сапраўды чалавек-легенда, калі пазнаёміўся з ягонай кнігай «Главный конструктор», што адкрыла новую серыю выдавецтва «Мастацкая літаратура» — «Нашы героі».

Міхаіл Высоцкі не толькі выдатны канструктар (на яго рахунку 107 аўтарскіх пасведчанняў і 5 патэнтаў), а і аўтарытэтны вучоны. Ён аўтар і сааўтар звыш 18 манаграфій, 33 навукова-метадычных дапаможнікаў, каля 200 артыкулаў, звыш 360 навуковых прац. Клопатна дбае Міхаіл Сцяпанавіч і аб маладой змене. Пад яго кіраўніцтвам 11 чалавек сталі кандыдатамі і дактарамі навук.

Зразумела, што капыляне па праву ганарацца такім выдатным земляком. Таму менавіта Высоцкі і адкрыў спіс ганаровых грамадзян Капыля, які пакуль што так і не папоўніўся, хоць, безумоўна, жадаючых атрымаць такое званне шмат, але і патрабаванні строгія.

Памятаю, як свяціліся вочы Міхаіла Сцяпанавіча, калі ён расказваў пра роднае Семежава, успамінаў людзей, якія падтрымлівалі яго, пакуль не выйшаў у вялікі свет

жыцця. Прызнаваўся, што заўсёды перажывае асаблівую радасць пры магчымасці (няхай не так і часта, як таго хацелася б, усё ж стае клопатаў, нягледзячы на тое, што разменяў ужо дзевяты дзесятак, працягвае працаваць) завітаць да землякоў. Дый разумеў, што не толькі семежаўцы, а і ўсе жыхары Капыльшчыны ганарацца ім. Таму ў рэшце рэшт аформіў дакументы на бацькоўскую хату, на ўчастак зямлі, што знаходзіцца вакол яе, і перадаў усё гэта ва ўласнасць музея. «Быць музею Высоцкага!» — вырашылі прадстаўнікі мясцовай улады.

Сказана — зроблена. У першай частцы музея цалкам узноўлена тая абстаноўка, у якой нарадзіўся, выхоўваўся будучы генеральны канструктар беларускага аўтамабілебудавання. У другой — шматлікія экспанаты расказваюць пра шматграннае жыццё Міхаіла Сцяпанавіча. Усе матэрыялы перададзены самім Высоцкім. Ягоным коштам набыта мэбля для гэтага, усё тое, што перадае тагачасны інтэр'ер.

— Гэтая экспазіцыя, — расказвае Шуракова, — не канчатковая. Мяркуецца таксама пабудаваць кляцень, у якім так хораша жылося-марылася нашаму славутаму земляку ў гады маленства і юнацтва. А яшчэ Міхаіл Сцяпанавіч хоча прыгнаць у Семежава адзін з «МАЗаў». З тых, што пабудаваны дзякуючы яму. Каб дзеці маглі лепш пазнаёміцца з гэтым аўтамабілем. Залезці ў кабіну, пакруціць руль... Глядзіш, таксама звяжуць свой лёс з машынабудаваннем.

Як бы там ні было, а «фізікі» ў пашане. Хоць у пашане і «лірыкі» — тыя, хто мае дачыненне да прыгожага, якое прыўкрашае наша жыццё. Прынамсі, на Капыльшчыне гэтага падзелу не заўважаецца, бо на гэтай зямлі кожны працуе з поўнай аддачай. У сферы культуры — таксама. У чым я лішні раз упэўніўся, пазнаёміўшыся з Наталляй Царковай і найбольш ініцыятыўнымі, але разам з тым і тыповымі прадстаўнікамі яе каманды.

* * *

Ва ўраджэнца Капыля, вядомага беларускага паэта Міколы Хведаровіча ёсць верш, прысвечаны роднаму гораду, а ў ім — такія радкі:



*Ураджэнцы Капыльшчыны: акадэмік-сакратар аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў, дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі Аляксандр Каваленя (злева) і Міхаіл Высоцкі.*

Стаіць на пагорках,
На ста сямі горках
Мой родны,
Мой слаўны Капыль.

Сапраўды, наўрад ці напаткаеш яшчэ адзін такі «ўзгоркавы» райцэнтр. Ужо гэтым ён адметны. А ў большай ступені тым, што Капыльшчына — край надзіва таленавітых людзей, ужо гутарыць з імі адно задавальненне, а куды большае яно, калі далучаешся да зробленага імі.




# ДУМНЫ НАСТАЎНІК КУПАЛЫ

**Ю**льюш Славацкі — несумненная велічыня сусветнай літаратуры. Праўда, для чытача прэтэнцыёзнага, таго, які лічыць, што кніга і мастацкае слова — гэта ўсяго толькі яго асабістыя равеснікі, яго пакалення роўня, канечне ж, ён, паэт велізарнага маштабу, асоба, якая калісьці ўплывала не толькі на свядомасць палякаў, аўтар «Марыі Сцюарт» і «Караля Міндоўга», зусім не заўважны з-за смугі двух стагоддзяў. Зазірнуўшы нават у «Литературный энциклопедический словарь» (Масква, 1987), такі чытач у пацвярджэнне свайго адліку каштоўнасцей і ўзрадуецца: Славацкаму адведзены ўсяго 21 радок! І тое — разам з бібліяграфічнымі спасылкамі...

Можна, зразумела, спрачацца. Бо радкоў гэтых ужо ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» шмат болей. А ў той жа, маскоўскага энцыклапедычнага слоўніка, бібліяграфіі і манаграфічныя даследаванні згадваюцца. Нават ва Украіне такіх кніг было як мінімум дзве — «Ю. Славацкі і Украіна» Г. Вервеса і «Ю. Славацкі. Жыццё і творчасць» С. Лявінскай. Ды і па-руску толькі ў XX стагоддзі паэзія Славацкага выдавалася неаднойчы. Нават ёсць двухтомнік — 1960 года выдання. Што ўжо казаць пра Польшчу, дзе Славацкага і шануюць, і выдаюць… І стараюцца не забываць не як творца-адзінку, а як паэта «пушкінскага» маштабу, здольнага ўплываць і сёння не толькі на літаратурныя памкненні новых майстроў слова, але і на чытача, які хоча зразумець Польшчу, зразумець і адчуць характар паляка. Пагадзіцеся, для літаратара, чый век быў адмераны ўсяго сарака гадамі, — не так і мала!.. А хутчэй — гэта нават і падставы верыць, што са Славацкім польская нацыянальная літа-




*Дом у Крэменцы, у якім нарадзіўся Юльюш Славацкі. Паштоўка 1920-х гадоў.*

ратура будзе і надалей крочыць — і ў стагоддзі XXI, і, мажліва, у наступных часінах… Сацыяльныя і палітычныя пераабсталяванні ніколькі не прыніжаюць ролю і месца сапраўднай паэзіі, сапраўдных мастацкіх адкрыццяў. А ў тым, што яны былі зроблены ў XIX стагоддзі вялікім польскім паэтам Славацкім, сумнявацца не прыходзіцца.



*Паштоўка памяці Юльюша Славацкага. 1920-я гады.*

Магчыма, не толькі рэвалюцыйны рамантызм, а і нешта іншае разгледзяць дасведчаныя крытыкі і літаратуразнаўцы ў творчасці Славацкага ў новых умовах супрацьстаяння асобы і духоўнасці перад традыцыйным і ўсепранікаючым цемрашальствам... Але і некалі выказанае нельга скідваць з рахункаў. Нават не толькі з пункта гледжання гісторыка-літаратурнага... «…Пасля разгрому польскага паўстання 1830—31 вызначальнай (часова) становіцца літаратура эміграцыі. Рамантыкі імкнуліся зразумець прычыны паражэння паўстання, крытычна асэнсаваць вопыт шляхецкай рэвалюцыйнасці, адрыў авангарда вызваленчай барацьбы ад народных мас. Яны аблічалі царызм і яго прыспешнікаў. Інтэнсіўна развіваецца рэвалюцыйная драма, разнастайная па форме, насычаная маральна-палітычнай праблематыкай (3-я частка «Дзядоў» Міцкевіча, «Кардзіян» Ю. Славацкага, «Нябоская камедыя» і «Ірыдзіён» З. Красіньскага і інш.). Жанр паэмы ўзбагачаецца новымі разнастайнасцямі: нацыянальная эпапея «Пан Тадэвуш» Міцкевіча, філасофска-гістарычная паэма Славацкага «Кароль Дух» і інш. Гісторыка-філасофскія шуканні акрамя мастацкай творчасці знаходзяць выкладанне ў светапоглядных сістэмах месіянства, містыка-нацыянальнага характара, заснаваных на «грядущем» збаўленні Польшчы...»

Як выснову і такога парадку хацелася б заўважыць наступнае: Славацкі — заўсёды поруч з Міцкевічам… Гэта як Пушкін і Лермантаў... У выпадку з беларускай літаратурай узнаўлення, узвышэння яе да грамадскіх уплываў: як Купала, Колас і Багдановіч...

Беларускія даследчыкі даўно і настойліва звяртаюцца да жыцця і творчасці Славацкага. І гэта, канечне ж, не толькі даніна павагі добрасуседству, літаратуры, якая некалі была і для народа Беларусі (а ў шырокім плане застаецца і зараз) супольнай і для народжаных у палескіх балотах альбо на мінскіх пясках ці ў віцебскіх лясах. У грунтоўным, са здаровай прэтэнзіяй на манаграфічны характар (на крайні выпадак — патрэба ў гэтым наспела) артыкуле, змешчаным у «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», В. Гапава, А. Мальдзіс, А. Лойка, звяртаючыся да жыцця і творчасці Славацкага ўвогуле, асобна акцэнтуюць увагу на повязі майстра з Беларуссю: «Цікавасць беларусаў да Славацкага зарадзілася яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі (артыкул Ч. «Тры гадаўшчыны. II. Юльюш Славацкі». — «Наша Ніва», 26.3.1909). Пра Славацкага страсна гаварыў на судовым працэсе над членамі Беларускай Сялянска-Рабочай Грамады Б. Тарашкевіч…»

Дазвольце кароткае адступленне. Суд, пра які згадваюць літаратуразнаўцы, адбыўся ў 1920-я гады ў суверэннай Польшчы. Беларускі рэвалюцыянер, беларускі барацьбіт за нацыянальнае самавыяўленне Браніслаў Тарашкевіч шукае аргументаў у змаганні з палякамі ў польскага паэта, польскага нацыянальнага паэта, рамантыка, які бачыў менавіта Польшчу суверэннай і незалеж-




*Палескія балоты, апетыя Юльюшам Славацкім. Паштоўка 1920-х гадоў.*

най! Значыць, і тут, у выпадку з Славацкім, можна сцвярджаць, што сапраўдная літаратура, аддаючы даніну нацыянальнаму, стаіць вышэй, уздымае свабоду і вольнасць кожнага народа і кожнага чалавека разам і паасобку! І ў гэтым — ці не найпершы крытэрый сапраўднасці!..

«Творчасць Славацкага выразна ўплывала на творчасць Янкі Купалы — найперш па лініі арганічнага асэнсавання, засваення і пераўтварэння, арыгінальнага развіцця матываў, вобразаў і ідэй, яркім рамантычным стылем паэзіі, тонкасцю і глыбокай філасафічнасцю, лірызмам. Уплываў ён на Я. Купалу і як асоба трагічная, чалавек катастрафічнага разладу мары з жорсткай сацыяльнай рэчаіснасцю. Матывы грамадзянскага смутку ў Я. Купалы тыпалагічна адэкватныя матывам Славацкага. Сярод нямногіх непасрэдных рэмінісцэнцый — ранні верш Я. Купалы «Смутна мне, божа!», назва якога паўтарыла першы радок «Гімна» Славацкага. Выразны, адкрыты прыклад уплыву — пераўтварэнне ў свой любімы эпітэт частага ў Славацкага (вершы «Мой запавет», «Адказ на «Псалмы будучыні») слова «думны» — у вершах Я. Купалы «Маладая Беларусь» («Гэй ты, гэй, Беларусь, маладая старонка»), «Чалавеку», у паэме «Курган». З лепшымі паэтычнымі творамі Славацкага пераклікаюцца вершы Я. Купалы «Гэта крык, што жыве Беларусь», «Я ад вас далёка...», паэма «Адвечная песня» — найперш маштабнасцю хвалявання, напружаннем думкі і пачуцця, блізкімі абодвум паэтам рэвалюцыйнымі ідэямі і эстэтычнымі запатрабаваннямі часу, самой прыродай паэтычнага таленту. Тыпалагічныя аналогіі ёсць і ў іншых беларускіх пісьменнікаў: У. Дубоўкі, У. Караткевіча, М. Танка, Я. Брыля, Я. Сіпакова. На беларускую мову асобныя творы Славацкага перакладалі Я. Купала, Г. Леўчык, М. Танк, П. Пестрак, М. Лужанін, А. Звонак, У. Дубоўка, П. Макаль, А. Вольскі, Я. Семяжон, С. Дзяргай, Н. Мацяш і інш. Пра Славацкага пісалі М. Лужанін («Вялікі польскі паэт», 1959), Пестрак («Паэт і яго



*«Болтуп пад Ашмянамі». Сядзіба Снядэцкіх, дзе Юльюш Славацкі напісаў «Думку ўкраінскую». Паводле малюнка Напалеона Орды. Паштоўка канца XIX стагоддзя.*

час», 1959), Я. Брыль («У іншай гісторыі», 1965), Мацяш («Паэт прагрэсу, рэвалюцыі і люду», 1969). «Элегія» В. Адважнага напісана паводле Славацкага. Паводле п'есы «Мазепа» ў 1959 Беларускі тэатр імя Я. Купалы паставіў спектакль «Смерць ваяводы»...



*Палац у Снове,*
*дзе трагічна пайшоў з жыцця блізкі сябар Юльюша Славацкага.*
*Паштоўка 1916 года.*

І шкада, што пры такім узроўні ўзаемапранікнення, пры такім «узроўні ўплываў на станаўленне найперш беларускай нацыянальнай паэзіі мы маем толькі адну кнігу Ю. Славацкага на беларускай мове — томік выбраных твораў выдання 1959 года. Прайшло паўвека. І да ранейшых, у тым ліку да зробленых наўмысна да 150-годдзя Ю. Славацкага ў пасляваенны час перакладаў дадаліся новыя прачытанні творчасці вялікага паляка, прынамсі, С. Мінскевічам.

Сяржук Мінскевіч — паэт новага пакалення. Нарадзіўся ў 1968 годзе. Займаецца арыгінальнай паэтычнай творчасцю, піша фантастычную прозу. Працуе над дысертацыяй па літаратуразнаўству. Аўтар некалькіх кніг. І раней звяртаўся да перакладаў польскай паэзіі. Менавіта яму належыць пераклад «Дзядоў» Адама Міцкевіча на беларускую мову. Зараз, наўмысна да кнігі, што складаецца ў юбілейны для Юльюша Славацкага год, год яго 200-годдзя, пераклаў урывак з драмы «Міндоўг».

Відавочна, не трэба доўга гаварыць пра тое, што значыць гэтая постаць для гісторыі Беларусі, ды і Польшчы таксама... Скажам хіба што адным сухім энцыклапедычным радком: «Міндоўг — заснавальнік і першы вялікі князь Вялікага княства Літоўскага. Упершыню ўпамінаецца ў 1219 разам са старэйшым братам Даўспрункам сярод «старшых князёў» Літвы, якія падпісалі дагавор з Уладзіміра-Валынскім княствам...» Усё жыццё Міндоўга — барацьба за цэласнасць Айчыны. Часам — вельмі жорсткая і драматычная. Як і ў супрацьстаянні з мангола-татарскім ваяводам Бурундаем, так і з Лівонскім ордэнам, так, між іншым, і з каталіцтвам. І ўсё ж Міндоўг быў забіты разам са сваімі сынамі Рупекам і Руклем... Шкода, што ў беларускай мастацкай літаратуры вобраз такога каларытнага і яркага гістарычнага дзеяча не адлюстраваны дастойным чынам. Не, ёсць асобныя творы. Ды ўсё ж яны не прагучалі, не сталі падзеяй ні ў літаратуры, ні нават у гістарычнай публіцыстыцы.

Сяржук Мінскевіч праз пераклад, праз беларускае прачытанне спрабуе ліквідаваць і гэты прабел. Пакуль што ўвазе чытачоў прапанаваны толькі адзін з раздзелаў вялікага драматычнага твора. І ўжо па гэтай спробе ўваходжання ў іншыя часы, ды і ў характары мыслення паэта відаць, што беларускі перакладчык намацаў свой шлях, які дазволіць завяршыць працу дастойным чынам. А каб чытач меў болей шырокае ўяўленне, увазе прапануецца празаічны пераклад усіх раздзелаў твора.

Упершыню ў гісторыі культуры — і польскай, і беларускай — выдаецца такі велізарны падбор ілюстрацыйнага матэрыялу, прысвечанага класіку польскай літаратуры. Паштоўкі, сабраныя Уладзімірам Ліхадзедавым (а раней выйшаў яшчэ і альбом «Адам Міцкевіч на старых паштоўках») уводзяць нас у атмасферу розных часін, хаця самі выявы аддрукаваны, як правіла, у межах 30—40 гадоў канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Вобраз Юльюша Славацкага паўстае праз яго партрэты, растыражаваныя і знаёмыя розным пакаленням палякаў, праз




*«Гімн пра захад сонца» Ю. Славацкага. Паштоўка 1920-х гадоў.*

мясціны і помнікі, звязаныя з творцам, праз рэпрадукцыі ілюстрацый да яго твораў...

І што прыкметна па выявах на старых паштоўках, дык гэта выключная знітаванасць паэта, які нарадзіўся ва Украіне, пісаў па-польску, з Беларуссю. Па-першае, маршруты Ю. Славацкага ў Вільню і назад з Вільні ва Украіну пралягалі праз Беларусь. Гэтыя шляхі адзначаны ўвагай збіральніка старых паштовак У. Ліхадзедава. Калекцыянеру ўдалося многія мясціны спраектаваць да чытацкага разгляду такім чынам, каб паказаць беларускія шляхі-дарогі Славацкага. Адна Болтуп чаго толькі вартая!.. Ашмянскі маёнтак Снядэцкіх пеставаў многія думкі аўтара «Міндоўга»… Відаць, настраёвасці, многім інтанацыям твора паспрыяла і знаёмства Славацкага з Навагрудкам… У. Ліхадзедаў уважліва — як даследчык і як філакартыст — прачытаў эпісталярную спадчыну паэта, разгледзеў тыя краявіды, якія згадвае Славацкі…

Гэта ўвогуле цікавы падыход — выкарыстанне паштоўкі ў расповедзе пра жыццё і творчасць яркай гістарычнай асобы. І, відавочна, у сусветнай філакартыі гэта робіцца ўпершыню. Няма ж у Расіі альбома паштовак у памяць Пушкіна ці Гогаля! Няма ў Германіі альбома ў памяць пра Гётэ! Няма ў Англіі шыкоўнага альбома старых паштовак у гонар Байрана ці Шэкспіра!.. Выхаваўчы, гісторыка-асветніцкі рэсурс філакартыі не задзейнічаны! Мозг, ініцыятыва калекцыянера адпачываюць!.. А ў Беларусі шырыцца і развіваецца падобная ініцыятыва. Будзем жа спадзявацца, што ў суладдзі з літаратурным, краязнаўчым аспектамі яна разгорнецца ў многія і многія кнігі. Справа засталася за малым — за ўвагай чытачоў і выдаўцоў.

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***

*Ілюстрацыі з кнігі Уладзіміра ЛІХАДЗЕДАВА «Юльюш Славацкі на паштоўках канца XIX — пачатку XX стагоддзя».*

Мая прафесія

Ірына КЛІМКОВІЧ

# І ТЭХНІЧНЫ, І... ПАЭТЫЧНЫ



***Гісторыя чалавецтва ў пэўным сэнсе — гэта гісторыя будаўніцтва. Зніклыя цывілізацыі, старажытныя імперыі пакінулі пасля сябе велічныя будынкі. У храмы, замкі, грамадскія будынкі, палацы ўкладаліся вялікія рэсурсы. Патрэбы будаўніцтва спрыялі развіццю навукі і мастацтва, з'яўленню новых тэхналогій і механізмаў. Чалавек імкнуўся ўдасканаліць свет, стварыць штучны асяродак, прыдатны для камфортнага існавання. А для гэтага ён няспынна вынаходзіў новыя прагрэсіўныя будаўнічыя матэрыялы, дзякуючы якім будынкі набывалі патрэбныя якасці. Зразумела, заўсёды былі людзі, якія займаліся вырабам будаўнічых матэрыялаў. З часам гэта ператварылася ў асобную прафесію. Адно з яркіх пацвярджэнняў росту прэстыжнасці такой прафесіі — несупыннае нават ва ўмовах фінансавага крызісу будаўніцтва прамысловых і жылых аб'ектаў. Як вынік — расце колькасць жадаючых авалодаць тэхналагічнымі спецыяльнасцямі.***

## АД САМАГА ПАЧАТКУ...

Сённяшні рынак прапануе агромністы выбар будаўнічых матэрыялаў. Некаторыя з іх выкарыстоўваліся яшчэ ў старажытнасці, іншыя з'явіліся зусім нядаўна. Спачатку людзі выкарыстоўвалі ў будаўніцтве толькі матэрыялы прыроднага паходжання. Гэта былі ў асноўным дрэва, камень, пясок, гліна. З іх узводзілі культавыя, абарончыя і жылыя будынкі.

З цягам часу, каб удасканаліць свае пабудовы, чалавек пачаў ствараць штучныя будаўнічыя матэрыялы. Адзін з першых — абпаленая гліна, кераміка. Па такой тэхналогіі выраблялі дахоўку, плітку і іншыя матэрыялы, якія выкарыстоўваюць у будаўніцтве і сёння. Крыху пазней была зроблена і першая керамічная цэгла — асноўны будаўнічы матэрыял усіх часоў і народаў. Калі ж цэгла трапіла ў Беларусь?

Не адну тысячу гадоў налічвае гісторыя цагельнай справы. Зарадзілася яна ў краінах Усходу, дзе не было дастатковай колькасці дрэва і камянёў, неабходных для ўзвядзення манументальных пабудоў. У Еўропе цэглу ўпершыню сталі вырабляць рымляне. Да нас цэгла трапіла разам з візантыйскімі дойлідамі недзе ў X ст. Гэта былі квадратныя, даволі тонкія керамічныя пліты, называліся яны «плінфа». Наша самая старажытная пабудова з плінфы, якая дайшла да нашага часу, — Полацкі Сафійскі сабор XI ст. У XII ст. мураваныя храмы з плінфы ўжо масава ўзводзяцца ў Полацку, Віцебску, Гародні, Тураве. У XIV ст. на нашых землях ужо склаўся свой стандартны памер цэглы, так званая «пальчатка», або вялікапамерная літоўская цэгла. З яе ўзведзены практычна ўсе нашы пабудовы ў гатычным стылі. З другой паловы XVI ст. «пальчатка» саступае месца цэгле, набліжанай па памерах да сучаснай. З яе ўжо ўзводзяцца рэнесансныя і барочныя пабудовы. Тады ж будынкі пачынаюць тынкаваць і звонку. Першы такі будынак — фарны касцёл у Нясвіжы, узведзены італьянцам Янам Марыяй Бернардоні.

Шкло ў вокнах жылых будынкаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі ўпершыню з'явілася ў Навагрудку, тагачаснай сталіцы Вялікага княства Літоўскага, у XIII ст. Да прыкладу, у нашых усходніх суседзяў — Расіі — шкліць вокны пачалі толькі ў XVIII ст. Там жа, у Навагрудку, паўсталі і першыя двухпавярховыя дамы. Будавалі іх з дрэва, усярэдзіне сцены тынкавалі і распісвалі фрэскамі. Ацяпляліся яны пячамі з комінам.

Першыя паліваныя керамічныя пліткі ў нас пачалі рабіць у XII ст., іх выкарыстоўвалі для аздаблення сцен, выкладалі імі падлогу.

Ужо з XV ст. жылыя памяшканні замкаў і палацаў на Беларусі пачалі ацяпляць кафельнымі печамі. У інвентарах XVI—XVIII стст. згадваецца вялікая колькасць печаў, абкладзеных кафляй. Першыя кафлі нагадвалі звычайныя гаршкі альбо невялікія макітры, таму і атрымалі назву «гаршковыя». Ганчары рабілі іх разам з кухонным ці сталовым посудам. На Беларусь кафля трапіла непасрэдна з Германіі — радзімы еўрапейскага кафлярства. Самыя раннія экземпляры знойдзены ў княжацкіх харомах Полацка.

Сёння вытворчасць будаўнічых матэрыялаў у Беларусі адна з самых развітых галін народнай гаспадаркі. Мы не толькі забяспечваем практычна ўсе свае ўнутраныя патрэбы, але і шмат экспартуем. Працуюць прадпрыемствы па вырабу цэглы, цэменту, керамічнай пліткі, жарствы, шкла, жалезабетонных вырабаў, бітуму і асфальту.

Вядома ж, гэтым прадпрыемствам неабходны спецыялісты. Іх таксама рыхтуюць у Беларусі.

## ГІСТОРЫЯ ТЭХНІКУМА

У 2009 годзе ўстанове адукацыі «Беларускі дзяржаўны тэхнікум прамысловасці будаўнічых матэрыялаў» споўнілася 65 гадоў. За гэты час было падрыхтавана звыш шаснаццаці тысяч кваліфікаваных спецыялістаў, шмат хто з іх сталі добрымі арганізатарамі вытворчасці, кіраўнікамі буйных прадпрыемстваў і ўстаноў. А заснаваны тэхнікум быў у кастрычніку 1944 года па загаду Савета Народных Камісараў, у час, калі была вызвалена яшчэ не ўся Беларусь. Пасля ваенных разбурэнняў для будаўніцтва і адраджэння гаспадаркі краіне тэрмінова патрабаваліся спецыялісты ў галіне будаўніцтва. У структуру навучальнай установы ўваходзілі: тэхналогія сілікатаў; механічнае абсталяванне заводаў будматэрыялаў; электраабсталяванне заводаў будматэрыялаў.

У тыя часы Мінск ляжаў у руінах, ацалела крыху менш за пятую частку будынкаў сталіцы, але за пяць кіламетраў ад цэнтра горада на цагельні № 1 па вуліцы Чыгуначнай, 9-а захаваўся цалкам прыдатны двухпавярховы будынак, які Наркамат і перадаў тэхнікуму для вучэбных заняткаў і пражывання студэнтаў. Тут былі абсталяваны вучэбныя кабінеты, бібліятэка, жаночы і мужчынскі інтэрнаты, сталоўка, спартыўная зала, жытло для выкладчыкаў, майстэрні па індывідуальнаму пашыву і рамонту вопраткі, абутку, пральня. Пазней сіламі навучэнцаў і выкладчыкаў былі абсталяваны актавая і кіназала, цір. Ацяпляўся будынак печамі. Дровамі тэхнікум часткова забяспечвала дзяржава, астатняе нарыхтоўвалі самі навучэнцы і выкладчыкі.

У тым, што тэхнікум знаходзіўся на тэрыторыі цагельні, былі і свае перавагі, студэнты мелі магчымасць праходзіць вытворчую практыку адразу ж у цэхах і майстэрнях. Арганізоўваў тэхнікум і ўзначаліў яго першы дырэктар **Штэйнгарт Аляксандр Міхайлавіч**. У 1944/1945 навучальным годзе на I курс было набрана каля ста навучэнцаў. На дзённае аддзяленне можна было паступаць на базе сямі класаў. Узрост абітурыентаў складаў ад 14 да 35 гадоў. За адной партай сядзелі хлопцы і дзяўчаты, дарослыя франтавікі, дэмабілізаваныя з шэрагаў Савецкай Арміі, інваліды. Тут навучаліся беларусы, украінцы, рускія, яўрэі, палякі, літоўцы, мардоўцы, татары.

У 1981 годзе ў паўднёва-заходнім раёне Мінска, па вуліцы Гурскага, 21 вырас новы студэнцкі гарадок — Мінскі індустрыяльны тэхнікум прамысловасці будаўнічых матэрыялаў, які і цяпер з'яўляецца добра абсталяванай навучальнай установай па падрыхтоўцы маладых спецыялістаў у галіне будаўнічых матэрыялаў. Тэхнікум мае два вучэбна-лабараторныя корпусы, інтэрнат, спартыўны комплекс, сталоўку. Прасторныя лекцыйныя аўдыторыі, добра абсталяваныя кабінеты, комплекс тэхнічных сродкаў навучання, сучасныя камп'ютэры... Фонд вучэбнай, навуковай і мастацкай літаратуры бібліятэкі тэхнікума налічвае 70 000 экземпляраў.

## У «ТЭХНАРОЎ» — ШЫРОКІ ВЫБАР СПЕЦЫЯЛІЗАЦЫІ

***(Размова з дырэктарам тэхнікума)***

Адным з першых абітурыентаў быў **Валодзька Вікенцій Карпавіч.** Па заканчэнні тэхнікума, а пазней і політэхнічнага інстытута з 1952 па 2006 год ён выкладаў тут тэхнічную механіку. З 1961 па 1994 г. працаваў дырэктарам тэхнікума. Ён шчыраваў на гэтай пасадзе ажно 33 гады! Потым, у 1994 г., пасля рэарганізацыі міністэрстваў гаспадаркі нашай краіны, калі з пяці было створана адно — цяперашняе Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва, кіраўніком тэхнікума быў прызначаны былы міністр **Майсеевіч Анатоль Францавіч.** З 2007 года на пасадзе дырэктара навучальнай установы знаходзіцца сённяшні яе кіраўнік — **Рэўкоўскі Рычард Браніслававіч**.

І хоць Рычард Браніслававіч узначальвае тэхнікум нядоўга — тры гады, — ён прысвяціў яму ледзь не ўсё прафесійнае жыццё. У 1983 годзе, пасля заканчэння інжынерна-педагагічнага факультэта БПІ, ён прыйшоў сюды выкладчыкам. Даводзілася працаваць і куратарам, і загадчыкам кабінета. Досвед Рычарда Браніслававіча як арганізатара і педагога спатрэбіўся і на пасадзе загадчыка дзённага механіка-будаўнічага аддзялення, потым — загадчыка па вучэбнай частцы. І нарэшце па прапанове педсавета яго прызначаюць кіраўніком Беларускага дзяржаўнага тэхнікума прамысловасці будаўнічых матэрыялаў.

**— Рычард Браніслававіч, пасля таго як распаўся Савецкі Саюз, ці змянілася нешта ў працы навучальнай установы, якіх спецыялістаў вы выпускаеце?**

— На сённяшні дзень па многіх спецыяльнасцях у межах Беларусі тэхнікум адзіны ў сваім родзе. Мы выпускаем спецыялістаў у галіне тэхналогіі сілікатных і тугаплаўкіх матэрыялаў і вырабаў. Гэта тэхналогія керамікі, шкла, вяжучых матэрыялаў. Другая спецыяльнасць — машыны і і абсталяванне прамысловасці будаўнічых матэрыялаў. Тут у асноўным вучацца хлопцы і мужчыны, якія пасля заканчэння атрымліваюць дыпломы тэхніка-механіка. Трэцяя спецыяльнасць — вытворчасць будаўнічых вырабаў жалезабетонных канструкцый. Гэтая спецыяльнасць



*Рычард Браніслававіч Рэўкоўскі.*

існуе фактычна ад заснавання тэхнікума па сённяшні дзень. На ёй рыхтуюць спецыялістаў для заводаў жалезабетонных вырабаў, а іх вельмі шмат у нашай краіне. Чацвёртая спецыяльнасць, якая існуе з 1990 года, — аўтаматызацыя тэхналагічных працэсаў вытворчасці. Тут вучацца будучыя тэхнікі-электрамеханікі, якія абслугоўваюць электрычную частку тэхналагічных працэсаў. Ну а пятая спецыяльнасць, даніна цяперашняму часу — эканоміка і арганізацыя вытворчасці. Яна заснавана не так даўно — з 1996 года.

Што тычыцца іншых сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў з падобным накірункам навучання, менавіта нашы першыя тры спецыяльнасці фактычна нідзе больш не дубліруюцца. У іншых тэхнікумах яны могуць называцца падобна, але выкладаюцца з ухілам пад пэўную запатрабаваную вытворчасць. У гродзенскім тэхналагічным тэхнікуме, да прыкладу, таксама ёсць падобныя спецыяльнасці, але разлічаны яны пад гарадзенскі «Азот». У Полацку — ухіл у нафтахімію.

**— У параўнанні з савецкім часам, ці не зменшылася ў вас колькасць студэнтаў? Каго больш у працэнтных адносінах — дзяўчат ці хлопцаў?**

— Да нас прыходзяць пасля дзевяці класаў базавай сярэдняй школы. На сённяшні дзень у тэхнікуме не самая вялікая колькасць навучэнцаў за ўсю яго гісторыю — 650 на дзённым і 515 — на завочным аддзяленні. Хлопцаў і дзяўчат у нас прыкладна пароўну. Эканоміка арганізацыі вытворчасці — гэта ў асноўным жаночыя групы. І тэхналогія кера-

мікі — таксама пераважна дзяўчаты. Бетон і жалезабетон — там як калі. Туды стараемся агітаваць у першую чаргу хлопцаў, бо іх лягчэй потым размеркаваць на працу.

Перад гэтай галіной стаяць вялікія задачы. Сёлета па краіне, да прыкладу, будзе ўзведзена каля 6 мільёнаў квадратных метраў жытла. А праз некалькі гадоў будзе дасягнута і лічба ў 10 млн. квадратных метраў. Таму цяпер у тэхнікуме нават павялічаны прыём. Мы пасля адзінаццаці класаў набралі яшчэ адну дадатковую групу на вытворчасць жалезабетонных канструкцый. Такія спецыялісты будуць запатрабаваны.

**— Вашы навучэнцы ў асноўным са сталіцы ці з рэгіёнаў?**

— Дагэтуль было і дзевяць мінчан з дзесяці студэнтаў. Але за апошнія два гады — большасць іншагароднія. Праўда, у асноўным гэта Мінская вобласць. Сёлета на вучобу паступіла прыкладна 55 працэнтаў іншагародніх. У інтэрнаце цяпер пражываюць 315 навучэнцаў дзённага аддзялення. Інтэрнат пабудаваны па прынцыпе блокаў (6 чалавек на адзін блок), ён знаходзіцца зусім побач — дзевяціпавярховік на Гурскага, 23, і гэта вялікі плюс. Нашы студэнты вельмі загружаны падчас заняткаў, асабліва тыя, хто робіць курсавыя і дыпломныя праекты або рыхтуецца да іспытаў. Таму апроч чытальнай залы і бібліятэкі ў самім тэхнікуме яны ёсць і ў інтэрнаце. Таксама там месяцца чарцёжны пакой і пакой для адпачынку «Гаспадынька», дзе з навучэнцамі займаецца яшчэ і педагог-выхавацель.



*Кабінет фізікі.*

**— Якія перспектывы ў вашых выпускнікоў? На якіх прадпрыемствах яны потым працуюць?**

— Тэхнікум адносіцца да Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва. Нашы базавыя прадпрыемствы — «Керамін», Мінскі камбінат сілікатных вырабаў і завод будаўнічых матэрыялаў. Але нашы выпускнікі працуюць не толькі на гэтых прадпрыемствах. Вельмі добрыя кантакты мы маем з такім прадпрыемствам, як «Краснасельскбудматэрыялы». Яно ў асноўным накіроўвае да нас сваіх супрацоўнікаў на завочнае навучанне. Нашы базавыя прадпрыемствы і краснасельскае аказваюць тэхнікуму значную матэрыяльную дапамогу.

Той, хто вучыцца на завочным, праблем з размеркаваннем не мае. А ўсе навучэнцы дзённага навучання размяркоўваюцца ў абавязковым парадку. Іншая рэч, што нават з дыпломам часам ім даводзіцца пачынаць з простага рабочага месца. На кожным прадпрыемстве цяпер шмат тых, хто працуе рабочым, маючы сярэднюю спецыяльную або вышэйшую адукацыю. Аднак усё залежыць ад стаўлення да працы. Бывае, мінае паўгода, і нашы выпускнікі робяцца тэхнолагамі, майстрамі, механікамі. Да таго ж, яшчэ пад час вучобы нашы студэнты праходзяць тэхналагічную практыку на прадпрыемствах, дзе да іх пільна прыглядаюцца. Потым тых хлопцаў і дзяўчат, якія прафесійна сябе зарэкамендавалі, звычайна і размяркоўваюць на тое прадпрыемства, дзе яны праходзілі практыку.

Дарэчы, сёлета ўсіх выпускнікоў было 380 чалавек. З дзённага аддзялення, а гэта 7 груп агульнай колькасцю 180 чалавек, палова з іх паступіла ў ВНУ. Для нас такія лічбы былі вельмі прыемным вынікам і паказалі, што мы недарма ўклалі шмат працы ў навучальны працэс.

**— А ў чым асаблівасці навучальнага працэсу?**

— У нашым тэхнікуме навучаюцца чатыры курсы — чатыры гады. І толькі ў эканамістаў карацейшы час навучання — тры

курсы. Тэарэтычныя веды студэнты атрымліваюць на лекцыях і семінарах. Практычныя ўменні — на навучальных і вытворчых практыках. Навучальныя адбываюцца ў лабараторыях і ў майстэрнях тэхнікума. А вытворчыя праходзяць на апошнім годзе навучання на адным з базавых прадпрыемстваў і афіцыйна называюцца тэхналагічнай і пераддыпломнай практыкамі. Мы заключаем дамовы з прадпрыемствамі, і нашы навучэнцы на працягу 3—4 месяцаў працуюць там на працоўных месцах, засвойваючы тэхналогію вырабу таго ці іншага будаўнічага матэрыялу.



*Актыў гуртка мастацкай самадзейнасці. Злева направа: В. Патупчык, Л. Кудрына, К. Перуноўская, Х. Багдановіч.*

Але не заўсёды ёсць магчымасць патрапіць на дзейснае прадпрыемства. Асабліва на пачатку навучання, калі былых школьнікаў трэба абавязкова ўвесці ў спецыяльнасць і пазнаёміць з тэхналагічным працэсам. І калі нельга правесці хаця б экскурсію, то выкарыстоўваем відэафільмы. Нездарма ж кажуць, што лепш адзін раз пабачыць, чым сто разоў пачуць. Яшчэ ў нас ёсць музей працоўнай славы, дзе на стэндах можна ўбачыць усю гісторыю нашай навучальнай установы, паглядзець на фота нашых выкладчыкаў і кіраўнікоў, лепшых выпускнікоў, прачытаць іх працоўныя біяграфіі, даведацца пра іх поспехі і дасягненні. Таксама ў музеі маюцца ўзоры прадукцыі і мадэлі абсталявання, якое працуе на нашых базавых прадпрыемствах. Гэта ў асноўным дыпломныя праекты нашых выпускнікоў. Да прыкладу, млын ці драбілка або «шагаючы» экскаватар і г. д. Так на наглядным матэрыяле нашы студэнты вучацца прафесіі, засвойваюць яе азы. Час ад часу мы возім навучэнцаў на выставачны комплекс — былую ВДНГ, што на вуліцы Янкі Купалы. Там даволі часта праходзіць дэманстрацыя новай электратэхнікі, яе аўтаматызацыі і эканоміі энергетычных рэсурсаў. Пасля наведвання выстаў нашы вучні пішуць кароткія справаздачы, за што таксама атрымліваюць адзнакі.

Дарэчы, даглядае музей у тэхнікуме загадчык тэхналагічнай лабараторыяй, выкладчык і старшыня прафкама **Трубач Міхаіл Уладзіміравіч.** Ён адпрацаваў на заводзе «Керамін» трыццаць пяць гадоў і цяпер свае прафесійныя веды і вытворчы досвед перадае навучэнцам.

**— Магчыма, хто-небудзь з нашых чытачоў абярэ ваш тэхнікум, што Вы ім параіце, пажадаеце?**

— Калі бачыш першакурснікаў, адчуваеш, што не ўсе хлопцы і дзяўчаты прыйшлі да нас свядома. Але большасць з іх з часам разумее, што ў сацыяльным плане іх прафесія вельмі перспектыўная. Чаму? Будаўнічыя матэрыялы — падрыхтоўчы этап да агульнага будаўніцтва. Выканаць будаўнічыя планы без будаўнічых матэрыялаў немагчыма. Нашы выпускнікі будуць заўсёды забяспечаны працай і кватэрай, магчыма, на льготных умовах. Усё будзе залежаць ад таго, на якое прадпрыемства яны патрапяць. Да таго ж, і зарплаты ў нашых спецыялістаў высокія. Часам навучэнцы на тэхналагічнай практыцы атрымліваюць болей, чым выкладчыкі тэхнікума.

Так што, я думаю, стымул паступаць да нас ёсць. У «тэхнароў», як нас жартаўліва называюць, — шырокі выбар спецыялізацыі, бо пасля нашага тэхнікума ёсць перспектыва вырашэння жыццёва неабходных праблем!

### ЛЕПШЫЯ І ТАЛЕНАВІТЫЯ

Так сталася, што праз тэхнікум нярэдка праходзяць сямейныя дынастыі. Такія выпадкі можна адсачыць амаль у кожнай вучэбнай групе: гэта стала традыцыяй.

Да прыкладу, **Баргдановіч Хрысціна,** якая вучыцца на тэхніка-эканаміста. Да яе ў нас вучыліся яе бацька і брат. Хрысціна мае яшчэ і артыстычныя здольнасці, яна займаецца ў гуртку самадзейнасці, спявае і танцуе. **Чарняцкая Вераніка** выбрала прафесію тэхнолага, як і яе бацька, які раней таксама вучыўся ў гэтых сценах на тэхнолага. Вераніка ў вольны час займаецца бісерапляценнем, вышывае, захапляецца танцамі. Яе працы вісяць на выставе ў бібліятэцы тэхнікума. Гэтыя дзве дзяўчыны — першакурсніцы. На другім курсе па спецыялізацыі «Аўтаматызацыя тэхналагічных працэсаў і вытворчасці» вучыцца **Ляхаў Сяргей**. На гэтым жа аддзяленні вучыўся і ягоны брат, які цяпер працуе на «Амкадоры». Сяргей таксама збіраецца працаваць на гэтым прадпрыемстве. А **Патупчык Віктар,** практычна ўжо выпускнік, ён вучыцца на чацвёртым курсе, паступіў у тэхнікум па парадзе свайго старэйшага брата. Той пасля заканчэння пайшоў адразу працаваць на завод майстрам цэха. Таму і Віктар вырашыў пайсці вучыцца на тэхніка-тэхнолага. Прафесія запатрабаваная. Да таго ж у брата засталіся канспекты, што вельмі і вельмі прыдалося пад час вучобы. Апроч таго, што добра вучыцца, Віктар яшчэ хораша спявае, грае на гітары, сам піша песні, мае тонкае пачуццё гумару. Наогул, Віктару цяжка расставацца з тэхнікумам, яго выкладчыкамі і з сябрамі. Асабліва з куратарам усёй яго групы — **Шамянок Святланай Уладзіміраўнай,** выкладчыцай геаграфіі. Гэтая маладая жанчына прытрымліваецца сучасных поглядаў, яна разумее сваіх навучэнцаў, і ім з ёй лёгка.

Усе гэтыя навучэнцы паспяваюць не толькі ў час здаць залікі і іспыты, падрыхтаваць курсавыя працы, але і робяць гэта якасна. Сярэднія адзнакі ў іх — 7-9 балаў. Сярод паспяховых вучняў хочацца назваць яшчэ колькі прозвішчаў. Гэта і першакурсніца **Перуноўская Кацярына**, якая вывучае тэхналогію керамікі. Дзяўчына таксама мае рознабаковыя здольнасці: яна яшчэ і спявае, вельмі здольная ў матэматыцы. Нават думала спачатку вучыцца на бухгалтара, але перамагла цікавасць да керамікі. Гэта і **Лойка Юлія**, дзяўчына з трэцяга курса. Яна вучыцца па спецыяльнасці «Эканоміка арганізацыі вытворчасці». Па-за вучобай любіць чытаць кнігі, вышываць сурвэткі, цікава бавіць вольны час з сябрамі. Выбрала прафесію эканаміста свядома, ёй падабаецца працаваць з лічбамі, рабіць аналізы-прагнозы. **Герасімчук Павел** навучаецца на другім курсе па спецыяльнасці «Вытворчасць будаўнічых вырабаў і канструкцый». Марыць пасля заканчэння тэхнікума паступіць у БНТУ, атрымаць інжынерную спецыяльнасць. Добра вучыцца і адначасова абараняе гонар сваёй навучальнай установы ва ўсіх спартыўных спаборніцтвах. Самыя значныя вынікі: перамога ў спаборніцтвах па лёгкай атлетыцы на дыстанцыі 1 км за Маскоўскі раён горада Мінска, другое месца ў бегу на гарадскіх спаборніцтвах па ўсіх сярэдніх спецыяльных навучальных установах.



*Лепшыя і паспяховыя. Злева направа: С. Ляхаў, Ю. Лойка, В. Чарняцкая, П. Герасімчук.*

## ТВОРЧАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

Адным з відаў пазакласнай працы ў тэхнікуме, што забяспечвае развіццё творчых здольнасцей студэнтаў, пашырае іх з'яднанасць, кругагляд і інтэлект, з'яўляецца гурток мастацкай самадзейнасці. Гурток існуе ўжо дзесяць гадоў, з тых часоў, як прыйшла сюды працаваць выкладчык фізікі і астраноміі **Людміла Пятроўна**

**Кудрына**. І хоць яна выкладае такія сур'ёзныя дысцыпліны, але сама прызнаецца, што яе душа патрабуе і мастацтва. Некалі, яшчэ ў дзяцінстве, Людміла Пятроўна збіралася паступаць у тэатральны інстытут, але бацькі не дазволілі, палічылі акцёрскае майстэрства несур'ёзнай прафесіяй. А цяпер, пасля заняткаў, калі амаль усе выкладчыкі сыходзяць дахаты, выкладчыца фізікі рэалізуе свае творчыя памкненні. Дзень пры дні яна разам са студэнтамі рыхтуецца да святаў і знамянальных падзей. Дзякуючы Людміле Пятроўне ў тэхнікуме арганізавана цікавае і насычанае студэнцкае жыццё. Праводзяцца канцэрты, фестывалі творчасці. Да прыкладу, у аўторак на перапынку паміж заняткамі праходзіла акцыя-канцэрт, прысвечаная барацьбе са СНІДам, а ў пятніцу ўжо была падрыхтавана новая канцэртная міні-праграма — «Скажам «не» шкодным звычкам!» Цікавыя і насычаныя нумарамі мастацкай самадзейнасці вялікія канцэртныя праграмы. Так, шырока адзначаліся 65-годдзе тэхнікума, Дзень маці і Дзень студэнта. Усяго за год праводзіцца каля 20 канцэртаў, незлічоная колькасць разнастайных праграм і акцый. У кожным мерапрыемстве задзейнічана 25-30 выканаўцаў. З кожнай новай праграмай і канцэртам большае жадаючых браць удзел. Навучэнцы прыходзяць у гурток самі і з задавальненнем рыхтуюць наступныя мерапрыемствы.

Кожны год у тэхнікум прыходзяць таленавітыя і рознабакова развітыя падлеткі, якія нароўні са сваімі асноўнымі заняткамі імкнуцца рэалізаваць і творчыя здольнасці. Так, апроч гуртка мастацкай самадзейнасці існуе яшчэ і літаратурны гурток. Кіруе ім выкладчыца рускай мовы і літаратуры **Вольга Аляксандраўна Шчэрба**. Гурток быў створаны па ініцыятыве саміх навучэнцаў, калі на ўроках вывучалі рускую сатырычную прозу 20—30-х гадоў XX стагоддзя і літаратуру рускага замежжа. У навучальную праграму такая літаратура ўнесена аглядна, а там столькі ўсяго цікавага, што студэнты схацелі больш дэтальна і падрабязна пазнаёміцца з ёй. Вырашылі — зрабілі. Цяпер у тэхнікуме цудоўны літаратурны гурток, дзе студэнты-тэхнары знаёмяцца з набыткамі сусветнай літаратуры, самі пішуць вершы. У кабінеце літаратуры нават ёсць адмысловы стэнд з літаратурнай творчасцю навучэнцаў тэхнікума.

Больш за тое, Людміла Пятроўна і Вольга Аляксандраўна вырашылі дзейнічаць у тандэме. Некаторыя святочныя мерапрыемствы яны рыхтуюць сумесна. Так, была праведзена вечарына «Музыка ў паэзіі». Быў прадстаўлены не проста музычны і літаратурны матэрыял, па ходзе вечарыны гледачы мусілі адгадаць, хто аўтар тых ці іншых вершаў, на словы якіх створаны песні. А гэта і Марына Цвятаева, і Анна Ахматава, і Мікалай Гумілёў, і Барыс Пастарнак, і Ілья Кармільцаў. Такім жа чынам была праведзена вечарына па паэзіі сярэбранага веку і літаратурна-музычная кампазіцыя бардаўскай песні, прысвечаная Віктару Цою. У такіх канцэртах і вечарынах за вакал адказвае заўсёды Людміла Пятроўна, а за літаратурную частку — Вольга Аляксандраўна.

Не застаюцца ўбаку і навучэнцы. Яны не проста выконваюць пажаданні і парады дарослых, а і самі прапануюць новыя ідэі. Праца тут і сапраўды творчая. Так, адзін хлопец прапанаваў свой сцэнарый пад назвай «Баль літаратурных герояў», які ў яго захаваўся яшчэ са школы. Хлопцы і дзяўчаты з радасцю прынялі гэты сцэнарый і цяпер разам са сваімі кіраўнікамі яго рэалізуюць.

Калі назіраеш за такім удалым рознабаковым супрацоўніцтвам у тэхнікуме, дзе рыхтуюць спецыялістаў зусім не творчых у мастацкім плане прафесій, прыходзіш да высновы, што трэба максімальна садзейнічаць усім праявам маладзёжнай творчасці. Людзей, адораных тэхнічна і пры гэтым не здатных да мастацтва, проста не бывае.

*Тэхнары, высвятляецца, вялікія фантазёры і летуценнікі. Некаторыя выпускнікі тэхнічных навучальных устаноў становяцца пісьменнікамі. Яскравы прыклад — Айзек Азімаў, амерыканскі пісьменнік беларускага паходжання, па прафесіі біяхімік, а пісаў у асноўным у жанры навуковай фантастыкі. А расійскі пісьменнік-фантаст Мікалай Перуноў наогул прафесійны фізік-інжынер. Ёсць і бліжэйшы прыклад. Народны пісьменнік Беларусі, публіцыст, грамадскі дзеяч Іван Шамякін падчас навучання ў Гомельскім тэхнікуме будаўнічых матэрыялаў пачаў пісаць вершы і зрабіўся актыўным сябрам літаратурнага аб'яднання пры газеце «Гомельская праўда», а па заканчэнні тэхнікума напісаў свае шырокавядомыя раманы.*

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## ВАЛОЖЫНСКІ РАЁН

* * *

**Вёска Выганічы** Ракаўскага сельсавета

На кватэры ў выганіцкага землеўласніка Фелікса Вайдзевіча ў 1821 г. жыў драгунскі паручык **Бястужаў Аляксандр** — будучы дзекабрыст і рускі пісьменнік Марлінскі. У Выганічах узмацнілася яго цікавасць да польскай літаратуры і мовы. У адным з пісем у Пецярбург ён паведамляў, што ў яго пад падушкай заўсёды знаходзяцца «Гістарычныя песні» Ю. Нямцэвіча. У 1823 г. Бястужаў прыслаў з Пецярбурга ў Выганічы першую кніжку альманаха «Полярная звезда», якую выпусціў сумесна з К. Рылеевым. На вокладцы ён напісаў па-польску: «Пану Вайдзевічу ў знак сімпатыі ад Бястужава». У 1987 г. у вёсцы ўстаноўлены мемарыяльны знак у гонар Аляксандра Бястужава-Марлінскага.

**Вёска Гародзькі,** цэнтр сельсавета

Вясной 1919 г. праездам на Седлішча тут быў **Купала Янка**. На чыгуначную станцыю яго суправаджалі мясцовыя настаўнікі М. Станкевіч і выхавацелька Я. Асіповіч.

**Вёска Гіравічы** Ракаўскага сельсавета

**Русецкага Аркадзя** (н. 1.11.1942), мастацтвазнаўца, літаратуразнаўца, публіцыста, радзіма. Скончыў Гіравіцкую пачатковую, Туркаўшчынскую сямігадовую, Дубровенскую СШ цяперашняга Маладзечанскага р-на, філасофскае аддзяленне БДУ, аспірантуру Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС. Кандыдат філасофскіх навук, доктар гістарычных навук, прафесар. Быў сакратаром ЦК КПБ. Цяпер працуе ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя П. М. Машэрава, з 1997 г. — рэктар. Аўтар манаграфій «Мастацкая культура і патрыятычнае выхаванне» (1980), «Месца жыхарства — месца выхавання» (1983), «Самадзейная мастацкая творчасць як фактар камуністычнага выхавання» (1986), «Ісці да чалавека» (1987), «Мастацкая культура: узрастанне ролі і праблемы развіцця» (1988), «Уладзімір Караткевіч. Праз гісторыю ў сучаснасць» (1991), «Мастацкая культура Беларусі: тэорыя і гісторыя», кнігі для дзяцей «Дзень за днём» (1997). Акадэмік Нацыянальнай акадэміі адукацыі Рэспублікі Беларусь, Міжнароднай акадэміі навук вышэйшай школы і інш.

**Вёска Доры,** цэнтр сельсавета

**Тарас Валянцін**, паэт, прысвяціў вёсцы верш «Полымя вёскі Доры» (Тарас В. Паэзія. — Мінск, 1987. — С. 31-32).

**Вёска Зафільцы** Валожынскага сельсавета

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г.

**Курылы Міхаіла** (н. 2.1.1956), паэта, радзіма. З сялянскай сям'і. Працуе ў Валожынскай РЦК. Метадыст раённага паэтычнага аб'яднання «Рунь». Аўтар паэтычных кніг «Белы птах» (1996) і «Асенні рэнесанс» (2001).

## Гарадскі пасёлак Івянец

**Вуліцы Горкага Максіма, Лермантава М., Астроўскага М., Пушкіна А**.

Працуе **Івянецкі музей традыцыйнай культуры**, перапрафіліраваны ў 1992 г. з мемарыяльнага музея Ф. Дзяржынскага. Тут захоўваюцца літаратурныя матэрыялы, прысвечаныя паэтам — ураджэнцу *Івянца* **Асіпацкаму Івану**; ураджэнцу в. *Чырвоны Лес* Уздзенскага р-на пісьменніку **Вальчэўскаму Івану**, які жыве ў Івянцы; ураджэнцу в. *Мазурына* Шумілінскага р-на Віцебскай вобл. **Градоўскіну Уладзіміру** (1926—1998), які з 1955 г. настаўнічаў у Івянцы; лаціністу **Гусоўскаму Міколу,** які, паводле публікацый мясцовага краязнаўца Георгія Каржанеўскага, нарадзіўся, жыў і ўдзельнічаў у княжацкіх паляваннях у Налібоцкай (былой Літоўскай) пушчы — у былым фальварку Гусава (Усава) над ракой Усай; класіку беларускай літаратуры **Дуніну-Марцінкевічу Вінцэнту**, ураджэнцу в. *Панюшкавічы* Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл., які жыў непадалёку ў *Люцынцы*; краязнаўцу Равенскаму Генадзю, пахаванаму ў Івянцы, і іншым. У музеі прадстаўлена таксама творчасць народных майстроў. Сярод іх — рэзчык па дрэве **Пупко Апалінары** (1893—1984). Ён стварыў галерэю вобразаў літаратурных персанажаў, герояў беларускіх казак. Сярод іх — «Сейбіт і ганчар», «Сымон-музыка», «Несцерка», скульптурныя партрэты Кастуся Каліноўскага і Янкі Купалы.

* * *

**Асіпацкі Іван** (1951—24.5.2005), паэт, нарадзіўся ў Івянцы. Тут закончыў сярэднюю школу. З 1972 г. выкладаў фізіку. Аўтар кнігі «Над Валмянкаю празрыстай».

**Ермаловіча Віктара** (нар. 17.4.1961), пісьменніка, публіцыста, радзіма. Піша на беларускай і рускай мовах. У 1970 г. сям'я пераехала ў г. Пятроўка Адэскай вобл. У 1978 г. скончыў Пятроўскую СШ № 2, затым гістарычны факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута (1984), Беларускі інстытут правазнаўства (1999), аспірантуру Інстытута гісторыі НАН Беларусі (1992), дактарантуру БДУ (2008). Кандыдат гістарычных навук. Працаваў настаўнікам у Зембінскай СШ Барысаўскага р-на, Барысаўскім сярэднім ПТУ № 205, навуковым супрацоўнікам у Інстытуце гісторыі НАН Беларусі (1992—1997), выкладчыкам у Беларускім інстытуце правазнаўства (1997—1999), Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце (1999—2005). З 2005 г. — дацэнт БДУ. Друкуецца з 1985 г. Аўтар трох кніг публіцыстыкі: «Агнём і мячом: хроніка польскага нацыяналістычнага падполля ў Беларусі (1939—1953 гг.)» (1994, у сааўт. з С. Жумарам), «Ці ведаеце Вы гісторыю сваёй краіны?» (1998). У 2003 г. у г. Шабац (Рэспубліка Сербія) на сербскай мове выйшла яго кніга «Неаб'яўленая вайна». Аўтар шэрагу гістарычных нататак, змешчаных у кнізе «Памяць: гісторыка-дакументальная хроніка г. Барысава» (1997). Жыве ў Мінску.

**Петрукова Міхалкі** (сапр. Лотыш Міхаіл; 1880—1947), празаіка, паэта, радзіма. Працаваў пісарам у Валожыне, Стоўбцах, Івянцы, рабочым у Ракаве і Радашковічах, настаўнікам у ваколіцах Івянца. Быў карэспандэнтам «Нашай нівы». Займаўся перакладамі з рускай мовы.

У 1910 г. **Ядвігін Ш**. (сапр. Лявіцкі Антон), пісьменнік, ураджэнец в. *Добасна* Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл., у «Лістах з дарогі» пісаў: «Вельмі спадабаліся мне хаткі івянецкіх мяшчан (...), просценькія яны, іншыя і старэнькія, чысценькія (...), садочкі, кветачкі ў вокнах». Пад час знаходжання ў вёсцы ён начаваў у Міхася Лотыша. Апісанне Івянца можна знайсці ў «Нашай ніве» (№ 35 за 1910 г.).

**Вёска Камень** Івянецкага сельсавета

У фальварку Камень каля Івянца дзед Купалы Янкі ў 70-х гадах XIX ст. арандаваў зямлю ў пана Івана Гаворкі.

**Фальв. Каралінова** Багданаўскага сельсавета

Да бацькоў Уладзіславы Францаўны Луцэвіч — Францішка і Эміліі Станкевічаў часта прыязджаў сюды з суседняга фальварка Кушляны **Багушэвіч Францішак,** чытаў свае творы.

У Каралінове Уладзіслава Францаўна пазнаёмілася з **Буйло Канстанцыяй,** бацька якой служыў аб'ездчыкам у тых жа лясах, дзе і бацька першай.

**Вёска Кіявец** Яршэвіцкага сельсавета

**Ляхновіча Паўла** (н. 25.10.1954), пісьменніка, радзіма. Скончыў пачатковую школу ў роднай вёсцы, Ракаўскую СШ, працаваў аўтаслесарам, служыў у Каспійскім вышэйшым ваенна-марскім вучылішчы. Афіцэр-падводнік. З 1987 г. пераехаў служыць у Пінск. Цяпер на пенсіі. Аўтар зборнікаў апавяданняў «Пачатак сезону», казак «Трылер для дачушкі» і «Інтэграцыя». Займаецца перакладамі з рускай і польскай моў.

**Вёска Лінкі** Вішнеўскага сельсавета

**Чэрні Хведара** (10.6.1939—16.3.1985), паэта, радзіма. Вучыўся ў Вішнеўскай СШ, пасля заканчэння якой (1957) працаваў загадчыкам Вішнеўскага сельскага клуба. Вучыўся ў тэхнічным вучылішчы № 9 пры Мінскім аўтазаводзе, працаваў фармоўчыкам-ліцейшчыкам (1958). У 1959—1961 гг. служыў у Савецкай Арміі. Скончыў філфак БДУ (1966) і Мінскую вышэйшую партыйную школу (1969). Працаваў рэдактарам на Беларускім радыё (1966—1967), у выдавецтве «Беларусь» (1969—1976). З 1972 г. быў старшым рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура». Друкаваўся з 1955 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Добрай раніцы, людзі» (1966), «Дабрэе свет» (1968), «Размова з памяццю» (1970), «Сады юнацтва» (1972), «Настрой» (1974), «Ваколіца» (1976), «Святло рамонкаў» (1981), «На скрыжаваннях памяці» (1982), «Музыка дарог» (1984), кніжак вершаў для дзяцей «Песня Сабіны» (1971), «На сонечнай вуліцы» (1973), зборніка сатырычных вершаў «Ажаніся, не журыся...» (1979).

**Вёска Лоск** Гародзькаўскага сельсавета

**Лоскі замак.** Існаваў у XIV—XVIII стст., з 1494 г. стаў уласнасцю магнатаў Кішкаў. У 1570 г. Ян Кішка заснаваў тут адну з першых на беларускіх землях друкарняў, якая была цэнтрам арыянскага кнігадрукавання. У 1574 г. у Лоск прыязджае **Будны Сымон** і не пакідае яго амаль на працягу дваццаці гадоў. Адначасова ён з'яўляецца хатнім прапаведнікам Яна Кішкі. Пакой-келля С. Буднага знаходзілася ў паўднёвым кутку замка, а пад замкам, у яго сутарэннях стаяў друкарскі станок. У ліку найбольш значных выданняў Лоскай друкарні — творы С. Буднага: «Новы запавет» (яго пераклад, прадмова і каментарыі), «Пра дзве сутнасці Хрыста», «Кароткі доказ таго, што Хрыстос не з'яўляецца такім жа Богам, як Бог-Айцец», «Супраць хрышчэння дзяцей» (усе 1574), «Пра свецкую ўладу» (1583). Сярод іншых выданняў — палемічныя творы М. Чаховіца, А. Волана, кнігі рэктара арыянскай школы ў Іўі Я. Намыслоўскага, трактат Цыцэрона «Пра абавязкі» (1576, пераклад С. Кашуцкага), Э. Варамунда Фрыза «Пра фурыі, або Вар'яцтвы французскія» (1576, пераклад С. Буднага; аб падзеях Варфаламееўскай ночы 1572). Асобнае месца ў дзейнасці Лоскай друкарні займае выданне вядомага твора А. Фрыча-Маджэўскага «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай» (1577, пераклад Ц. Базыліка, прадмова каталіка М. Стрыйкоўскага, кальвініста Волана, арыяніна Буднага). Ад старых будынкаў замка ацалелі толькі засыпаныя зямлёю рэшткі падмуркаў.

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары.***